Джон Фінемар

# Сказ пра Робін Гуда

АПОВЕСЦЬ



МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1991

ББК 84.4 Вл
Ф 59

Пераклад зроблены па выданні:
John Finnemore, The Story of Robin Hood
and his Merry Men, London, 1941.

Пераклаў з англійскай мовы
Сямён ДОРСКІ

Мастак А. ШЭВЕРАЎ

Для малодшага
школьнага ўзросту

ISBN 5-7880-0254-0

## Раздзел першы



# ЯК РОБІН ГУД ЗРАБІЎСЯ РАЗБОЙНІКАМ

Аднойчы, даўным-даўно, у тую пару, калі Англіяй правіў першы кароль з дынастыі Плантагенетаў — Генрых II, па Шэрвудскім лесе шпарка ішоў рослы, дужы, ладны юнак у кароткай зялёнай куртцы і такіх жа штанах у абліпку, з сіняй шапачкай на галаве. Цераз плячо ў яго быў перакінуты вялікі лук, на баку вісеў калчан з доўгімі стрэламі, а на поясе кароткі паляўнічы нож.

Высокі юнак выйшаў на паляну, акаймаваную векавымі дубамі. Раптам ён спыніўся. Па паляне імкліва прамчаўся статак плямістых аленяў. Адной рукой юнак схапіўся за лук, другая рванулася да калчана, але ён стрымаўся, не дазволіў сабе выхапіць стралу. Ён ведаў: тут каралеўскі лес і алені належаць каралю. За забойства хоць аднаго каралеўскага аленя чалавек можа паплаціцца жыццём. А бывала і горш: чалавеку выколвалі вочы і так страшна нявечылі, што смерць здавалася яму жаданым збавеннем.

Не толькі боязь пакарання спыніла руку юнака. Ён ішоў у горад Нотынгем, каб наняцца да караля на службу лесніком, і нядобра было б самому парушаць закон. Юнак пайшоў далей па шырокай травяністай паляне, на якой сям-там раслі кусты вастраліста і ляшчынніку, як раптам пачуў ззаду рэзкі вокліч:

— Стой! Хто гэта так смела ходзіць па каралеўскім лесе?

Юнак павярнуўся і ў цяні разложыстага куста вастраліста ўбачыў купку людзей, чалавек пяць-шэсць. Яны сядзелі на зямлі, і толькі адзін стаяў — ён і аклікнуў юнака. Хлопец адразу зразумеў, што гэта каралеўскія леснікі, якія ахоўваюць запаведнік і аленяў. Ён пачціва пакланіўся ім і чалавеку, які яго аклікнуў. Па ўбранні і сярэбраным паляўнічым ражку ў яго на поясе ён здагадаўся, што перад ім галоўны ляснік.

— Завуць мяне Роберт Фітцат,— адказаў юнак.— Але шмат хто кліча мяне Робін Гуд. Бацькоў у мяне няма — памерлі. Іду я ў Нотынгем.

— Чаго ты ідзеш туды?

— Хачу стаць каралеўскім лесніком.

— Ха-ха! — пагардліва рагатнуў галоўны ляснік.— Лягчэй сказаць, чым зрабіць! — І працадзіў скрозь зубы: — Кожны беззямельны мужык або вольны бадзяга марыць далучыцца да нашай сумленнай кампаніі. Якая карысць нам ад такога сысунка, як ты? Нам патрэбны сапраўдны мужчына, а ў цябе ад мужчыны толькі вялікі лук.

— Яго лук і мужчыне не пад сілу,— закрычаў адзін з леснікоў.— Гляньце, які тугі! Ручаюся, гэты блазнюк нават не напне яго.

— І праўда,— усміхнуўся галоўны ляснік,— слаба верыцца, што ён яму паддасца. Носіць яго, каб выхваляцца.

Вочы Робіна ўспыхнулі, кроў кінулася яму ў твар.

— Са сваім лукам я спраўлюся і з любым з вас паспрачаюся ў меткасці! — усклікнуў ён.

— А на што ты заложышся? — спытаў галоўны ляснік.

— Грошай у мяне няма,— з запалам адказаў юнак,— але кладу галаву супраць вашага кашалька, што траплю ў любую цэль, якую вы пакажаце.

— Згода! — зласліва выкрыкнуў галоўны ляснік.— Вунь твая цэль.— Ён паказаў рукой у бок паляны: якраз у той момант туды прымчаўся статак аленяў і спыніўся,

заўважыўшы людзей. Важак — магутны самец — ускінуў рагатую галаву, пачаў нюхаць паветра і нецярпліва біць капытом зямлю.

Робін моўчкі зняў з пляча лук, тужэй нацягнуў цеціву і выняў з калчана стралу. Стаў у патрэбную паставу, і леснікі адразу зразумелі: перад імі не абы-які стралок. Магутны лук напяўся і крута выгнуўся пад здзіўлены шэпт гледачоў. І тут Робін паказаў, што ён не толькі дужы і спрытны, але і вытрыманы, бо ў той момант, калі сталёвы наканечнік стралы лёг на дугу лука, галоўны ляснік раптоўна крыкнуў:

— Заклад — твая галава! Падумай добра, хлопец!

Ён сказаў гэта знарок, каб пахіснуць волю Робін Гуда, адцягнуць яго ўвагу якраз у тое імгненне, калі юнак прыцэліўся. Але дарэмна: Робін, здавалася, не пачуў яго слоў — вока зорка глядзела ўздоўж стралы, лоб крыху наморшчыўся, вусны шчыльна сцяліся. І раптам: «Вззззз!» — віскнула цеціва, і страла прагула ў паветры, нібы вялізная пчала. Вялікі рагач высока падскочыў і грымнуўся на зямлю — страла ўпілася яму проста ў сэрца.

На нейкі момант леснікі знямелі ад здзіўлення. Такі стрэл! Потым пачулася ўзрушанае мармытанне. Робін спакойна павярнуўся да галоўнага лесніка:

— Кашалёк мой!

Але ляснік усміхнуўся і кпліва сказаў:

— Вось што будзе табе — пакуты і кара за парушэнне лясных законаў. Такі спрытны стралок, як ты, павінен быў ведаць, што́ пагражае чалавеку, які заб'е аленя ў каралеўскім лесе. Гэта ж быў каралеўскі алень-самец! Загадваю: схапіць яго і звязаць.

Робін Гуд зразумеў, у якую страшэнную небяспеку трапіў праз тое, што так паспешліва згадзіўся страляць у любую цэль, і кінуўся бегчы. Але позна! Двое леснікоў падскочылі да яго і падставілі нагу. Юнак упаў на зямлю, і ўмомант рукі і ногі яго былі звязаны цецівамі.

— Мы схапілі браканьера на месцы злачынства,— зларадна ўхмыльнуўся галоўны ляснік.— Шэрыф ужо не

раз дакараў мяне, што ў каралеўскім лесе знішчаюць аленяў, а мы не прыводзім да яго нікога на суд, каб ён мог пакараць злодзея. Затое сёння ён парадуецца!

У Робіна пахаладзела ў грудзях, калі ён пачуў гэтыя словы. Яму знарок падстроілі пастку і цяпер намерваюцца выдаць яго за звычайнага браканьера, каб выслужыцца перад шэрыфам, паказаць, якія яны руплівыя і пільныя даглядчыкі лесу.

Леснікі сустрэлі рашэнне галоўнага лесніка воклічамі адабрэння.

— Правільна! — крыкнуў адзін з іх.— І зробім так, як заслугоўвае гэты шэльма!

— А што ты прапануеш, Губерт? — спытаў галоўны ляснік.

— Давайце захутаем яго ў шкуру аленя і гэтак павязём да шэрыфа.

— Цудоўна! — адобрыў Губерта начальнік.— Злупіце шкуру з аленя і захутайце ў яе нягодніка!

Замільгалі нажы леснікоў, абдзіраючы аленя, і неўзабаве Робін Гуда абгарнулі яшчэ гарачай і слізкай ад тлушчу шкурай і абвязалі запаснымі цецівамі. Толькі галава юнака вытыркалася са шкуры, а тулава хавалася ў бясформенным скрутку пад мяккай плямістай поўсцю, якая толькі што ўкрывала велічнага важака аленяў. Гнеў і пагарда да подлых падманшчыкаў ахапілі Робін Гуда, але што ён мог зрабіць? Яго чакаў горкі лёс. Шэрыф-нарман не дасць і слова вымавіць. Робін Гуд патрэбны яму, каб застрашыць іншых. Перад вачамі юнака паўстала жахлівая карціна: рыначная плошча Нотынгема і ён — у руках ка́та, які гатовы выканаць суровы прысуд. Калісьці ён бачыў, як каралі аднаго няшчаснага чалавека за такое ж самае злачынства, якое цяпер прыпісвалі яму, і Робін Гуд зноў скалануўся ад жахлівай думкі, што яго чакае страшнае пакаранне. Сляпым, знявечаным жабраком будзе хадзіць ён ад вёскі да вёскі, вымольваючы ў людзей на пражытак,— ён, такі яшчэ малады і дужы. Гэтакі лёс і ўявіць сабе страшна.

Робін Гуд пачаў выкручвацца з агіднага скрутка, але дарэмна — яго добра звязалі.

— А на чым мы яго павязём? — спытаў адзін з даглядчыкаў каралеўскага лесу.

— Я толькі што падумаў пра гэта, Дзікан,— адказаў галоўны ляснік.— Памятаеш, па дарозе сюды нам трапіліся на вочы два ці тры саксонскія мужыкі? Недзе за паўмілі адсюль. Во, нават чуваць іхнія сякеры.

Усе сціхлі, і здалёку да іх данёсся стук сякер.

— Бяжы, Дзікан,— загадаў галоўны,— і прывядзі іх сюды разам з валакушай, на якой яны возяць з лесу дровы.

Дзікан пабег і неўзабаве прывёў дрывасекаў з валакушай.

Галоўны ляснік загадаў сялянам:

— Падыміце гэтага шэльму, кіньце на валакушу і цягніце ў горад.

Дрывасекаў было трое. Гэта былі беднякі, апранутыя ў грубыя курткі з валовай шкуры, на нагах чаравікі з накладнымі халявамі, валасы ўскудлачаныя. Двое з іх, старыя сяляне, паспешліва кінуліся выконваць загад. Яны баяліся жорсткіх леснікоў. Трэці, дужы, плячысты хлопец гадоў трыццаці, лена падаўся за імі. Утрох яны паднялі з зямлі Робін Гуда і кінулі на валакушу — дашчаны шчыт на ясеневых палазах. Потым яны ўзяліся за вяроўку, і валакуша заслізгала па невысокай мяккай траве.

Праз паўмілі пачаўся каляіністы, з калдобінамі прасёлак. Валакушу то падкідала ўгору, то шпурляла ў бакі разам з жывым грузам, загорнутым у аленевую шкуру. Робін не зляцеў з валакушы толькі таму, што з абодвух бакоў дашчанага шчыта былі драўляныя стойкі. Яго кідала ў бакі, як бервяно, ён стукаўся аб стойкі, а злосныя каралеўскія леснікі заходзіліся ад рогату — так смешна было ім глядзець на пакуты бездапаможнага палонніка. Шкура высыхала і сціскала яго, як абцугамі. Робін ледзь стрымліваў крык ад болю — сцяў зубы і маўчаў, бо ведаў: стогны толькі парадуюць яго мучыцеляў.

Раптам валакуша перастала падскокваць — спыні-

лася. Галоўны ляснік падскочыў да маладога вяскоўца і апераzaў яго дугой лука па плячах.

— Во шэльма! — закрычаў галоўны ляснік.— Ты цягнеш напаўсілы! Можа, хочаш паказаць нам, ахоўнікам лесу, сваю ўпартую саксонскую натуру? — і на галаву і плечы селяніна пасыпаўся град удараў.

Рука маладога дрывасека пацягнулася да тронак кароткага і шырокага нажа, што быў засунуты ў яго за пояс. Але, пачуўшы трывожны вокліч аднаго са старых сялян, ён адвёў руку і павалок валакушу, як конь, якога агрэлі бізуном.

— Уіл, сынок! — сказаў стары зрывістым ад хвалявання голасам.— Цягні, цягні! Не гнявi пана галоўнага лесніка.

— Во, во, правільна кажаш, стары,— ухмыльнуўся гвалтаўнік. — Добрая парада. Уілу лепей не гнявіць мяне. Цягні, саксонскі сабака! — і зноў разоў шэсць агрэў лукам сваволькіка.

Вочы маладога сакса бліснулі з-пад кудлаў, але, нахіліўшы галаву, нібы ідучы супраць ветру, ён пакорліва і старанна цягнуў валакушу.

— Шынок! Шынок! — праз нейкі час закрычаў Губерт.— Сябры, давайце зробім тут прывал. Прамочым горла пасля такой доўгай дарогі.

Астатнія згадзіліся з ім. Валакуша спынілася каля дзвярэй маленькай карчомкі, і леснікі загадалі гаспадару вынесці віна.

Калі яны стаялі, папіваючы, адзін з леснікоў раптам закрычаў:

— Гляньце! Сюды ідзе цэлы атрад нашых таварышаў, і зірніце, каго яны вядуць!

Між дрэў да сялібы набліжаліся яшчэ пяць леснікоў. Яны вялі з сабой двух чалавек са звязанымі рукамі.

— Цудоўна! Цудоўна! — усклікнуў галоўны ляснік, сам не свой ад радасці.— Яны схапілі двух бандытаў, што хаваліся ў лесе. Шэрыф аж заскача, як убачыць гэтых нягоднікаў і нашага малойчыка. Малайцы, хлопцы, як вы

іх злавілі? — крыкнуў ён і паспяшаўся насустрач атраду леснікоў.

Яго людзі гурмой павалілі за ім. Яны не баяліся, што Робін Гуд уцячэ, і нават думкі не дапускалі, што саксонскія дрывасекі асмеляцца хоць крок зрабіць без іхняга дазволу.

І ўсё ж першы кінуўся ўцякаць той самы стары, што ўгаворваў маладога дрывасека пацярпець. Ледзь толькі леснікі адышліся, ён выпусціў з рук вяроўку і бясшумна пабег у сваіх мяккіх сандалях, як сабака, што ратуецца ад бізуна. Неўзабаве ён знік між дзвюх хат. Другі стары не бачыў, што яго таварыш уцёк, бо стаяў спінай да яго. Ён няўцямна ўтаропіўся валовымі вачыма на шумлівы натоўп леснікоў, якія аклікалі адзін аднаго, рагаталі, гучна пера-маўляліся, частаваліся віном.

Малады дрывасек таксама памкнуўся бегчы, але зірнуў на валакушу і спыніўся. Робін маўчаў, каб не насцяро-жыць леснікоў, а позірк гаварыў больш за словы. Уіл укленчыў каля валакушы, выхапіў з-за пояса нож і хуткімі спрытнымі рухамі вострага ляза разрэзаў путы на Робін Гудзе.

Робін вылузаўся са скрутка, схапіў свой лук і калчан са стрэламі, што былі начэплены на стойкі валакушы, як рэчавыя доказы яго злачынства, якія леснікі хацелі па-казаць нотынгемскаму шэрыфу, і прыпусціўся за Уілам.

— Хоб! Хоб! — ціхенька паклікаў Уіл на хаду.— Уцякай следам за намі!

Хобам звалі старога дрывасека, што стаяў, вылупіўшы вочы на тлумны натоўп леснікоў, якія радаваліся сустрэчы. Ён азірнуўся на голас Уіла і ажно разявіў рот ад здзіўлен-ня, убачыўшы, што яго таварышы ўцякаюць.

Як на тую бяду, ціхі вокліч Уіла галоўны ляснік усё ж пачуў. Ён рэзка крутнуўся, убачыў пустую валакушу і за-роў на ўсё горла:

— Гэтыя нягоднікі ўцякаюць! Яны вызвалілі арыш-танта! За імі, хлопцы! Схапіць іх жывымі ці мёртвымі! — а сам нацягнуў цеціву да самага вуха.

Хоб няўклюдна бег за таварышамі, як раптам чамусьці

вырашыў, што лепш уцякаць проста ў лес. Але страла з гусіным апярэннем дагнала яго і ўваткнулася між лапатак. Ён упаў ніцма на траву і знерухомеў, толькі гнуткая страла яшчэ некалькі імгненняў трымцела ў спіне мёртвага дрывасека.

Раздзел другі

## ЯК РОБІН ГУД ЗРАБІЎСЯ РАЗБОЙНІКАМ

*(працяг)*

Праз вузкі праход паміж хатамі Робін Гуд выбег у невялікі двор якраз у той момант, калі Уіл пералазіў цераз драўляны паркан. Старога дрывасека ўжо і след прастыў. Робін шпарка пранёсся ў дальні канец двара, паставіў нагу на папярэчыну ў плоце і пераскочыў на другі бок. За агароджай мясціна была адкрытая, і відаць было, як да блізкага лесу імчыцца стары дрывасек, а крыху ззаду бяжыць Уіл.

Робін з усіх ног кінуўся следам, каб разам з сялянамі схавацца ў лесе. Калі ён амаль дабег да ўзлеску, пачуў ззаду крыкі. Ён азірнуўся і над штыкецінамі ўбачыў некалькі галоў праследавацеляў. Робін весела крыкнуў ім нешта насмешліва-дзёрзкае, бо ведаў: у гушчары леснікі не знойдуць уцекачоў, выратаванне было ўжо блізка.

Юнак уляцеў пад шаты дрэў і крыху воддаль убачыў Уіла. Малады дрывасек чакаў яго.

— Сюды! Сюды! — крыкнуў яму Уіл, і Робін пабег да яго.

І тут ён убачыў старога селяніна, які трухаў па вузкай сцяжынцы, і Уіл з Робінам пабеглі за ім. Стары прывёў іх да балота і там пачаў пераскокваць з купіны на купіну,

папярэджваючы, каб яны траплялі ў яго след, бо інакш з галавою праваляцца ў зыбучую твань. Неўзабаве яны зноў ступілі на цвёрдую зямлю. Стары спыніўся пад вялікім дубам і прысеў адпачыць на тоўсты корань, што вытыркаўся з зямлі.

— А дзе Хоб? — спытаў ён, ледзь пераводзячы дух.

— Яго забілі,— адказаў Уіл.— Галоўны ляснік усадзіў яму ў спіну стралу. Хоб крыху прамарудзіў.

— Во, во, Хоб заўсёды быў марудлівы,— прамовіў стары.— Ды і нас можа напаткаць такі самы лёс, калі мы апынёмся на адлегласці палёту яго меткай стралы. Ну, Уіл, я ўжо думаў, канцы табе будуць, калі ты ледзь не хапіўся за нож. Галоўны ляснік жорсткі, бязлітасны чалавек.

— Гэта ж вы, баця, утрымалі мяне,— сказаў Уіл.— Вельмі крыўдна, калі цябе лупцуюць, як сабаку, без дай прычыны.

— Праўду ты кажаш,— пагадзіўся стары.— З народам, якому раней належала гэта зямля, нарманскія паны абыходзяцца, як [redacted] сабакамі, і нават горш, чым [redacted] сабакамі. Цяпер нам і носа высунуць нельга ў сваю вёску, Уіл. Давядзецца хавацца ў лесе, а не, дык хуценька апынёмся ў нотынгемскай турме, дзе нас чакае вяроўка каралеўскага ка́та. І загайдаемся мы на шыбеніцы на страх усім саксонскім мужыкам, каб яны і падумаць не пасмелі не слухацца сваіх нарманскіх паноў.

— Гэтае ж самае і са мной было б ці нават горш, каб не ты, Уіл! — усклікнуў Робін Гуд, схапіўшы Уіла за локаць.— Не пабаяўся ты вызваліць мяне з путаў. Дзякуй табе, тысячу разоў дзякуй.

— Ну што ты! — адказаў Уіл.— Я ж толькі разы два разануў нажом. А як ты трапіў да іх у рукі?

Робін расказаў пра ўсё, што з ім здарылася, і сяляне змрочна пакруцілі галовамі.

— Гэта яшчэ адзін прыклад іхняй жорсткасці і вераломства,— зазначыў Уіл.— Любой хітрасцю стараюцца завабіць нас у свае кіпцюры.

Стары сакс раптам усхапіўся.

— Што ж,— сказаў ён,— пакуль мы не трапілі ў іх рукі, трэба падумаць пра бяспеку. Ідзіце за мной, хлопцы, я павяду вас у больш надзейнае сховішча.

Але Робін Гуд не скрануўся з месца.

— Ведаеце, сябры,— сказаў ён,— мне ўвесь час не дае спакою думка пра тых няшчасных у руках ліхадзеяў. Баюся, у Нотынгеме іх чакае сумны лёс.

— А што іх можа чакаць — шыбеніца ды вяроўка,— прабурчаў Уіл.— Яны ж бандыты. Паміж імі і леснікамі ідзе жорсткая барацьба, і суровы шэрыф узрадуецца, калі іх прывядуць да яго.

— Не,— запярэчыў стары селянін,— гэта няшчасныя людзі. Жорсткія законы нарманаў прымусілі іх хавацца па лясах і харчавацца мясам каралеўскіх аленяў. Калі трапяць у рукі ўлад, ратунку ім не будзе.

— Пакажыце мне дарогу, па якой іх павядуць у Нотынгем,— папрасіў Робін Гуд.

— Пакажу, гэта няцяжка,— сказаў стары селянін.— І мой сын можа паказаць. Толькі што́ ты зробіш адзін супраць цэлай плоймы каралеўскіх леснікоў?

— Яшчэ і сам не ведаю, што зраблю,— адказаў Робін Гуд,— але сэрца разрываецца ад думкі пра лёс гэтых няшчасных людзей, і хочацца рызыкнуць і вызваліць іх, калі пашанцуе.

— Правільна, таварыш,— усклікнуў Уіл.— Я буду тваім праваднiком. Ідзіце, бацька, і схавайцеся ў гушчары. Сустрэнемся каля Вялікага дуба.

І маленькі атрад разышоўся. Робін Гуд разам з Уілам пайшоў цераз балота, а стары селянін знік у нетрах Шэрвудскага лесу.

Хвілін праз дваццаць Робін з Уілам, хаваючыся за дрэвамі, зноў падышлі да маленькай вёсачкі, толькі з другога боку. Вызірнуўшы з густога зарасніку, яны ўбачылі леснікоў, якія выходзілі з вёскі, ведучы з сабой палоннікаў. Яны кіраваліся ў Нотынгем. Валакуша стаяла на месцы, а недалёка ад яе ляжаў небарака Хоб — так, як упаў.

— Вызвалім і адпомсцім,— прашаптаў Робін Гуд, і

Уіл згодна кіўнуў галавой і паўтарыў яго словы, але неяк нерашуча, бо не мог даўмецца, як гэта можна зрабіць.

— А цяпер, Уіл, апішы мне дарогу, па якой гэтыя наймі́ты пойдуць у горад.

Уіл пачаў падрабязна расказваць пра дарогу, і раптам Робін падняў руку:

— Досыць, Уіл, я знайшоў якраз тое, што трэба. Кажаш, вялікая паляна? Вядзі туды, і як мага хутчэй, каб апярэдзіць леснікоў.

Уіл Ст'ютлі (такое было ў маладога селяніна прозвішча) і Робін Гуд заспяшаліся ў дарогу. Яны падышлі да вялікай паляны якраз тады, калі леснікі мінулі палову паляны. Робін пакінуў Уіла пад дрэвамі і смела выйшаў на ўскраек лесу.

— Гэй, начальнік! — аклікнуў ён галоўнага лесніка.— Адпусці палонных, а то табе не паздаровіцца!

Галоўны ляснік вачам сваім не паверыў, калі ўбачыў, што Робін Гуд адзін выйшаў супраць вялікага атрада. Ён так разгневаўся, што нават не адказаў — імгненна схапіў лук, каб пакараць нахабніка, перш чым той паспее схавацца за дрэвам. З усяе сілы нацягнуў цеціву і пусціў стралу. Але адлегласць для яго лука была занадта вялікая, і страла ўваткнулася ў дзірван за дваццаць ярдаў[1] ад ног Робін Гуда.

І тут Робін Гуд паказаў ворагам моц свайго лука і зоркасць вока — паклаў на цеціву доўгую стралу і, не цэлячыся, пусціў.

Дзікі крык вырваўся з вуснаў галоўнага лесніка, і ён упаў на дол, сутаргава хапаючыся за стралу, якая працінула яму шыю.

Астатнія леснікі нібы прыраслі да зямлі ад здзіўлення. Такі трапны стрэл! Зноў прагучаў голас Робін Гуда:

— Адпусціце людзей, а не, дык галавой паплаціцеся!

Ён пачакаў хвілінку і зноў пусціў стралу. Яна ўпілася

---

[1] Ярд — асноўная адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 91,44 см.

ў плячо аднаго з канваіраў, што стаяў бліжэй да Робін Гуда. Апярэнне на яе кончыку яшчэ дрыжала, а новая страла прагула ў паветры і працяла другога канваіра. Леснікі зразумелі, што стаяць каля палонных небяспечна, і двое канваіраў другога палоннага, ахопленыя страхам, адскочылі ад яго ў бакі. Гэтым яны напалохалі леснікоў, што стаялі бліжэй да іх, і двое ці трое з іх пабеглі. Паднялася агульная паніка, і ўжо ўвесь атрад кінуўся наўцёкі: гэты дужы і спрытны стралок можа ўсіх іх перабіць, а для іхніх стрэл ён недасяжны.

— Уцякаюць! Яны ўцякаюць! — радасна закрычаў Уіл, выскачыўшы з-за куста, адкуль ённазіраў за падзеямі.— Далібог, Робін Гуд, ты валодаеш сваім лукам, як вялікі майстар. Пайду развяжу гэтых людзей.

Ён кінуўся да палонных і разрэзаў нажом вяроўкі. Неўзабаве Уіл ужо вяртаўся назад, следам беглі вызваленыя ім людзі. Яны былі самі не свае ад радасці і ўдзячнасці — мо сто разоў падзякавалі Робін Гуду і благаславілі яго, бо ведалі: у Нотынгеме іх чакала верная смерць.

— Проста дзіву даюся, чаму леснікі не забілі вас адразу, як схапілі,— сказаў ім Уіл.— Вы ж носіце воўчую галаву, а такім людзям няма літасці ні ад кога.

— Шэрыф загадаў ім схапіць і прывесці хоць каго-небудзь,— сказаў хлопец, шыракаплечы здаравяка невысокага росту са свежым тварам і вясёлым агеньчыкам у вачах.— І гэта сапраўды так, як і тое, што мяне завуць Мач і бацька мой млынар. Я рыхтаваўся ўжо ўбачыць рынавую плошчу Нотынгема з вышыні шыбеніцы. Ды на гэты раз усё абышлося добра. Дзякуй табе, найвялікшы стралок, што калі-небудзь таптаў лясныя сцежкі,— зноў выказаў ён сваё шанаванне Робін Гуду.

— А цяпер куды нам? — спытаў у яго другі чалавек.— Нам трэба схавацца, марудзіць нельга. Стражнікі як бачыш падымуць супраць нас усю акругу.

— Правільна! — сказаў Уіл Ст'ютлі.— Гайда, Робін Гуд, з імі. За свае сённяшнія подзвігі ты заплаціш жыццём, калі людзі шэрыфа схопяць цябе.

Робін Гуд згодна кіўнуў галавой. Малады дрывасек гаварыў праўду, і ўсе таропка падаліся ў глыб лесу. Каля Вялікага дуба іх чакаў стары Ст'ютлі. Калі яму расказалі пра ўсё, што адбылося, ён пакруціў галавой:

— У гэтых мясцінах нам заставацца нельга. Усім, хто супрацiўляецца нарманскім тыранам, пагражае смяротная кара. Я пайду да дачкі. Схаваюся ў яе на тым баку лесу. А што ты, Уіл, надумаў?

— Я застануся ў лесе,— адказаў Уіл.— З гэтага дня Робін па-за законам, і я буду з ім.

Робін Гуд стаяў крыху збоку ад астатніх, абапіраючыся на свой доўгі лук. Па-за законам! Ад гэтых слоў балюча сціснулася сэрца. Але гэта так, гэта праўда, так будзе. Яго абвесцяць разбойнікам за тое, што ён вызваліў палонных, за супраціўленне стражнікам лесу.

Праз хвіліну ён зноў ажывіўся, павесялеў і абвёў вачамі лес у прыгожым зялёным убранні, паглядзеў на вялікія галіны, на якіх ігралі сонечныя блікі, калі яны пагойдваліся ад ветру, і на момант уявіў сабе сваё новае, вольнае жыццё пад адкрытым небам у вялікім, бяскрайнім лесе. «Тысячу разоў лепш быць па-за законам, чым трапіць у засценак нотынгемскага шэрыфа»,— падумаў Робін Гуд, і яму зрабілася лягчэй на душы і захацелася хутчэй пачаць новае жыццё.

Двое выратаваных павялі яго і Уіла Ст'ютлі далей. За праваднiка быў сын млынара Мач. Дзве гадзіны яны шпарка ішлі па лесе, і хоць нідзе не было нават і следу сцежкі, Мач вёў іх па палянах і скрозь гушчары, як па гасцінцы.

Нарэшце ён спыніўся на невялікай прагаліне пад магутным дубам і ціхенька затрубіў у ражок, што вісеў у яго на поясе. Адразу пачуўся гук ражка ў адказ, і Мач пайшоў далей. Праз трыста ярдаў маленькі атрад выйшаў на высечку ў зарасніку вастраліста і ляшчыны, якія густа ўкрывалі падножжа каменнай сцяны. Тут падарожнікаў аклікнулі. Пачуўшы ў адказ голас Мача, са схovішча паказаліся вартавы і з ім паўтузіна малайцоў з лукамі і стрэламі на цеці-

вах — вось якая грозная сустрэча чакала б ворага або чужынца.

У лагеры разбойнікі сустрэлі сваіх таварышаў радаснымі крыкамі, бо да іх ужо дайшла вестка пра палон Мача і яго спадарожніка.

— Мач і Уот вярнуліся жывыя! — крычалі яны.— Малайцы, малайцы, адважныя хлопцы! Як вы вызваліліся з лап лясных аўчарак?

— Паслухайце, сябры,— узвысіў голас Мач.— Нас выратаваў вось гэты юнак. Я прывёў сюды, у наш лагер, самага лепшага і храбрага стралка з лука. Такіх людзей я ніколі яшчэ не бачыў.— І ён расказаў усё, як было. Разбойнікі яшчэ раз падзякавалі Робін Гуду за вызваленне іх таварышаў.

Змерклася. Усе паселі вакол вялікага вогнішча і пачалі вячэраць смажаным мясам забітага яшчэ раніцай аленя, запіваючы тлустую дзічыну элем.

Раптам сярод вясёлага смеху і шумнай гаворкі пачуўся голас Мача Млынарова сына:

— Сябры, вы памятаеце: учора вечарам мы вырашылі абраць сабе правадыра, каб у нас быў парадак.

— Ага,— падхапіў мажны вясковец,— і выбар наш спыніўся на табе, даражэнькі.

— Цяпер не мне выпадзе гэты гонар,— адказаў Мач,— бо сёння я, Мач, сустрэў больш вартага чалавека і аддаю свой голас і слова за Робін Гуда.

— Я таксама! — выгукнуў Уот.— А калі хто адважыцца мне пярэчыць, умомант адчуе на сваёй спіне цяжар маёй яблыневай палачкі! — Уот падняў угору тоўстую шасціфутавую[1] дубіну з жалезным набалдашнікам і пачаў круціць ёю над галавой, нібы сапраўды маленькую палачку.

Але адзін чалавек, смуглявы, рослы дзяцюк, запярэчыў:

---

[1] Фут — мера даўжыні, роўная 30,48 см.

— Здаецца, мы дамовіліся абраць правадыром самага меткага стралка.

— Правільна,— адказаў Мач.— Але канчатковай згоды не было. Вось і добра. Вунь сядзіць самы лепшы стралок ва ўсёй старой добрай Англіі,— ён паказаў на свайго збавіцеля.

— А як ён гэта дакажа,— прабурчаў высокі разбойнік.

Тут умяшаўся сам Робін Гуд.

— Не, Мач,— сказаў ён,— гэтак я не згодзен. Такі гонар трэба заслужыць. Вы праўда вырашылі паставіць над сабой самага меткага стралка?

— Ну, я ж казаў. А каго ж яшчэ?

— Дык няхай так і будзе,— сказаў Робін Гуд.— Заўтра раніцай мы ўсе да аднаго пусцім свае стрэлы ў цэль, і самы меткі будзе пераможцам.

— Згода! Згода! — у адзін голас закрычалі разбойнікі, і высокі хлопец, Джон Форд, таксама.

Пасля вячэры ўсе захуталіся ў плашчы і палеглі спаць каля вогнішча.

Раніцай, не марудзячы, узяліся за спаборніцтва. На залітым сонцам лужку паставілі цэль, у якую яны звычайна стралялі, каб набіць руку, і прапанавалі Робін Гуду першым паказаць сваё майстэрства — трапіць у самую сярэдзіну. Але ён адмоўна пакруціў галавой:

— Якое ж гэта выпрабаванне? Амаль кожны пападзе ў такую цэль, і будзе некалькі пераможцаў. Уяўляеце, якая спрэчка пойдзе? Не, не, патрэбна цэль, каб адразу ўсё стала ясна.

— Сам і зрабі, Робін Гуд,— параіў яму Джон Форд, які лічыўся самым лепшым стралком і таму спадзяваўся стаць верхаводам.

— Ну што ж, добра,— сказаў Робін Гуд,— калі толькі ніхто не пярэчыць.

— Ніхто! Ніхто! — дружна закрычалі разбойнікі.— Зрабі цэль, Робін Гуд!

Робін сарваў некалькі маладых галінак з лісточкамі і некалькі лясных кветак і сплёў маленькі вяночак. Ен

папрасіў Уіла Ст'ютлі павесіць яго на сук дуба, што рос у самым канцы лужка.

— Ну вось, усё гатова,— сказаў Робін.— Пераможа той, чыя страла трапіць усярэдзіну вянка і не зачэпіць ні лістка, ні пялёстка.

Усе разгублена пераглянуліся.

— А хто гэта можа разгледзець такую маленькую дзірачку? — усклікнуў нехта.— Трэба мець арлінае вока, каб пацэліць.

— Ага, і конскую сілу, каб напяць лук і пусціць стралу гэтак далёка!

Урэшце толькі Джон Форд згадзіўся паспрабаваць. Ён прыладзіў новую цеціву да лука, выбраў з калчана самыя роўныя, самыя надзейныя стрэлы. Спаборнікі кінулі жэрабя. Першым выпала страляць Джону Форду. Кожны павінен быў выпусціць тры стралы.

Першая страла Форда ўпала ў траву за добрыя дзесяць ярдаў ад цэлі. Нешта незадаволена прабурчаўшы, ён мацней напяў цеціву і ўзяў крыху вышэй, але і на гэты раз страла не даляцела. Трэцяя тыцнулася ў зямлю каля самага дрэва.

— Я зрабіў усё, што мог, і ледзь не пацэліў,— сказаў ён.— Так я ніколі яшчэ не страляў. Сумняваюся, ці знойдзецца на свеце чалавек, якому па сіле такая цэль.

— Цяпер твая чарга, Робін Гуд! Страляй ты! — закрычаў Мач.— Учора я на свае вочы бачыў тваё майстэрства: чатыры цудоўныя стрэлы! Трапіць у такую дзірачку — гэта ж не тое што ў чалавека! — і сын млынара пакруціў галавой, быццам сумняваўся, ці разумна зрабіў Робін Гуд, прыдумаўшы такое выпрабаванне.

Робін Гуд выйшаў наперад. У мёртвай цішыні разбойнікі сачылі, як ён ускінуў свой вялікі лук і далёка адцягнуў цеціву. Страла прагула ў паветры, і пачуліся крыкі здзіўлення, калі яна прайшла праз самую сярэдзіну вянка і ўваткнулася ў дрэва з такою сілаю, што апярэнне задрыжала на ёй.

Але ўсіх перакрыў голас Джона Форда:

— Няхай паспрабуе яшчэ раз! Яшчэ раз! Можа, ён выпадкова пацэліў. Няхай тры разы страляе!

— Калі ласка,— сказаў Робін Гуд, сагнуў лук у дугу, і другая страла са свістам трапіла ў цэль, а за ёю — трэцяя, і ніводная з іх не зачапіла ні лістка, ні пялёстка.

Палёт трэцяй стралы гледачы сустрэлі гучнымі выгукамі захаплення. Кожны з разбойнікаў сам быў не абы-які стралок, і таму ўсе высока ацанілі меткасць Робін Гуда, хоць самі і не маглі паспрачацца з ім ва ўмельстве гэтак валодаць лукам.

— Няхай жыве Робін Гуд! — крычалі разбойнікі.— Яшчэ ніколі наш слаўны Шэрвудскі лес не бачыў такога майстэрства!

— Ну, што цяпер скажаце, сябры? — усклікнуў Мач.— Хіба ж не яму, каралю стралкоў, быць нашым правадыром і атаманам?

— Яму! Яму! — як адзін закрычалі разбойнікі.— З Робін Гудам на жыццё і на смерць!

Усе па чарзе пакляліся ў вернасці свайму маладому правадыру, і першыя прысягнулі Мач Млынароў сын і Уот — тыя, каго Робін Гуд выбавіў з рук леснікоў. Наступны быў Джон Форд, які прайграў у спаборніцтве з Робін Гудам, а потым Уіл Ст'ютлі, яго таварыш па ўцёках, і ўсе астатнія.

— Паслухайце, таварышы мае,— сказаў Робін Гуд, калі ўсе прысягнулі на вернасць.— Вось законы, абавязковыя для ўсіх. Першы: змагацца з усімі нарманскімі прыгнятальнікамі, якія будуць рабаваць сапраўдных гаспадароў гэтай зямлі — саксонскіх нашых братоў. Другі: мы ніколі не ўчынім разбою і гвалту над людзьмі беднымі і гаротнымі, а будзем дапамагаць ім. Трэці: ніколі ніводная жанчына, багатая ці бедная, нарманка ці саксонка, не павінна баяцца нас. Вось тры законы нашага брацтва.

Усе згадзіліся строга выконваць законы Робін Гуда.

Яны ўсё яшчэ стаялі гуртам каля дуба, як раптам з-за дрэў, дробненька тупаючы нагамі, паспешліва выйшаў маленькі згорблены чалавек.

— Глядзіце, нехта ідзе! — выгукнуў Уіл Ст'ютлі. Ён першы ўбачыў чалавека.

— Гэта друг,— супакоіў яго Мач.— Лоб, шавец з Нотынгема. Ён — нашы вушы і вочы ў горадзе і закадычны прыяцель некалькіх шэрыфавых прыслужнікаў. Ад іх даведваецца, што задумаў шэрыф супраць нас. Вітанне, Лоб! — сказаў ён маленькаму гарбуну.— Якія навіны прынёс?

— Беражыцеся. Шэрыф збірае супраць вас вялікі атрад ляснікоў,— сказаў Лоб.— Ён у шаленстве, бо ўчора з засады забілі галоўнага лесніка і двух яго людзей, і ён прысягнуў, што за кожнага з іх павесіць па разбойніку. Трох страціў — трох павесіць. Але асабліва гневаўся на нейкага нетутэйшага, я нават імя яго раней не чуў. На рыначнай плошчы паразвешаны аб'явы. Той, хто зловіць нейкага Роберта Фітцата, або Робін Гуда, ці прывязе яго мёртвым, атрымае тры сотні сярэбраных пенсаў.

— Сапраўды шчодрая ўзнагарода! — усклікнуў Мач.— Бачыш, атаман, як высока цэніць цябе нотынгемскі шэрыф.

Ён пашаптаўся з Робін Гудам, і той моўчкі кіўнуў галавой.

Нейкае дзіўнае пачуццё нахлынула на Робін Гуда. Вось перад ім чалавек, які на свае вочы бачыў аб'яву з абяцаннем узнагароды за яго галаву. І першы раз ён адчуў, што сапраўды абвешчаны па-за законам.

Мач узняў над галавой свой лук і закрычаў:

— Слава нашаму міламу Шэрвудскаму лесу! Слава нашаму храбраму атаману Робін Гуду, каралю стралкоў, а цяпер яшчэ і каралю разбойнікаў!

Усе далучыліся да яго воклічаў, і вочы Робін Гуда заіскрыліся, твар пасвятлеў. Што ж, няхай яго лічаць разбойнікам. Вакол яго неабсяжны лес і атрад паплечнікаў — і яму не страшныя ніякія нарманскія шэрыфы.



## САМЫ ВЕРНЫ СЯБАР РОБІН ГУДА

Калі Робін Гуду было дваццаць год,
Пазнаўся з Маленькім ён Джонам,
Вясёлым хлапцом, удалым малайцом,
Не заўсёды ў згодзе з законам.

Хоць звалі Маленькім, вялікі меў рост —
Быў футаў сямі вышынёю.
Як крочыць настрэч, усе бягуць прэч,
Адзін выгляд яго быў гразою.

Як яны стрэліся — Робін і Джон,—
Паслухайце толькі хвілінку.
Забаўны расказ, і, магчыма, у вас
У вачах заіскрыцца смяшынка.

Навіна, якую прынёс шавец з Нотынгема, спраўдзілася. Шэрыф выправіў супраць мяцежнікаў вялікі, добра ўзброены атрад. Стражнікаў было так многа, што людзі Робін Гуда пакінулі Шэрвудскі лес і стаіліся ў другой вялікай пушчы — Барнасдэйлскай, у графстве Йоркшыр. Але шэрвудскае прыстанішча падабалася ім больш, і яны вярнуліся туды, як толькі дачуліся, што раз'юшаны шэрыф ужо не шукае іх.

Робін Гуд зразумеў, што ў яго вельмі маленькае войска, каб супрацьстаяць нарманскім карнікам, і пачаў шукаць адважных і спрытных людзей. Шмат вольных сялян — ёменаў, якіх давялі да роспачы жорсткія паны, імкнулася

далучыцца да яго атрада, але Робін Гуд браў толькі самых смелых, самых дужых і верных. Калі ён дазнаваўся, што ў лесе з'явіўся храбры і кемны чалавек, ён рабіў усё, каб залучыць яго ў атрад, і рэдка калі цярпеў няўдачу. І мала-памалу вакол яго згуртаваліся самыя адборныя малайцы, выдатныя стралкі [illegible] лука. Пра іх нават пайшла пагалоска, што адзін стралок Робін Гуда варты чатырох звычайных.

Неяк адным сонечным ранкам Робін Гуд і некалькі яго таварышаў гулялі па лесе. Выйшлі на ўзлессе, і перад імі адкрыліся палі і лугі.

— Схавайцеся за дрэвамі,— сказаў Робін Гуд сваім спадарожнікам.— Выходзіць усім нельга, на нас могуць звярнуць увагу. Далей я пайду адзін, пагляджу, можа, падвернецца што-небудзь вартае — праедзе багаты рыцар ці які царкоўнік, і мы пазбавім яго пузаты кашалёк ад лішняга грузу. Калі будзе патрэба, я падам знак ражком.

Мач, Уіл, Уот і іншыя засталіся за дрэвамі, а Робін Гуд пайшоў. Ён дабраўся да бальшака, нікога не ўбачыў і пайшоў па ім. Неўзабаве трапілася яму па дарозе рачулка. Коні маглі перайсці яе ўброд, а пешаходы перабіраліся на другі бок па вузкім драўляным мастку без поручняў. Калі Робін узышоў на мост, насустрач яму пайшоў рослы дужы дзяцюк. Кожны з іх думаў, што другі ўступіць дарогу, і яны сустрэліся твар у твар на самай сярэдзіне мастка.

«Святая дзева! — сказаў сам сабе Робін Гуд.— Гэта ж якраз той, хто мне трэба. Вось каб залучыць яго да сябе! Зараз паглядзім, ці столькі ў яго адвагі, колькі росту».

І сапраўды, такога велікана не кожны дзень сустрэнеш. Ён быў на галаву вышэйшы за Робін Гуда, з шырокімі плячамі, выпуклымі грудзямі, даўгарукі і даўганогі, з выгляду дужы, як буйвал. На твары — сама дружалюбнасць, у карых вачах вясёлы агеньчык, але ўся яго істота выказвала рашучасць, і ясна было, што стаяць на яго дарозе небяспечна.

— Дай мне дарогу, чалавеча! — сказаў яму Робін.— Чаму ты пайшоў, раз бачыў, што я ўжо ступіў на мост і што ён не такі шырокі, каб разысціся дваім?

Незнаёмец трымаў у руках тоўстую дубіну сем футаў даўжынёй. Ён спакойна стаяў на мастку, абапіраючыся на яе, і, усміхаючыся, сказаў:

— А чаму гэта я павінен даваць табе дарогу, стралок? Колькі жыву на свеце, ніколі яшчэ нікому дарогі не саступаў, можаш паверыць. Дык з якой прычыны зраблю гэта сёння?

— Што? — закрычаў Робін Гуд.— Ты мне пярэчыш? Тады я з табой пагавару па-нотынгемску, прыяцель мой велікарослы.— Робін паклаў стралу на лук і нацягнуў цеціву да самага вуха.—Прэч з дарогі! Тваё жыццё ў маіх руках. Гэтая страла праткне цябе перш, чым ты паспееш падняць сваю дубіну.

Робін гаварыў так, каб паглядзець, ці спалохаецца гэты чалавек, але той выслухаў яго зусім спакойна, быццам яму сказалі: «Добры дзень!»

— Гэтак робяць баязліўцы,— сказаў незнаёмец.— Вось я стаю перад табой з адной дубінай у руцэ, а ты пагражаеш мне вялікім лукам і вострай стралой. Толькі баязліўцы гэтак робяць.

— Гэта я баязлівец? — сказаў Робін Гуд.—
Вось лук свой і стрэлы адкіну,
Адрэжу дручок, як твой, мой дружок,
І праверу, які ты мужчына.

Робін кінуў на дол свой цісавы лук і калчан са стрэламі, пабег да густога гайка каля рэчкі і выразаў з карлікавага дуба тоўстую палку. Калі ён вярнуўся назад з палкай у руцэ, незнаёмец усё яшчэ стаяў на мастку, абапёршыся на сваю дубіну.

— Дзе сышліся, там і біцца будзем,— сказаў Робін Гуд.— Пераможа той, хто саб'е праціўніка ў рэчку.

— Згода! — адказаў велікан.

Праціўнікі сталі твар у твар, апасліва пазіраючы адзін на аднаго, схапілі свае дубіны пасярэдзіне, гатовыя да нападу ці абароны.

Спярша праціўнікі рабілі падманныя і сапраўдныя

выпады, адбівалі іх — кожны шукаў слабае месца ў абароне другога. Першы нанёс трапны ўдар Робін Гуд. Ён зрабіў выгляд, што хоча ўдарыць праціўніка па галаве, той адразу прыкрыўся дубінай, але Робін Гуд спрытна перахапіў сваю палку, імгненна змяніў напрамак удару і агрэў незнаёмца па рэбрах.

Велікан злосна агрызнуўся і размахнуўся, каб нанесці ўдар. Ды Робін Гуд спрытна ўхіліўся і сам стукнуў праціўніка па плячы, але той, як ні ў чым не бывала, схапіў сваю дубіну абедзвюма рукамі і зноў размахнуўся, цэлячыся Робіну ў галаву. Толькі праворнасць выратавала Робіна, і ён не паляцеў кулём у рэчку. І ўсё ж дубіна злёгку зачапіла галаву, рассекла скуру на макаўцы, і тонкі ручаёк крыві пабег па скроні.

Робін Гуд не на жарты ўзлаваўся, і на праціўніка пасыпаўся град хуткіх, як маланка, удараў. Цяпер волат толькі абараняўся.

Незнаёмец па цемені выцяў яго
І набіў яму добрую шышку.
Робін Гуд зазлаваў і шпарчэй замахаў,
Мацаку не даваў перадышкі.
Так моцна і спрытна дубасіў яго,
Ад гневу ўсё ў ім кіпела,
Пайшоў ажно дым над волатам тым,
На ім нібы скура затлела.

Зноў і зноў наносіў Робін Гуд трапныя ўдары па праціўніку, але ён не адступаў ні на пядзю і стойка абараняўся. І раптам адплаціў Робін Гуду за ўсё адным рашучым ударам. З усяго размаху сваіх доўгіх рук, у які ён уклаў усю сваю моц, ён апусціў цяжкую дубіну на Робін Гуда. Той паспеў падставіць кій, але з такім жа поспехам мог бы паспрабаваць адбіць удар грому. Кій з трэскам разляцеўся напалам, дубіна, толькі крышачку страціўшы сілу, ударыла Робін Гуда, і ён апынуўся ў ручаі. Пад мастком быў глыбокі вір, і Робін Гуд знік у ім з галавой. Праз момант вынырнуў, хапаючы ротам паветра.

— Ха-ха, пан стралок! Ну, дзе ты цяпер? — зарагатаў незнаёмец.

— Слова гонару, здаецца, я такі сеў у лужыну,—адказаў Робін Гуд, адплёўваючыся, бо наглытаўся сцюдзёнай вады.— Ты перамог. Шчыра скажу, ты храбры баец і перамога твая бясспрэчная.

Робін Гуд пабрыў да берага, выбраўся з ручая, ухапіўшыся за галіну калючага глогу, і затрубіў у свой паляўнічы ражок.

Яшчэ не сціхлі над далінай гукі ражка, падхопленыя рэхам, як на дарозе паказаліся верныя стралкі Робін Гуда. Наперадзе ўсіх беглі Мач, Уот і Уіл — спяшаліся на выручку свайму атаману.

— Што здарылася? — крычаў Уіл Ст'ютлі, падбягаючы да мастка.

— Што гэта значыць? Ты мокры да ніткі, з цябе льецца вада! Ты ўпаў у ручай?

— Ага,— адказаў Гуд,— і вунь стаіць той, хто памог мне ўпасці,— ён паказаў на высокага незнаёмца.

— Тады і яму туды дарога! — у адзін голас закрычалі Уіл, Мач і Уот.— Проста ганьба адпусціць яго на ўсе чатыры бакі пасля таго, як ён абышоўся гэтак з нашым атаманам. У ваду яго, хлопцы!

Незнаёмец падрыхтаваўся абараняцца, ды нават его волатаўскай сілы не хапіла б, каб супрацьстаяць араве раз'юшаных сялян. Але Робін Гуд загадаў ім спыніцца:

— Не чапайце яго, хлопцы. Не трэба крыўдзіць гэтага адважнага чалавека. Ён перамог у сумленнай бойцы, і ў мяне няма на яго злосці. Наадварот, я хацеў бы пасябраваць з такім майстрам арудаваць дубінай. Далучайся да нас,— звярнуўся Робін Гуд да незнаёмца,— уступай у наш атрад. Для такіх дужых рук у нас заўсёды знойдзецца справа.

— Перш скажыце, хто вы,— сказаў незнаёмец.— Я прысягнуў, што буду ў падначаленні толькі аднаго чалавека, і вось блукаю ў пошуках яго.

— Я Робін Гуд,— пачуў ён у адказ.

— Робін Гуд? — радасна ўсклікнуў незнаёмец.— Шчаслівы дзень! Якраз яго я і шукаю. Думаў, пайду ў Шэрвудскі лес, папрашуся да яго ў кампанію, калі можна.

— Можна, можна! — сказаў Робін Гуд.— Я з радасцю прыму цябе. Такіх навічкоў не кожны дзень знойдзеш. А цябе як завуць?

— Рука вось мая,— незнаёмы сказаў.—
Ў маёй вернасці не сумнявайся.
Я Мезенец Джон, мне адвага — закон,
Ты заўжды на мяне спадзявайся.

Пачуўшы імя і прозвішча гэтага волата, Уіл Ст'ютлі засмяяўся:

— Джон Мезенец! Ну сапраўды хлопчык з ногцік! Трэба яго перахрысціць. Ён у нас навічок, дык і назавём яго па-новаму.

— А як? — спытаў Мач.

— Ну, раз дзіцятка ўрадзілася такое кволенькае і шчупленькае, ахрысцім яго Маленькім Джонам.

Усе засмяяліся. Назваць такога бамбізу Маленькім! Але мянушка ім спадабалася, і прапанову прынялі.

— А цяпер трэба ўрачыста адзначыць гэту падзею,— сказаў Уіл Ст'ютлі.— Не кожны дзень да нас прыходзіць такая магутная падмога.

Уся кампанія паглыбілася ў лес, і неўзабаве на зямлю ўпалі, падбітыя librasметкімі стрэламі, дзве сытыя лані. Прыхапіўшы здабычу, людзі Робін Гуда вярнуліся ў сваё прыстанішча — у прасторную пячору ў скале, надзейнае сховішча ад ворага.

Неўзабаве там палала вялікае вогнішча, смажылася мяса. Разбойнікі наладзілі ўрачысты абед — елі свежую аленіну і запівалі элем. Калі банкет скончыўся, пачаліся спевы пад арфу і скокі — весяліліся ўволю. Над усімі ўзвышалася галава Маленькага Джона, які потым праславіўся стойкасцю духу і цвёрдасцю рукі і чыё імя праслаўлялася ў народных баладах, можа, толькі крыху менш, чым імя легендарнага атамана Робін Гуда.

І пасля увесь час да канца яго дзён,
Хоць не быў ён малы і худзенькі,
А станам высок, у плячах быў шырок,
Яго звалі ўсе Джонам Маленькім.

## Раздзел чацвёрты

## ЯШЧЭ АДЗІН НАВАБРАНЕЦ

Неяк раз пасля таго, як Маленькі Джон далучыўся да ляснога атрада, яны з Робін Гудам пайшлі пашукаць сытага аленя, бо ў дупле дуба, што служыў кладоўкай для мяса, было ўжо зусім пуста.

Апаўдня на краі шырокай паляны, парослай сакавітай травой, яны ўбачылі ладны статак аленяў.

— Вунь рагач, якраз такі, як нам трэба,— паказаў Робін Гуд Маленькаму Джону на важака, які спакойна скуб траву збоку ад свайго статка.

— Адсюль яго дастаць зручней,— сказаў Маленькі Джон.— Вецер дзьме збоку статка. Я падыду з наветранага боку, ён мяне пачуе, кінецца сюды, і тут ты яго падстрэліш.

План Маленькага Джона быў ухвалены, і ён памкнуўся ісці, але раптам замёр на месцы і паказаў рукой на край лесу. Робін Гуд зірнуў туды і ўбачыў маладога чалавека, які толькі што выйшаў на паляну па лясной сцяжынцы. На ім было ўсё пунсовае, у руках ён трымаў лук даўжынёй пад свой рост, на баку вісеў шырокі нож. Важак аленяў убачыў ярка-чырвоную постаць, угнуў галаву, наставіў рогі і пачаў грэбці капытамі зямлю.

— Хто там гэтак ярка ўспыхнуў? — спытаў Робін Гуд.

— Не ведаю,— ціхенька адказаў Маленькі Джон.— Ён нетутэйшы.

— Вядома, не! — пагадзіўся Робін Гуд.— Яго пунсо-

вае ўбранне — як полымя сярод дрэў. У лес апрануўся б лепш у зялёнае. Відаць, нейкі гарадскі франт выбраўся пагуляць у лесе.

Але ў гэты момант яны ўбачылі такое, ад чаго ажно ўскрыкнулі ад захаплення.

Чалавек у пунсовым прыладзіў цеціву да лука, узяў з калчана стралу і паклаў на цеціву. Яго рэзкія рухі ўспудзілі важака, той падаў трывожны сігнал, і ўвесь статак імкліва кінуўся ў лес. Некалькі самак акружылі важака, нібы прыкрываючы яго ад небяспекі, і трапіць у яго стралою было амаль немагчыма. Але ўжо каля самага лесу важак на момант вырваўся наперад. Хапіла і гэтага кароткага імгнення. Цеціва глуха зазвінела, страла сарвалася з лука, і рагач грымнуўся на зямлю — страла ўваткнулася ў яго плямісты бок аж да самага апярэння.

— Цудоўны стрэл! — прашаптаў Робін Гуд.— Не, гэта не гарадскі франт, Маленькі Джон. Пачакай тут, я пайду пагавару з ім.

Маленькі Джон застаўся ў зарасніку, а Робін Гуд пайшоў па паляне да паляўнічага, які ўжо стаяў каля сваёй здабычы.

— Выдатны стрэл! Майстэрскі! — сказаў Робін Гуд, падыходзячы да яго.— Ты адпусціў цеціву якраз у патрэбнае імгненне, незнаёмец!

Чалавек моўчкі холадна зірнуў на яго.

— Мне патрэбны меткія стралкі,— гаварыў далей Робін Гуд.— Хочаш служыць у мяне?

— А хто ты такі? — з пагардай адказаў малады чалавек у пунсовым.— Чаму я павінен служыць у цябе? Ты сам з леснікоў?

— Ага, прыблізна.

— І пасвіш аленяў для караля?

— Правільна. Для караля Шэрвудскага лесу!

— Што англійскі кароль, што шэрвудскі, мне ўсё адно,— манерна расцягваючы словы, прамовіў франт.— Ідзі сваёю дарогай, добры шэрвудзец, і не дакучай мне. Ты мне зусім не патрэбны.

— А калі не пайду, што ты зробіш?

— Клянуся, цябе чакае добрая лупцоўка.

«Відаць, не баязлівец,— падумаў Робін Гуд.— Зараз праверу, ці такі ён храбры, як здаецца».

Чалавек у пунсовым пачаў спакойна, не зважаючы на Робіна, разглядаць рогі забітага ім аленя. Робін Гуд ціхенька паклаў стралу на цеціву, тупнуў нагой і крыкнуў:

— Беражыся!

Калі чалавек павярнуўся да яго і убачыў выгнуты дугою лук і нацэленую ў грудзі стралу, ён не змяніўся з твару і нават не варухнуў брывом, а толькі сярдзіта сказаў:

— Ідзі сваёй дарогай, чалавеча. Што за блазенская гульня?

— Па-твойму, страла між рэбраў — блазенская гульня? — грозна прамовіў Робін Гуд.— Я лясны разбойнік і вораг такіх шыкоўных франтаў, як ты. Кінь мне пад ногі свой кашалёк і не марудзь, калі табе жыццё дарагое.

— А-а... значыць, ты з той шайкі? — сказаў малады чалавек з лёгкім здзіўленнем у голасе.— Што ж, страла на цеціве — важкі аргумент! — і ён зрабіў рух, быццам хацеў адвязаць ад пояса кашалёк, але выхапіў з калчана стралу і ўмомант паклаў яе на лук. Цяпер абодва, і ён і Робін Гуд, цэліліся адзін у аднаго.

У Робіна Гуда і ў галаве не было страляць у гэтага чалавека.

— Стой! — выгукнуў ён.— Мы ж заб'ём адзін аднаго, і хто ад гэтага выйграе?

— На мой розум, ніхто,— спакойна адказаў незнаёмы.— Але ж гульню пачаў не я, а ты.

— Тады я канчаю яе,— і з гэтымі словамі Робін Гуд паклаў стралу ў калчан.

Незнаёмец зрабіў тое самае і моўчкі чакаў, што будзе далей.

— У цябе ёсць меч і шчыт,— сказаў Робін Гуд,— у мяне таксама. Проста ганебна разысціся, не даведаўшыся, хто з нас лепшы баец.

— З мячом і шчытом,— сказаў Робін Гуд,—
Пойдзем пад дуб векавы.

— Я стойкі баец,— прамовіў храбрэц,—
І табе не знасіць галавы.

Яны пайшлі на роўную дзірвaністую палянку пад магутным разложыстым дубам.

Бліснулі шырокія клінкі, і паядынак пачаўся. Лясь, лясь! — стукалі цяжкія мячы па моцных шчытах, якія праціўнікі спрытна падстаўлялі пад лязы мячоў. Бой доўжыўся добрыя паўгадзіны, і ніхто не меў перавагі, ніхто не адступіў ні на крок, і ні разу клінок не дакрануўся да цела.

Нарэшце паядынак скончыўся пасля ўдалага выпаду незнаёмца. Робін Гуд не паспеў адбіць удар мяча, кончык клінка рассек лоб каля валасоў, і кроў заліла вочы Робін Гуду. Больш біцца ён ужо не мог, бо нічога не бачыў.

Як толькі паранілі атамана, Маленькі Джон выскачыў са свайго сховішча і кінуўся да дуба.

— Дай мне свой меч,— крыкнуў ён Робін Гуду,— і няхай гэты малойчык паспрабуе перамагчы мяне! Я ўмею біцца на мячах са шчытом!

— Не, Маленькі Джон, не! — адказаў Робін Гуд, выціраючы кроў.— Даволі звону мячоў! Ганьба ставіць свежага чалавека супраць таго, хто доўга і храбра змагаўся. Ён сумленны праціўнік, ён не атакаваў мяне, калі мне заліло вочы.

— Што ж, мой абавязак — слухацца,— прабурчаў Джон,— але мне крыўдна, як падумаю, што гэты моднік будзе выхваляцца перад сваімі прыяцелямі, што пусціў кроў самому Робін Гуду і застаўся цэлы і здаровы.

І тут незнаёмца пакінулі абыякавасць і спакойная стрыманасць.

— Робін Гуд! — узрушана ўсклікнуў ён.— Значыць, я сустрэўся з Робін Гудам? І біўся з ім?

— Адкуль ты мяне ведаеш? — сказаў Робін Гуд.— Хто ты?

— Хто я? — засмяяўся юнак.— Некалькі гадоў назад ты адразу пазнаў бы мяне, а я цябе. Ты забыў, Роб, Уіла Геймуэла?

— Уіла Геймуэла, майго адзінага стрыечнага брата? Не, не забыў. Але не пазнаў. Дык гэта ты, Уіл? Той самы хлопчык, з якім мы шукалі ў лесе птушыныя гнёзды? Каго я навучыў страляць з лука? Цяпер пазнаю тваю ўсмешку і голас. І трэба ж, мы біліся на мячах!

Сваякі горача пацiснулі адзін аднаму рукі. Маленькі Джон таксама патрос працягнутую Уілам руку.

— А што ты робіш у лесе, Уіл? — спытаў Робін Гуд.

— Цябе шукаю, Роб. Я таксама парушыў закон і ўцёк у лес, на мне чалавечая кроў. Я ратаваў сваё жыццё. Ты памятаеш Грыма, нашага аканома?

— Гэтага старога шэльму? Яшчэ як памятаю! — адказаў Робін Гуд.— Калі гэта яго кроў, дык упэўнены, у цябе былі важкія прычыны.

— Вось паслухай, як усё здарылася. Ты ж ведаеш, наша зямля мяжуе з паляўнічымі ўгоддзямі барона Дэ Ласі, нашага нарманскага суседа. Ён даўно ўжо вастрыў зубы на наш маёнтак. Бацька мой ужо стары, і я ў яго адзіны сын. Дык гэты нарманскі барон задумаў адправіць мяне на той свет, каб потым атрымаць даравальную грамату на нашу зямлю, якая засталася б без гаспадара.

— Во бандыт! — усклікнуў Робін Гуд.— Ён ужо не адзін раз гэтакім чынам дамагаўся свайго. Ну і што далей?

— Гэтымі днямі я разам з Грымам пайшоў на паляванне. Стаю на краі маленькай прагаліны, чакаю аленя, як раптам нешта падказала мне азірнуцца — не ведаю, адкуль узнікла гэтае трывожнае адчуванне,— і я ўбачыў Грыма, які цэліўся ў мяне. Каб уратавацца, мне засталося адно: я стрэліў якраз у той момант, калі ён адпусціў цеціву. Яго страла распарола на мне камзол і камізэльку, а мая прабіла яму грудзі. Праз пяць мінут ён памёр, але перад смерцю паспеў прызнацца, што Дэ Ласі падгаварыў яго забіць мяне

за вялікую ўзнагароду і высокую пасаду ў доме барона.

— Якое вераломства! — усклікнуў Робін Гуд.— Нарманскія бароны гатовы любымі спосабамі абрабаваць саксаў, і чым больш шкоды робяць, тым больш радуюцца. А потым што з табой было?

— Як на тую бяду, барон даведаўся, як памёр Грым, адразу паслаў шэрыфа па маім следзе. Яму дарэчы прыйшлася б мая смерць на шыбеніцы за наўмыснае, як ён абвясціў, забойства чалавека.

— Ну, тут усё ясна без слоў,— сказаў Робін Гуд.— І ты ўцёк у наш слаўны Шэрвудскі лес. Ну дык з прыбыццём! Сардэчна запрашаем да нас! Пазнаёмся, гэта Маленькі Джон, другі пасля мяне ў атрадзе чалавек.

Уіл Геймуэл і Маленькі Джон зноў пацiснулі адзін аднаму рукі, а Робін Гуд гаварыў далей:

— Трэба табе, Уіл, памяняць прозвішча. Калі за чалавекам па пятах гоніцца закон, лепш забыць яго сапраўднае прозвішча. Ты прыйшоў да нас у пунсовым убранні, таму і будзем зваць цябе з гэтага дня Уіл Скарлет[1].

— Цудоўна! — выгукнуў Маленькі Джон.— Уіл Скарлет! З гэтым імем ён уступіць у наш атрад вольным лясным стралком.

Уіл Скарлет далучыўся да атрада Робін Гуда. Ён прысягнуў, што будзе выконваць усе законы і звычаі ляснога брацтва.

— А вялікі рагач, якога я падстрэліў, будзе маім першым укладам у агульную справу,— засмяяўся Уіл Скарлет.— Давайце наладзім сяброўскі абед з нагоды майго ўступлення ў вашу паважаную кампанію.

Робін Гуд таксама засмяяўся і заапляскаў у далоні.

— Мы з Маленькім Джонам якраз хацелі здабыць дзічыны, калі ты раптам выйшаў на паляну,— сказаў ён.— Я ўжо выбраў гэтага важака, але ты апярэдзіў мяне. Што ж, панясём яго тушу ў наша прыстанішча. Сёння мы добра пабалюем і наядзімся цудоўнай аленіны.

---

[1] S c a r l e t *(англ.)* — пунсовы.



## СУСТРЭЧА З МАНАХАМ

Аднойчы Робін Гуд сабраў
Пад шатамі дубоў
Для спрытных гульняў і забаў
Сваіх лясных сяброў.

Пагодлівым летнім днём, калі лес стаяў у прыгожым зялёным убранні і сонца аздабляла мяккі дзірван ажурнымі ўзорамі святла і ценю, у стралкоў Робін Гуда было так прыемна на душы, што ім захацелася наладзіць сабе свята і павесяліцца. Яны бегалі навыперадкі, скакалі з разбегу, біліся на дубінках, пускаліся ў скокі — забаўляліся, як дзеці. Нарэшце надышла чарга самаму любімаму іх спаборніцтву — стральбе з лука.

Яны разбіліся на групы і рассыпаліся па лесе ў пошуках аленяў. З Робін Гудам пайшлі Маленькі Джон, Мач Млынароў сын і Уіл Скарлет. Неўзабаве яны ўбачылі статак аленяў, які пасвіўся на далёкім лужку. Робін Гуд сказаў:

— Алені выйшлі на папас.
А вунь які самец
За футаў мо пяцьсот ад нас!
Хто трапіць — той стралец!

Уіл Скарлет пацэліў у маладога аленя, Мач трапіў у аляніцу. Маленькі Джон напяў свой магутны лук. Яго страла са свістам праляцела добрыя пяць соцень футаў і ўпілася ў грудзі вялікага рагача.

— Вось гэта стрэл! — усклікнуў Робін Гуд.— Малайчына, Маленькі Джон! Я не паленаваўся б прайсці сто міль,

каб ведаў, што знайду чалавека, які страляе так, як ты.

Уіл Скарлет засмяяўся:

— Хадзіць гэтак далёка не трэба, Робін. Ты можаш знайсці раўню Маленькаму Джону значна бліжэй.

— А дзе ж?

— Дзе? У Манастыры ля Крыніц. Там ёсць манах жабрачага ордэна. Яму па сіле любы лук, нават самы вялікі і тугі. У меткасці ён паб'е Маленькага Джона ды і цябе заадно.

Гэты манах вельмі зацікавіў Робін Гуда. Яму захацелася залучыць да сябе яшчэ аднаго спрытнага стралка, і ён пакляўся перад сваімі таварышамі, што знойдзе таго манаха што б там ні было. Як гаворыцца ў старадаўняй баладзе,

Даў Робін Гуд сабе зарок
Не есці і не піць,
Пакуль удалы той стралок
Да іх не пойдзе жыць.

Робін Гуд сеў на каня і паехаў. Ён добра ўзброіўся ў дарогу. На ім былі кальчуга і сталёвы шлем, на баку добры меч, на руцэ невялікі круглы шчыт, на поясе калчан са стрэламі, а на плячы вялікі лук.

Нарэшце Робін Гуд апынуўся ў прыгожай даліне, дзе стаяў Манастыр ля Крыніц. Яго руіны яшчэ і сёння ляжаць там. Між берагоў бруілася рака — сярэбраная стужка на зялёным дыване раўніны. Робін Гуд прытрымаў каня: хацеў акінуць вокам краявід, і раптам заўважыў чалавека, які ішоў берагам рэчкі. Хоць чалавек быў у плашчы манаха-жабрака, падпяразаным вяроўкай, на галаве ў яго быў сталёвы шлем, а на баку меч і круглы шчыт.

«Здаецца, яго я і шукаю,— падумаў Робін Гуд.— Калі ён манах, дык гэта ваяўнічы манах і якраз той чалавек, пра якога гаварыў Уіл Скарлет».

Робін Гуд спешыўся, прывязаў каня да цярноўніку і пайшоў наперарэз манаху па сцежцы, што збягала да рэчкі і працягвалася на другім беразе.

«Там, відаць, брод,— вырашыў Робін Гуд,— і я перабяруся цераз рэчку, не намачыўшы ног. Манах перанясе мяне на сваіх плячах. Але куды ён дзеўся?»

Дзябёлая постаць знікла ў прыбярэжных кустах, ды неўзабаве вынырнула зноў. Манах ішоў назад. Аказалася, ён расхаджваў па беразе з малітоўнікам у руках і нараспеў чытаў нейкі псалом ды так гучна, што здавалася, бык раве. Раптам ён спыніўся на паўслове. Там, дзе сцежка падыходзіла да рэчкі, стаяў незнаёмы чалавек з крута выгнутым лукам і стралой на цеціве і цэліўся ў яго.

Шмат хто прыйшоў бы ў замяшанне ад такой нечаканасці, але манах застаўся зусім спакойны. Ніводная жылка не варухнулася на яго круглым пухлявым і румяным твары. У маленькіх свіных вочках, амаль схаваных у тлустых складках шчок, было больш цікаўнасці, чым трывогі.

— Сын мой,— сказаў ён,— ты можаш апусціць свой лук і схаваць стралу. Калі ты наважыў абрабаваць мяне, дык моцна памыліўся: у мяне і гроша ломанага ў кішэні няма. Рабаваць манаха-жабрака — тое самае, што спрабаваць папалуднаваць сухім маслаком. Манахі нашага манастыра далі зарок беднасці. А калі ў цябе другое наўме, дык, розуму не дабяру, навошта табе цэліць у мяне: мы з табой адзін аднаго нават і ў вочы не бачылі.

— Не, манах,— сказаў Робін Гуд,— мне не патрэбны ні тваё жыццё, ні кашалёк. Я адно хачу, каб ты дапамог мне пераправіцца бродам цераз рэчку, бо пасля дажджу ён зрабіўся вельмі глыбокі. Дык перанясі мяне на другі бераг.

Манах нічога не сказаў, толькі твар скрывіў так смешна, што Робін Гуд ледзь стрымаўся, каб не зарагатаць. А манах беражліва схаваў свой малітоўнік, нахіліўся і ўзваліў Робін Гуда на сваю шырокую, тоўстую спіну.

Манах яго на плечы ўзяў,
І цераз брод панёс,

I увесь час, як брыў, маўчаў,
Не скардзіўся на лёс.

На другім беразе Робін Гуд жвава саскочыў з плячэй манаха і павярнуўся да яго, каб падзякаваць. Але манах раптам схапіў яго жалезнай хваткай і прыставіў да горла кінжал.

— Што гэта значыць, манах? — спытаў Робін Гуд.— Ты хочаш маёй крыві? Хіба не ведаеш, што духоўнай асобе забараняецца праліваць чалавечую кроў?

— Калі праліецца кроў, сын мой, вінаваты будзеш ты сам,— адказаў манах і злавесна рагатнуў.— Хочаш застацца цэлы, выконвай мой загад. Адмовішся, і лязо ўвойдзе на пяць пальцаў табе ў горла.

— А які твой загад?

— На тым беразе застаўся мой малітоўнік. Зрабі ласку, перанясі мяне цераз гэтую халодную рэчку, каб я мог узяць малітоўнік.

Нічога не зробіш, давядзецца пераносіць манаха. Іншага выйсця няма: нож каля яго горла, і ў гэтага манахажабрака бычыная сіла і голас таксама як у быка. Робін Гуд пакорліва падставіў спіну і ўзваліў на сябе грузнае цела манаха, амаль такое ж ушыркі, як і ўдоўжкі.

Надоўга застаўся ў памяці Робін Гуда той пераход цераз рэчку з манахам на спіне. Ніхто, мусіць, не важыў столькі, як гэты манах. Робін Гуд сагнуўся ў тры пагібелі пад цяжарам яго цела. Яму здавалася, яшчэ крыху — і затрашчыць, пераломіцца пазваночнік. Да таго ж Робін Гуд не ведаў гэтага броду. Ён правальваўся ў яміны, коўзаўся на слізкіх камянях і не раз быў на валаску ад таго, каб не пляснуцца ў ваду.

Манах тузаў яго за валасы, біў абцасамі, як наравістага каня, калі той упарціцца. Нарэшце, сапучы і хапаючы ротам паветра, Робін Гуд данёс яго да берага, і манах лёгенька саскочыў на зямлю. Хоць з выгляду гэты грузны царкоўнік быў няўклюдны і непаваротлівы, на самай справе ён быў вельмі жвавы і спрытны. У той момант, калі ма-

нах стаў на зямлю, Робін Гуд схапіў яго за нагу і паваліў. Манах грымнуўся на дол не то са свінячым рохканнем, не то з парасячым віскам. Робін Гуд выхапіў з ножан меч і стаў над сваім пераможаным праціўнікам, шлем якога адляцеў мо на тры ярды.

— Ты прайграў, манах,— сказаў Робін Гуд.— А мне ўсё ж трэба пераправіцца на той бераг. Таму абяцай, што зноў панясеш мяне цераз рэчку, а то раскалю тваю плешывую галаву на два чарапкі!

— Абяцаю,— сказаў манах, як толькі перавёў дух, бо занадта злавесна паблісквала над яго лысінай сталь цяжкага мяча.

Манах не скардзіўся на лёс,
Ні слова не сказаў,
Зноў бродам Робіна панёс
І сярод рэчкі стаў.

Робін Гуд падумаў, што ён шукае апоры нагам, і засмяяўся. Цяпер ужо не ён, Робін Гуд, а манах коўзаецца на слізкіх камянях і боўтаецца ў ямінах. Але смех раптоўна замёр на яго вуснах: манах нечакана моцна сцепануў плячамі і Робін Гуд кулём паляцеў у ваду.

— А зараз, прыяцель, выбірай, што лепш — тапіцца ці плысці! — загарлаў манах і пабрыў да свайго берага.

Плынь падхапіла Робін Гуда, але ён паспеў ухапіцца за доўгае вецце ракіты, што навісала над самай вадой, падцягнуўся і вылез на сушу. Пашукаў вачамі свайго праціўніка і на процілеглым беразе ўбачыў дзябёлую постаць. Тоўсты румяны твар манаха расплыўся ў шырокую ўсмешку. Ён бачыў, як Робін Гуд караскаўся на бераг, як з яго ручаямі цякла вада.

— Хутка ты не гэтак засмяешся, мой попік! — крыкнуў яму Робін Гуд, падскокваючы то на адной, то на другой назе, каб з вушэй вылілася вада.

Раптам ён схапіў лук і пусціў стралу са страшнай сілай. Хоць цэль была зручная і адлегласць невялікая,

ды манах выкруціўся, імгненна падставіў шчыт і спрытна адбіў стралу. Так паўтаралася раз за разам, пакуль не апусцеў калчан Робін Гуда. Манах заспяваў сваім грымучым голасам, нібы жаба-вол у балоце:

— Страляй, страляй, мой юны пан,
Твае не страшны стрэлы.
Хоць апустош увесь калчан,
Я застануся цэлы.

— Гэта яшчэ не ўсё! — крыкнуў яму Робін Гуд.— Раз не ўдалося дастаць цябе з лука, жабрачы ты манах, я пакажу некалькі прыёмаў мячом,— і ён скочыў у ваду. Манах убачыў, што разбойнік хоча напасці на яго, падбег да свайго шлема і надзеў яго сабе на круглую, як качан, галаву, выхапіў з ножан меч, прыкрыўся шчытом і стаў у пазіцыю. Робін Гуд выскачыў на бераг і імкліва атакаваў яго. Пачаўся жорсткі, упарты паядынак. Блішчалі доўгія клінкі мячоў, калі байцы высока ўзнімалі іх, каб з размаху апусціць на праціўніка, звінела сталь шчытоў, якія сустракалі і адбівалі ўдары. Размахваючы мячамі, праціўнікі кружыліся па беразе адзін вакол аднаго, то сыходзіліся, то разыходзіліся. Робін Гуд спрытна мяняў пазіцыю, стараўся знайсці слабае месца праціўніка. Адважны манах удала абараняўся.

Цэлую гадзіну звінелі мячы і шчыты. Змагаліся і на беразе, траплялі і ў ваду, нападалі, ухіляліся ад удараў, калолі і секлі мячамі колькі моцы ставала. Нарэшце зусім выбіліся з сілы і вымушаны былі перапыніць паядынак, каб крыху адпачыць пасля такой страшнай бойкі.

— Каб мяне чорт узяў, прыяцель! — усклікнуў Робін Гуд.— Ты ж той самы ўдалец, якога я шукаю і хачу ўзяць сабе ў таварышы. Зрабі мне, прашу, адну ласку.

— Якую?

— Анічога такога. Не нападай на мяне, пакуль я не пратрублю тры разы ў ражок.

— Трубі колькі хочаш. Мяне твой ражок мала хвалюе.

Робін Гуд усміхнуўся. Зараз манах убачыць такое, што расхвалюе яго не на жарт. Ен паднёс да рота ражок і моцна пратрубіў тры разы. Яшчэ не сціхла рэха, як з лесу выбеглі паўсотні чалавек з нацэленымі лукамі ў руках.

— Што гэта за людзі?! — закрычаў манах.— Чаму яны так спяшаюцца сюды?

— Гэта мае стралкі, манах. Яны спяшаюцца мне на падмогу.

— Тваю просьбу я выканаў,— сказаў манах.— Цяпер зрабі і мне ласку — не нападай, пакуль я не свісну тры разы.

— Згодны,— адказаў Робін Гуд.— Я быў бы апошні нягоднік, калі б адмовіў табе. Твой свіст мяне мала хвалюе.

Як толькі манах свіснуў тры разы, паўсотні вялізных таўстамордых сабак з шалёным брэхам выскачылі аднекуль і памчаліся па даліне да рэчкі. Два сабакі наляцелі на Робін Гуда, адзін ззаду, другі спераду, і сарвалі з яго плячэй камзол.

Убачыўшы свайго атамана ў бядзе, яго людзі пачалі страляць у сабак. І тут адбыўся сапраўдны цуд. Сабакі спрытна хапалі стрэлы зубамі, і ніводзін з іх не быў паранены або забіты.

Маленькі Джон, які яшчэ не дакранаўся да свайго калчана, закрычаў грамавым голасам:

— Прагані сабак, манашак, і не марудзь!

— Хто ты такі, каб мне загадваць? — загрымеў у адказ манах.

— Я Маленькі Джон, стралок Робін Гуда! Яшчэ раз кажу: прагані сабак, а то ім не паздаровіцца.

Манах толькі пагардліва ўсміхнуўся, і тады Маленькі Джон пачаў пускаць стрэлы адну за адной. Яны так шпарка ляцелі, што сабакі не паспявалі хапаць іх, і неўзабаве некалькі сабак ужо ляжалі мёртвыя на траве.

— Не страляй, добры маладзец! — крыкнуў яму ма-

нах, баючыся, што гэты спрытны стралок пераб'е ўсіх яго сабак.— Не страляй, і давайце памірымся. Я не ведаў, што гэта Робін Гуд, а вы яго людзі.

Ён прагнаў сабак, і ўсё скончылася мірам.

— Як цябе завуць, адважны манах? — спытаў Робін Гуд.— Такія людзі, як ты, мне падабаюцца.

— Я манах Тук і ўжо сем гадоў ахоўваю Крынічную даліну і праганяю адсюль усіх, хто асмельваецца паявіцца тут без майго дазволу.

— Пойдзем з намі ў слаўны Шэрвудскі лес,— прапанаваў яму Робін Гуд.— Нам патрэбны свяшчэннік, бо мы не хочам жыць у лесе, як варвары. Нас абвясцілі па-за законам, мы не можам хадзіць у горад у царкву. І калі ты згодзішся жыць з намі, мы пабудуем табе капліцу, і ты зможаш спраўляць абрады.

— Добра, я пайду з вамі,— адказаў манах Тук.— Душа мая імкнецца да вашага слаўнага брацтва, і я буду вашым свяшчэннікам і спавядальнікам. Вазьму з сабой сабак, мы будзем хадзіць з імі на паляванне і загонім не аднаго аленя.

Вось якім чынам у атрадзе Робін Гуда паявіўся славуты брат Тук, які потым стаў адным з герояў шматлікіх народных песень і балад.

Манастыр каля Крыніц
Сем год сцярог манах,
Ні перад кім не падаў ніц —
На ўсіх наводзіў страх.
Меў востры меч і гнуткі лук
І зваўся ён — брат Тук.

# РОБІН ГУД І ЖУРБОТНЫ РЫЦАР

Уважна слухай да канца,
Увесь свабодны люд.
Я раскажу пра малайца
Па імю Робін Гуд.

Яго пакрыўдзіў злы закон,
Разбойнікам ён стаў,
Але быў шчыры, чулы ён,
Зрабіў шмат добрых спраў.

Аднойчы апоўдні, праз некалькі тыдняў пасля таго, як да ляснога брацтва далучыўся манах Тук, Робін Гуд стаяў, прыхіліўшыся да дрэва, у глыбокім роздуме.

— Атаман,— сказаў яму Маленькі Джон,— чым стаяць тут у адзіноце, ты б лепш паназіраў, як гатуецца абед. А абед будзе багаты, нават кароль палічыў бы за гонар пачаставацца ім. Адзін наш чалавек прынёс свежай аленіны, другі некалькі птушак, ёсць у нас і яшчэ сёе-тое — кожны знойдзе сабе што-небудзь да смаку.

— Ты праўду гаворыш, Маленькі Джон,— сказаў Робін Гуд,— але мне нешта не хочацца абедаць без гасцей. Вось вазьмі і прывядзі якога-небудзь барона, біскупа ці нарманскага рыцара. Ён папалудне са мной і заплаціць па рахунку.

— Гэта ўжо абавязкова, — засмяяўся Маленькі Джон.— І якім бы цяжкім ні быў у яго кашалёк, калі прыйдзе, ён не будзе адцягваць яму кішэню, калі пойдзе.

— Прыхапі свой добры лук,— сказаў Робін Гуд,— вазьмі з сабой Мача і Уіла Скарлета, ідзі на Уолтынгскі бальшак і, можа, стрэнеш каго-небудзь.

Граф альбо барон,
Рыцар ці абат —
Хай будзе госцем ён,
З ім паабедаць рад.

І трое разбойнікаў пайшлі да вялікай дарогі, схаваліся ў густым ляшчынніку. Спярша па дарозе праехала жанчына на прыгожым верхавым кані з цэлай світай слуг. Разбойнікі пазналі жонку нарманскага барона, але нападаць на яе не сталі, бо любой жанчыне, хто б яна ні была, з іх боку небяспека не пагражала. Затым прайшлі некалькі сялян-ёменаў, якія вярталіся з кірмашу. Маленькі Джон з таварышамі са свайго сховішча чулі, як яны хваліліся адзін аднаму, колькі сярэбраных манет вытаргавалі за кароў. Разбойнікі толькі весела пераміргнуліся і прапусцілі іх — Робін Гуд ніколі і пальцам не кранаў здабытак беднякоў.

Раптам Маленькі Джон ускінуў лук і паказаў рукой у прасвет між кустоў. Мач і Уіл зірнулі і ўбачылі на дарозе коннага рыцара. Спачатку яны падумалі, што спыняць яго не варта: адзенне на ім было пакамечанае, на латах іржавыя плямы, твар сумны і роспачны.

Была ў вачах яго туга,
На твары сум і мрок,
Адна у стрэмені нага,
Адна спаўзла пад бок.

Шлем коса ссунуўся на лбе,
Іржы на латах след,
Людзей у гэтакай журбе
Яшчэ не бачыў свет.

Але Маленькі Джон памятаў загад Робін Гуда. Перад

ім рыцар, і гэты рыцар павінен сёння папалуднаваць з Робін Гудам. Ён выйшаў з засады і стаў на калена перад коннікам.

— Пане рыцар,— ветліва сказаў Маленькі Джон,— вельмі прашу вас пайсці з намі ў лес. Там вас сустрэнуць сардэчна і гасцінна. Мой гаспадар ужо тры гадзіны чакае вас на абед.

— А хто твой гаспадар? — спытаў журботны рыцар.

— Робін Гуд,— адказаў Маленькі Джон.

— Я збіраўся сёння паабедаць дзе-небудзь у Блісе ці ў Донкастары,— сказаў рыцар,— але мне ўсё роўна, дзе есці. Вядзі мяне, добры чалавек. Пайду з табою да гэтага слаўнага ёмена. Я чуў, што ён прыяцель усіх бедных і гаротных.

Калі між стваламі дрэў Робін Гуд убачыў, што Маленькі Джон, Мач і Уіл вядуць у лагер рыцара, ён пайшоў ім насустрач, пачціва прывітаўся і запрасіў рыцара быць ганаровым госцем на абедзе. Рыцар падзякаваў яму, яны памылі рукі і селі за стол, які ламіўся ад смажанай аленіны, ад знятых з ражноў лебедзяў і фазанаў, ад пірагоў, начыненых дзічынай, і піражкоў з птушыным мясам, ад вялікіх бутляў з элем, ад праснакоў з пшанічнай мукі мяккага памолу.

Журботны рыцар прагаладаўся і еў з вялікім смакам усё, што яму падавалі. Неўзабаве твар яго крыху пасвятлеў.

— Вялікі дзякуй, ласкавы Робін Гуд,— падзякаваў нарманскі рыцар.— Я ўжо тры дні не еў гэтак сытна і смачна. Калі вам надарыцца быць у нашых краях, я таксама пачастую вас ад усяго сэрца.

— Вялікі вам дзякуй, ласкавы рыцар,— засмяяўся Робін Гуд,— але ваша абяцанне — малая плата за сённяшні абед. Вы, пэўна, думаеце, што ў простага ёмена не будзе чым заплаціць за пачастунак высокашаноўнага рыцара. А каб было чым, я вымушаны папрасіць вас палажыць на стол свой кашалёк, перш чым мы развітаемся з вамі.

— Я рады быў бы расплаціцца з вамі за такі багаты пачастунак,— сказаў рыцар.— Мне сорамна, што маю так мала грошай.

— Колькі ў вас? Толькі кажыце праўду.

— У мяне ўсяго дзесяць шылінгаў за душой,— сказаў рыцар.— Грошы ляжаць у куфэрку, што вісіць за сядлом.

— Паглядзі, Маленькі Джон,— загадаў Робін Гуд.

Джон зняў з седлавой лукі куфэрак, разаслаў на траве свой плашч і высыпаў на яго ўсё з куфэрка.

— Рыцар праўду казаў,— абвясціў Маленькі Джон, калі пералічыў манеты.

— Скажыце, шаноўны,— звярнуўся да рыцара Робін Гуд,— чаму вы так згалелі? Вопратка ваша бедная, скарбніца амаль пустая. І ў вас такі журботны выгляд. Выпіце, калі ласка, яшчэ кубак добрага віна і раскажыце нам пра свае бядоты. А можа, вы занядбалі гаспадарку або растранжырылі багацце ў п'яных гулянках?

Рыцар адмоўна пакруціў галавой і цяжка ўздыхнуў.

— Добра, я раскажу вам усё,— згадзіўся журботны рыцар.— Я маю вялікі доўг — чатыры сотні золатам! Яшчэ два-тры гады назад такія грошы былі для мяне дробяззю. А цяпер у мяне нічога не засталося, акрамя жонкі і дзяцей ды тых няшчасных дзесяці шылінгаў, што былі ў куфэрку.

— А як вы страцілі ўвесь свой набытак? — пацікавіўся Робін Гуд.

— Усё праз майго сына,— адказаў рыцар.— На адным турніры ён, дужы хлапец дваццаці гадоў, храбры, вялікі майстар біцца на мячах і коп'ях, скінуў з каня нейкага рыцара з Ланкашыра, і той вельмі ўзлаваўся за сваё паражэнне. Калі мой сын вяртаўся дадому, рыцар са сваім збраяносцам падпільнаваў яго ў бязлюдным месцы і напаў на яго. Сыну ўдалося забіць абодвух. Шматлікія прыяцелі рыцара пачалі помсціць сыну. Каб ўратаваць яго, мне давялося патраціць усе мае грошы, але і іх не хапіла, і я заклажыў маёнтак. Настаяцель манастыра Святой Марыі даў мне чатырыста фунтаў пад заклад зямлі, і сёння я павінен выкупіць яе. Ды дзе там! У мяне і сотай долі такіх грошай няма. Сёння я разаруся і застануся без дома, без зямлі.

— А прыяцелі вашы? — усклікнуў Робін Гуд.— Няўжо яны не заступіліся за вас, не памаглі?

— Прыяцелі! — з горыччу прамовіў рыцар.— Ні ў кога, здаецца, не было столькі прыяцеляў, колькі меў я, калі жыў у раскошы. А цяпер усе яны паразбягаліся, пакінулі мяне, цяпер ім няма ніякай справы да мяне, нібы я чалавек, якога яны бачаць першы раз у жыцці.

— Так ужо водзіцца на свеце, пане рыцар,— зазначыў Робін Гуд і паглядзеў на сваіх таварышаў, на тварах у якіх была напісана спагада да беднага рыцара. Усе яны ведалі, што калі настаяцель манастыра Святой Марыі наложыць лапу на чыю-небудзь зямлю, дык не так лёгка яе ў яго адабраць.

Робін Гуд кіўком галавы падазваў да сябе Маленькага Джона і нешта шапнуў свайму першаму памочніку на вуха. Той адразу пайшоў і неўзабаве вярнуўся з цяжкім мяшком, які зазвінеў, калі Маленькі Джон паклаў яго на дол.

— Вось вам чатыры сотні фунтаў, сэр рыцар,— сказаў Робін Гуд.— І ніколі больш не кажыце, што на свеце няма спагады. Калі вы не знайшлі яе ў сяброў і ў жорсткага настаяцеля манастыра, дык вы знайшлі яе ў лясных разбойнікаў. Палічы залатыя, Маленькі Джон.

Той палічыў. У мяшку аказалася роўна чатырыста фунтаў.

А рыцар зусім знямеў. Ён не мог вымавіць ні слова ад здзіўлення і ўдзячнасці і толькі пазіраў шырока расплюшчанымі вачамі то на мяшок з грашамі, то на Робін Гуда, то на Маленькага Джона.

Калі нарэшце да яго вярнулася мова, ён пачаў дзякаваць і бласлаўляць людзей, якія выратавалі яго, падарылі яму дом і зямлю.

— На ім вельмі бедная вопратка, атаман,— шапнуў Маленькі Джон на вуха Робін Гуду.— Калі ласка, дай яму добрае адзенне.

У вас убораў без канца,
Прыгожых шмат тканін —

Няма у Англіі купца,
Каб столькі меў адзін.

З кладоўкі вынеслі некалькі скруткаў сукна і шоўку, і Маленькі Джон адмераў тканіны. І шчодра адмераў, бо меркай замест ярда служыў яго шасціфутавы лук. Рыцару далі таксама другога каня і новае сядло і яшчэ шмат чаго, і ён зрабіўся такі прыбраны і вясёлы, як раней быў абношаны і засмучаны.

Перад ад'ездам ён сказаў Робін Гуду:

— Я, Рычард Лі, дзякую вам ад усяго сэрца за такую шчодрую пазыку. Скажыце, калі я павінен вярнуць вам доўг? А я абавязкова вярну, як толькі мае справы палепшацца.

— Сустрэнемся роўна праз год на гэтым самым месцы,— прапанаваў Робін Гуд,— і тады мы з вамі яшчэ пагаворым пра гэта.

Рычард паехаў сваёй дарогай, адчуваючы сябе самым шчаслівым чалавекам ва ўсёй Англіі.

Раздзел сёмы

## МАЛАДЫ МУЗЫКА

Калі Рычард Лі сеў на каня і паехаў, Робін Гуд узяў свой лук і пайшоў пагуляць па лесе. Ля куста пры дарозе, што злучала два маленькія гарадкі, ён спыніўся і раптам пачуў вясёлую песню. Нехта ішоў праз лес і весела спяваў звонкім прыгожым голасам пад мяккія, густыя гукі арфы.

«Во вясёлая душа! — падумаў атаман разбойнікаў.— Калі яго кашалёк звініць так, як голас, дык варта гэтага птаха абскубці».

Ён прытаіўся за кустом і неўзабаве ўбачыў спевака на лясной дарозе.

«Вандроўны паэт-музыкант, менестрэль,— прашаптаў Робін Гуд.— На яго прыемна глядзець, але я ўпэўнены, кашалёк у яго пусты».

Падарожнік быў прыгожы дзяцюк з доўгімі хвалістымі саламянымі валасамі, на якіх зухавата сядзеў квяцісты берэт з пяром пеўня. Апрануты ён быў ва ўсё пунсовае.

Як франт, апрануты дзяцюк
Праз лес ішоў, спяваў,
Ён заліваўся, бы жаўрук,
Ды шчэ на арфе йграў.

Робін Гуду вельмі спадабалася вясёлая песня бесклапотнага юнака, і ён прапусціў яго, не ўзяўшы «дарожнага збору».

«Сорам і ганьба трывожыць чалавека, які з такой радасцю спявае сярод зялёнага лесу»,— падумаў Робін Гуд і застаўся ў сваім сховішчы, прыслухоўваючыся да песні, пакуль апошні яе гук не замёр недзе за густой сцяной дрэў.

Робін Гуд зірнуў на ўсход і ўбачыў, што вячэрні змрок ужо ахінае лясныя абшары.

«Хутка надыдзе ноч. Сёння ніхто ўжо тут не пройдзе»,— падумаў Робін Гуд і вярнуўся да месца збору на глухой паляне, дзе вакол вялікага яркага вогнішча сядзелі лясныя стралкі — гутарылі і весела смяяліся.

Назаўтра раніцай Робін Гуд разам з Маленькім Джонам і Мачам зноў пайшлі паназіраць за лясной дарогай.

Назаўтра ранкам з-за дубка
Зноў глянуў Робін Гуд
І зноў убачыў юнака —
На твары след пакут.

Цяпер убор ужо не той
Прыгожы быў на ім,

Што ўчора. Ён шаптаў з тугой:
«Няшчасны я зусім!»

— Што з ім такое здарылася? — здзівіўся Робін Гуд.— Яшчэ ж учора весялейшага за яго чалавека, здавалася, на свеце не было. Лес аж звінеў ад яго радаснай песні, а цяпер ён выглядае так, быццам ідзе на хаўтуры. Мач, і ты, Джон, прывядзіце яго да мяне. Хачу даведацца, што за прычына такой раптоўнай перамены.

Маленькі Джон і Мач выйшлі з засады і загадалі менестрэлю спыніцца. Але юнак быў не з баязлівага дзесятка. Ён імгненна схапіўся за лук, гатовы даць адпор, калі на яго нападуць.

— Пакінь свой лук,— сказаў яму Маленькі Джон.— Няма патрэбы страляць. Мы зла табе не зробім. Наш атаман хоча пагаварыць з табой. Вунь ён, зірні, стаіць пад дрэвам.

Менестрэля падвялі да Робін Гуда, той ветліва прывітаўся з ім і спытаў:

— У цябе ёсць лішнія грошы?

— Грошай у мяне зусім мала,— адказаў сумны менестрэль.— Усяго пяць шылінгаў і вось гэты пярсцёнак.

Робін Гуд узяў у яго з рук пярсцёнак.

— Гэты ж пярсцёнак заручальны! — усклікнуў ён.

— Ага, заручальны,— пацвердзіў менестрэль.— Сем гадоў я бярог яго і думаў, што сёння нарэшце надзену на палец нявесты. Але нявесту ў мяне забралі, і цяпер ён мне без патрэбы. Бярыце, хто хоча.

— Раскажы мне ўсё,— сказаў Робін Гуд.— Ты ж учора пад вечар быў радасны і бесклапотны, як лясная птушка, а сёння змрочны і сумны.

— Вы бачылі мяне ўчора? Я сапраўды быў шчаслівы і радасны, бо павінен быў павянчацца з першай прыгажуняй ва ўсім Паўночным краі, а вось цяпер сэрца маё абліваецца крывёю. Яе выдаюць за старога багатага рыцара.

— Яна раптам перадумала? — пацікавіўся Робін Гуд.

— Не! — усклікнуў менестрэль.— Не перадумала!

Яна кахае мяне гэтак жа моцна, як і раней. Але яе родзічы не хочуць і чуць пра мяне: у мяне ні зямлі няма, ні багацця. Сёння яе павянчаюць са старым багацеем.— Юнак зноў цяжка ўздыхнуў, так цяжка, быццам у яго вось-вось разарвецца сэрца.

— Як цябе завуць? — спытаў Робін Гуд.

— Алан-а-Дэйл,— адказаў юнак.

— Вось што, Алан-а-Дэйл. Я — Робін Гуд,— сказаў славуты разбойнік,— і калі я памагу табе і тваёй вернай дзяўчыне, чым ты аддзячыш мне?

— Амаль пусты мой кашалёк,
Набытак бедны мой,
Але магу я даць зарок
Быць верным вам слугой.

— Вось і добра,— сказаў Робін Гуд.— Сумленны і верны чалавек мне больш патрэбны, чым кашалёк, набіты золатам. Скажы, а дзе павінна адбыцца вянчанне?

— У царкве, што там, за лесам,— адказаў Алан-а-Дэйл.— Усяго за пяць міль адсюль.

— Гэту царкву я ведаю і буду там,— сказаў атаман разбойнікаў і, крыху падумаўшы, папрасіў: — Дай мне тваю арфу.

Менестрэль аддаў яму арфу. Робін Гуд перадаў усю сваю зброю Маленькаму Джону, нешта шапнуў яму на вуха і шпарка пайшоў па дарозе.

Нарэшце паказалася царква. Робін Гуд рушыў па дарожцы праз цвінтар, перабіраючы струны арфы. На звонкія гукі арфы ў дзвярах царквы вырасла мажная постаць у багатым убранні. Сам біскуп меўся справіць вянчальны абрад, бо ён з рыцарам былі прыяцелі яшчэ з маленства.

— Я падумаў, пачуўшы гукі арфы, што ўжо ідуць госці,— сказаў біскуп.— Хто ты і чаго прыйшоў?

Робін Гуд зняў шапку і нізка пакланіўся:

— Святы айцец, я вандроўны музыка. Кажуць, што ва ўсім Паўночным краі няма арфіста лепшага за мяне. Я да-

ведаўся, што сёння тут будзе вянчанне, і паспяшаўся сюды, каб упрыгожыць музыкай такі шчаслівы дзень.

— О, тады заходзь, калі ласка! — сказаў біскуп і павёў Робін Гуда ў царкву.— Музыку я люблю больш за ўсё на свеце. Сыграй мне што-небудзь.

— Не, пане біскуп,— адказаў Робін Гуд, які мог толькі сяк-так брынкаць на струнах,— у тых мясцінах, дзе я вырас, людзі лічаць, што, пакуль не падыдзе вясельная працэсія, іграць нельга: можна наклікаць бяду.

— Добра, тады падрыхтуйся,— сказаў біскуп,— вунь яны ўжо ідуць.

Багаты рыцар тут стары,
Суровы увайшоў,
Нявесту, як святло зары,
Прыгожую прывёў.

Царква была поўная народу. Калі людзі ўбачылі жаніха і нявесту, усе пачалі пераглядвацца. Якая ганьба выдаваць такую прыгожую маладзенькую дзяўчыну за гэткага нягеглага старога! Рыцар быў вельмі стары, танканогі, нібы журавель, сляпы на адно вока і з вялікім гарбом на левым плячы. Дзяўчына ж была надзвычай прыгожая, як ружовая ранішняя зара, і такая свежая і пяшчотная, як майская кветка.

Але пры біскупе і пры рыцары, які славіўся сваім багаццем, ніхто не адважыўся ўголас сказаць, што думаў. Адзін Робін Гуд не змаўчаў.

— Што ж гэта такое? — закрычаў ён.— Шмат бачыў я жаніхоў і нявест, а такой няроўнай пары ніколі не было.

— Сціхні, хлопец! — сказаў яму біскуп.— Нявеста ўжо ў царкве, і зараз я іх павянчаю.

— Ваша праўда, пане біскуп, нявеста ўжо ў царкве. Але яна сама выбера таго, хто дарагі яе сэрцу.

— Не вярзі лухты, хлопец! — узлаваўся біскуп.— Лепш зайграй, калі маладыя пойдуць да алтара.

— О, гэта я зраблю ахвотна, толькі павінен прызнацца, што лепш люблю іграць на ражку, чым на арфе,— усміхнуўся Робін Гуд і выняў з-пад плашча свой сігнальны ражок.

Ў ражок падзьмуў без лішніх слоў
Ён тры разы запар,
І ўраз два тузіна стралкоў
Прыбеглі на цвінтар.

А там усе пасталі ў рад,
На луках — дрэўкі стрэл,
І з лукам Робіна атрад
Вёў смелы менестрэль.

Цяжка апісаць, які ўзняўся гвалт і крык, калі дваццаць чатыры бравыя малайцы з лукамі ў руках уварваліся ў царкву. Біскуп пабарвавеў ад гневу, стары рыцар задрыжаў ад злосці і страху, калі нявеста кінулася на грудзі Алану-а-Дэйлу, за спінай якога стаяў цэлы атрад яго сяброў. Усе позіркі скіраваліся на таемнага музыку, які сваім ражком парушыў вянчанне.

Робін Гуд падняў руку, і ў царкве запанавала цішыня. Усе хацелі паслухаць, што скажа гэты чалавек.

— Алан-а-Дэйл,— сказаў ён,— я чуў, што гэта дзяўчына кахае цябе і ты кахаеш яе.

— Гэта праўда,— адказаў Алан-а-Дэйл.

— У такім разе,— гаварыў далей Робін Гуд,— калі яна згодна пайсці за цябе замуж, вянчанне працягваецца, толькі памяняем жаніхоў.

— Хто ты такі,— закрычаў біскуп,— што прыходзіш у божы храм пад выглядам музыкі, а распараджаешся, як кароль?

— Вы праўду кажаце, пане біскуп,— спакойна адказаў Робін,— я і ёсць кароль, кароль гэтых адважных стралкоў. А народ заве мяне Робін Гуд.

Робін Гуд! Пачуўшы гэта імя, усе знерухомелі ад здзіўлення і ўтаропіліся на атамана разбойнікаў. Знямелі ад нечаканасці і біскуп з рыцарам.

— А цяпер, пане біскуп,— сказаў Робін Гуд,— загадваю павянчаць гэтых маладых, якія далі адно аднаму клятву вернасці.

— Я не буду рабіць гэтага,— злосна агрызнуўся біскуп,— бо яны далі яе не ў царкве. Рабіць гэта трэба перад алтаром тры разы — такі ў нас закон, сам ведаеш, Робін Гуд.

— Праўду кажаце,— адказаў разбойнік,— так трэба рабіць, і так будзе зроблена. Запытайцеся ў іх тры разы.

— Не буду! — гаркнуў біскуп.

— Раз вы адмаўляецеся,— спакойна сказаў Робін Гуд,— у мяне знойдзецца свой біскуп. Зніміце з яго мантыю! — загадаў ён, паказваючы пальцам на дзябёлага біскупа. Два дужыя стралкі ўмомант распранулі яго.

— Манаха робіць плашч з капюшонам, а біскупа — чырвоная мантыя,— засмяяўся Робін Гуд.— Ану, Маленькі Джон, накінь на плечы мантыю і стань на біскупава месца.

Маленькі Джон шырока ўсміхнуўся і нацягнуў на сябе мантыю. Усіх, хто быў у царкве, разабраў смех — вельмі ўжо быў пацешны выгляд у гэтага волата.

— Дык пачынай. Гучна абвясці імёны жаніха і нявесты, як заведзена,— загадаў Робін Гуд Маленькаму Джону.

Калі магутным крокам Маленькі Джон у чырвонай мантыі рушыў на біскупава месца і пачаў неяк смешна выкрыкваць імёны маладых, пад высокімі скляпеннямі царквы выбухнуў грамавы рогат.

Маленькі Джон паставіўся да свайго абавязку з вялікай адказнасцю і, баючыся, што трох разоў мала, усё паўтараў і паўтараў імёны, пакуль не зрабіў гэта ажно сем разоў. Тады Робін Гуд паклікаў яго назад і павярнуўся да біскупа:

— А цяпер, пане біскуп, выбірайце, што для вас лепш, і як мага хутчэй: альбо пажэніце гэтых маладых, якія шчыра кахаюць адно аднаго, альбо мы забяром вас у лес як палонніка.

Біскуп затроссся ад страху. Гэтага яшчэ не хапала: быць палоннікам у Шэрвудскім лесе! І ён адразу згадзіўся павянчаць маладых. Калі ён спытаў: «Хто аддае пад вянец гэту дзяўчыну?» — Робін Гуд адказаў:

— Я аддаю яе.
Яна з Аланам будзе жыць.
Яе за грошы не купіць.

Хоць і не надта хацелася, але давялося біскупу павянчаць Алана-а-Дэйла і дзяўчыну, якія горача кахалі адно аднаго, на вачах у старога рыцара-багацея, што ажно шалеў ад злосці: з-пад самага носа ў яго забралі нявесту! Але ні ён, ні біскуп — ніхто не пасмеў і пальцам кранyць атамана разбойнікаў і яго адборных стралкоў.

Ззяў шчасцем твар у маладой,
Як скончыўся абрад,
І ўсе вясёлай грамадой
Пайшлі у лес назад.

**Раздзел восьмы**



## ЗАЛАТАЯ СТРАЛА

Адразу пасля вянчання біскуп паспяшаўся ў Нотынгем да шэрыфа са скаргай на Робін Гуда.

— Вы, шэрыф, седзіце тут, у Нотынгеме, упаўнаважаныя самім каралём Рычардам, каб ахоўваць парадак і спакой,— кіпеў гневам біскуп,— і дазваляеце гэтаму дзёрзка-

му разбойніку правіць краінай, быццам ён сам кароль!

Біскуп так лаяў нотынгемскага шэрыфа, што той спалохаўся, каб біскуп не данёс на яго самому Рычарду.

«Калі біскуп наважыў ісці са скаргай да караля, а, відаць, так яно і ёсць,— падумаў шэрыф,— дык лепш я сам далажу і растлумачу каралю, які страшны чалавек гэты Робін Гуд і як цяжка з ім справіцца».

І шэрыф паскакаў у Лондан. Ён сказаў каралю, што ніяк не можа адолець Робін Гуда, бо разбойнікаў вельмі шмат і ўсе яны дзёрзкія і смелыя, ведаюць кожную сцяжынку ў лесе, кожны куточак, таму шэрыфавы людзі не могуць высачыць іх і злавіць.

— А што я магу зрабіць? — абурыўся кароль Рычард.— Хіба ж не вы шэрыф, які па закону абавязаны лавіць разбойнікаў? Закон даў вам уладу караць усіх, хто шкодзіць вам. Калі вы не можаце расправіцца з гэтымі шэльмамі сілай, знайдзіце які іншы спосаб. Ва ўсякім разе, зараз жа вяртайцеся і ў хуткім часе далажыце, што справіліся з імі, інакш вас чакае вялікая бяда.

Шэрыф, убачыўшы, як разгневаўся кароль, паспешліва адкланяўся і рушыў назад у Нотынгем. Усе дні, што быў у дарозе, ён ламаў сабе галаву, прыдумваючы, як падстроіць пастку разбойнікам, і нарэшце радасна ляпнуў сябе па баках і гучна засмяяўся.

— Прыдумаў! — усклікнуў ён, звяртаючыся да новага галоўнага лесніка, што ехаў разам з ім.— Нарэшце прыдумаў! Заманю гэтых бандытаў у Нотынгем. Іх пацягне ў горад, як галоднага сабаку цягне на пах смажанага.

— А як вы гэта зробіце, пан шэрыф? — пацікавіўся галоўны ляснік.

— А вось як,— адказаў шэрыф.— Ты ж ведаеш, што Робін Гуд і яго ліхадзеі заўсёды выхваляюцца, што яны самыя меткія стралкі з лука. Дык вось, я абвяшчу, што ў Нотынгеме мае адбыцца вялікае спаборніцтва па стральбе з лука і што пераможца атрымае сярэбраную стралу з залатым наканечнікам. І яшчэ. Той, хто заваюе гэты прыз, будзе абвешчаны самым трапным стралком у краіне!

— Зразумеў, усё зразумеў! — засмяяўся галоўны ляснік.— Выдатная прынада для гэтых выхваляк. Яны абавязкова схопяць вашу прынаду.

— Лічы, што яны ўжо на кручку! — абвясціў шэрыф.— Прынада надзейная, запомні мае словы. Бо яны нізашто не ўтрымаюцца ад спакусы завалодаць такой узнагародай, а калі прыйдуць у горад, людзі, якія ведаюць іх, падпільнуюць і схопяць разбойнікаў.

Шэрыф вярнуўся дамоў у добрым гуморы, і неўзабаве было абвешчана, што ў Нотынгеме мае адбыцца вялікае спаборніцтва па стральбе з лука. Навіна з хуткасцю маланкі разнеслася далёка за межы горада. У Шэрвудскі лес прынёс гэтую вестку шавец Лоб. Ён паведаміў лясным братам, што ў Нотынгем з усёй Англіі прыбываюць славутыя стралкі, каб змагацца за цудоўны прыз і такое пачэснае званне.

— І пераможца будзе абвешчаны першым стралком у краіне? — перапытаў Робін Гуд.

— Ага, так, атаман! — адказаў Лоб.— І, кажуць, з'язджаюцца лепшыя стралкі з усіх англійскіх графстваў.

— Што ж,— сказаў Робін Гуд,— здаецца, мы не горшыя стралкі за іншых. Ганьба нам будзе, калі дазволім чужым забраць прыз, не паспрабуем самі заваяваць яго.

— Будзьце асцярожныя, атаман! — прамовіў дужы стралок па імені Дэвід з Донкастара.— Я думаю, што гэтае спаборніцтва — хітрая пастка. Нас хочуць заманіць у горад і там схапіць.

— Хай дрыжаць баязліўцы,— адказаў Робін Гуд.— Пастка гэта ці не, я ўсё роўна пайду ў Нотынгем.

Цяжкі іспыт. Хачу свой спрыт
Праверыць у стральбе.

— Добра, мы ўсе пойдзем у Нотынгем,— сказаў Маленькі Джон.— У мяне выспеў план, як засцерагчыся ад небяспекі. Мы пакінем у лесе свае плашчы і зялёныя курткі і апранёмся як вясковыя хлопцы, што прыйшлі

падзівіцца на рэдкае відовішча, і шэрыфавы людзі нас не пазнаюць.

Хто апране чырвоны плашч,
Хто сіні — хто які,
І пойдзем ўсе ва ўсёй красе,
Як з вёскі дзецюкі.

— Малайчына, Маленькі Джон! — пахваліў яго Робін Гуд.— Зробім так, як ты прыдумаў.

У дзень спаборніцтва Робін Гуд і самыя трапныя яго стралкі рушылі ў Нотынгем. Каб не прыцягваць да сябе ўвагі, яны ішлі не гуртам, а па два, па тры, змяшаўшыся з натоўпам вясковых жыхароў, што кіраваліся ў горад. Ніхто з людзей Робін Гуда не быў у сваім звычайным ярказялёным адзенні. Маленькі Джон надзеў сінюю куртку з капюшонам, Мач Млынароў сын — карычневую, Уіл Скарлет — белую, Уіл Ст'ютлі — жоўтую. Асобна ад усіх ішоў чалавек у старой паношанай чырвонай світцы з капюшонам. Гэта быў Робін Гуд. Ён рашучым крокам увайшоў у вароты горада з лукам на плячы. Каля варот стаялі шпіёны шэрыфа. Яны ведалі некаторых разбойнікаў у твар і стараліся не прапусціць іх, пільна ўзіраліся ў натоўп, які валам валіў у горад, каб паглядзець на спаборніцтва.

Калі чалавек у падранай чырвонай світцы праходзіў праз вароты, выведчыкі шэрыфа ўважліва агледзелі яго, але ім і ў галаву не прыйшло, што гэта і ёсць злейшы вораг шэрыфа. Левае вока Робін Гуд прыкрыў чорнай павязкай, знарок запусціў бараду — яна была неахайная і ўскудлачаная,— ідучы, ён неяк смешна пераступаў нагамі.

— Зірні вунь на таго недарэку ў чырвоных рызманах,— са смехам сказаў нейкі ляснік.— Клянуся, сёння ўсе вясковыя абарванцы спяшаюцца сюды: спадзяюцца атрымаць залатую стралу.

Робін Гуд пачуў гэтыя словы і ледзь усміхнуўся. Ён шпарка пакрочыў на стрэльбішча, дзе стаялі мішэні. Шэрыф ужо знаходзіўся там. Ён быў на кані, і яго акружаў ат-

рад целаахоўнікаў. Ахвотнікаў атрымаць каштоўны прыз сабралася шмат, і шэрыф пільна шнарыў вачамі па натоўпе, шукаючы сярод людзей ненавісных яму разбойнікаў. Але колькі ні ўзіраўся шэрыф у гэтае зборышча не вядомых яму людзей, ён не заўважыў нікога, хто б хоць чым-небудзь нагадваў людзей Робін Гуда.

Неўзабаве пачалося спаборніцтва. Хутка высветлілася, што адзін з самых меткіх стралкоў — Уільям з Йорка — ніяк не можа ўзяць верх над купкай вясковых хлапцоў, апранутых у курткі самых розных колераў.

Гледачы з захапленнем сачылі за барацьбой гэтых бедна адзетых людзей са славутым стралком і віталі кожнага з іх радаснымі воклічамі.

«У сіняй куртцы! — чуўся крык.—
У белай! У рудой!»
А пад канец: «Вось дык стралец —
Ў чырвонай, з барадой!»
А гэта быў сам Робін Гуд,
Ён лепш за ўсіх страляў:
На міг — прыцэл, і меткі стрэл —
У самы цэнтр трапляў.

Нарэшце спаборнікаў засталося толькі двое — Уільям з Йорка і чалавек у чырвонай світцы. Для іх паставілі новую мішэнь на значна большай адлегласці, чым усе ранейшыя, і абодва стралкі сталі на свае месца з лукам у руках. Кожны павінен быў пусціць тры стралы. Шмат хто з выдатных стралкоў, што сталі гледачамі, з сумненнем круцілі галовамі і пацiскалі плячамі, убачыўшы, як далёка стаяць мішэні.

— Гэта ж якім трэба быць майстрам, каб трапіць у такую далёкую цэль,— гаварылі яны,— няхай нават і не ў самы яблычак.

Гледачы, стаіўшы дыханне, чакалі, чым скончыцца паядынак стралкоў. Ззаду двух прэтэндэнтаў на прыз гарцавалі на конях шэрыф і яго самыя блізкія прыяцелі.

— Мы былі сведкамі надзіва меткай стральбы,—

сказаў нехта з іх.— Нават сам Робін Гуд і яго людзі не стралялі б лепш.

Шэрыф пачухаў галаву:
— А я ж яго чакаў,
Чакаў я тут, ды Робін Гуд
Вачэй не паказаў.

Амаль каля самай храпы шэрыфавага каня стаяў стралок у чырвонай світцы, абапёршыся на свой вялікі лук і шырока разявіўшы рот, нібы той вясковы дурань. Ен углядаўся адзіным вокам у далёкую мішэнь. Робін Гуд ледзь стрымаўся, пачуўшы кплівыя словы шэрыфа. Яму так і карцела павярнуцца і смела глянуць у твар шэрыфу. Але гэта было вельмі небяспечна, і ён не варухнуўся, толькі падумаў: «Хутка ты даведаешся, пыхлівы шэрыф, што перад табой стаяў Робін Гуд».

Першы ўскінуў лук Уільям з Йорка. Ен не спяшаючыся прыцэліўся і стрэліў. Дзве стралы трапілі ў белы кружочак усярэдзіне мішэні, а трэцяя ўваткнулася крышачку далей.

— Здавайся, Чырвоная світка! — закрычалі прыяцелі Уільяма з Йорка.— Лепш табе не пацэліць! Здавайся, аддай прыз пераможцу!

Але чалавек у чырвонай світцы шырока ўсміхнуўся і пакруціў галавой.

— І ўсё ж я паспрабую,— сказаў ён з моцным паўночным акцэнтам, а сам падумаў: «Ну, Робін, не зганьбі гонару слаўнага Шэрвудскага лесу!»

Ен узяў з калчана адразу тры стралы і пусціў іх адну за адной так хутка, што другая страла ўжо гула ў паветры, калі першая яшчэ не даляцела да цэлі, а трэцяя сарвалася з цецівы, калі другая яшчэ не ўваткнулася ў мішэнь. Гледачы на момант знямелі ад здзіўлення і захаплення — першая і другая стрэлы выбілі з яблычка абедзве стралы Уільяма з Йорка, а трэцяя трапіла ў самую сярэдзіну белага кружочка.

— Чырвоная світка! Чырвоная світка! — зароў натоўп.

— Чалавек у чырвоным — кароль стралкоў!

— Чырвоны стралок пераможца!

— Прыз — чырвонаму стралку!

Шэрыф уручыў стралку ў чырвоным каштоўны прыз і сказаў яму:

— Далучайся, добры маладзец, да майго атрада стражнікаў лесу. Я з радасцю вазьму да сябе на службу такога цудоўнага стралка.

Але Робін Гуд адмоўна пакруціў галавой і сказаў, што павінен вярнуцца да свайго гаспадара. Шэрыф падумаў, што ён прыгонны селянін нейкага феадала, які дазволіў яму пайсці ў горад на спаборніцтва, і больш не ўпрошваў яго.

Са срэбра чыстага страла,
А кончык залаты —
Прыз проста цуд. З ім Робін Гуд
Вяртаўся ў лес густы.

З Нотынгема разбойнікі зноў пайшлі па два, па тры і без прыгод вярнуліся ў Шэрвудскі лес. Сабраўшыся ўсе разам, яны весела смяяліся і жартавалі, прыгадваючы свой смелы паход у горад і тое, што там было. Усе з захапленнем разглядалі сярэбраную стралу з залатым наканечнікам. Адзін толькі Робін Гуд хадзіў як у ваду апушчаны.

— Што з табой, атаман, чаму ты такі сумны? — спытаў яго Маленькі Джон.— Ты ж павінен весяліцца — такі прыз заваяваў! Да таго ж яшчэ і вакол пальца абвёў самога шэрыфа!

— Вось у гэтым і ўся справа,— адказаў Робін Гуд.— Мне не дае спакою думка, што ён не ведае, каму дасталася яго страла.

— Дык гэта ж вельмі лёгка паправіць! — усклікнуў Маленькі Джон.— Напішы яму пісямко, а я перадам.

— Ты пойдзеш у горад? Не. Я не дазволю табе зноў рызыкаваць галавой.

— Навошта ісці ў горад? У мяне ёсць лепшы план,— сказаў Маленькі Джон і заліўся вясёлым смехам.

— Тваё пасланне начаплю
Я на стралы канец,
Як майскі гром, шэрыфу ў дом
Наш прыляціць ганец.

Робін Гуду спадабаўся план Маленькага Джона. Не трацячы часу, ён напісаў пісьмо шэрыфу, і Маленькі Джон як быў у сіняй куртцы, так і пайшоў зноў у горад.

Шэрыф жыў у вялікім асабняку адразу за гарадской сцяной. Адно акно абедзеннай залы не было яшчэ закрыта нанач аканіцай. Маленькі Джон начапіў пасланне Робін Гуда на наканечнік стралы і пусціў яе. Страла ўляцела праз акно ў залу. А Маленькага Джона і след прастыў.

Шэрыф якраз сеў за стол, каб павячэраць з прыяцелямі і адпачыць пасля дзённых турбот. У той момант, як ён паднёс да рота вялізны рог, да краёў поўны элю, у паветры прагула страла і ўваткнулася ў стальніцу перад самым яго носам.

— Што такое? — ускрыкнуў шэрыф.— Страла! Што гэта значыць?

— Пад наканечнікам паперка! — закрычаў слуга.— Мабыць, пісьмо!

— Знімі яе са стралы і падай мне,— загадаў шэрыф.

Слуга выканаў загад і падаў паперку гаспадару. Шэрыф узяў яе і разгарнуў, усё яшчэ трымаючы ў другой руцэ рог [illegible] элем. Усім, хто сядзеў за сталом, не цярпелася хутчэй даведацца, што там у пісьме. І раптам усе ажно здрыгануліся. Шэрыф закрычаў і шпурнуў на стол рог з такой сілай, што той раскалоўся напалам і эль ракой пацёк па стале.

— Што, дрэнныя весткі? — пачалі распытваць шэрыфа госці.

— Дрэнныя! — зароў шэрыф, калоцячыся ад шаленства.— Горшыя не бываюць! Гэты хітры нягоднік, гэты ліхадзей стаяў сёння амаль побач са мною, але выслізнуў з маіх рук! Хто, вы думаеце, быў той стралок у чырвонай світцы? Гэта ж быў сам Робін Гуд!

Усе, хто быў у абедзеннай зале, здзіўлена вытрашчыліся на шэрыфа. Дык гэта тое пудзіла гарохавае ў чырвонай світцы і ёсць Робін Гуд! А што, відаць, гэта і праўда быў ён, бо вельмі добра страляў.

— Далібог, дарагі шэрыф, мы павінны былі здагадацца,— сказаў адзін з гасцей.— Такога майстэрства я ў жыцці не бачыў. Як ён страляў! Толькі Робін Гуд мог сагнуць такі магутны лук.

Але шэрыф нічога не чуў і не бачыў. Ён проста звар'яцеў ад шаленства. Як гаворыцца ў старадаўняй баладзе,

Як прачытаў пісьмо шэрыф,
Што палатно збялеў,
Ён вар'яваў, і бушаваў,
І рыкаў, нібы леў.

— Больш ніякіх хітрыкаў прыдумляць не буду! — на ўсё горла крычаў шэрыф.— Я схаплю гэтага нягодніка сілай! Ніводнага дня больш не пацярплю! Заўтра ж пайду з войскам на гэтага шэльму. Клянуся, спачатку я выб'ю пыл з чырвонай світкі, не знімаючы з яго, а тады павешу злодзея на самай высокай шыбеніцы, якую калі-небудзь ставілі ў нашым слаўным горадзе Нотынгеме!

## Раздзел дзевяты

## ШЭРЫФ І ГАЙ ГІЗБАРН ІДУЦЬ НА РОБІН ГУДА

На другі дзень нотынгемскі шэрыф сабраў вялікі атрад салдат і лучнікаў, каб ісці ў паход на разбойнікаў. Але перш чым выступіць у Шэрвудскі лес, ён абвясціў,

што за галаву Робін Гуда вызначаецца вялікая ўзнагарода — трыста фунтаў золатам.

Сярод прыяцеляў шэрыфа быў рыцар па імені Гай Гізбарн — добры воін, але чалавек злосны і распусны. Ён залез па вушы ў даўгі і за грошы гатовы быў пайсці на ўсё.

Калі Гай Гізбарн пачуў пра ўзнагароду за галаву Робін Гуда, ён наважыў што б там ні было атрымаць яе і лічыў, што на гэта ў яго ёсць шанц. Ён добра ведаў Шэрвудскі лес і таму спадзяваўся знайсці лагер Робін Гуда. Рыцар расказаў шэрыфу пра сваю задуму пераапрануцца і пайсці аднаму ў лес.

Перад адыходам ён сказаў шэрыфу:

— Няма ніякай патрэбы ісці адразу вялікаму войску шукаць Робін Гуда і яго шайку. Разбойнікі будуць пазбягаць сустрэчы з войскам. Я пайду ў лес раней і разведаю пра тайнае прыстанішча Робін Гуда і яго лясных разбойнікаў.

Тым ранкам Робін Гуда паднялі з яго лясной пасцелі спевы дразда.

— Ноччу мне прысніўся нейкі брыдкі сон,— сказаў Маленькаму Джону Робін Гуд, праціраючы вочы.— Быццам я змагаўся з двума здаравякамі і яны добра намялі мне бакі, звязалі і забралі мой лук.

Маленькі Джон засмяяўся:

— Лухта гэтыя сны. Сон — нібы вецер: наляціць і знікне.

— І ўсё ж мы з табой зараз пройдземся па лесе,— сказаў Робін Гуд,— можа, і стрэнем каго з тых, што мне прымроіўся ў сне.

Пасля снядання Робін Гуд і Маленькі Джон пайшлі ў глыб лесу, а Уіл Скарлет з двума таварышамі падаліся ў другі бок.

— Добра, каб мы ўспудзілі якую-небудзь дзічыну,— сказаў Уіл.— Адзін або два трацячкі нам не пашкодзяць — кладоўка ў нас сёння апусцела.

І два маленькія атрады разышліся ў розныя бакі. Неўзабаве Робін Гуд і Маленькі Джон выйшлі на край невялікай паляны сярод магутных дубоў і ўдалечыні ўбачылі нейкую дзіўную постаць.

— Чалавек гэта ці звер? — недаўменна спытаў Маленькі Джон.— А можа, злы дух? Ты, атаман, пастой тут, я зараз даведаюся.

Але Робін Гуд загадаў яму спыніцца: ён сам пойдзе паглядзець. Маленькі Джон пакрыўдзіўся, і яны з Робін Гудам абмяняліся двума-трыма рэзкімі словамі. Маленькі Джон раптам павярнуўся і пайшоў назад у лес.

— Пайду да Скарлета,— кінуў ён на хаду Робін Гуду.— Я ведаю паляну, куды ён з хлопцамі пайшоў здабыць дзічыны.

Неўзабаве ён убачыў іх. Але што гэта? Усе трое беглі так шпарка, што ногі ледзь краналіся зямлі, а за імі імчаліся шэрыф і сотні паўтары лучнікаў і кап'ёўшчыкаў. Вось якога звера паднялі няўдачлівыя паляўнічыя! Хмары стрэл са свістам ляцелі ўслед за ўцекачамі.

Маленькі Джон аж застагнаў, калі два яго сябры ўпалі з трыма стрэламі ў спіне. Але Уіла Скарлета яшчэ ніводная страла не зачапіла, і ён бег з усіх ног, усё шпарчэй і шпарчэй. Шэрыф крычаў сваім падначаленым:

— Пацэльце вунь у таго, мае малайцы! Жывым ці мёртвым схапіце нягодніка!

Але Скарлет уцякаў так шпарка, што Маленькі Джон зразумеў: ён уратуецца. Цяпер толькі адзін чалавек мог дагнаць яго. Гэты лучнік далёка апярэдзіў і шэрыфа і ўсё войска і гнаўся за Скарлетам, як ганчак за ланню.

— Гэта ж Уільям-а-Трэнт! — прамармытаў Маленькі Джон. Ён ведаў гэтага спрытнага бегуна.— Нельга дазволіць, каб ён насцігнуў Уіла і схапіў яго.

Маленькі Джон ускінуў лук і пусціў стралу. Уільям-а-Трэнт пранізліва крыкнуў і са стралой у грудзях грымнуўся на дол. Як гаворыцца ў старой баладзе,

Каб дома ў ложку Уільям спаў,
Не бег праз лес зялёны,

Яго б на той свет не паслаў
Стрэл меткі з лука Джона.

Скарлет знік за густой сцяной дрэў, а Маленькі Джон роспачна войкнуў: яго лук, яго добры цісавы лук раптам трэснуў, і цяпер у руках Маленькага Джона была ўжо не зброя, а бескарысны кавалак дрэва.

— Чаму, чаму ты, здрадны лук,
Не трэснуў шчэ на дрэве? —

прастагнаў Маленькі Джон і таксама памкнуўся ўцякаць. А што яшчэ рабіць бяззбройнаму? Але тут, прадраўшыся праз хмызняк, да яго падскочылі пяць чалавек з коп'ямі і загадалі спыніцца. Гэта былі разведчыкі, якіх шэрыф паслаў наперад войска. Яны пачулі шум і крыкі і паспяшаліся да сваіх.

Маленькі Джон зрабіў вялікі скачок убок і ўцёк бы, але адзін з кап'ёўшчыкаў шпурнуў доўгае ясеневае дрэўка кап'я яму пад ногі, і Маленькі Джон расцягнуўся на зямлі на ўвесь свой гіганцкі рост. Ворагі акружылі яго, схапілі за рукі, за ногі, стараючыся не даць яму падняцца. Іх было пяць супраць аднаго, але і такая перавага не памагла б ім, каб не прыбеглі яшчэ некалькі чалавек. Два разы ўставаў Маленькі Джон з зямлі павіслымі на ім, як сабакі на льве, ворагамі, і два разы яны зноў валілі яго. Раптам ён вызваліў правую руку, размахнуўся — і два ворагі замерлі каля яго ног.

На шум прымчаліся яшчэ каля дзесяці шэрыфавых людзей і рынуліся на Маленькага Джона. Тут ужо нават такі волат, як ён, нічога не мог зрабіць. Маленькага Джона звязалі па руках і нагах, і ён бездапаможна ляжаў на зямлі ў поўнай уладзе ворагаў.

Падышоў шэрыф, засмяяўся і сказаў:

— Адзін ужо для шыбеніцы гатовы, і то добра. Ды яшчэ які вялікі! Падыміце яго, хлопцы, і прывяжыце да дрэва. Так будзе больш надзейна. Хай пастаіць адзін, па-

куль мы не зловім яшчэ некалькі нягоднікаў. А потым, подлы шэльма,— павярнуўся ён да палоннага,— цябе павесяць на самым высокім узгорку.

Хоць смерць ужо глядзела Маленькаму Джону ў вочы, ён смела зірнуў на шэрыфа і дзёрзка засмяяўся.

— Па волі неба,— крыкнуў ён шэрыфу,— усе твае намеры, пыхлівы шэрыф, пойдуць прахам і сёння, і заўтра, і павек!

А цяпер пакінем на час Маленькага Джона ў руках бязлітаснага ворага і раскажам пра Робін Гуда.

Робін Гуд ішоў па паляне, углядаючыся ў дзіўную істоту, і неўзабаве ўбачыў, што, прысланіўшыся да дрэва, стаіць высокі, моцнага складу мужчына, захутаны ў нешта дзіўнае. Ды гэта ж высушаная конская шкура — з галавой, з грывай і хвастом! З-пад конскай галавы вызіраў твар незнаёмца, на плечы спадала конская грыва, а хвост матляўся за спінай. Відовішча было вельмі смешнае. Але чалавек, відаць, меў рашучыя намеры — у руках у яго быў вялікі лук, на поясе віселі меч і кінжал.

— Добрага ранку, мілы чалавек,— павітаўся з ім Робін Гуд.— Бачу, у цябе добры лук. Мусіць, ты паляўнічы.

— Так, лук у мяне добры,— адказаў незнаёмы,— ды сёння я пайшоў не на паляванне. Заблудзіў у гэтым густым лесе. А хто ты?

— Я ёмен з Локслі,— сказаў Робін Гуд.— Вёска ёсць такая на тым баку лесу.

— А ты добра ведаеш гэты лес, ёмен з Локслі?

— Без пахвальбы скажу, што ведаю ўсе сцяжынкі тут лепш за каго іншага. Калі хочаце, магу быць у вас за праваднікa.

— Добра,— сказаў незнаёмы.— Я шукаю Робін Гуда. Правядзі мяне ў лагер да гэтага гордага разбойніка. Сустрэча з ім даражэйшая для мяне за сорак фунтаў золатам.

Робін Гуд уважліва прыгледзеўся да незнаёмага і пазнаў яго.

«Гэта Гай Гізбарн! — сказаў сам сабе Робін Гуд.— Пра яго ходзіць слава, што ён чалавек прадажны і вера-

ломны. Ха-ха! Сорак фунтаў! Я ведаю, чаму Робін Гуд даражэйшы за сорак фунтаў. Калі б яму ўдалося захапіць мяне, ён атрымаў бы за маю галаву у шмат разоў больш».

— Чаму ж не правесці, калі вам так хочацца ўбачыць гэтага разбойніка,— бадзёра сказаў Робін Гуд.— Я памагу вам сустрэцца з Робін Гудам. Толькі я не такі чалавек, каб быць за праваднніка ў таго, хто, можа, хоць і носіць лук, а страляць яго не ўмее.

— Гэта я не ўмею страляць з лука? — абурыўся Гай Гізбарн.— Пакажы цэль, ёмен, і ты ўбачыш, ці ўмею я страляць!

Якраз гэтага і дамагаўся Робін Гуд, бо каго б ён ні стрэў у Шэрвудскім лесе, яму абавязкова хацелася паспаборнічаць ім у стральбе з лука.

Вызначылі цэль, і неўзабаве сэр Гай Гізбарн пераканаўся, што як стралку яму вельмі далёка да гэтага селяніна Локслі.

— Блаславі тваю душу, ёмен,— сказаў сэр Гай, ляпаючы Робін Гуда па плячы.— Такіх выдатных стралкоў рэдка ўбачыш. Калі б ты меў такое ж цвёрдае сэрца, як твая рука, ты б зацьміў адвагай і доблесцю самога Робін Гуда. Як цябе завуць? Мне вельмі хочацца ведаць пра цябе больш.

— Не,— запярэчыў Робін Гуд,— перш скажы, як завуць цябе, тады і я скажу сваё імя.— А сам падумаў: «Ён выдумае сабе імя»,— але памыліўся.

— Адзеўся гэтак я знарок.
Гай Гізбарн мяне зваць.
Ў палон шэрыфу даў зарок
Я Робіна узяць.

— Я ўжо і сам здагадаўся, што вы рыцар,— сказаў Робін Гуд.— Хіба ж селянін носіць пад конскай шкурай рыцарскі ражок?

— Правільна, ёмен,— адказаў сэр Гай.— І калі я нарэшце схаплю гэтага ліхадзея Робін Гуда, я затрублю ў

ражок. Шэрыф, які ўжо тут, у лесе, адразу зразумее, што мне выпала ўдача. І багатая ўзнагарода будзе мая.

Кроў кінулася ў твар Робін Гуду, вочы загарэліся.

— Дык хапай яго, сэр Гай Гізбарн! Вось ён стаіць перад табою. Я — Робін Гуд!

Гай Гізбарн, відаць, нешта ўжо сам западозрыў, бо быў напагатове. І ледзь Робін Гуд вымавіў гэтыя словы, ён выхапіў з ножан кінжал. Робін Гуд не паспеў нават узяцца за тронкі свайго, як Гізбарн нанёс моцны ўдар, цэлячыся проста яму ў сэрца. Толькі спрыт выратаваў Робін Гуда ад вернай смерці. Ён імгненна адхіснуўся, і вострае лязо бліснула на паўпальца ад яго грудзей.

— Ганебны ўдар, сэр рыцар! — крыкнуў Робін Гуд.— Якраз варты такога здрадніка, як ты. Напасці на чалавека, які не паспеў нават дакрануцца да сваёй зброі! Ну, а цяпер, шаноўны, мы з табой пабораемся як роўныя.

Робін Гуд агаліў меч, а Гай Гізбарн яшчэ раней выхапіў свой. Вераломны рыцар напаў на Робін Гуда, не папярэдзіўшы ні словам, ні воклічам, упэўнены ў лёгкай перамозе. Сэр Гай думаў, што ў стральбе з лука ён, вядома, не раўня Робін Гуду, але ў паядынку на мячах гэты вясковец не пратрымаецца і дзвюх хвілін. Сэр Гай лічыўся адным з самых спрытных байцоў на мячах у сваім графстве.

Але мінула дзве хвіліны, і пяць, і дзесяць, і Гай Гізбарн зразумеў, што лёгкай перамогі не будзе. Спачатку Робін Гуд толькі абараняўся, бо рыцар нападаў на яго з такім шаленствам, што ён ледзь паспяваў адбівацца, прыкрываючы галаву і грудзі ад імклівага клінка, які са свістам рассякаў паветра. Паступова націск Гізбарна апаў, у яго не хапіла сілы, каб гэтак доўга і шалёна арудаваць мячом. Да таго ж ён добра ведаў: нельга траціць усе сілы, нападаючы, бо працiўнік, што абараняецца, застаецца амаль зусім свежы. Але і цяпер мячы са звонам сутыкаліся і скрыжоўваліся, і жорсткі бой доўжыўся, пакуль Робін Гуд раптам не зачапіўся за корань дуба, пад якім яны бароліся, спатыкнуўся і паляцеў на зямлю.

І тут сэр Гай паказаў усю сваю звярыную натуру. Са-

праўдны рыцар даў бы праціўніку магчымасць устаць на ногі, але Гізбарн падскочыў да распасцёртага на зямлі чалавека, каб расправіцца з ім. Робін Гуду пашчасціла. Гай Гізбарн замахнуўся мячом занадта рана — лязо толькі крышку зачапіла яго.

І зноў сэр Гай узняў меч, каб нанесці апошні, смяротны ўдар. Але Робін Гуд з крыкам: «Мне яшчэ рана паміраць!», як дзікая кошка, кінуўся на рыцара, схапіў яго за горла і ўсадзіў свой кароткі меч у сэрца Гая. І ў імгненне той, што збіраўся ўжо святкаваць перамогу, пацярпеў паражэнне і аддаў богу душу.

Робін Гуд нейкі момант стаяў, пазіраючы на пераможанага ворага, потым адчуў у грудзях пякучы боль. Ен скінуў куртку і агледзеў рану. Яна хоць і смылела, але была неглыбокая, і ён як мог перавязаў рану і больш пра яе не думаў, бо яго трывожыў лёс таварышаў. Што з імі? Ці ўратаваліся?

«У лесе шэрыф з вялікім войскам,— разважаў ён.— Напэўна, маіх людзей загадзя папярэдзілі пра небяспеку, і, можа, толькі маленькія групкі, што гулялі па лесе, трапілі ў рукі нотынгемскага ка́та. Мне і самому трэба быць асцярожным».

Падумаўшы крыху, ён зноў скінуў з сябе куртку, падняў з зямлі конскую шкуру Гая Гізбарна. Праз дзве хвіліны Робін Гуд так змяніў сваё аблічча, што зрабіўся падобны на сэра Гая. «Цяпер шэрыфавы людзі не спыняць мяне, калі стрэнуцца на дарозе»,— падумаў Робін Гуд і пайшоў, прыхапіўшы лук, калчан і ражок забітага рыцара.

Ен крочыў па схіле пагорка, як раптам пачуў невыразныя крыкі і воклічы. Гэта шэрыф са сваім войскам гнаўся за Уілам Скарлетам. Робін Гуд узбег на пагорак і выглянуў з-за кустоў. Вунь нехта ўцякае... Уіл Скарлет! А вунь да дрэва прывязаны нейкі высачэзны дзяціна. Ды гэта ж Маленькі Джон!

— Яны схапілі Маленькага Джона! — усклікнуў Робін Гуд.— Трэба яго ратаваць. Не магу я страціць самага вернага і храбрага сябра.

Якраз у гэты момант Робін Гуд убачыў, што адзін з шэрыфавых людзей падняў сваё кап'ё, каб праткнуць ім Маленькага Джона. На самай справе той толькі забаўляўся, здзекаваўся з палоннага: хацеў прымусіць яго збялець ад страху. Але Робін Гуд падумаў, што кап'ёўшчык хоча нанесці смяротны ўдар, і, каб адцягнуць яго ўвагу ад ахвяры, паднёс да вуснаў ражок Гая Гізбарна і гучна затрубіў. Задума яму ўдалася. Галовы ўсіх — і тых, хто стаяў каля дрэва, і тых, хто гнаўся за Скарлетам,— павярнуліся да пагорка, на якім стаяў Робін Гуд.

Шэрыф пазнаў гук рыцарскага ражка і радасна пляснуў далонямі.

— Ражок сэра Гая Гізбарна! — закрычаў ён.— Гэтыя гукі падаюць нам радасную вестку. Сэр Гай даў зарок ніколі не трубіць у ражок, пакуль не заб'е Робін Гуда. А вось і сам ён ідзе да нас у сваёй конскай шкуры.

Шэрыф заспяшаўся насустрач дзіўна апранутаму чалавеку. Твар яго хаваўся пад конскай галавой, цела ахутвала вялікая шкура з густой грывай, якая развявалася на плячах, ззаду матляўся хвост.

— Якая радасць! Якая вялікая радасць, сэр Гай! — закрычаў шэрыф, калі яны сышліся.— Ну што, сустрэў Робін Гуда?

— А як жа, пан шэрыф,— пачуўся адказ з-пад конскай галавы.— Гай Гізбарн і Робін Гуд сустрэліся ў гэтым лесе. І калі вы пажадаеце прайсці дзве мілі на поўдзень адсюль, вы знойдзеце пад векавым дубам чалавека ў плашчы Робін Гуда.

— Добрая вестка! Цудоўная вестка! — закрычаў шэрыф, паціраючы рукі.— Значыць, сёння мы ачысцілі Шэрвудскі лес ад двух ліхадзеяў, ад маіх самых небяспечных ворагаў. Бо калі ты забіў атамана, дык я схапіў яго галоўнага памочніка. Зірні вунь туды, сэр Гай. Велікан, што прывязаны да дрэва, не хто іншы, як сам Маленькі Джон!

— Маленькі Джон! — здзівіўся чалавек у конскай шкуры.— Няўжо сапраўды Маленькі Джон?

— А хто ж яшчэ! Ён самы! — рагатнуў шэрыф.—

О шчаслівы дзень! Цяпер мы разгонім усю банду! Важак і яго галоўны прыслужнік знішчаны, астатнія разбойнікі ўцякуць з гэтага лесу хто куды, клянуся! Ну, а цяпер, дарагі сэр Гай, ты ж, напэўна, хочаш атрымаць узнагароду?

— Вядома, пан шэрыф,— адказала конская галава.— Я патрабую ўзнагароду, і вось якую: важака я забіў, дазвольце забіць і яго прыслужніка.

— А тры сотні золатам, якія я абяцаў? — ледзь не задыхнуўся ад нечаканасці шэрыф.

— Грошай мне не трэба,— пачуўся адказ.

Шэрыф здзіўлена вылупіўся на конскую галаву, у вачах у яго мільганула хітрая ўсмешка. «Сэр Гай няйначай з розуму крануўся ці д'яблу душу аддаў. Я дазволю яму забіць разбойніка, а грошы пакладу сабе ў кішэню». Акрамя самога сябе шэрыф любіў яшчэ толькі адно — грошы, і таму паспешліва згадзіўся.

Чалавек у конскай шкуры падышоў і спыніўся непадалёку ад прывязанага да дрэва волата.

— Сапраўдны асілак! — прамовіў ён.

Маленькі Джон адразу пазнаў голас Робін Гуда і ледзь прыкметна здрыгануўся.

І тут конская галава крыху прыўзнялася, быццам сэр Гай Гізбарн хацеў лепш разгледзець славутага разбойніка. Маленькі Джон, вокам не маргнуўшы, уставіўся ў знаёмы твар — твар свайго сябра — і ціхенька сказаў:

— Нябёсы пажадалі вызваліць мяне з няволі.

— Важака я забіў вось гэтым мячом, а прыслужніка яго закалю нажом,— сказаў чалавек у конскай шкуры і дастаў з-пад яе доўгі нож з вострым лязом.

Усе — і шэрыф, і яго людзі — шчыльна абступілі ўяўнага сэра Гая, але той замахаў рукамі:

— Адыдзіцеся, адыдзіцеся, далей, далей! Чалавек гэты павінен памерці, і я адзін выслухаю яго апошнія словы і жаданні.

Сэр Гай падышоў да палоннага. Нож замільгаў у яго руках. Неўзабаве вяроўкі апалі, і Маленькі Джон апынуўся на волі. Робін Гуд імгненна перадаў яму лук і стрэлы сэра

Гая, а сам з-пад конскай шкуры выхапіў свой лук. Не паспелі шэрыф і яго людзі і пальцам варухнуць, як на іх пасыпаліся стрэлы разбойнікаў. Маленькі Джон крычаў грамавым голасам:

— Гуд! Гуд! Робін Гуд!

Конская галава адкінулася назад, і паказаўся твар, але не сэра Гая Гізбарна. Нехта з шэрыфавых людзей загарлаў:

— Сам Робін Гуд! Засада! Засада! Уцякайма, хлопцы, а то канцы нам будуць! — З перапуду ён падумаў, што на іх напала ўся разбойная шайка. Астатнія таксама гэтак падумалі, і ўвесь вялікі атрад лучнікаў і кап'ёўшчыкаў кінуўся ўцякаць ад двух дужых і спрытных стралкоў. А дзе ж іхні начальнік — шэрыф? Ён першы даў драла і шалёна гнаў каня наўскач як найдалей ад небяспекі.

Лук сэра Гая Джон узяў
З калчанам добрых стрэл.
Калі тугі ён лук згінаў,
Шэрыф збялеў, як мел.

У жаху ў Нотынгем назад
Каня пагнаў як мог,
За ім увесь яго атрад
З усіх пусціўся ног.

Але шэрыф усё ж не пазбег кары. Маленькі Джон прыцэліўся, і тоўстая страла загула, засвісцела ў паветры і ўваткнулася ў правае плячо ўцекача. Шэрыф застагнаў ад болю і, праклінаючы той дзень і гадзіну, калі вырашыў цвёрдай рукой раз і назаўсёды пакончыць з Робін Гудам, памчаўся ў Нотынгем.

# РОБІН ГУД У ГАРБАРА

Жыве гарбар у Нотынгеме спрытны,
Гэй-гэй, эгей, гэй-гэй!
Артур-а-Бленд яго зваць.
Усе, сказаць шчыра, у Нотынгемшыры
Баяцца яго узлаваць.

З дубінай тоўстай на плячы шырокім,
Гэй-гэй, эгей, гэй-гэй!
Ідзе гэтак смела сабе.
Хто ўбок не адыдзе, з дарогі не сыдзе,
Таго з яе палкай саб'е.

Пайшоў аднойчы з Нотынгема уранні,
Гэй-гэй, эгей, гэй-гэй!
У лес каралеўскі Шэрвуд —
Зірнуць на аленяў хаця б на імгненне,
І стрэўся яму Робін Гуд.

У горадзе Нотынгеме ўсе ведалі, хто самы спрытны баец на дубінах, тут не было дзвюх думак. Калі хто-небудзь чужы прыходзіў у горад і выклікаў нотынгемцаў на паядынак, тыя толькі хітра пасмейваліся і выстаўлялі супраць прышлага Артура-а-Бленда. Чалавек пакідаў Нотынгем з памятымі рэбрамі, Артур-а-Бленд жа вяртаўся да сваёй будзённай справы — вырабу валовых скур. І такая вялікая была ў яго слава, што толькі людзі з далёкіх мясцін паддаваліся ўгаворам паспаборнічаць з ім. Усе

мясцовыя асілкі спазналі ўжо страшную сілу яго тоўстага кія і без бою аддавалі яму першае месца.

Артур-а-Бленд быў цудоўны гарбар, усёй душою адданы свайму рамяству. Але ён вельмі любіў зялёную раскошу лесу, і часта, калі скроб валовую скуру ці намочваў дубільную кару, думкі яго адляталі далёка ад бруднага чана і пераносілі ў прыемныя глыбіні лесу з іх азоранымі сонцам палянамі, дзе водзяцца плямістыя высакародныя алені, якія імкліва прабягаюць пад цяністымі шатамі магутных дубоў.

Аднойчы прыгожым летнім ранкам ён кінуў працу і вырашыў — хай будзе, што будзе,— правесці гэты цудоўны дзень у зялёным лесе, каб палюбавацца на дзікіх аленяў, насыціцца вольным жыццём пад адкрытым небам, па якім ён ужо даўно сумаваў. Ен узяў лук, стрэлы і вялікую дубіну, без якой ні на крок не адлучаўся з дому, і падаўся ў Шэрвудскі лес.

Дзень выдаўся спякотны. Артур-а-Бленд амаль тры гадзіны гуляў па лесе, усё глыбей і глыбей забіраючыся ў яго. Ен ужо крыху прытаміўся, таму прылёг адпачыць на імшысты грудок пад купкай ляшчынніку. Нечакана перад яго вачамі паўстаў цудоўны малюнак: па паляне да яго набліжаўся статак зграбных плямістых аленяў.

Артур не адрываў ад аленяў вачэй. Вецер дзьмуў збоку статка, і алені не чулі чалавека. Вялікі важак-пяцігодак ішоў наперадзе статка, і пальцы Артура засвярбелі. Яму захацелася зняць шкуру з гэтага цудоўнага самца. Ен прыладзіў цеціву да лука, паклаў на яе стралу і пачаў крадком падбірацца бліжэй да аленя.

Але Артур-а-Бленд не ведаў, што рослы, моцнага складу чалавек, апрануты ва ўсё ярка-зялёнае, уважліва сочыць за кожным яго рухам. Гэта быў Робін Гуд.

Спачатку Робін Гуд прыняў яго за аднаго са сваіх людзей, але скураная куртка з капюшонам падказалі яму, што ён памыляецца.

— Не разумею, хто гэта можа быць,— прамармытаў Робін Гуд. — Не з маіх людзей і не ляснік. Чаго ён прый-

шоў сюды, у гэты лес? Падумаць толькі, гэты нягоднік спакойна цэліцца ў аднаго з нашых самых прыгожых аленяў!

Сказаўшы «нашых» аленяў, Робін Гуд меў на ўвазе самога сябе і караля, бо быў у лесе сапраўдны гаспадар і лічыў, што мае на яго і на ўсё, што тут ёсць, такія ж правы, як і кароль. Таму ён адразу схапіўся за зброю, калі ўбачыў, што нехта цэліцца з лука ў важака статка. Ён рушыў да незнаёмага і на хаду закрычаў:

— Хто ты, дзёрзкі малойчык?
Чаго ты бадзяешся тут?
Ў Шэрвудскі лес, як злодзей, залез
І хочаш забіць гэткі цуд.

Артур-а-Бленд уважліва аглядаў чалавека, які падыходзіў да яго.

«Гэта не ляснік,— разважаў ён,— я іх усіх да аднаго ведаю. А раз ён не ляснік, дык і баяцца няма чаго»,— а ўголас сказаў:

— А сам ты хто такі, што гэтак грозна крычыш?

— Я ахоўнік лесу,— адказаў Робін Гуд.— Сцерагу аленяў для караля і для сябе. Таму я не дазволю табе тут паляваць.

— А дзе астатнія? — спытаў Артур-а-Бленд.

— Якія астатнія? — не зразумеў Робін Гуд.

— А тыя, без каго ты не перашкодзіш мне рабіць, што захачу,— шырока ўсміхнуўся Артур-а-Бленд.

Запальчывага Робін Гуда ўзяў за жывое дзёрзкі намёк незнаёмца, быццам ён адзін не справіцца з ім.

— Не,— сказаў Робін Гуд,— ніхто мне больш не патрэбны. Не выпрабоўвай маю цярплівасць, прыяцель, а то раскалю твой чэрап за такую дзёрзкасць.

Але чалавек не спужаўся, толькі яшчэ шырэй усміхнуўся.

— Паслухай, шаноўны ахоўнік лесу,— сказаў ён,— ты маеш меч і лук, але навошта нам небяспечная гульня? Вунь ляжыць на траве, там, дзе ты стаяў, дубіна. Вазьмі яе, а я вазьму сваю, і паглядзім, хто каго.

— Яна мне паслужыць не горш за меч або лук. Я адаб'ю ў цябе ахвоту соваццa ў гэты лес,— і Робін Гуд пайшоў па сваю дубіну.

Ён адшпіліў рэмень, паклаў на зямлю меч і побач з ім лук, узяў у руку свой цяжкі дубовы кій і стаў перад гарбаром.

Артур-а-Бленд падняў дубіну для замаху. Робін Гуд адразу зразумеў, што перад ім умелы праціўнік.

— Пачакай хвілінку,— сказаў ён.— Біцца будзем сумленна — у славу добрай старой Англіі! Мая палка, здаецца, даўжэйшая за тваю. Давай памераем, і я крыху пакарачу сваю, каб дужацца як роўным.

— Не чапай ты сваю палку, хай застаецца, як ёсць,— безуважна ўсміхнуўся Артур-а-Бленд.— Я і гэткай ад-дубашу цябе як след. Добры дубовы сук даўжынёй восем з паловінай футаў бычка адным ударам зваліць, а цябе і пагатоў.

Пачуўшы такое, Робін Гуд ускіпеў. Маланкай мільга-нуў у паветры яго кій. Артур-а-Бленд не зусім удала адбіў удар, кій зачапіў галаву, і на ёй паказалася кроў. Гарбар адказаў імгненным, хітра нацэленым ударам. Робін Гуд не паспеў адхіснуцца, і на галаве ў яго таксама выступіла кроў. Так яны пакваталіся адзін з адным.

Спрытны ўдар і такі ж спрытны адказ паслужылі добрым урокам абодвум. Кожны з іх зразумеў, што перад ім упарты і хітры баец, і цяпер яны ўжо сталі біцца больш асцярожна. Яны рабілі падманныя выпады, нано-сілі ўдары і контрудары, адбівалі іх — толькі і чуўся стукат і грукат, калі тоўстыя дубовыя кіі сустракаліся ў паветры.

Артур-а-Бленд спадзяваўся атрымаць чарговую лёг-кую перамогу, бо звычайна ніхто ў паядынку на дубі-нах не мог пратрымацца супраць яго больш за пяць хвілін. Але неўзабаве ён зразумеў, што гэты ахоўнік лесу — самы ўпарты праціўнік з усіх, з кім яму калі-небудзь даводзілася скрыжоўваць дубіну.

Робін Гуд таксама пераканаўся, што чалавек у скура-ным адзенні — спрытны праціўнік. Робін ужываў супраць

яго ўсялякія хітрыя прыёмы — усе, якія толькі ведаў, але баец гэты ведаў такія, што яго дубіна яшчэ не раз і не два даставала Робін Гуда, а сам ён ні разу не дакрануўся сваім кіем да скураной курткі, хоць і прыкладаў увесь свой спрыт і сілу, імкнучыся да перамогі.

Кружылі вакол адзін аднаго,
Як дзікі ля ахвяры сваёй,
І кожны ўдар Робін Гуд і гарбар
Наносілі з сілы усёй.

Дубінамі біліся доўга яны —
Мо дзве гадзіны запар,
Аж у лесе гуло, і рэха пайшло,
І пот заліваў увесь твар.

Нарэшце гэтыя вартыя адзін аднаго ваякі разышліся, страшэнна стомленыя, абаперліся на свае дубіны і прагна хапалі ротам паветра. Пот ручаямі цёк па іх тварах.

— Кінем дубіны, добры маладзец,— сказаў Робін Гуд.— Давай памірымся, а то пакалечым адзін аднаго дарэмна. Я дазваляю табе свабодна гуляць па Шэрвудскім лесе.

— Вялікі дзякуй,— засмяяўся Артур-а-Бленд,— але сваёй свабодай я абавязаны не табе, а вось гэтай дубіне.

— Чым ты займаешся, адкуль ты? — весела спытаў Робін Гуд.— Давай пазнаёмімся лепш.

— Гарбар з Нотынгема я,— Артур сказаў,—
Дубільню там маю сваю.
Прыходзь да мяне, прадублю я табе
Задарам шкуру тваю.

— Кідай свой чан,— сказаў яму Робін Гуд.— Ідзі лепш да мяне ў наш зялёны лес. Клянуся, я ніколі яшчэ не сустракаў больш спрытнага і храбрага чалавека, акрамя, вядома, Маленькага Джона.

— Маленькі Джон, ты сказаў? — усклікнуў Артур-а-Бленд.— Здаецца, я пачынаю разумець, хто гэтак зацята біўся са мной на дубінах. Як цябе завуць?

— Я — Робін Гуд,— пачуў ён адказ.

— Няхай заб'е мяне гром! — закрычаў гарбар.— Гэта ты, атаман разбойнікаў, што гуляюць па Шэрвудскім лесе? Душой я даўно ўжо з вамі, і вось табе мая рука. Мяне завуць Артур-а-Бленд. Я назаўсёды разам з вамі.

— Вітаю цябе, Артур-а-Бленд, і з радасцю прымаю да нас,— сказаў Робін Гуд, калі яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі.— Ты вялікі майстар арудаваць дубінай не горш за Маленькага Джона.

Артур папрасіў:

— Скажы мне хутчэй, дзе Маленькі мой Джон,
Мне радасць ад слова твайго,
Мы па маці радня, і чакаю я дня,
Калі зноўку убачу яго.

— Ты хочаш стрэцца з Маленькім Джонам? — спытаў Робін Гуд.— Дык зараз убачыш яго, бо мой верны паплечнік ніколі не адыходзіцца далёка ад свайго атамана.

Робін Гуд паднёс да рота ражок, і працяглыя высокія гукі прарэзалі паветра. Неўзабаве між дрэў замільгала вялікая постаць чалавека, які паспешліва бег да іх.

— Што здарылася, атаман? — закрычаў Маленькі Джон, спыніўшыся перад Робін Гудам.— Меч твой і лук валяюцца на зямлі, а ты стаіш, абапёршыся на дубіну. Насупраць цябе таксама стаіць нехта [redacted] дубінай. Відаць, табе добра папала.— Апошнія словы Маленькі Джон меў поўнае права сказаць, бо твар Робін Гуда ўвесь быў у запечанай крыві.

Робін Гуд засмяяўся і сказаў:

— Я ціха стаю. Ён прымусіў мяне —
Вось гэты гарбар-прайдзісвет.

Хлапец не прастак, на ўсе рукі мастак,
Прадубіў маю скуру як след.

— Хвала яму за тое, што ён такі спрытны і дужы баец! — сказаў Маленькі Джон.— Але яму не ўдасца вырабіць добрую скуру з майго атамана, бо глядзець збоку я не буду. Калі ён такі майстар, няхай паспрабуе зрабіць гэта з маёй.

— Не, не! — запярэчыў Робін Гуд.— Калатні ўжо было досыць. Да таго ж ганебная справа — бойка паміж сваякамі. Бо, калі я правільна зразумеў, гэты добры рамеснік кроўны твой родзіч. Завуць яго Артур-а-Бленд.

— Што?! Артур-а-Бленд, першая дубінка горада Нотынгема?! Гэта ж мой стрыечны брат! — усклікнуў Маленькі Джон.

— Ты не памыліўся, Маленькі Джон, гэта я,— сказаў гарбар, зрабіў крок наперад і адкінуў на плечы скураны капюшон.

— Сардэчна запрашаю, дарагі мой брат Артур, у наш Шэрвудскі лес! — радасна прамовіў Маленькі Джон, і сваякі моцна паціснулі адзін аднаму рукі. Артур сказаў:

— З сённяшняга дня гэты лес — мой дом. Разам з вамі буду я жыць і разам з вамі памру.

Робін Гуд быў шчаслівы, што ў яго атрад прыйшоў яшчэ адзін дужы і адважны чалавек, а Маленькі Джон і Артур-а-Бленд не маглі нарадавацца сустрэчы.

Усе яны пусціліся весела ў скокі. Маленькі Джон заспяваў задорную прыпеўку, астатнія двое падхапілі, і лес аж загуў ад іх гучных галасоў:

— Бо трое вясёлых нас, трое вясёлых,
Нас трое вясёлых хлапцоў.

Раздзел адзінаццаты



## НОВЫ СЛУГА ШЭРЫФА

Аднаго дня, праз некалькі тыдняў пасля прыходу Артура-а-Бленда ў атрад Робін Гуда, у Шэрвудскі лес дайшлі чуткі, быццам нотынгемскі шэрыф зноў строіць нейкія каварныя планы і збірае вялікую сілу супраць сваіх ворагаў.

— Што на гэты раз прыдумаў шэрыф? — занепакоіўся Робін Гуд.— Ад шаўца Лоба няма ніякіх вестак.

— Хутка мы і так будзем усё ведаць, атаман,— сказаў Маленькі Джон.— Я сёння ж сам пайду ў Нотынгем і прынясу табе ўсе навіны, якія пачую на рыначнай плошчы альбо ў піўной. Там я пэўна дазнаюся, што нам рыхтуе шэрыф.

— Толькі, глядзі, будзь асцярожны, Маленькі Джон,— сказаў Робін Гуд.— Нават за ўсе навіны на свеце не хацеў бы я страціць цябе.

— Не бойся, атаман,— адказаў велікан.— Я буду абачлівы ва ўсім.

Апаўдня да гарадскіх варотаў Нотынгема падышоў вялікага росту кульгавы жабрак у лахманах. Адно плячо ў яго было на паўфута вышэй за другое, твар скрыўлены набок, чорная павязка закрывала адно вока. Ідучы, ён моцна прыпадаў на адну нагу. Брамнікі кінулі некалькі грубых жартаў услед абарванаму калеку, але жабрак прапусціў іх міма вушэй і спакойна пайшоў далей, быццам шукаючы месца, дзе можна было б адпачыць. Ён мінуў рыначную плошчу і павярнуў у завулак. Тут ён спыніўся перад маленькім дамком, падобным на будку, з акенцам і аканіцамі, якія закрываліся нанач. Гэта была шавец-

кая майстэрня Лоба. Звычайна яго можна было амаль заўсёды ўбачыць тут з шылам ці малатком у адной руцэ і чаравікам у другой. Але на гэты раз праз акенца не было відаць нікога.

Калека-жабрак зайшоў у майстэрню праз заднія дзверы і апынуўся ў маленечкім пакойчыку. Тут ён і ўбачыў шаўца, які ляжаў на старым сенніку.

— Ты што, занядужаў, дружа? — ціхенька спытаў жабрак.

Лоб адразу пазнаў голас і зразумеў, што перад ім Маленькі Джон.

— Ага, Маленькі Джон,— адказаў ён,— хварэю ўжо амаль чатыры тыдні, але цяпер пачаў пакрысе папраўляцца.

— Вось і добра,— сказаў Маленькі Джон.— А мы ўсё гадалі, чаму ад цябе няма ніякіх вестак. Я і пайшоў у горад, каб дазнацца, што з табой здарылася.

— Добра, што ты пераапрануўся,— сказаў Лоб.— Я чуў, што вы прагналі шэрыфа з лесу, ды яшчэ са стралой у плячы. Суд будзе кароткі, а вяроўка доўгая, дружа, калі яны схопяць цябе або каго з вас.

— Твая праўда, Лоб,— адказаў Маленькі Джон і засмяяўся.— Таму я і прабраўся ў горад, каб пранюхаць, якія падкопы строіць супраць нас шэрыф гэтым разам.

— Калі ён што і задумаў, дык усё трымаецца ў строгім сакрэце,— сказаў Лоб.— У горадзе няма ніякіх чутак пра паход супраць Робін Гуда і яго людзей.

— Добра. Але ўсё ж я пахаджу па горадзе. Можа, што-небудзь навенькае і пачую. Дык пакуль што бывай, дарагі Лоб, папраўляйся.

Ад шаўца ўяўны жабрак падаўся на рыначную плошчу, сеў на прыступку ля крыжа, зняў з галавы сваю падраную шапку, каб збіраць у яе міласціну. Ніхто не кінуў у яе і меднага гроша, але жабрака гэта мала турбавала. Ён увесь ператварыўся ў слых: не прапускаў ніводнага слова з таго, пра што гаварылі і пляткарылі базарны люд.

Праседзеўшы гэтак з гадзіну, ён пайшоў з рынчнай плошчы, кіруючыся ў знаёмую піўную, куды часта завітвалі шэрыфавы людзі, каб прагнаць элем смагу.

Ён пераступаў парог піўной, як раптам да яго падскочыў пузаты шынкар, перагарадзіў дарогу.

— Ідзі прэч адсюль, жабрак! — крыкнуў гаспадар.— Я не дазволю табе прыставаць да маіх наведвальнікаў, выпрошваць у іх міласціну!

— Што вы, што вы, добры пане,— сказаў жабрак.— Я не па міласціну прыйшоў, а хачу выпіць элю. Думаеце, у мяне не знойдзецца, чым заплаціць за збанок гэтага пітва? Вось зірніце,— ён пакорпаўся ў сваёй жабрацкай торбе, што вісела на сырамятным рамяні, і выўудзіў адтуль жменю дробных медных манет.

Шынкар убачыў, што ў жабрака ёсць чым расплаціцца, і дазволіў яму зайсці, але ў галоўную залу не пусціў.

— Ідзі вось сюды,— сказаў ён,— у гэтую баковачку. Такому, як ты, і тут будзе добра.

Жабрак пакорліва зайшоў у цесную цёмную каморку побач з піўной залай. Вакол старога стала, які ледзь ліпеў, стаялі дзве-тры табурэткі.

Жабрак сядзеў адзін за сталом, пацягваючы з куфля эль, і быў дужа задаволены, бо праз адчыненыя дзверы яму добра было чуваць кожнае слова з піўной залы. Ні пра які паход супраць разбойнікаў гаворкі не было. Размова ішла пра вялікае спаборніцтва стралкоў з лука, якое мелася адбыцца назаўтра апоўдні на гарадскім стрэльбішчы. У тыя часы такія спартыўныя спаборніцтвы былі самымі любімымі з народных забаў, і амаль ніводнага пагодлівага дня не мінала, каб майстры лука не паспрачаліся між сабой у меткасці.

Жабрак прамармытаў сабе пад нос: «Вялікае спаборніцтва... Я пайду на стрэльбішча. Трэба толькі недзе дастаць лук і стрэлы. Там языкі развяжуцца, людзі пачнуць гаманіць пра тое, што ведаюць, і я, можа, пачую важныя навіны».

Калі жабрак выжлукціў збанок элю і пакінуў піўную,

пачало ўжо брацца на ноч. Ён зноў пакандыбаў у майстэрню шаўца. Лоб зрабіў яму ў кутку пасцель з сена, і Маленькі Джон улёгся спаць.

Назаўтра, апаўдня, на рыначнай плошчы звонка заспявалі фанфары герольдаў — вяшчальнікаў. Тры герольды ў новых бліскучых накідках — табардах, надзьмуўшы шчокі, як мячыкі, збіралі народ, каб абвясціць пра ўрачыстую падзею. З самага ранку тут прадавалі і куплялі, таргаваліся, але цяпер гандаль ужо ішоў на спад. Наставаў час для розных забаў і спартыўных гульняў — аж да захаду сонца.

На плошчы сабраўся натоўп. Людзі хацелі паслухаць пра парадак і ўмовы стралковага спаборніцтва. Герольды абвясцілі, што пераможца атрымае новы прыгожы ражок і дваццаць сярэбраных пенсаў, і ўсе пагадзіліся, што прыз досыць каштоўны і яго будуць аспрэчваць лепшыя стралкі горада і навакольных сёл.

Ля крыжа на рынку ўсеўся пісар з лістом паперы ў руках, гусіным пяром і рагавой чарніліцай, і да яго пачалі адзін за адным падыходзіць гараджане і вяскоўцы, каб ён запісаў іх на спаборніцтва. Сярод іх быў брыдкі з выгляду кульгавы жабрак з лукам на плячы і калчанам стрэл на поясе. Калі ён падышоў да пісца, каб назваць сваё імя, усе зявакі, што стаялі навокал, гучна зарагаталі, а чалавек, які хацеў запісацца раней жабрака, груба адштурхнуў яго.

— Асадзі назад, хам! — сказаў яму гэты рослы, дужы чырванашчокі чалавек у адзенні лесніка.— Як ты смееш соваць сюды нос? Хіба не бачыш, тут людзі вышэйшага саслоўя? І наогул, чаго ты прыйшоў? Ідзі прэч адсюль! І не абкрадай пудзілы на аўсяных палетках!

Натоўп зарагатаў. Во як пажартаваў ляснік з убогай адзежы жабрака! Ды раптам смех абарваўся. Жабрак высунуў з-пад плашча дужую, нібы сук вялікага дуба, руку, схапіў лесніка за горла і шпурнуў убок, быццам малое дзіця.

— Хто першы прыйшоў, той першы і зайшоў,— абвяс-

ціў жабрак.— Дазвольце сказаць вам, шаноўны ляснік, што я бліжэй да пісара і таму маю большае права запісацца раней за вас.

Ляснік ад злосці зачырванеўся, нібы жар, падскочыў да жабрака і замахнуўся кулаком, цэлячыся яму ў твар.

— Дай яму, Хэл з Крофта! — закрычалі прыяцелі лесніка.— Пакажы гэтаму шэльму, што такое ўдар лесніка!

Але ўдар не трапіў у цэль. Жабрак спрытна адхіснуўся, і кулак Хэла з Крофта прамільгнуў за паўпядзі ад твару жабрака.

— Уцякай, жабрача, бяжы! — крыкнуў яму нейкі добразычлівец з натоўпу.— Хэл зробіць з цябе халадзец, вунь якія ў яго кулакі. Ратуйся!

— Не, я ўцякаць не буду,— прабурчаў жабрак.— Дайце нам месца, станьце ў круг, і няхай Хэл б'е мяне, колькі душа пажадае.

— Круг! Круг! — зароў натоўп у захапленні.— Кулачны бой Хэла з Крофта і велікана-жабрака!

Адразу ўтварыўся круг. Хэл с Крофта скінуў з сябе кароткую скуранку, перадаў лук прыяцелю, папляваў у кулакі і паабяцаў збіць гэтага нахабнага абадранца на горкі яблык. Ніхто ва ўсім Нотынгеме не біўся на кулаках так спрытна, як Хэл з Крофта. Колькі ўжо ён атрымаў перамог на гэтай самай плошчы!

Жабрак аддаў патрымаць лук нейкаму вартаму даверу ёмену і пахаджваў, накульгваючы, узад і ўперад па сваім баку круга, і такая ў яго была пацешная паходка і ўся пастава, што гледачы заходзіліся ад смеху.

І вось пачаўся бой. Крыкі і выгукі захаплення павалілі з натоўпу, як дым з печы. Хэл махаў кулакамі, як кувалдамі, але ніводзін яго ўдар не пацэліў у галаву праціўніка. Бо жабрак гэтак моцна кульгаў, што пры кожным руху галава яго то імкліва апускалася на фут ніжэй, то падымалася на фут вышэй. Толькі Хэл з Крофта размахнецца, каб пацэліць у твар, галава жабрака апусціцца і кулак разразае паветра, а ў той самы момант кулак жабрака малоціць па Хэлавых рэбрах.

Хоць праціўнік Хэла з Крофта і быў калека, ён хутка і спрытна перамяшчаўся па крузе. Лахманы яго і торбы развяваліся і матляліся. На ўсё гэта было вельмі смешна глядзець, і прысутныя ад радасці так крычалі, што сарвалі галасы.

Нечакана бой скончыўся. Даведзены да шаленства ляснік загнаў жабрака ў кут, адкуль не было выйсця.

— Загнаў у кут! Загнаў у кут! — абрадаваліся прыяцелі Хэла.— Цяпер ён твой! Пакажы яму, Хэл, што такое ўдар лесніка!

Але ў тое імгненне, калі ўсе ўжо рыхтаваліся ўбачыць славуты баксёрскі прыём, жабрак прыўзняўся, і першы раз за ўвесь бой яго кулак па-сапраўднаму трапіў у цэль. Трэсь! Усе пачулі тры такія гукі. Гэта трэснулі, нібы сухія палкі, тры рабрыны Хэла з Крофта, і ён пераляцеў цераз увесь круг і грымнуўся на зямлю непрытомны. На некалькі імгненняў запанавала мёртвая цішыня, усе ад здзіўлення знерухомелі. Такі волатаўскі ўдар!

Потым наперад праціснуліся два-тры леснікі з кіямі ў руках, каб пакараць жабрака за тое, што ён так лёгка збіў з ног іх чэмпіёна. Але з натоўпу пачуліся крыкі абурэння:

— Гульня была сумленная! Гульня сумленная!

Нейкі гараджанін закрычаў:

— Удар быў па правілах! Па правілах! Хэл атрымаў тое, што сам хацеў зрабіць! Патрабую справядлівасці! Жабрака не чапаць! — і пачаў круціць над галавой вялікую дубіну.

Гэтага справядлівага чалавека дружна падтрымалі яго прыяцелі і знаёмыя, і леснікі вымушаны былі адмовіцца ад свайго намеру расправіцца з жабраком. Са змрочнымі тварамі пабрылі яны з рынку, несучы на руках свайго развенчанага куміра.

— Скажы, жабрак,— спытаў у пераможцы гараджанін, які так рашуча заступіўся за яго,— ты гэтаксама добра страляеш з лука, як б'ешся на кулаках?

— Не горш,— упэўнена адказаў жабрак.

— Што ж, суседзі мае і прыяцелі,— сказаў дабрадушны гараджанін, абводзячы позіркам сваіх прыхільнікаў,— у такім разе давайце праводзім гэтага чалавека на стрэльбішча, і, я ўпэўнены, сёння мы з вамі ўбачым выдатную стральбу.

Усе згадзіліся і вялікім гуртам рушылі на месца спаборніцтва, цесным колам акружыўшы жабрака, каб па дарозе на яго не напалі леснікі. Але перш чым пайсці, Маленькі Джон сказаў пісару сваё імя, і той унёс яго ў спіс пад імем Рэно Грынліфа, якое абазначала — Лясны Ліс. Маленькі Джон ціхенька хіхікнуў, калі падумаў, як добра пасуе яму такое імя.

У пачатку спаборніцтва стралялі па мішэнях, што былі на стрэльбішчы, і жабрак выйшаў пераможцам. Тром лепшым стралкам паставілі цяжэйшую задачу — пацэліць у вярбовы прут, уваткнуты ў зямлю. З трох толькі жабрак даказаў сваё высокае майстэрства — яго страла, нібы вострым нажом, рассекла тонкую галінку на дзве роўныя палавінкі.

— У жыцці не бачыў такога! — усклікнуў шэрыф, які ўважліва сачыў за стральбой. У той дзень ён першы раз выйшаў з дому. Рана на плячы ў яго ўжо загаілася, і ён з задавальненнем сачыў за спаборніцтвам.

— Падыдзі да мяне, жабрак! — загадаў ён.

Маленькі Джон падышоў да яго і пакорліва сагнуў калена ў паклоне.

— Як цябе завуць і адкуль ты? — спытаў шэрыф.

— Я, шаноўны пане, Рэно Грынліф, а нарадзіўся ў Холдэрнесе,— адказаў Маленькі Джон.

— Ты, відаць, мог бы напяць і большы лук, Рэно Грынліф з Холдэрнеса? — сказаў шэрыф.

«Вядома, магу! — падумаў сам сабе Маленькі Джон.— Іначай як бы я ўсадзіў табе стралу ў плячо, горды шэрыф?» — але ўголас нічога не сказаў, толькі яшчэ раз сагнуў калена перад шэрыфам.

— Проста ганьба глядзець — такі выдатны стралок, а ходзіць у лахманах. Ідзі, добры маладзец, да мяне на служ-

бу,— прапанаваў шэрыф.— Кожны год будзеш мець ад мяне дваццаць марак жалавання.

Маленькі Джон адразу згадзіўся, бо быў упэўнены, што на службе ў шэрыфа даведаецца пра ўсё, што яму трэба. Шэрыф радаваўся, што ўзяў такога добрага стралка за целаахоўніка. А Маленькі Джон толькі пасмейваўся і мармытаў сабе пад нос: «Вялікі дзякуй, горды шэрыф, вялікі дзякуй! Ты думаеш, што Рэно Грынліф твой верны слуга, але памыляешся. Я так услужу табе, як ніколі ніхто з тваіх самых вераломных прыслугачоў».

Некалькі дзён Маленькі Джон, або Рэно Грынліф, жыў у доме шэрыфа. Смачна еў і смачна піў, сядзеў каля гарачага каміна або грэўся на сонейку і ні разу ні за што не зачапіў рук. Гэта злавала аканома, чалавека ганарлівага, які прывык, каб кожны чалядзінец хадзіў перад ім на задніх лапках. Але калі ён загадваў новаму прыслужніку што-небудзь зрабіць, гэты лайдак нават з месца не кранаўся, а толькі адказваў:

— Я лучнік, пан аканом. Вазьміце мяне туды, дзе трэба стрэлы пускаць, і я ваш пакорны слуга. А пакуль што пакіньце мяне ў спакоі.

Аднаго ранку Маленькі Джон заляжаўся ў мяккай пасцелі. У ёй было так прыемна, што не хацелася вылазіць. Калі ж нарэшце падняўся, яму сказалі, што шэрыф паехаў на паляванне. «Вось як! Шэрыфу, значыць, захацелася свежай дзічыны! — падумаў Маленькі Джон.— Дык, шчыра прызнаюся, мне і самому не церпіцца вярнуцца ў Шэрвудскі лес».

Увесь час, што Маленькі Джон прабыў у шэрыфавым доме, ён уважліва прыслухоўваўся і прыглядаўся да таго, што там адбывалася. Калі ўсе думалі, што ён моцна спіць, Маленькі Джон напружана прыслухоўваўся, пільна прыглядаўся да ўсяго, але ні разу не пачуў і не ўбачыў нічога, што сведчыла б, што шэрыф задумаў нешта нядобрае супраць Робін Гуда і яго зялёных стралкоў. Маленькі Джон зразумеў, што чуткі, якія дайшлі да іх у Шэрвудскі лес, былі беспадстаўныя.

«Падсілкуюся, а ўжо тады пайду ў лес да свайго атамана»,— падумаў ён і пайшоў шукаць хлеба, мяса і элю.

Па дарозе на кухню ён сутыкнуўся ў калідоры з таўстуном аканомам.

— Шаноўны пан аканом,— сказаў яму Маленькі Джон,— пакарміце мяне, калі ласка, добра, а то я галодны, як воўк сярод зімы.

— А хоць бы як тры ваўкі! — гыркнуў аканом.— Час снедання даўно мінуў, Рэно Грынліф. Ужо даўно прыбралі са стала. Не пра снеданне, а пра абед трэба цяпер думаць.

— Тады назавіце гэта абедам, калі хочаце,— сказаў Маленькі Джон.— Мне важна адно — паесці.

— Ні есці, ні піць я табе не дам,— закрычаў аканом,— пакуль не вернецца з палявання шэрыф.

— Што?! — абурыўся Маленькі Джон.— Гэтак доўга пасціцца? Беражыцеся, пан аканом, не ўводзьце мяне ў гнеў, а то я магу і трэснуць вас па галаве.

Аканом нічога больш не сказаў, з грукатам зачыніў дзверы кладоўкі і пераможна засмяяўся.

Але таўстун ранавата смяяўся.

Джон моцным кулаком сваім
Збіў аканома з ног.
І той, хоць жыў яшчэ шмат зім,
Смяяцца ўжо не мог.

Аканом зваліўся, як мех, на падлогу, а Маленькі Джон падышоў да кладоўкі і адным ударам пляча высадзіў дзверы. Ад таго, што ён убачыў у кладоўцы, у яго ажно слінкі пацяклі. Адразу яму на вочы трапіўся вялікі пірог з мясам, добра прапечаны, з румянай скарынкай. Ен адкроіў ад яго добрую лусту, з'еў і наліў з бочкі, што стаяла ў куце, вялікі куфаль светлага пеністага элю. Потым адрэзаў ад кумпяка і праглынуў з дзесятак кавалкаў халоднай аленіны і запіў цудоўным вінаградным канарскім

вінам, а пасля пачаў каштаваць усё падрад. Такога смакоцця ён яшчэ ніколі не еў. У кладоўцы не было на што сесці, і ён еў стоячы. Сталом яму служыла высокая паліца амаль пад самай столлю, і ён не абмінуў нічога, што на ёй ляжала.

У гэты час да кладоўкі падышоў кухар. Ен шукаў аканома. І раптам кухар знерухомеў, ашаломлены відовішчам, што паўстала перад яго вачамі: на падлозе ў калідоры стагнаў аканом, а ў кладоўцы лучнік шэрыфа спусташаў паліцы. Набег лучніка на кладоўку нібы вострым нажом разануў па сэрцы кухара. Гэты бамбіза знішчаў усё, што прыгатавалі на абед шэрыфу і яго світе, якія неўзабаве вернуцца галодныя з палявання. Кухар аж закіпеў увесь ад злосці. Чалавек ён быў рашучы і дужы, таму падскочыў да Маленькага Джона і тры разы аперазаў яго па спіне палкай, што была ў яго ў руцэ.

— Клянуся, ты самы вялікі шэльма, якога я калінебудзь бачыў у гэтым доме! — закрычаў кухар.— Гэтакі варварскі спосаб абедаць!

Маленькі Джон праглынуў ежу і сказаў:

— А ты, клянуся, залішне дзёрзкі храбрэц: гэтак груба адрываеш людзей ад яды. І перш чым я пайду з гэтага дома, хачу праверыць, на што ты здольны.

І Джон ухапіў добры меч,
А кухар трымаў ужо свой —
Ніхто з іх не кінуўся прэч,
І жорсткі пачаўся бой.

Амаль гадзіну ўпарта біліся Маленькі Джон і шэрыфаў кухар, і ніхто з іх не атрымаў нават драпіны. Яны былі роўныя праціўнікі і добра валодалі ўсімі тайнамі бою на мячах.

— Прытрымайце меч, пан кухар! — нарэшце крыкнуў Маленькі Джон.— Шчыра скажу, такога майстра арудаваць мячом, як ты, я яшчэ не сустракаў. Шкада, што такі маладзец мае справу з гаршкамі ды патэльнямі, каб набіць смачнымі стравамі чужыя жываты...

— Мне і самому гэта не даспадобы,— сказаў кухар.— Але што зробіш?

— Вы гэта шчыра кажаце? — абрадаваўся Маленькі Джон.— Дык калі вы валодаеце лукам гэтак жа добра, як мячом, я мог бы ўзяць вас з сабой у Шэрвудскі лес і прывесці да чалавека, якому вы з радасцю служылі б.

— А хто ён такі? — пацікавіўся кухар.

Маленькі Джон нахіліўся да яго і на вуха прашаптаў:

— Робін Гуд.

Кухар вылупіў вочы і здзіўлена ўтаропіўся на лучніка. І сапраўды, было ад чаго прыйсці ў замяшанне. Лясны разбойнік на службе ў шэрыфа! Потым кухар падняў левую руку і сказаў:

— Апусці меч. З гэтага дня я ваш таварыш.

— Тады пачастуйся разам са мной пірагом з аленінай,— засмяяўся Маленькі Джон.— Калі твая палка так нечакана апусцілася на мае лапаткі, я збіраўся якраз з'есці яшчэ адзін кавалак гэтага смачнага пірага. Цяпер, пасля нашага маленькага паядынку, у мяне разгарэўся яшчэ большы апетыт.

Кухар паклаў меч і пачаў арудаваць нажом сярод далікатэсаў на паліцах кладоўкі. Потым прынёс з кухні новыя прысмакі, і яны з Маленькім Джонам добра пабалявалі. Перад адыходам у Шэрвудскі лес кухар сказаў:

— Не ісці ж нам у лес з пустымі рукамі. Я пакажу табе, дзе шэрыфава скарбніца.

— Вось каб забрацца туды! — усклікнуў Маленькі Джон.— Людзі кажуць, яна даверху набітая дарагім сярэбраным посудам, які шэрыф купіў на грошы беднякоў ад пабораў і штрафаў.

— Людзі гавораць праўду,— пацвердзіў кухар.— Дык пойдзем са мной, я пакажу, дзе ўсё гэта ляжыць.

Неўзабаве яны апынуліся перад шырокімі, акаванымі жалезам дзвярамі са сталёвымі заваламі.

— Прынясі, калі ласка, самы вялікі молат, які толькі зможаш падняць,— папрасіў Маленькі Джон кухара, і той хуценька пайшоў і прынёс цяжкі кавальскі молат.

Некалькімі магутнымі ўдарамі Маленькі Джон збіў замкі і разам з кухарам увайшоў у пакой, дзе шэрыф хаваў свае скарбы.

— Знайдзі самы вялікі мех, які толькі ёсць у доме,— зноў папрасіў Маленькі Джон, і кухар збегаў і прынёс мех, у якім мог схавацца чалавек.

Маленькі Джон напакаваў яго сярэбраным посудам і залатымі манетамі, завязаў і ўскінуў на плечы.

— А цяпер — у лес! — сказаў ён.

Кухар павёў яго таемным ходам да маленькіх патайных дзвярэй. Неўзабаве нашы героі апынуліся за сценамі горада і пашыбавалі ў лес.

## Раздзел дванаццаты



## ШЭРЫФ НАЧУЕ Ў ЛЕСЕ

Робін Гуд, Мач, Уіл Скарлет і брат Тук стаялі каля ўвахода ў пячору, захопленыя гутаркай.

— Я вельмі непакоюся за Маленькага Джона,— сказаў Робін Гуд.— Ужо некалькі дзён мінула, а ад яго няма ніякіх вестак.

— Няма гуку — няма груку,— сказаў Мач.— Бо калі б шэрыфавы людзі схапілі яго, падняўся б страшэнны шум на ўсю акругу.

— Можа, мне схадзіць у горад і паспрабаваць штонебудзь разведаць пра яго? — прапанаваў Уіл Скарлет.

— Не, не,— запярэчыў брат Тук.— Пайду я. Апрануся вандроўным багамольцам і спакойна пранікну, куды захачу.— Раптам Тук вытрашчыў вочы, паказаў на лес рукой і закрычаў: — Гляньце, гляньце, вунь, вунь туды! Пра воўка памоўка, а воўк тут! Клянуся сваёй рызай і ружан-

цам, калі гэты асілак з мехам на спіне не Маленькі Джон, дык я не манах!

Усе павярнуліся ў той бок, куды паказваў брат Тук, і радасны крык вырваўся з іх грудзей. Шырокім крокам да іх набліжаўся Маленькі Джон.

— Адважны наш таварыш! — усклікнуў Робін Гуд.— Клянуся, Маленькі Джон, я проста шчаслівы, што зноў бачу цябе. Што новага прынёс з Нотынгема?

— Прынёс, атаман, прынёс. Прывітанне ад шэрыфа,— адказаў Маленькі Джон і пакланіўся.— І прывёў шэрыфавага кухара.— Ён паказаў на свайго спадарожніка і зноў пакланіўся атаману.— А яшчэ я прынёс скарбы шэрыфа.

Маленькі Джон скінуў з плячэй мех. Там штосьці весела зазвінела і задзынкала. Лес выбухнуў гучнымі воклічамі адабрэння і радаснага рогату, калі з меха пасыпаліся сярэбраныя вазы і кубкі і залатыя манеты.

— Баюся, тут няма ніводнай рэчы, якую б ты ўзяў з дазволу пана шэрыфа,— засмяяўся Робін Гуд.

Тут да яго імкліва падбег Уіл Ст'ютлі і закрычаў:

— Атаман! Правалíцца мне на гэтым месцы, калі не сам шэрыф палюе на аленяў у Свяшчэнным парку! Я прыкмеціў загоншчыкаў, яны ішлі ланцугом. І я адразу кінуўся сюды, каб вам паведаміць.

— Ты праўду кажаш, Уіл? — абрадаваўся Маленькі Джон.— У такім разе, клянуся сваім лукам і стрэламі, у нас акрамя шэрыфавых скарбаў і кухара зараз будзе і сам шэрыф! — і шпарка памчаўся ў глыб лесу.

Маленькі Джон бег, пакуль не апынуўся ў Свяшчэнным парку і не ўбачыў шэрыфа. Шэрыф ехаў на кані вельмі змрочны і злосны. Сабакі шалёна брахалі, надрываліся ражкі, але не было ніякіх прыкмет, што паляванне ўдалося. Маленькі Джон падышоў да шэрыфа і нізка пакланіўся яму.

— Бог вам у помач, мілорд, бог у помач! — прывітаў ён шэрыфа.

— А-а, гэта ты, Рэно Грынліф! — здзівіўся шэрыф.— Чаго ты тут?

— А я пайшоў следам за вамі, мілорд,— адказаў Маленькі Джон.— Ну, як паляванне? Шмат здабычы, пан шэрыф?

— Ды не, нічога не знайшлі, мой добры Грынліф,— з горыччу адказаў шэрыф.— Цэлы дзень ганяліся па лесе з сабакамі, [redacted] не паднялі і не загналі ніводнага звера.

— Ну, дык дазвольце, мілорд, я пакажу вам, дзе ёсць дзічына. Ідучы па лесе, я раптам убачыў такое! Больш цудоўнага відовішча ніколі не было. Магутны рагач, увесь зялёны, а [redacted] ім амаль паўтары сотні галоў. А рогі якія! Такія вострыя, што я, мілорд, не адважыўся нават цэліцца ў яго: баяўся, што ён кінецца на мяне і падыме на рогі.

— Сапраўды цуд! — загарэўся шэрыф.— Пакажы, дзе ён, Рэно Грынліф, я вельмі хачу паглядзець на яго. Вядзі!

— Што ж, калі ласка, мілорд. Скачыце за мной і вы ўбачыце гэтага незвычайнага важака.

Маленькі Джон пабег так шпарка, што шэрыфу давялося пусціць каня ў галоп. Гаспадар са слугой далёка апярэдзілі ўсіх астатніх паляўнічых. Нарэшце дрэвы парадзелі, і яны апынуліся на прагаліне і там убачылі Робін Гуда ў ярка-зялёным адзенні з ражком у руцэ.

— Вось, мілорд, вось ён, гэты магутны важак! — закрычаў Маленькі Джон.

І тут Робін Гуд падзьмуў у ражок. Праз імгненне паўтары сотні стралкоў у зялёных куртках выскачылі з-за дрэў і прывіталі шэрыфа гучнымі воклічамі, якія рэхам пракаціліся па лесе. Шэрыфава світа перапужалася і кінулася наўцёкі. Лясныя стралкі акружылі шэрыфа, і ён зразумеў, што трапіў у палон.

І пабялеў шэрыф,
Рукой не варухне.
— Праклятым будзь, Грынліф,
Ты здрадзіў мне.

— Клянуся, пане шэрыф,— сказаў Маленькі Джон,—

вы самі вінаватыя. Калі б вы былі добры гаспадар, я спакойна паснедаў бы, і ўсяго гэтага магло з вамі і не здарыцца.

— З добрым прыбыццём у наш лес, шэрыф! — сказаў Робін Гуд.— Будзьце нашым госцем.

Шэрыф са страхам думаў, які пачастунак яго чакае. Але ратавацца ўцёкамі было позна. Маленькі Джон схапіў яго каня за аброць і павёў у лес, разбойнікі пайшлі следам.

Праз тры мілі яны выйшлі на шырокае адкрытае месца ў самых нетрах Шэрвудскага лесу. Пасярэдзіне паляны ярка гарэла вялікае вогнішча, там нешта весела шыпела і сквірчэла, чуўся прыемны пах. У шэрыфа ажно слінкі пацяклі. За цэлы дзень ён добра выгаладаўся. Раптам ён вырачыў вочы: каля патэльняў завіхаўся яго кухар, гатуючы смажаніну з аленіны.

— Павячэрайце з намі, шэрыф,— сказаў Робін Гуд.— Стравы ў нас не вельмі далікатныя, але голад не цётка.

Шэрыф сеў на вялікі корань дуба і змрочным позіркам абвёў твары людзей. Шмат разоў спрабаваў ён злавіць гэтых разбойнікаў, але не ён, а яны схапілі яго. Ён ведаў: іх чакала б немінучая смерць, калі б яны трапілі яму ў рукі, і разумеў: галава яго нетрывала сядзіць на плячах, калі ён апынуўся ў іхняй уладзе.

Робін Гуд падышоў да яго і сказаў:

— За вячэру, шэрыф, за вячэру! Нас чакае цудоўная аленіна.

Шэрыфа не давялося доўга ўгаворваць. Яму дужа хацелася есці. Да таго ж ён пачаў спадзявацца, што разбойнікі, можа, не пазбавяць яго жыцця. Не падобна, каб яны задумалі што-небудзь вельмі страшнае супраць яго, калі гэтак гасцінна запрашаюць на добрую вячэру.

Шэрыф акінуў вокам яду і ахнуў ад здзіўлення. Смажаная аленіна ляжала на блюдах з чыстага серабра!

«Вось яно як! — падумаў ён.— Далібог, гэтыя разбойнікі ядуць з сярэбраных блюдаў! Самому каралю не падаюць на багацейшым посудзе».

Шэрыф уважліва прыгледзеўся і зразумеў, што перад ім яго сталовы сервіз. У яго раптам неяк дзіўна адвісла сківіца. Разбойнікі гучна зарагаталі: такі смешны быў у шэрыфа твар.

— Што такое? — гнеўна закрычаў ён.— Мой сярэбраны посуд! Ён знаходзіўся за сямю замкамі ў маёй скарбніцы, ■ цяпер бачу яго тут, у руках вераломных бадзяг! О, Рэно Грынліф, Рэно Грынліф, я ведаю, гэта ты яго выкраў!

Волат шырока ўсміхнуўся:

— Завіце мяне Маленькі Джон, пан шэрыф. Другое імя я ўжо скінуў ■ сябе разам з плашчом.

Вочы шэрыфа бліснулі шаленствам. Яго абвялі вакол пальца! Рэно Грынліф, яго прыслужнік, на самай справе пераапрануты страшны разбойнік Маленькі Джон, а ён і не ведаў! Шэрыф асеў на дзёран. Здавалася, цяпер і кавалак не палезе яму ў рот. Ды Робін Гуд так далікатна запрашаў, а голад так настойліва прымушаў яго ўзяцца за ежу, што шэрыф нарэшце пачаў есці і добра такі падсілкаваўся.

Як заўсёды пасля сытай вячэры, шэрыфа пацягнула легчы на мяккую пуховую пасцель і добра выспацца, але ў Шэрвудскім лесе не было пуховых пярын.

— Вы застанецеся з намі, шэрыф,— сказаў яму Робін Гуд,— і гэтай ноччу да вашых паслуг будзе лясны ложак. Гэта вельмі справядліва, бо вы сваёй жорсткасцю павыганялі шмат бедных сялян ■ іх вёсак у лес, дзе яны вымушаны спаць на голай зямлі, не заўсёды маючы плашч, каб накрыцца.

Робін Гуд загадаў Маленькаму Джону зняць з шэрыфа штаны і чаравікі, забраць падшыты мехам плашч і цёплую тоўстую камізэльку. Шэрыфу далі накідку з ярка-зялёнага сукна, і ён з радасцю ўзяў яе і захутаўся.

— А цяпер добрай ночы, шэрыф,— сказаў Робін Гуд.

— Добрай ночы? — здзівіўся шэрыф.— А дзе мне легчы? Дзе мой ложак?

— Ваш ложак? — усміхнуўся Робін Гуд.— У нас ва

ўсіх адзін ложак. Паглядзіце, што мае людзі робяць, і рабіце тое ж самае.

Шэрыф убачыў, што гэтыя дужыя, загартаваныя хлопцы кладуцца проста на голую зямлю, і зразумеў, што і яму давядзецца гэтак пераначаваць. Лясныя стралкі Робін Гуда захуталіся ў ярка-зялёныя плашчы-накідкі, расцягнуліся на траве, выбраўшы пад галаву замест падушкі вытырклы корань, і адразу заснулі глыбокім сном здаровых людзей, што жывуць на свежым паветры.

Шэрыф, хочаш не хочаш, таксама лёг на зямлю, але яна была яму пасцеллю пакутніка. Ён стараўся заснуць. Нейкі востры корань упіўся яму ў бок, і шэрыф павярнуўся на спіну, але паміж лапатак трапіўся ладны камень. Давялося адсунуцца далей. Аднак тут не было на што пакласці галаву. Шэрыф перайшоў на іншае месца. Там дзёран крыху ўзнімаўся, нібы падушка. Сон не браў яго, бо ён увесь час дрыжаў ад холаду, часам яго моцна калаціла. Цэлую ноч не звёў шэрыф вачэй і вельмі ўзрадаваўся, калі нарэшце пачало шарэць на ўсходзе. Ён устаў і пачаў хадзіць сюд-туд па паляне, каб хоць крышачку сагрэцца. Тут да яго падышоў Робін Гуд.

— Ці даводзілася вам калі-небудзь спаць на лепшым ложку, пан шэрыф? — засмяяўся атаман разбойнікаў.— Што вы цяпер скажаце пра наша жыццё пад гэтымі магутнымі дрэвамі?

Шэрыф сказаў:

— Горш не жыве ніводзін
Пустэльнік ці манах.
На ўсё пайсці я згодзен,
Каб знік ўвесь гэты жах.

А Робін Гуд яму:

— Не выйдзеш ты з Шэрвуда,
Год з намі будзеш жыць.
«Разбойнік Робін Гуда» —
Вось слаўна прагучыць!

Пачуўшы, што Робін Гуд задумаў трымаць яго ў Шэрвудскім лесе за палонніка цэлых дванаццаць месяцаў, шэрыф ажно застагнаў.

— Робін Гуд! — закрычаў ён.— Я лепш памру, чым яшчэ буду начаваць у гэтым лесе. Адсячы мне галаву, я табе дарую. Жыць як разбойнік! Не, не, ніколі!

Аднак праз хвіліну шэрыф пачаў маліць Робін Гуда не пазбаўляць яго жыцця і адпусціць на волю, горача абяцаючы, што, калі яго вызваляць, ён заўсёды будзе надзейным сябрам Робін Гуда.

Робін Гуд цярпліва слухаў, потым падняў руку, каб спыніць паток мальбы палоннага шэрыфа.

— Паслухайце, пан шэрыф,— сказаў ён і вострым позіркам сваіх праніклівых вачэй нібы працяў шэрыфа.— Вашаму жыццю з майго боку ніколі нічога не пагражала. Толькі не думайце, што гэта з павагі да вас. Ніякай павагі да вас у мяне няма. Але я паважаю вашу пасаду. Я не хачу караць прадстаўніка караля. Калі б вы не былі на службе ў караля, я павесіў бы вас на самым высокім дрэве ў Шэрвудскім лесе. А цяпер, перш чым пайсці, вы дасце мне ўрачыстае абяцанне.

Як гаворыцца ў адной старажытнай баладзе,

— Вось меч — на ім дай слова,
Ніколі і нідзе
Не зробіш мне благога —
На сушы й на вадзе.
Людзей маіх заўважыш
Удзень ці уначы,
Кляніся, ўміг развяжыш,
Як ім дапамагчы.

Шэрыф так абрадаваўся, што доўга не думаючы даў клятву. Робін Гуд паверыў яму на слова, аддаў яму каня, вывеў шэрыфа з лесу і паказаў дарогу ў Нотынгем.

Шэрыф патрухаў верхам дадому, увесь разбіты і змрочны, аддаўшыся горкім думкам пра сваю пустую скарбніцу.

# РОБІН ГУД, ДЖОРДЖ-А-ГРЫН І ЖАБРАК

Неяк аднаго дня Робін Гуд, Уіл Скарлет і Маленькі Джон ішлі па вялікай дарозе. Раптам да іх вушэй данесліся гукі вясёлай песні. Усе трое спыніліся, каб лепш разабраць словы, і вось што пачулі:

— Ні рыцар, ні сквайр,
Ні дзёрзкі барон,
Ні дзёрзкі барон
Не адважыцца шкодзіць Вэйкфілду —
Зарукай таму мой загон.

Трое сяброў прайшлі яшчэ крыху па дарозе і ўбачылі дужага з выгляду, вясёлага чалавека, які сядзеў на зямлі, прыхінуўшыся спінай да цёрну, і заліваўся драздом.

— А-а! Я ведаю яго,— сказаў Маленькі Джон.— Гэта Джордж-а-Грын, вэйкфілдскі заганяты.

Заганятым у тыя часы называўся чалавек, які меў загон — адгароджанае месца для жывёлы, што адбілася ад статка, ці для прыблуднага звера.

— Ён, відаць, вялікі весялун,— сказаў Робін Гуд.— Але не такіх мы шукаем. Пайшлі цяпер сюды,— і ён збочыў з бальшака на пшанічнае поле.

Але не паспелі яны прайсці па полі і дзесяць крокаў, як Джордж-а-Грын кінуў спяваць і закрычаў ім услед:

— Куды вы пайшлі? Гэй, куды вы пайшлі?
Так не ходзяць у нас тут ніколі.

З каралеўскай дарогі вы раптам сышлі
І пшанічнае топчаце поле!

— Усё-такі ён чалавек адважны,— спакойна сказаў Робін Гуд сваім спадарожнікам.— Нас трое, а ён адзін, і яшчэ камандуе.

— Думаю, у адвазе ён не ўступіць нікому ў Паўночным краі,— сказаў Маленькі Джон.— Я чуў, ён не адзін раз вырашаў спрэчкі [illegible] мячом і шчытом.

— Давайце выпрабуем яго,— прапанаваў Робін Гуд.— Смелыя людзі мне заўсёды па душы. Я вазьму яго да нас у атрад, калі ён дакажа сваю адвагу.

— А як мы зробім гэта, атаман? — пацікавіўся Уіл Скарлет.

— Я прыдумаў ужо. Выпрабаванне будзе сур'ёзнае. Мы ўтрох накінемся на яго, быццам узлаваліся за тое, што ён гэтак дзёрзка на нас крычыць. Калі ён не пабяжыць, а пачне біцца адзін супраць трох, значыць, чалавек гэты варты таго, каб стаць нашым таварышам.

— Гэй, вы! — гарлаў тым часам Джордж-а-Грын.— Чаго стаіце там, сярод поля, і лясы точыце? Сыдзіце з пшаніцы! Вяртайцеся на дарогу!

— Што я чую? — закрычаў яму Робін Гуд.— Ты думаеш, грубіян, мы дазволім табе ўказваць нам? Клянуся, зараз мы адсячом табе вушы!

Робін Гуд агаліў меч і рынуўся на Джорджа-а-Грына. Маленькі Джон з Уілам Скарлетам памчаліся за ім, на хаду размахвалі стальнымі клінкамі і крычалі:

— Ага, правільна, правільна, гаспадар! Адрэжам начыста гэтаму шэльму вушы!

Джордж-а-Грын паспешліва павярнуўся і зрабіў вялікі скачок убок. Але не, ён не ўцякаў. Ён спяшаўся да тоўстага цёрну. Там прытуліўся спіной да шырокага камля і ўпёрся нагой у вялікі камень. Бліснуў у паветры меч, выцягнуты з ножан, круглы шчыт прыкрыў яму грудзі. Джордж-а-Грын быў гатовы адбіваць напад. Трое накінуліся на яго. Пад імгненныя ўдары іх стальных клінкоў

Джордж-а-Грын таксама імгненна падстаўляў свой шчыт. Яму часам нават удавалася нанесці ўдар у адказ, і не раз ён быў вельмі блізкі да таго, каб адплаціць разбойнікам тым жа, чым яны пагражалі яму. Неўзабаве Робін Гул пераканаўся, што пастух-заганяты добра валодае зброяй.

— Апусці долу меч,— тут сказаў Робін Гуд,—
А свае мы схаваем у ножны.
Пастуха не страчаў я такога, як тут,
На мячах гэтак б'ецца не кожны.

Бой спыніўся. Джордж-а-Грын з задавальненнем перавёў дух і абапёрся на меч, каб адпачыць. Але ні на міг не спускаў вачэй з гвалтаўнікоў і ў любы момант гатовы быў зноў абараняцца.

— Паслухай, заганяты,— сказаў яму Робін Гуд,— хлопец ты што трэба. Такія, як ты, мне даспадобы. Пойдзеш да нас?

— Куды гэта? — пацікавіўся Джордж-а-Грын.

— У наш слаўны Шэрвудскі лес. Там на лясных палянах мае малайцы палююць на аленяў і цешацца вольным жыццём.

— Хто ты?

— Я — Робін Гуд.

Джордж-а-Грын хуценька схаваў у ножны меч, адкінуў ад сябе шчыт, падышоў і пацiснуў працягнутую яму Робін Гудам руку.

— Я з вамі,— сказаў ён рашуча.— Не адзін дзень ужо хачу стрэцца з табой, каб зажыць вольным, незалежным жыццём. Вазьмі мяне ў свой атрад.

— Бяру,— весела сказаў Робін Гуд.— А хлопцы гэтыя, Маленькі Джон і Уіл Скарлет, будуць тваімі таварышамі.

— А-а... Маленькі Джон...— Джордж-а-Грын падаў руку велікану.— Я пачаў ужо здагадвацца, хто ты такі. Калісьці бачыў цябе ў Вэйкфілдзе, яшчэ да таго, як ты падаўся ў лес.

Маленькі Джон і Уіл Скарлет моцна пацiснулі свайму новаму таварышу руку, а потым разам селі пад вялікім цёрнам, каб падсілкавацца. Джордж-а-Грын дастаў са сваёй дарожнай сумкі хлеб, ялавічыну, эль.

Калі яны паелі, Робін Гуд падняўся з травы і сказаў сябрам:

— Пасядзіце тут і пасачыце за дарогай. А я прайду крыху далей. Калі нічога цікавага не сустрэну, вярнуся да вас.

— А калі ў нас нічога не будзе цікавага, што нам рабіць? — спытаў Маленькі Джон.

— Што ж, тады даганяйце мяне,— адказаў Робін Гуд.

Маленькі Джон, Уіл Скарлет і Джордж-а-Грын засталіся пад цёрнам, а Робін Гуд пакрочыў па бальшаку. Праз дзве мілі яго перараазала палявая дарога. Робін стаяў на скрыжаванні даволі доўга. Нарэшце на палявой дарозе паказаўся чалавек у жабрацкіх лахманах. Ен ішоў роўным, рашучым крокам. Робін Гуд пільна ў яго ўглядаўся.

«Клянуся, чалавек гэты ідзе смела і трымае ў руцэ добры сук ад дзікай яблыні,— падумаў Робін Гуд.— Людзі кажуць, што такія бадзягі-старцы нярэдка падбіраюць усё, што дрэнна ляжыць, і можна знайсці каштоўныя рэчы і ў іхніх брудных торбах. Зараз я з ім пабалакаю».

Робін Гуд стаяў пасярод палявой дарогі. Жабрак заўважыў яго, але ішоў усё тым жа роўным, шырокім крокам — ні шпарчэй, ні павольней. Чым бліжэй ён падыходзіў, тым ясней рабілася, што мець з ім справу небяспечна. Лахманы яго развяваліся ад ветру, і цераз шматлікія прарэхі віднеліся загарэлыя дужыя рукі і ногі. Падраны плашч быў скрозь у латках усіх колераў вясёлкі. На галаве ў яго былі адразу тры патрапаныя і сплюшчаныя капелюшы адзін на адным. Вялікая скураная сумка матлялася на сырамятным раменьчыку, перакінутым цераз шыю.

— Спыніся, прыяцель,— сказаў Робін Гуд.— Спыніся, і давай пагаворым.

Жабрак і вухам не павёў, зрабіў выгляд, што ні слова не пачуў. Ішоў, не запавольваючы хады.

— І ўсё-такі давядзецца табе спыніцца,— сказаў Робін Гуд і перагарадзіў дарогу.

— Далібог, у мяне няма ахвоты слухаць цябе,— буркнуў жабрак.— Мне, скажу я табе, яшчэ далёка ісці, і не хочацца прыходзіць у начлежны дом позна, бо вячэру ўжо ўсю паядуць. Уяўляеш, які будзе ў мяне выгляд, калі ў жываце будзе пуста да раніцы?

— Нядобра, што ты клапоцішся пра тое, каб самому павячэраць, а пра другіх не думаеш,— сказаў Робін Гуд.— А як наконт маёй вячэры? Пазыч мне трохі грошай, і я мігам злятаю ў бліжэйшую карчму.

— Грошай! — закрычаў жабрак.— У мяне няма грошай, каб табе пазычыць. А каб нават і былі, я табе і медзяка не даў бы. Гадамі ты не старэйшы за мяне, і здароўе ў цябе не горшае. Так што прэч з дарогі, сам здабывай сабе на харч! Калі ты думаеш, што будзеш есці хлеб за мае грошы, дык у цябе і крошкі ў роце не будзе ўсе наступныя дванаццаць месяцаў. За гэта я табе галавой ручаюся.

— Ну і дзёрзкі ж ты на язык! Знімай сваю торбу, жабрак, я сам пагляджу, што ў ёй ёсць! Развязвай завязкі, а то разарву вось гэтай рукой. Калі там маецца хоць адзін медны грош, дык я хачу на яго зірнуць.

— Без прадаўца няма купца,— усміхнуўся жабрак.— А што будзе, калі я цябе не паслухаюся?

— Як не паслухаешся? — павысіў голас Робін Гуд.— Толькі паспрабуй заўпарціцца і падняць шум, і я ўраз зраблю дзіравай тваю жабрацкую шкуру.

— Лепш прапусці мяне,— сказаў жабрак са злавеснай усмешкай.— Мне не страшны твой лук і твае тоўстыя стрэлы. Папярэджваю, ад мяне ты нічога не даможашся, акрамя непрыемнасцей.

Робін Гуда апанавала злосць. Ён хуценька ўскінуў лук і паклаў вялікую стралу на цеціву. Але жабрак на імгненне апярэдзіў яго і нанёс такі ўдар сваім суком, што і лук, і тоўстая страла разляцеліся на дробныя кавалкі.

Робін Гуд схапіўся рукой за эфес мяча. Але зноў узняўся вялікі сук і ўдарыў па костачках пальцаў. Рука

ў Робін Гуда адразу анямела, і ён не змог выцягнуць з ножан меч. Праз імгненне трэці раз апусціўся тоўсты яблыневы сук — цяпер ужо на галаву разбойніка. Хрась! — і Робін Гуд распасцёрся на зямлі. А бясстрашны жабрак абапёрся на сваю кульбу і пачаў насміхацца з беднага Робін Гуда.

— Уставай, чалавеча! — хіхікаў ён.— Рана яшчэ спачываць. Падыміся і палічы, колькі грошай ты ў мяне ўзяў, а тады ідзі ў карчомку і весела пагуляй з прыяцелямі, выпі вінца і піўца за кошт жабрака. Уставай, кажу табе!

Але пасля такога моцнага ўдару па галаве Робін Гуд не спяшаўся падымацца на ногі. Жабрак яшчэ крыху пакпіў з распластанага на зямлі праціўніка і пайшоў сваёй дарогай.

Хвілін праз пяць на дарозе паказаліся Маленькі Джон, Уіл Скарлет і вясёлы пастух-заганяты Джордж-а-Грын. На іх долю не выпала ніякіх прыгод, і яны пайшлі шукаць свайго атамана. Убачыўшы здалёку, што ён ляжыць пластом на зямлі, яны з усіх ног памчаліся да яго.

— Што здарылася, атаман? — з трывогай спытаў Маленькі Джон.— Што з табой? Тваё лук і страла пашчапаныя і галава ў крыві.

— Ох, сябры мае,— прастагнаў Робін Гуд.— Сустрэўся мне на дарозе нейкі старац. Ён так спрытна арудуе кульбай, як ніхто іншы,— і расказаў, што з ім было.

— Падумаць толькі! — усклікнуў Маленькі Джон.— Мы не дазволім нейкаму жабраку так жорстка абыходзіцца з нашым атаманам, ды яшчэ ўцячы цэлым і здаровым! Ты, Уіл, пабудзь тут з Робін Гудам, а мы з Джорджам дагонім нахабніка і адплацім яму той жа манетай.

Ніхто не пярэчыў. Уіл Скарлет узяўся перавязваць галаву Робін Гуду, а Маленькі Джон з Джорджам-а-Грынам кінуліся даганяць старца.

— Толькі беражыцеся яго кульбы! — крыкнуў ім услед Робін Гуд. Маленькі Джон адказаў:

— Што кульба нам? Такой бяды!
Мы выб'ем палку з рук,
Прывалачом яго сюды,
Вішчыць хай, як вяпрук.
Тады вяршы ужо свой суд —
Пад меч альбо на сук.

— Я ведаю, як дагнаць нягодніка,— сказаў Маленькі Джон Джорджу-а-Грыну.— Тут паблізу ёсць сцяжынка праз лясок. Яна скарачае дарогу на тры мілі і зноў выходзіць на бальшак. Там і падпільнуем жабрака.

Неўзабаве яны павярнулі ў лес і пабеглі напрасткі, не разбіраючы дарогі. Яны гарэлі жаданнем апярэдзіць і злавіць чалавека, які гэтак жорстка расправіўся з іх атаманам. Нарэшце яны апынуліся ў вузкай, зарослай дрэвамі лагчыне, па якой пралягала вялікая дарога. Тут Маленькі Джон схіліўся да зямлі і пачаў уважліва ўглядацца ў пыл і пясок.

— Свежых слядоў чалавека або звера на дарозе няма,— нарэшце вызначыў ён.— Відаць, жабрак тут яшчэ не праходзіў.

— Тады ён наш,— абрадаваўся Джордж-а-Грын,— і шкурай сваёй заплаціць за сённяшні дзёрзкі ўчынак.

У адным месцы дарога звужвалася і ішла паміж двух вялікіх дубоў. Прыяцелі схаваліся за дрэвы. Адзін стаў за адзін дуб, другі — за другі. Хутка яны ўбачылі старца. Ён ішоў сваім звычайным шырокім размашыстым крокам і нешта ціхенька насвістваў, як чалавек, якому ніхто і нічога не пагражае. Калі ён параўняўся з дубамі, Маленькі Джон схапіўся за яго доўгі кій, а Джордж-а-Грын прыставіў кінжал да горла жабрака.

— Подлы нягоднік! — закрычаў Джордж.— Адпусці кій, а не, дык гэты кінжал перарэжа табе горла!

Жабрак выпусціў з рук кій. Маленькі Джон узяў і ўсадзіў яго ў зямлю.

— Злітуйцеся, не забівайце! — залямантаваў старац. Становішча яго было безнадзейнае, бо яго трымалі два

рослыя здаравякі.— Прыміце гэты страшны нож ад маёй шыі, а то нядоўга і памерці ад страху. Што я вам зрабіў? За што вы хочаце забіць мяне?

— За што? — закрычаў Маленькі Джон.— Ах ты абадранец! Ты ледзь не забіў самага высакароднага, самага сумленнага чалавека, які калі-небудзь нараджаўся на свет! Там, на скрыжаванні дарог.

Прывалачом цябе туды,
Вішчы хоць, як вяпрук.
Наш атаман учыніць суд —
Пад меч альбо на сук.

Але старац настойліва прасіў літасці, маліў не забіваць яго.

— Паны дабрадзеі,— прасіў-маліў старац.— Якая вам карысць, калі вы пазбавіце жыцця нейкага жабрака? Адпусціце мяне з мірам, і я сам аддам вам усё, што ёсць у маёй сумцы: сто фунтаў золатам ды яшчэ трохі серабра. Я збіраў усё гэта не год і не два, але чалавеку лепш расстацца з грашамі, чым з жыццём.

— Ты чуеш, што кажа гэты шэльма? — абурыўся Джордж-а-Грын.— У яго жабрацкім кашальку цэлых сто фунтаў і нават больш! Не, сапраўды, пра чалавека нельга меркаваць па яго адзежы. Знешнасць падманлівая.

— А я ўжо даўно гэта ведаю,— усміхнуўся Маленькі Джон.— Не раз даводзілася пераканацца, што ў наш трывожны век дзіравы плашч прыкрывае вялікае багацце. Што ж, выкладвай, што ты там назбіраў. Паглядзім, колькі ў цябе грошай.

— З вялікім задавальненнем,— сказаў жабрак. Ён адшпіліў ад раменьчыка вялікую скураную сумку і асцярожна, з намаганнем, нібы цяжкі груз, апусціў на зямлю. У вузкай лагчыне падзьмуў моцны вецер. Пад яго раптоўным подыхам лахманы старца ўзвіліся. Ён павярнуўся спінай да разбойнікаў, нібы хаваючыся ад ветру, і нахіліўся над сумкай. Маленькі Джон і Джордж-а-Грын уважліва сачылі за кожным рухам жабрака.

Жабрак засунуў абедзве рукі ў сумку і раптам падняў іх угору. Але не грошы былі ў яго ў жменях, а мука, і ён сыпануў яе проста ў твар разбойнікам. У Маленькага Джона і Джорджа-а-Грына адразу пацямнела ўваччу і заняло дыханне. Мука зацерушыла ім вочы, забіла ноздры, рот і ўсё сыпалася і сыпалася, пакуль яны зусім не аслеплі і не пачалі задыхацца. А тут яшчэ моцны вецер узвіхурыў муку, схаваўшы за непрагляднай белай плёнкай каварнага і спрытнага жабрака.

Жменю за жменяй кідаў ён муку ў твары разбойнікаў і напаследак рэшткі вытрас ім на галовы. Небаракі намагаліся нешта крычаць, але мука душыла іх, яны сутаргава хапалі ротам паветра, намагаючыся выціснуць нейкія словы, няшчадна церлі вочы, але ад гэтага ім рабілася яшчэ горш.

Раптам старац скочыў і схапіў свой кій, які тырчаў у зямлі там, дзе яго ўваткнуў Маленькі Джон.

— Што гэта з вамі, паны дабрадзеі?! — закрычаў жабрак.— Ой, здаецца, я нарабіў вам бяды, запэцкаў мукой вашу вопратку! Дык, калі ласка, я памагу выбіць вашы куртачкі,— і пачаў бязлітасна малаціць цяжкім кіем няшчасных разбойнікаў. Бух! Бух! — апускаўся кій жабрака на спіны і плечы Маленькага Джона і Джорджа-а-Грына. Мука зноў белым воблакам заклубілася вакол іх, і яны, як сляпыя шчаняты, тыцкаліся ва ўсе бакі, выстаўлялі рукі, шукаючы свайго крыўдзіцеля, але той лёгка ўхіляўся ад іх і няшчадна малаціў па галаве, па спіне, па плячах, нібы цэпам па снапах.

Нарэшце небаракі зразумелі: выйсце ёсць толькі адно — ратавацца ўцёкамі. Адчуваючы боль ва ўсім целе, яны задалі драпака па лагчыне, ледзь разбіраючы дарогу.

— Куды вы спяшаецеся? — крычаў жабрак і бег за ўцекачамі, якія імчаліся, спатыкаючыся аб карані і апалае вецце.— Пачакайце адну хвілінку! Я з вамі яшчэ не разлічыўся! Не бойцеся, я не жмінда!

Але Маленькаму Джону і Джорджу-а-Грыну ўжо до-

сыць перапала той манеты, якою старац плаціў свае даўгі, і яны яшчэ шпарчэй прыпусцілі да лагчыны.

— Ага, вы не маеце часу! Дык вось вам апошняе маё бласлаўленне на дарогу! — жабрак дагнаў іх і з усяе сілы агрэў іх па чарзе кіем, павярнуўся і пайшоў сваёй дарогаю.

Калі Маленькі Джон і Джордж-а-Грын пераканаліся, што жабрак пакінуў іх у спакоі, яны спыніліся каля ручая і прамылі вочы. Да іх вярнуўся зрок. А жабрака ўжо і след прастыў. Ён знік у лесе, як іголка ў стозе сена. Давялося ім ні з чым вяртацца да атамана і Уіла Скарлета.

— Што такое? — здзівіўся Робін Гуд, убачыўшы іх белыя постаці.— Што з вамі здарылася? Вы пайшлі за жабраком, але, відаць, набрылі на млын і [redacted] галавы да ног запэцкаліся мукой.

Маленькі Джон шырока ўхмыльнуўся. Хоць яму і шмат перапала, але пачуццё гумару перамагло.

— Мы схапілі яго, нікуды ён ад нас са сваім кашальком не ўцёк. Нават сам прапанаваў нам выкуп,— і Маленькі Джон расказаў усё, як было: і пра муку, і пра кій.

Робін Гуд і Уіл Скарлет не маглі ўтрымацца ад смеху. Уіл аж заходзіўся ад рогату, бо адзін ён не пакаштаваў жабрацкай палкі.

— Што ж тут скажаш, жабрак нас адолеў,— зазначыў Робін Гуд, бо паважаў смелых і спрытных працаўнікоў.— Давядзецца нам вяртацца, акрамя сінякоў і шышак, [redacted] пустымі рукамі. І здаецца, ён пакалаціў вас абодвух куды горш, чым мяне.

— Я акрыяю толькі праз тыдзень,— прабурчаў Маленькі Джон.

— На мне жывога месца не засталося,— паведаміў Джордж-а-Грын.

— Думаю, нам лепш нікому нічога не расказваць,— сказаў напаследак Робін Гуд,— бо мы зняславім сябе павек. Гэта ж трэба, каб нас збіў нейкі старац!

Маленькі Джон і Джордж-а-Грын не мелі, вядома, ніякай ахвоты выстаўляць сябе на пасмешышча, але Уіл Скарлет, відаць, палічыў, што гэтай смешнай гісторыяй

нельга з кім-небудзь не падзяліцца, бо неўзабаве яна пайшла гуляць па краіне. Склалі нават баладу і доўга яшчэ спявалі ў народзе пра сустрэчу Робін Гуда і яго слаўных стралкоў з жабраком, у якога торба была набіта мукой.

## Раздзел чатырнаццаты



# БІСКУП ГЕРФАРДСКІ І АЎЧАРЫ

Ясным сонечным ранкам, праз некалькі дзён пасля злашчаснай сустрэчы з жабраком, Робін Гуд сядзеў на бервяне каля пячоры, што служыла прытулкам яму і яго людзям, і ладзіў лук. На міг адарваўшыся ад свайго занятку, ён убачыў, што да яго шыбуе шавец Лоб. Лоб ужо ачуняў пасля хваробы і цяпер ішоў у Шэрвудскі лес з важнай весткай.

— Навіна, атаман, навіна! — сказаў шавец, падышоўшы.

— Пра каго і пра што, добры Лоб? — спытаў Робін Гуд.

— Пра біскупа Герфардскага.

Робін Гуд насупіў бровы, бо пасля вянчання Алана-а-Дэйла біскуп Герфардскі зрабіўся злейшым ворагам Робін Гуда. Робін Гуд узненавідзеў біскупа за яго прагнасць і жорсткасць.

— Расказвай, Лоб! — загадаў Робін Гуд.

— Біскуп цяпер у Нотынгеме,— паведаміў шавец,— а заўтра паедзе праз Барнасдэйлскі лес. Ён сабраў арэндную плату за царкоўныя землі. Яго грашовыя сумкі напакаваны золатам і серабром, бо ён прымусіў арандатараў разлічыцца поўнасцю, хоць час цяпер цяжкі і грошай у

людзей мала. Забраў апошні пені ад удоў і сірот, не паменшыў ні на грош непасільных пабораў.

— Так! — спакойна прамовіў Робін Гуд.— Думаю, пара ўжо добра правучыць гэтага пыхлівага біскупа. Я запрашу яго на абед.

Шавец усміхнуўся. Ен ведаў, што гэта значыць. Багацей-прыгнятальнік, якога пачастуе абедам Робін Гуд, павінен шчодра расплаціцца.

Назаўтра раніцай Робін Гуд і вялікі атрад стралкоў рушылі ў Барнасдэйлскі лес, праз які павінен быў ехаць біскуп Герфардскі.

— Упалюйце аленя,— сказаў Робін Гуд,—
І яго асвяжуйце як след.
Сёння біскуп са мной паабедае тут
І заплаціць спаўна за абед.

Забітага аленя прынеслі на зялёную палянку пры лясной дарозе, і каля яго засталіся Робін Гуд і яшчэ шэсць чалавек. Астатнія схаваліся за дрэвамі і ў хмызняку.

Робін Гуд і шасцёра яго людзей былі апрануты як бедныя аўчары. Замест ярка-зялёных куртак на іх былі старыя падраныя накідкі з шэрай байкі, а замест лукаў і мячоў — пастуховыя кіі з кручкамі на канцах. Яны мелі самы мірны выгляд, таму біскуп Герфардскі, які ехаў з вялікай узброенай світай, прыняў іх за простых аўчароў, што вырашылі крыху адпачыць і павесяліцца, бо разбойнікі паспелі ўжо развесці вялікае вогнішча і цяпер весела скакалі вакол яго.

Але калі ён пад'ехаў бліжэй і ўбачыў каля вогнішча тлустага аленя, якога збіраліся смажыць, яго ахапіў гнеў. Ен быў упэўнены, што ніхто, акрамя дваран і высокіх царкоўных асоб, не мае права есці смачнае мяса аленяў, і вырашыў, што натрапіў на гняздо вандроўных браканьераў.

— Што вы робіце? — біскуп ажно вар'яцеў.—
І чаму узнялі гэткі тлум?

Каралеўскіх аленяў вялікіх б'яце,
Не з'ясце усё. Рэшта у глум?

— Пастухі мы,— яму адказаў Робін Гуд,—
Мы авечак пасём круглы год.
А сёння прыйшлі ў каралеўскі Шэрвуд
Адпачыць і насыціць жывот.

Пачуўшы дзёрзкі адказ, біскуп ледзь не ашалеў ад злосці. Нечуваная абраза! Яшчэ не было выпадку, каб пастухі не станавіліся перад ім на калені [illegible] найвялікшай пачцівасцю. Ды вось знайшоўся ж нейкі хам, што размаўляе [illegible] ім гэткім задзірлівым тонам.

— Ах вы зладзеі, нягоднікі! — зароў ён.— Вы будзеце гайдацца на вісельні! Гэта дакладна, як і тое, што я — біскуп Герфардскі. Кароль будзе ведаць пра ваша злачынства і доўга не думаючы пашле вас на шыбеніцу.

— Даруйце нам, даруйце! — сказаў Робін Гуд.— Біскуп павінен мець літасцівае сэрца. Ганьба ляжа на вас, пан біскуп, калі вы забераце столькі жыццяў за аднога забітага аленя.

— Ніякай вам літасці! — гневаўся біскуп.— Мы арыштуем вас, і вы адкажаце за ўсё перад каралём.

Ён падаў знак сваёй світе, і некалькі ўзброеных чалавек выйшлі наперад, каб схапіць пастухоў. Робін Гуд спрытна адскочыў убок, прыхіліўся спінай да дуба і дастаў з-пад падранага байкавага плашча сігнальны ражок. Ён паднёс яго да рота і так звонка і пранізліва затрубіў, што біскуп і ўся яго світа знямелі ад здзіўлення, а праз момант яшчэ і ад страху, бо з-за кожнага дрэва, з-за кожнага куста выскачылі людзі. Семдзесят грозных стралкоў выстраіліся перад біскупам і яго войскам з лукамі ў руках. Стрэлы гатовы былі сарвацца з цяціў па першаму знаку Робін Гуда.

Біскупавы людзі зразумелі, што трапілі ў засаду, і кінуліся ратавацца. Біскуп памкнуўся за імі, ды занадта паспешліва завярнуў свайго каня, той спатыкнуўся і паваліў-

ся на зямлю. Біскуп вылецеў з сядла, але не так пабіўся, як перапужаўся. Маленькі Джон падскочыў і падняў яго. Біскуп зразумеў, што ён апынуўся ва ўладзе тых самых людзей, якім нядаўна пагражаў шыбеніцай.

— Знаёмся, гэта біскуп Герфардскі,— са смехам сказаў Робін Гуд Маленькаму Джону,— і ад яго нам не будзе ніякай літасці. На шчасце, яна нам цяпер і не патрэбна.

— Галаву яму з плеч ці на сук,— прагрымеў бас Маленькага Джона.

Прапанова Маленькага Джона перапалохала біскупа да смерці. Яго тлусты твар збялеў. Цяпер ужо настала яго чарга прасіць літасці.

— Даруйце, даруйце мне,— біскуп маліў,—
Няўжо блізіцца смертны мой час?
Дарогай бы гэтаю я не хадзіў,
Каб ведаў, што стрэну тут вас.

— Ну, вядома, не хадзіў бы,— сказаў Робін Гуд.— Але мы вам не даруем. Пойдзеце з намі ў лес.

Хочаш не хочаш, давялося біскупу Герфардскаму ісці з Робін Гудам. Лугавымі і ляснымі сцежкамі дабраліся яны неўзабаве ў глухую, патаемную мясціну, дзе быў прытулак разбойнікаў.

На паляне гарэла яркае вогнішча. Некалькі чалавек гатавалі на агні ежу, а брат Тук наглядаў за імі і даваў настаўленні.

Калі біскуп убачыў чалавека ў манаскім адзенні, у яго з'явілася надзея, што ён знойдзе дапамогу з боку сабрата па царкве, і падышоў да яго. Але Тук не звярнуў на яго ніякай увагі. Ён то крычаў нешта кухарам, то прабіраў аднаго з іх за тое, што падгарэла цэлая патэльня адбіўных. Біскупу нічога не заставалася, як адысці ад манаха ні з чым.

Неўзабаве ўсё было гатова да абеду. Ад смажанай алеціны ішоў такі смачны пах, што ў біскупа слінкі пацяклі. Гэтай раніцай ён шмат ездзіў і хадзіў, і свежае ляснoе паветра нагнала яшчэ большы апетыт.

Брат Тук прачытаў малітву, і ўсе ўзяліся за яду. Біскуп Герфардскі ачысціў сваю талерку амаль адначасова з астатнімі — разбойнікі таксама добра выгаладаліся. Пад рукой у яго стаяў вялікі кубак. Спачатку ў ім быў эль, а потым чырвонае віно. Біскуп еў і піў, нібы жывот яго быў прорвай. Калі біскуп адваліўся ад яды, дзень ужо быў на зыходзе.

— Мне пара ехаць,— сказаў ён.— Падайце рахунак. Колькі з мяне за абед?

— Ну што ж,— сказаў Робін Гуд,— ваша светласць мае рацыю. Пасля таго як госць добра падсілкуецца, трэба разлічыцца. Але хто ж зробіць падлікі, пане біскуп?

Біскуп абвёў позіркам прысутных і крыху падумаў.

— Я хацеў бы, каб рахунак склаў вось гэты дастойны манах жабрацкага ордэна.— Тоўсты царкоўнік падціснуў губы і напусціў на сябе строгі выгляд.— Я ўпэўнены, што ён добры сын царквы нашай і не пакрыўдзіць ні мяне, ні вас, Робін Гуд.

Ліслівымі словамі да брата Тука біскуп хацеў выратаваць сваю казну, але ён не ведаў, што за чалавек гэты вясёлы і гаваркі слуга божы. Твар Тука засланяў вялікі чорны скураны куфаль, з якога ён цягнуў эль. Калі ён нарэшце выжлукціў яго і апусціў куфаль, у вачах у манаха паблісквалі іскрынкі.

— Нават так? — прабасіў ён.— Значыць, я павінен сказаць, колькі заплаціць біскупу за сённяшні шчодры пачастунак?

— Ага, ага, мой добры Тук,— пацвердзіў Робін Гуд.— Біскуп зрабіў правільны выбар. Як скажаш, так і будзе.

— У такім разе,— зноў прабасіў манах,— яго светласць павінна высыпаць усё, што маецца ў яго кашальку...

— Я зраблю гэта з радасцю! — усклікнуў біскуп і дастаў з сумкі, што вісела ў яго на поясе, кашалёк.— Вось ён, кашалёк. У ім адзінаццаць сярэбраных пенсаў, бярыце ўсе...

— Я не ўсё яшчэ сказаў,— перабіў яго Тук.— Ваша светласць павінна высыпаць усё з гэтага кашалька і яшчэ

вунь з той вялікай скуранои сумкі, што вісіць на сядле ў каня.

— Не! Не! — пранізліва закрычаў біскуп.— Хай яна там і вісіць! Яе, прашу вас, не чапайце. Рукі простых людзей не павінны кранаць тых грошай. Яны належаць царкве. У гэтай сумцы бедны збор з арандатараў царкоўных зямель.

— Бедны збор! — абурыўся Робін Гуд.— Скажыце лепш, з бедных арандатараў, пан біскуп. Большую частку тых грошай вы адабралі ў беднякоў, я гэта добра ведаю. Давай, Маленькі Джон, пакажы нам, якое багацце вязе з сабою пан біскуп.

Волат усхапіўся, узяў біскупаў плашч і разаслаў на траве. Потым пайшоў да біскупавага каня і вярнуўся з вялікай сумкай, якая была клапатліва прытарочана да сядла.

Усе вочы скіраваліся на туга напакаваную цяжкую сумку. Пачуўся прыглушаны гул галасоў, калі Маленькі Джон развязаў яе і з торбы шчодрым струменем пасыпаліся залатыя манеты.

— Глядзі, колькі грошай, атаман! — сказаў Маленькі Джон.— Вельмі прыемнае відовішча.

— Палічы, колькі тут,— папрасіў Робін Гуд.

— Тры сотні фунтаў,— адказаў Маленькі Джон, палічыўшы грошы.

— Забяром усе,— рашуча прамовіў атаман разбойнікаў.— Перш-наперш аддамо бяднейшым арандатарам тое, што ўзяў у іх біскуп. Рэшту пакінем на памяць аб прыемным абедзе, якім яго светласць біскуп Герфардскі меў ласку разам з намі частавацца.

Біскуп увесь пачарнеў ад злосці. Разбойнікі гэтак вольна распараджаюцца яго грашамі! Ён узарваўся і пачаў абражаць іх, але Робін Гуд толькі смяяўся.

— Пасля добрага абеду ў чалавека павінен быць лепшы настрой,— сказаў ён.— Не лаяцца трэба і пагражаць, а слухаць музыку і скакаць. Зайграй нам што-небудзь вясёленькае на арфе, Алан-а-Дэйл, і яго светласць біскуп Герфардскі паскача пад яе.

— Яшчэ як паскача! — загрымеў Маленькі Джон, калі Робін Гуд пацягнуў біскупа за руку.— Я памагу яму.

Робін Гуд зайграць падаў Алану знак
І біскупа ўзяў за руку,
І біскуп стары заскакаў, як юнак,
Бо баяўся вісець на суку.

На вялікую радасць разбойнікаў, Робін Гуд і Маленькі Джон прымусілі біскупа скакаць пад прыемныя гукі Аланавай арфы. Тоўсты біскуп танцор быў нязграбны, з яго твару не сыходзіла кіслая міна, калі ён падскокваў і прысядаў. Ім валодаў страх, ён не асмельваўся не паслухацца. Грошы свае ён ужо страціў, але жыццё страціць не хацеў.

Біскуп Герфардскі скакаў, пакуль зусім не знямогся. Тады Робін Гуд загадаў яму сесці на каня і ехаць. Біскупу не трэба было паўтараць два разы. Ен ускараскаўся на сядло і паспяшаўся ў Нотынгем.

Раздзел пятнаццаты



## РОБІН ГУД І МЕДНІК

Калі біскуп Герфардскі вярнуўся ў Нотынгем без ніводнай, нават дробнай манеты з тых грошай, што ён сабраў за арэнду, небарака адразу пайшоў да шэрыфа, каб расказаць пра ўсё і параіцца з ім, што рабіць. А ў таго ж таксама нядаўна ачысцілі скарбніцу, і цяпер яна стаяла пустая. Абодва ненавідзелі Робін Гуда.

Назаўтра на рыначнай плошчы ад імя караля было аб-

вешчана, што кожны, хто захоча злавіць у Шэрвудскім лесе славутага атамана разбойнікаў, атрымае ордэр на яго арышт і ўзнагароду ў сто фунтаў золатам за яго галаву.

Гараджане, якія слухалі аб'яву вяшчальнікаў каля рынчнага крыжа, пераглянуліся і заўсміхаліся. Яны ведалі, як лёгка паабяцаць сто фунтаў і як цяжка гэтыя грошы зарабіць. Ніхто не выйшаў наперад і не вызваўся ісці на пошукі разбойніка.

З краю натоўпу стаяў чалавек маленькага росту, каржакаваты, [redacted] брудным тварам і кірпатым носам. Вялікі скураны мех вісеў у яго за спінай на ручцы цяжкага малатка, які ён трымаў за брусок у левай руцэ. У правай у яго быў доўгі тоўсты яблыневы кій, на які ён абапіраўся, калі ўважліва слухаў вяшчальнікаў. Гэта быў вандроўны меднік, і звалі яго Джон Слай. «Сто фунтаў! — падумаў ён.— Што ж, узнагарода добрая. І ўсяго толькі за нейкага грабежніка, які хаваецца непадалёку ў лесе. Усё жыццё магу я вырабляць тазы і каструлі, а такіх грошай ніколі не ўбачу. Далібог, варта паспрабаваць».

Слай крануў за плячо гараджаніна, што стаяў побач, і спытаў:

— А ці цяжка, прыяцель, прабрацца ў логава Робін Гуда?

— Лягчэй лёгкага,— адказаў гараджанін і ўхмыльнуўся.— Але там ужо, думаю, пачнуцца для вас непрыемнасці.

Слай пагардліва трасянуў галавой. Дзень выдаўся спякотны, апошні сярэбраны пені медніка пайшоў на эль, якім ён наталіў сваю смагу.

— Клянуся, ён так лёгка не выслізне з маіх рук,— сказаў Слай і пайшоў па ордэр, які даваў яму права схапіць закаранелага злачынца Робін Гуда.

Медніку Слаю не толькі далі паперу, але яшчэ і падрабязна апісалі тыя мясціны, дзе можна знайсці Робін Гуда.

На другі дзень, на світанні, ён пайшоў з горада, цвёрда ўпэўнены, што схопіць Робін Гуда і разбагацее на гэтым. «Я пакажу паўночным тупіцам два-тры лоўкія пры-

ёмчыкі,— думаў меднік Слай, размахваючы над галавой цяжкай дубінай.— Яны тут нават і не ўяўляюць сабе, якія кемныя і хітрыя жыхары поўдня. Я з горада Бэнберы, а ў нас там, у Оксфардшыры, тупагаловыя не водзяцца».

Слай ішоў ужо дзве гадзіны. Сонца паднялося высока, было вельмі горача, і ён прысеў пад вялікім разгалістым дубам, каб выцерці пот з ілба і яшчэ раз глянуць на паперу, уладанне якой поўніла сэрца гордасцю.

Зірнуўшы на паперу, ён зноў схаваў яе ў сумку і сабраўся ўжо ісці, як раптам убачыў, што па дарозе ў яго бок ідзе, не спяшаючыся, чалавек высокага росту ў пунсовым адзенні, з мячом на поясе.

«Вось добра! — падумаў Слай.— Гэты прыстойна апрануты ёмен, відаць, тутэйшы. Ручаюся, ён пакажа мне дарогу да разбойніка Робін Гуда».

Слай пайшоў насустрач чалавеку ў пунсовым адзенні. А той брыў, унурыўшы галаву. Калі падарожны выпадкова падняў вочы і ўбачыў чалавека з сумкай за плячамі, ён ветліва яму ўсміхнуўся і пачціва прывітаў яго.

— Хай вам спрыяюць нябёсы,— адказаў на прывітанне меднік.— Б'юся аб заклад, вы тутэйшы жыхар.

— Правільна, я жыву тут недалёка,— сказаў чалавек у пунсовым.— А вы дзе жывяце?

— Я меднік Джон Слай, а прыйшоў з Бэнберы,— адказаў Слай.— Якія ў вас тут навіны?

— Ат! Баюся, не вельмі прыемныя для людзей вашага рамяства,— лагодна ўсміхнуўся незнаёмы.

— А што такое? — пацікавіўся Слай.

— Ды ўчора ў нас двух меднікаў у калодкі пасадзілі за тое, што яны перапіліся.

— Кіньце вы! — закрычаў Слай, чалавек даволі запальчывы.— Не стройце такія жарцікі са мной, прыяцель, а то ўраз пазнаёміцеся вось з гэтай тоўстай палкай.

— Вы прасілі расказаць вам навіны,— мякка запярэчыў незнаёмы,— і я рады быў вам услужыць. Аднак вы ж самі вандруеце з горада ў горад, з вёскі ў вёску,— навін у

вас, відаць, поўны кораб. Дык, можа, раскажаце што-небудзь цікавае?

— Цікавае?! — закрычаў Слай.— А цікавае тое, што можна зарабіць сто фунтаў золатам, калі зловіш злачынца.

— Ого, няўжо праўда? — не паверыў незнаёмы.— А як гэта зрабіць?

— Ды вельмі проста. У вашых лясах хаваецца дзёрзкі разбойнік па імені Робін Гуд. У мяне ёсць дазвол злавіць яго. І калі я схаплю яго і прывяду ў Нотынгем да шэрыфа, у мяне ў кішэні зазвіняць сто фунтаў узнагароды. Памажыце мне, і частка гэтых грошай будзе ваша.

Незнаёмы пацёр пальцам лоб і, здавалася, глыбока задумаўся.

— Грошы вялікія...— прамовіў нарэшце ён.— Думаю, я мог бы паказаць вам, дзе яго шукаць.

— Цудоўна! Цудоўна! — усклікнуў меднік Слай і задаволена захіхікаў.— Тады разам і пойдзем, бо ў мяне

Папера ёсць ад караля
Спыніць яго разбой.
Дзе ён, скажыце мне, і я
Вазьму і вас з сабой.

— Пакажыце, калі ласка, мне дакумент,— папрасіў дружалюбны незнаёмы,— і, калі ён сапраўдны, я зраблю ўсё, каб вы сустрэліся з Робін Гудам.

Слай толькі ўхмыльнуўся і падмаргнуў адным вокам.

— Не, не! — сказаў ён.— Дакумент гэты я нікому не пакажу. Не магу нікому даверыць. Памажыце знайсці разбойніка, і я падзялюся з вамі ўзнагародай. А калі не захочаце, што ж, мне напляваць: я і сам яго знайду.

— Бачу, вы чалавек асцярожны,— сказаў незнаёмы.— Але не асуджаю вас за гэта. Апошнім часам на дарогах сустракаюцца і нядобрыя людзі. Ды грошы ўсё ж вялікія, і я шчыра прызнáюся: мне вельмі б хацелася атрымаць з іх долю. А што, калі мы разам з вамі завітаем у «Каралеўскі алень» і ўсё там як след абгаворым за збанком халоднага элю?

— О, з радасцю,— меднік нават аблізнуўся, уявіўшы вялікі куфаль з элем, і пашыбаваў услед за незнаёмцам.

Праз мілю ці крыху больш яны падышлі да карчмы. Дзверы адчыніў ім сам карчмар. Гаспадар сустрэў госця ў пунсовым вельмі пачціва і адразу паспяшаўся прынесці пузаты збан элю і бутэльку канарскага. Маленькія вочкі медніка заблішчалі ад такой гасціннасці і шчодрасці. Ён з вялікай ахвотай і смакам апаражняў кубак за кубкам і горача дзякаваў чалавеку, што прывёў яго сюды, за цудоўны пачастунак.

Амаль увесь эль і віно выпіў ён адзін, бо незнаёмы толькі ледзь дакранаўся губамі да свайго куфля, а на падахвочванні медніка адказваў, што ён абдумвае, як найлепш ім злавіць Робін Гуда.

Збан і бутэлька апусцелі. Меднік пачаў кляваць носам і неўзабаве ўжо мірна хроп у кутку на лаве.

Чалавек у пунсовым усміхнуўся і адкрыў сумку Слая. Выняў з яе дакумент, прачытаў, і ўсмешка расплылася на яго твары. Ён засунуў паперу сабе ў кішэню і ціхенька выйшаў з карчмы.

Хвілін праз дзесяць у піўную залу ўвайшоў карчмар і аж здрыгануўся, калі ўбачыў, што чалавек у пунсовым знік, пакінуўшы бруднага абарванага медніка аднаго. Ён устрывожыўся: хто ж заплаціць за выпітае?

— Прачынайцеся! — крыкнуў ён і тузануў соннага госця.

— Не, не, больш не трэба, дружа, больш ні-ні,— скрозь сон прамармытаў меднік.— Я ўжо добра такі выпіў за твой кошт.

— Я паклапачуся, каб гэта было не за мой кошт! — залаваў карчмар.— Прачынайся, санлівы бадзяга, ты не заплаціў па рахунку!

— Ты ўжо заплаціў па рахунку? — зноў прамармытаў меднік, думаючы, што размаўляе са сваім сабутэльнікам.— Як велікадушна з твайго боку. Павер мне, я не забуду тваёй шчодрасці, калі справа дойдзе да дзяльбы ўзнагароды.

— Навошта мне твая ўзнагарода! — кіпеў гневам карчмар.— Аддай, што вінен, і будзь здароў,— і так страсянуў медніка, што з яго імгненна зляцеў сон.

— Што? Чаго? Чаму? — прагаварыў ён збянтэжана.— А дзе мой таварыш, адважны ёмен, які падрадзіўся ісці са мной і браўся заплаціць за дваіх?

Раптам позірк Слая ўпаў на раскрытую сумку. Ён схапіў яе і зазірнуў усярэдзіну. І адразу зароў, як бык.

— Памажыце! — закрычаў ён.— Памажыце! Мяне разарылі! Абакралі, абрабавалі, прадалі! Дзе папера ад караля? Яна знікла, яе ўкралі!

— Папера ад караля? — здзівіўся карчмар.— Хто даверыць такому абадранцу паперу караля? А што ў ёй?

— Паверце мне, добры гаспадар, у мяне быў дакумент ад самога шэрыфа Нотынгема: дазвол караля злавіць злачынца па імені Робін Гуд.

— Злавіць Робін Гуда? — усклікнуў карчмар.— Нічога не разумею... Ты ж толькі што піў з ім, з Робін Гудам. Толькі замест ярка-зялёнай вопраткі, у якой ён звычайна ходзіць, сёння на ім была пунсовая.

Ад здзіўлення меднік разявіў рот, вочы яго, здавалася, вось-вось выскачаць з вачніц. Нейкі час ён не мог вымавіць ні слова, потым сутаргава глытнуў паветра і выціснуў з сябе:

— Гэта быў Робін Гуд?! А людзі ж казалі, што з выгляду ён вельмі страшны, што ў яго дужа жорсткі твар. Сапраўдны дзікі лясны разбойнік. А гэты чалавек вельмі прыстойны, падобны на добрага ёмена.

— Робін Гуд мае шмат аблічча́ў,— зазначыў карчмар.—З табою быў ён. Гэта такая ж праўда, як тое, што я стаю вось тут, перад табою, і як тое, што ты выжлукціў вялікі збан найлепшага майго элю і цэлую бутэльку канарскага.

— Дык ён жа абяцаў заплаціць. Сам запрасіў мяне ў карчму выпіць з ім.

— Пра гэта я нічога не ведаю,— суха адрэзаў карч-

мар.— Адно ведаю: збан і пляшка стаяць парожнія і ты павінен расплаціцца.

— Колькі ж гэта выходзіць? — сумна спытаў меднік.

— Дзесяць шылінгаў.

— Дзесяць шылінгаў? — усклікнуў меднік.— У мяне не знойдзецца і дзесяці няшчасных фартынгаў.

— Раз так, аддавай свой малаток і сумку з начыннем.

— Што?! Малаток і прылады? А як на харч я сабе зараблю?

— Раней трэба было пра гэта думаць, да таго, як у даўгі ўлазіць,— холадна адказаў карчмар.

Меднік бушаваў, ашалела крычаў, пасылаў праклёны на галаву ашуканца, абвінавачваў карчмара ў змове з ім, прысягаў, што знойдзе на іх управу.

— Вось і добра,— сказаў карчмар.— Думаю, закон будзе на маім баку. Сядзіш, п'еш з нейкім разбойнікам, ■ калі той дае драла, не хочаш плаціць па рахунку. Я ўпэўнены, давядзецца табе адказаць па закону.

Слай зразумеў, што карчмар кажа праўду і што лепш як мага далей уцякаць ад бяды. Ён аддаў карчмару малаток і прылады, схапіў свой тоўсты яблыневы кій і пайшоў ■ «Каралеўскага аленя» ні з чым.

— Мне б толькі спаткаць дзе-небудзь гэтага прайдзісвета ў пунсовым,— прабурчаў Слай, зачыніўшы за сабой дзверы карчмы.— Я выб'ю тады пыл з яго курткі, каб на яго чума і мор! — Ён помсліва пакруціў над галавой цяжкай дубінай.

Меднік рушыў у дарогу і выпадкова збочыў на тую ж сцяжыну, па якой незадоўга перад гэтым ішоў Робін Гуд. Не прайшоў Слай і мілі, як наперадзе, на павароце, мільганула яркая пляма, а потым ён убачыў чалавека ў пунсовым. Чалавек стаяў і пазіраў на аленяў, якія мірна пасвіліся на лужку.

Слай з усіх ног кінуўся да незнаёмца, выкрыкваючы пагрозы і выклікаючы на бой.

Робін Гуд павярнуўся да раз'юшанага медніка і, усміхаючыся, сказаў:

— Што за грабежнік бяжыць да мяне?

— Я не грабежнік! Гэта ты грабежнік! Нарэшце я высачыў цябе, Робін Гуд, і вось гэтай цяжкай дубінай адаб'ю ў цябе ахвоту абкрадаць людзей. Я разлічуся з табой.

Як маланка наляцеў Слай на Робін Гуда. Робін Гуд не паспеў выхапіць з ножан меч, і цяжкі кій са свістам апусціўся на яго плечы. Ён пахіснуўся, але праз момант трымаў ужо меч у руцэ і гатовы быў да паядынку.

Спачатку Робін Гуд ухіляўся ад страшных удараў медніка, а потым у ім закіпела кроў, і ён сам пачаў атакаваць працаўніка, прымусіў яго перайсці да абароны. Але і ў абароне Слай паказаў умельства і спрыт, раз за разам адбіваючы напады. Меч звінеў, стукаючыся аб дрэва, дрэва гуло пры ўдары аб меч, і рэхам адгукаўся лес. Нарэшце імклівым выпадам Слай моцна выцяў сваёй доўгай дубінай Робін Гуда па локці правай рукі. Рука анямела ад кончыкаў пальцаў да пляча, і Робін Гуд не мог ужо трымаць зброю.

— Давай перадыхнём трохі, меднік,— сказаў Робін Гуд.— Я гатовы нават прасіць літасці.

— Літасці захацеў?! — закрычаў меднік.— Перш чым злітавацца, я павешу цябе вось на гэтым суку! Ну падыдзі, падыдзі, нягоднік. Здаецца, я зараз схаплю слаўтага Робін Гуда. Узнагарода ўжо ў мяне ў кішэні!

Меднік бачыў ужо сто залатых у кішэні і нават некалькі разоў падскочыў ад радасці. Потым азірнуўся, шукаючы, у якім баку Нотынгем.

Улучыўшы момант, калі Слай павярнуўся да яго спіной, Робін Гуд схапіў свой сігнальны ражок і затрубіў.

— Кінь! — закрычаў меднік.— Цяпер позна ўжо трубіць у ражок. Пойдзеш са мной, а калі заўпарцішся, дык я ўгавару цябе вось гэтай дубінай,— і кій Слая прасвісцеў у паветры.

Але тут на сцежку выскачылі Маленькі Джон і Уіл Скарлет. Яны спяшаліся на дапамогу свайму атаману.

Меднік здзіўлена ўтаропіўся на Маленькага Джона. Людзей такога вялікага росту яму яшчэ не даводзілася бачыць.

— Клянуся галавой,— усклікнуў Слай,— я такіх веліканаў у жыцці не бачыў! Не думайце, што я ўцякаю. Вы яшчэ мяне не знаеце! — закрычаў ён, падбег да бліжэйшага дрэва і прыхінуўся да яго спінай. Ён пільна сачыў за праціўнікамі, гатовы абараняцца і атакаваць.

Робін Гуд апусціўся на прыдарожны грудок, бо ногі яго не трымалі. Усё цела налілося болем, рукі і пляча ён амаль не адчуваў: дубіна медніка Слая добра пагуляла па ім.

— Што тут было, атаман? — устрывожыўся Маленькі Джон.— Чаму ты такі змрочны і знямоханы?

— Бачыш каля дуба чалавека з дубінаю? Гэта вандроўны меднік. Ён зрабіў з мяне адбіўную,— сказаў Робін Гуд.

— Ах нягоднік! — закрычаў Маленькі Джон.— Дык няхай паспрабуе і з мяне зрабіць тое ж самае! Цяпер мая чарга.

І, узняўшы над галавой дубіну, волат кінуўся да Слая, які храбра чакаў яго нападу. Але палкі іх не паспелі скрыжавацца. Робін Гуд загадаў свайму першаму памочніку спыніцца.

— Я на гэтага чалавека не крыўдую,— сказаў атаман разбойнікаў.— Ён меў усе падставы біцца са мною. Я пазбавіў яго багацця: адняў грамату на маё затрыманне, а ён ускладаў на яе вялікія надзеі. Але раз я разарыў яго адным спосабам, дык узбагачу другім. Скажы, меднік, колькі ты зарабляеш у час сваіх вандровак?

— Пахваліцца няма чым,— адказаў Слай.— Бывае, атрымаеш за дзень адну-дзве манеты і вячэру, а бывае, цалюткі дзень праходзіш — і ні граша не заробіш. Калі надарыцца купіць збанок элю, я лічу, што мне пашанцавала.

— Не дужа весела жывеш,— засмяяўся Робін Гуд.

— Сабачае жыццё,— пагадзіўся меднік.— Сабачае.

— Тады памяняй яго на наша і жыві ў слаўным зялёным лесе. Удзень мы палюем на аленяў, а ўвечары шчодра частуемся аленінай і запіваем залацістым элем. Ты адважны чалавек, такіх я люблю. Гайда да нас!

— Я згодны, атаман! — абрадаваўся меднік.— Такое жыццё па мне, як добры бот на назе. Я з вамі на жыццё і на смерць,— і яны з Робін Гудам паціснулі адзін аднаму руку, змацаваўшы дагавор.

Вось так меднік Джон Слай, замест таго каб паляваць на Робін Гуда, стаў верна яму служыць, зрабіўся яго прыхільнікам. Старадаўняя балада, якая апавядае пра тое, як Робін Гуд залучыў у свой атрад новага слаўнага стралка, канчаецца словамі:

Цяпер адзін у нас з ім лёс —
Ён [illegible] намі хоча жыць.
Што б нам выпадак ні прынёс,
З ім будзем ўсё дзяліць.

І меднік йшоў сярод дуброў,
Ад радасці аж млеў,
Што добрых ён знайшоў сяброў.
На тым я скончу спеў.



Раздзел шаснаццаты

## БІСКУП САМ БЯРЭЦЦА ЗА СПРАВУ

Увесь гэты час біскуп Герфардскі гасціў у шэрыфа ў Нотынгеме. Кожную раніцу яны з нецярплівасцю чакалі звестак пра арышт Робін Гуда. Біскуп спадзяваўся, што, калі схопяць гэтага дзёрзкага разбойніка, яму вернуць яго-ныя трыста фунтаў, а шэрыфу і ўдзень і ўначы не давалі спакою думкі пра пустую скарбніцу, і ў яго ўваччу стаяў выкрадзены скарб.

Але мінаў дзень за днём, а людзі, якія пайшлі шукаць

злачынца, вярталіся з пустымі рукамі, не знайшоўшы нават і следу разбойнай шайкі. Праўда, меднік Джон Слай не вярнуўся назад, але ніхто гэтага не заўважыў, бо нікому ён не быў патрэбны.

І вось неяк у Нотынгем заехаў, па дарозе з поўначы краіны ў Лондан, вялікі ваенны атрад цяжкаўзброеных коннікаў. Афіцэр, што стаяў на чале атрада, быў чужаземны наёмнік і за грошы ў любы час гатовы быў служыць са сваім войскам кожнаму, хто даражэй заплаціць. Біскуп убачыў коннікаў, калі яны заязджалі ў гарадскія вароты. Ён падумаў, што гэта якраз тая сіла, якая дапаможа яму схапіць Робін Гуда. Біскуп вырашыў наняць гэтых людзей на некалькі дзён і заплаціць ім з таго багацця, якое адбяруць у разбойнікаў. Ён абавязкова адпомсціць Робін Гуду!

З камандзірам атрада дамовіцца было вельмі лёгка. Біскуп, упэўнены, што гэтае добра абучанае войска як бачыш расправіцца зляснымі разбойнікамі, паехаў разам з ім, каб памагчы хутчэй знайсці іх логава.

Па волі лёсу, якраз у той момант, калі наёмнае войска і біскуп са слугамі пад'язджалі да лесу, Робін Гуд выйшаў адзін на бальшак. На павароце ён раптам наткнуўся на двух біскупавых слуг, што ехалі на разведку крыху наперадзе. Гэтыя слугі былі разам з біскупам, калі ён трапіў у палон да разбойнікаў, і адразу пазналі Робін Гуда.

— Ён тут! Вось ён! — закрычалі яны.— Тут сам Робін Гуд!

Робін Гуд зірнуў на дарогу і зразумеў, што апынуўся з ворагамі твар у твар. Біскуп галопам ужо скакаў да яго на кані.

— Што ж мне рабіць? — прашаптаў Робін Гуд.—
Я трапіў ворагу ў сець.
Гэты прэлат жорсткі, як кат,
І мне на вяроўцы вісець.

Адважны атаман і не думаў стаць лёгкай здабычай ворага. Ён павярнуўся і з усіх ног кінуўся бегчы да блі-

жэйшай дубровы. Біскуп і яго людзі шалёна прышпорвалі коней у пагоні за ім, але Робін Гуд паспеў дабегчы да ляска і знік сярод дрэў.

— Акружыце лес! — на ўсё горла крычаў біскуп.— Лясок невялікі. Мы абложым яго з усіх бакоў. Нягоднік не выслізне з нашых рук!

Загад біскупа быў выкананы. Дуброву акружылі кальцом, і Робін Гуд апынуўся ў пастцы. Узброеныя коннікі пачалі прачэсваць лес, але рабілі гэта марудна і апасліва, бо баяліся засады.

Аднак баяліся яны дарэмна. Робін Гуд быў адзін. Таварышы яго знаходзіліся так далёка ад дубровы, што не пачулі б ражка. Робін Гуду заставалася толькі адно: разлічваць на сваю кемнасць і мужнасць. Адважны разбойнік разумеў, што ў такое небяспечнае становішча ён ніколі яшчэ не трапляў. Ён падаўся ў самы гушчар, каб знайсці там нейкае сховішча. Ён ведаў, што сярод дубровы стаіць маленькая хатка з двух пакойчыкаў. У ёй жыла бедная старэнькая ўдава, якая прала і гэтым зарабляла сабе на хлеб. Робін Гуд не раз памагаў старой бабцы чым мог і быў упэўнены, што цяпер і яна выручыць яго. Да таго ж тры яе сыны былі ў дружыне Робін Гуда.

Запыханы, ускочыў ён у хаціну. Старая адарвала вочы ад калаўрота.

— Я Робін Гуд,— сказаў ён.— Біскуп з салдатамі гоніцца за мной па пятах. Калі траплю ім у рукі, мне не паздаровіцца. Біскуп прысягнуў, што павесіць мяне на самым высокім дрэве ў Шэрвудскім лесе.

— Не бойся, Робін Гуд,— прамовіла кемлівая старая.— Гэтага не будзе. Мы абдурым біскупа і яго прыслугачоў. Схапіць і павесіць таго, хто не раз выручаў мяне з бяды! Не, гэтага ніколі не будзе! Ідзі хутчэй у задні пакой. Там знойдзеш маю старую спадніцу і накідку. Пераапраніся, а сваю адзежу пакінь мне.

— Вось гэта прыдумала! — з захапленнем усклікнуў Робін Гуд.— Цяпер мы праверым, ці зоркія ў папа вочы, каб пазнаць Робін Гуда пад жаночым адзеннем.

Як вокам маргнуць Робін Гуд пераапрануўся і завяршыў маскарад, насунуўшы на лоб патрапаны шыракаполы капялюш, які хаваў твар. Ён прыхапіў верацяно і воўну і пашкандыбаў, абапіраючыся на палку, па лясной сцежцы, падобны на старую сялянку, што і ў дарозе, на прывалах, прадзе пражу.

Неўзабаве Робін Гуд пачуў тупат капытоў. Ён яшчэ больш згорбіўся і закульгаў. Раптам хтосьці загадаў:

— Схапіце старую і прывядзіце да мяне! — Робін Гуд пазнаў фанабэрысты голас біскупа Герфардскага.

Адзін з яго прыслужнікаў падскочыў, схапіў старую за руку і пацягнуў да біскупа, які сядзеў на сівым у яблыкі кані. Старая сялянка дрыжала ад страху.

— Адкуль ідзеш, бабка? — спытаў біскуп.

— З дому. Мая хаціна там, у лесе, высакародны лорд,— прагаварыла бабка з-пад абвіслага поля капелюша. Яна не адрывала вачэй ад зямлі, але біскуп палічыў, што так і трэба размаўляць простаму чалавеку з ім, біскупам.

— Ты сёння нікога чужога не бачыла ў лесе?

— Нікога, апрача чалавека ў зялёным плашчы, які толькі што зайшоў у маю хаціну.

— Ага! — закрычаў біскуп.— Чалавек у зялёным, кажаш?

— Так, пане,— прашамкала старая.— У яго быў з сабой лук і калчан са стрэламі, а на галаве зялёны капюшон. Ён папрасіўся крыху адпачыць.

— Наперад! Наперад! — зароў санавіты царкоўнік.— Ён у нашых руках! Ён у нашых руках! Хутчэй да хаціны, вывалачыце яго адтуль.

Біскуп прышпорыў свайго сівога ў яблыкі каня і разам са світай і наёмнікамі паскакаў да лясной хаціны, а старэнькая згорбленая бабуля пашкандыбала далей, пастукваючы палкай. Але, як толькі мінула хмызняк, яна кінула палку, выпрасталася і, нібы велічны алень, лёгка і імкліва пабегла да вялікага лесу, дзе ва ўмоўленым месцы затаіліся Маленькі Джон і атрад лясных стралкоў.

Маленькі Джон, які стаяў на ўскрайку лесу, убачыў, як нейкая дзіўная жаночая істота ў лахманах выскачыла з-за дрэў і імчыцца па паляне ў яго бок. Ен ледзь не аслупянеў ад здзіўлення і падумаў, што без вядзьмарства і нячыстай сілы тут не абышлося.

— Што за старая,— выгукнуў Джон,—
Імчыцца, як дух, па траве?
Фу, згінь, сатана! Вядзьмарка яна,
Я зараз падстрэлю яе.

— Чакай, не спяшайся,— крычаў Робін Гуд,—
Стралу не спускай з цецівы.
Я твой атаман, адзежа — падман,
Праз яе я застаўся жывы.

— Гэта ты, Робін Гуд? — здзіўлена ўсклікнуў Маленькі Джон, не паверыўшы сваім вачам.— Чаму ты ў жаночым адзенні?

— Я ледзь не трапіў у лапы біскупа,— і Робін Гуд расказаў Маленькаму Джону, у які пераплёт ён трапіў.

— Вось паганы поп! — абурыўся Маленькі Джон.— Трэба правучыць гэтага біскупа, каб ён і дзесятаму заказаў ганяцца за намі ў нашых слаўных зялёных лясах.

— І я так думаю,— пагадзіўся атаман разбойнікаў.— Ану, затрубі ў свой рог, Маленькі Джон, склікай сюды нашых малайцоў.

Маленькі Джон пратрубіў сігнал. З лесу пачалі выбягаць зялёныя стралкі, і неўзабаве перад Робін Гудам выстраілася іх цэлая сотня, гатовая па першаму слову свайго камандзіра выканаць любы загад. Разбойнікі не адразу зразумелі, хто перад імі стаіць. Яны здзіўлена разглядалі старую жанчыну ў бедным вясковым адзенні, пакуль не пазналі свайго атамана. Калі Робін Гуд расказаў ім, у якую небяспечную пастку ён трапіў і як спрытна выслізнуў з біскупавых рук, яны доўга смяяліся.

Але нам пара ўжо вярнуцца ў дубовы лясок і пагля-

дзець, што здарылася, калі біскуп з салдатамі прыскакаў да хаціны старой удавы.

— Выбіць дзверы! — загадаў біскуп.

Дзверы сарвалі з завесаў, і ў хаціну ўварваўся салдат.

— Тут ён! — пачуўся яго радасны крык.— Вось ён! Я пазнаў яго! Гэта той самы чалавек у зялёным плашчы з капюшонам, які толькі што ўцёк ад нас.

— Вывалачы яго сюды! — зароў біскуп.

Трое салдат пабеглі ў хаціну і накінуліся на чалавека ў ярка-зялёным плашчы з насунутым на галаву капюшонам, які зашыўся ў цёмны кут. Яго схапілі і пацягнулі з хаціны.

— Пасадзіце яго вунь на таго белага каня і не зводзьце з нягодніка вачэй! — загадаў біскуп.— А цяпер хутчэй назад у горад. Там мы пасадзім яго ў цямніцу. Мне не будзе спакою, пакуль за ім не замкнуцца дзверы турмы. А заўтра ён загайдаецца на шыбеніцы.

Старая ўдава за ўвесь гэты час ніводнага слова не прамовіла, і ўсе падумалі, што Робін Гуд знямеў ад страху. Ніхто не зазірнуў пад капюшон, які прыкрываў твар разбойніка: усім хацелася найхутчэй выбрацца з цёмнага лесу. Біскуп надзьмуўся, як індык, ад гордасці, што яго хітры план здзейсніўся.

Старую павезлі на белым кані,
Сам біскуп сядзеў на сівым.
Ад шчасця аж ззяў: Робін Гуда узяў
І скончыў з разбоем лясным.

Санавіты царкоўнік не пераставаў радавацца, аж пакуль уся кавалькада не выехала з дубровы. Тут яго твар раптам выцягнуўся, ніжняя сківіца адвісла. Ён убачыў перад сабой амаль сотню стралкоў з нацэленымі на яго атрад лукамі. Біскуп зразумеў, што гэта лясныя разбойнікі, а кожны з іх, ён ведаў, варты чатырох яго лучнікаў.

— Лясныя стралкі! — нарэшце вярнулася мова да біскупа.— І, зірніце, хто ў іх за камандзіра! Прысягаю сваім санам, гэта тая самая карга, што стрэлася нам у лесе. Хто ж яна такая?

— Ды, мусіць, гэта не яна, а ён — той, каго людзі завуць Робін Гуд,— загаварыла раптам істота на белым кані.

— Робін Гуд?! — здзівіўся біскуп.— А ты ў такім разе хто?

— Хі-хі! Ха-ха! — залілася смехам істота ў зялёным і адкінула на плечы капюшон.

Біскуп убачыў стары высахлы твар, бяззубыя дзясны.

— Сам паглядзі, хто я, пане біскуп! — пісклява заверашчала старая.— Які ты мудры біскуп! Схапіў і павёз з сабой нейкую старую замест караля Шэрвудскага лесу Робін Гуда! — яна зноў захіхікала і запляскала ў далоні.

— Гора мне! Лепш не дажыў бы я да гэтага дня! — залямантаваў біскуп, бо зразумеў, што трапіў у пастку.

І тут на яго войска са свістам пасыпаліся стрэлы. Усе: і наёмнікі, і світа — пусціліся наўцёкі.

Біскуп імгненна павярнуў свайго каня і, шалёна прышпорваючы, памчаўся ў горад, але спаборнічаць у хуткасці і спрыце ■ разбойнікамі Робін Гуда яму было не пад сілу. Мач і Уіл Ст'ютлі, як зайцы, памчаліся за ім і схапілі яго каня за цуглі. Тут падаспеў і пераапрануты Робін Гуд, прывязаў сівога да дрэва і загадаў біскупу спешыцца.

— Што, ваша светласць,— засмяяўся ён,— вы зноў надумаліся наведаць нас у зялёных лясах? На жаль, сёння мы не можам запрасіць вас на абед, бо не маем часу прыгатаваць яго. Трэба было загадзя папярэдзіць.

— Але ў нас хопіць часу праверыць, што ў вас у торбе,— умяшаўся Маленькі Джон. Ён пакорпаўся ў торбе на біскупавым кані і дастаў адтуль грошы, якія царкоўнік вёз з сабой, каб расплаціцца з камандзірам наёмнікаў, калі яго салдаты схопяць атамана разбойнай шайкі.

— Пяцьдзесят сярэбраных пенсаў дай гэтай бабулі,— загадаў Робін Гуд свайму памочніку,— бо сёння яна выратавала мне жыццё.

Маленькі Джон адлічыў і перадаў старой удаве названую Робін Гудам суму грошай.

Біскуп са змрочным тварам назіраў, як разбойнікі распараджаюцца яго грашамі, і толькі трэсся ад бяссілля. Ен вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў словы Робін Гуда:

— А цяпер адпусціце яго.

— Пан біскуп,— са смехам сказаў Маленькі Джон,— вы панесяце кару за сённяшняе паляванне. Вы паедзеце ў Нотынгем з ганьбай, як бяздомны бадзяга,— тварам да конскага хваста.

Біскупа пасадзілі на каня, і пародзісты скакун прыпусціў лёгкім галопам па дарозе. І гэтак, седзячы задам наперад, ён з ганьбай вярнуўся ў горад без грошай і без палоннага.

Раздзел семнаццаты



## РОБІН ГУД СТАНОВІЦЦА МЯСНІКОМ

Пасля таго як біскупа Герфардскага з ганьбай адпусцілі ў Нотынгем, лясную вольніцу ў Шэрвудскім лесе ніхто не трывожыў. Удзень людзі палявалі, вечарамі сядзелі вакол яркага вогнішча, рабілі лукі, апярэнне да стрэл, начамі спакойна спалі, захутаўшыся ў зялёныя плашчы. Вартавыя пільна ахоўвалі свой прытулак ад ворагаў.

Неяк ранкам Робін Гуд прачнуўся са шчымлівым болем у сэрцы. Гэтае зацішша гняло яго, яму хацелася дзейнасці і прыгод. Ен надумаў схадзіць у Нотынгем і паглядзець, што робіцца ў горадзе. Маленькаму Джону пра

свой намер Робін Гуд нічога не сказаў, бо ведаў, што верны паплечнік пачне адгаворваць яго не соваць нос у самае гняздо ворагаў. Тайком ад усіх выбраўся з лагера і пайшоў у Нотынгем.

Каб яго не пазналі, Робін Гуд замест зялёнага плашча і курткі надзеў рудую даматканую світку. Цяпер яго можна было прыняць за вясковага гаспадара або дробнага гандляра.

За дзве ці тры мілі ад горада, на скрыжаванні дарог, Робін Гуд убачыў мясніка, які ішоў на рынак, везучы на кані кашы́ з ялавічынай.

— Добрай раніцы, шаноўны! — павітаўся Робін Гуд.— Адкуль вы ідзяце і куды?

— Іду я ў Нотынгем прадаваць ялавічыну,— адказаў гандляр.— Я — мяснік.

— Праўда? — усклікнуў Робін Гуд, якому прыйшла ў галаву добрая думка.— Трэба ж такому здарыцца! Я мару стаць мясніком! Можа, прадасце...

— Што прадаць? — не зразумеў мяснік.

— Кабылу, кашы і тое, што ў кашах,— адказаў Робін Гуд.— Ну, кажыце, колькі вам заплаціць?

— Вазьму я няшмат,— мяснік адказаў,—
І разам усё забірай.
За кабылу й тавар, малады гаспадар,
Чатыры мне маркі ты дай.

— Я з вамі зараз і расплачуся,— сказаў Робін Гуд, выняў з кішэні кашалёк, адну за адной адлічыў на далонь мясніка манеты. Мяснік пайшоў дадому, а Робін Гуд пагнаў кабылу з таварам у Нотынгем.

«Цяпер,— разважаў Робін Гуд,— трэба ўвайсці ў горад з незалежным выглядам. Хто будзе прыглядацца да гандляра, які ідзе на рынак?»

Ён спакойна павёў кабылу праз вароты, і ніхто яго не спыніў. На рынку знайшоў прылавак, за якім звычайна гандляваў чалавек, у якога ён купіў тавар, і разлажыў на ім

мяса. Неўзабаве на рынку сабралася шмат пакупнікоў, і мяснікі пачалі зазываць:

— Падыходзьце, сюды, сюды! Купляйце, не пашкадуеце! Свежае мяса найлепшага гатунку, падыходзьце, бярыце, бярыце! Дзякуй скажаце. Бярыце, купляйце!

Калі мяснікі зазываць пачалі,
І Робін свой гандаль адкрыў.
Ды як таргаваць, за што колькі браць,
Не ведаў — ніхто не вучыў.

Робін Гуд пачуў, як расхвальваюць свой тавар яго суседзі па мясным радзе, і таксама пачаў зазываць пакупнікоў. Па сваёй недасведчанасці, ён прадаваў ім за адно пені столькі мяса, колькі іншыя мяснікі давалі за тры. Неўзабаве чуткі пра яго разнесліся па ўсім рынку, і каля яго прылаўка сабраўся натоўп.

Гандляры пачалі чухаць патыліцу і пераглядвацца.

— Хто ён, гэты новы гандляр мясам? — пыталіся яны адзін у аднаго.— Ён нас разорыць. Гэтак мы застанемся без пакупнікоў.

Некаторыя з іх збавілі цану, але дарэмна: ахвотнікаў купіць мяса ў Робін Гуда не меншала.

— Марнатравец нейкі,— сказаў адзін мяснік.— Прадаў бацькаў надзел і пускае грошы на вецер.

— Ага,— сказаў другі.— Або крадзе кароў і таму прадае за бясцэнак.

— Няйначай,— сказаў трэці.— А можа, ён пераадзеты дваранін? Пабіўся з кімсьці аб заклад, што першы прадасць свой тавар?

— Давайце пазнаёмімся з ім,— сказаў чацвёрты.— Я пайду і запрашу яго на наш сённяшні банкет.

Мяснік падышоў да Робін Гуда, які якраз аддаваў пакупніку апошні кавалак мяса, і сказаў:

— Слухай, браце, мы ўсе людзі аднаго занятку і павінны лепш ведаць адзін аднаго. Сёння ў нас, мяснікоў, банкет. Пойдзеш з намі?

— Ганебная справа,— сказаў Робін Гуд,—
Банкет прапускаць мяснікоў.
Ваш гурт мне святы, мае вы браты,
І з вамі ісці я гатоў.

— Вось і добра,— сказаў мяснік.— Банкет мае адбыцца ў доме шэрыфа. Усе разам туды і пойдзем.

Як толькі быў прададзены ўвесь тавар, мяснікі гуртам рушылі ў асабняк шэрыфа. У банкетнай зале Робін Гуд убачыў за багата ўстаўленым сталом шэрыфа і непрыкметна ўсміхнуўся.

«Калі б гэты скупянда ведаў, хто прыйшоў частавацца яго далікатэсамі, што б тут пачалося!» — падумаў ён.

Усе паселі за доўгі стол. Робін Гуд, як самы малады з прысутных, прачытаў малітву, а потым запрасіў мяснікоў піць і есці, колькі душа пажадае, за яго кошт.

— Піце і ешце,— сказаў Робін Гуд,—
Весяліце сябе і другіх.
А пайсці захачу, за ўсё заплачу,
Хоць на пяць набяжыць залатых.

— Гэта нейкі вар'ят,— прашаптаў адзін мяснік на вуха шэрыфу і расказаў, як танна гэты гандляр прадаваў мяса на рынку.

— Бязмозгі баран,— вырашыў шэрыф.— Відаць, прадаў маёнтак і спяшаецца хутчэй вызваліцца ад грошай.

— Во, і мы гэтак падумалі,— зноў прашаптаў мяснік.

Да канца банкету шэрыф ужо еў і піў мала, сядзеў у глыбокім роздуме і раз-пораз кідаў на маладога мясніка хітрыя позіркі.

«Гэты легкадумны шалапут раскідвае грошы абедзвюма рукамі,— думаў шэрыф.— Чаму б і мне не ўзяць сабе крыху? — Ён цяжка ўздыхнуў, прыгадаўшы сваю пустую скарбніцу, якая так і прасілася, каб яе зноў напоўнілі.—

Можа, мне і няшмат перападзе з яго багацця,— разважаў шэрыф,— ды я рады буду хоць якой здабычы, бо мяне да ніткі абабраў гэты шэльма Робін Гуд са сваімі зладзеямі».

Калі скончыўся банкет, шэрыф падсеў да маладога мясніка.

— Мне расказалі пра камедыю, якую вы сёння раніцай разыгралі на рынку,— сказаў шэрыф, і яго суровы твар зморшчыўся ва ўсмешцы, якая павінна была сведчыць, што і ён любіць дасціпныя жарты.— Танным продажам мяса вы ледзь не давялі да торбы нашых мяснікоў.

— Які з мяне мяснік-прадавец?! — засмяяўся Робін Гуд.— Ведаеце, я навічок у гандлі і кепска яшчэ разбіраюся ў цэнах.

— А ў вас ёсць жывёла? — нібы між іншым спытаў шэрыф.

— Сотні галоў,— адказаў Робін Гуд.— І пасвяцца яны на тысячах акраў добрай вольнай зямлі.

— Ого! Даволі прыстойная маёмасць,— зазначыў шэрыф.

— Нічога сабе,— бесклапотна адказаў Робін Гуд.— Толькі я з радасцю абмяняў бы яе на наяўныя грошы.

«Вось адкуль такая нізкая цана. Яму так і карціць хутчэй займець грошы на свае ўцехі. Праваліцца мне на гэтым самым месцы, калі я не выкарыстаю гэты зручны момант»,— падумаў шэрыф, а ўслых сказаў:

— Чаму ж вы яшчэ не прадалі сваю маёмасць?

— Не знайшоў пакупнікоў,— адказаў малады мяснік, пазяхаючы і пацягваючыся,— хоць і прашу не надта многа. Ды, відаць, ні ў кога няма свабодных грошай.

— Святая праўда,— пацвердзіў шэрыф.— Час цяпер цяжкі, і грошай у людзей малавата. Ну, калі ў вас няма пакупнікоў, я сам мог бы купіць.

— І колькі вы дасце за ўсё?

Шэрыф назваў суму ў дзесяць разоў меншую за вартасць маёмасці, апісанай мяснікам, але той адразу згадзіў-

ся. Яны ўдарылі па руках, і шэрыф у думках засмяяўся ад радасці, што гэтак абдурыў шалапута.

— Да вечара яшчэ далёка,— сказаў яму малады мяснік.— Можа, паедзем, і я пакажу вам сваю рагатую жывёлу і зямлю. Усяго і дарогі якая гадзіна.

— Што ж, я згодны,— ажывіўся шэрыф.— Вазьму з сабой грошы і адразу, на месцы, расплачуся з вамі і стану ўладаром маёмасці.

— Добра,— сказаў мяснік.— Нядоўга таргавацца — надоўга пабратацца. А я ўрачыста прысягаю, што перадам вам усю жывёлу і зямлю з такой жа шчодрасцю і шчырасцю, як бацька мой перадаў іх мне.— Робін Гуд сам сабе ўсміхнуўся, а шэрыф паспешліва выйшаў, каб узяць грошы і загадаць слугам асядлаць каня.

Неўзабаве яны рушылі ў дарогу: Робін Гуд на кабыле, якую раніцай купіў у мясніка, а шэрыф на сваім верхавым кані. Дарога, па якой яны ехалі, цягнулася ўздоўж Шэрвудскага лесу, і хутка коннікі апынуліся сярод гаёў і хмызоў.

— Лепш было б, каб ваш маёнтак быў дзе-небудзь у іншым баку,— занепакоіўся шэрыф.— Я не вельмі люблю гэты лес. Не дай бог, пан мяснік, сустрэцца тут з гэтым разбойнікам Робін Гудам.

— Гэ! — пагардліва выгукнуў малады мяснік.— Што мне Робін Гуд? Падумаеш, ёсць каго баяцца! Едзем далей. Зусім ужо блізка, з хвіліны на хвіліну пакажацца статак.

За паваротам мяснік прытрымаў сваю кабылу і ўзяў за повад шэрыфавага каня.

— Стойце, пан шэрыф, спыніце каня,— сказаў ён.— Вунь, зірніце, мой статак пасецца. Ну, што скажаце? Праўда ж, сыты і прыгожы?

Шэрыф зірнуў у той бок, куды паказваў мяснік, і ахнуў ад здзіўлення, якое перайшло ў пачуццё трывогі. Вялікі статак каралеўскіх аленяў мо ў сотню галоў мірна пасвіўся на лясной паляне.

— Што за жарты, малады чалавек? — зазлаваў шэ-

рыф.— Мы паехалі агледзець свойскую жывёлу, а не дзікую.

— Не, пан шэрыф, я так не гаварыў,— засмяяўся Робін Гуд.— Я абяцаў вам паказаць рагатую жывёлу, і вось яна тут, перад вамі. Вунь якія рагачы!

Трывога шэрыфа нарастала.

— Паслухай, прыяцель,— сказаў ён,— я вяртаюся ў горад. Мне не падабаецца твая кампанія.

— З чаго гэта раптам? Навошта спяшацца? Вось маёмасць, якую вы хацелі купіць. Я перадам яе вам пры сведках.

І тут Робін Гуд узяў свой ражок,
Даў тройчы умоўны сігнал,
І з хмызнякоў з сотняй стралкоў
Выскачыў Джон на прагал.

З лесу выбег атрад лясных стралкоў. Шэрыф спалохана ўскрыкнуў, калі яны акружылі яго, і зразумеў, што пастка зачынілася і ратавацца ўцёкамі позна. Ён павярнуўся да мясніка:

— Цяпер я ведаю, хто ты. Ты — Робін Гуд!

— Ага, я Робін Гуд,— усміхнуўся Робін Гуд.— А гэта мае слаўныя хлопцы, якіх вы, здаецца, так не любіце. І ўсё ж, торг трэба завяршыць. Грошы, як кажуць, на стол.

Шэрыф з болем у сэрцы выклажыў да апошняй манеты ўсе грошы, якія ўзяў з сабою, каб расплаціцца з мяснікам. Потым яго адпусцілі, і шэрыф паехаў назад у Нотынгем змрочны і дасведчаны. Змрочны таму, што скарбніца яго апусцела яшчэ больш, а дасведчаны таму, што цяпер ён ведаў, хто гэты малады мяснік.

## Раздзел васемнаццаты



# РОБІН ГУД ВЫРАТОЎВАЕ ЎДОВІНЫХ СЫНОЎ

Нeяк раз Робін Гуду захацелася павандраваць. Ён пайшоў адзін, без Маленькага Джона і яго атрада. На сёмы дзень ён вяртаўся ў лагер. Калі ён пераваліў цераз грэбень гары, у яго радасна забілася сэрца. Перад ім раскінуўся шырокі абсяг лесу, афарбаваны пурпурам вячэрняй зары. Хутка ён зноў апынецца ў дарагім яму і любімым Шэрвудскім лесе.

Робін Гуд падыходзіў ужо да ўзлеску, як раптам спыніўся і пачаў прыслухоўвацца. Нехта ішоў ззаду яго па сцежцы, горка плакаў і цяжка ўздыхаў. Ён пастаяў хвілінку і ўбачыў старую жанчыну, яна набліжалася да яго. Відаць, яе напаткала вялікае гора. Слёзы ручаём каціліся па яе шчаках. Робін Гуд пазнаў жанчыну. Гэта была тая самая старая ўдава, што жыла ў лясной хаціне і якая дапамагла яму вырвацца з кіпцюроў біскупа.

— Што з табой, матухна Грын? — з трывогай спытаў Робін Гуд.— Што здарылася? Цябе хто-небудзь пакрыўдзіў? Калі так, дык клянуся дзевай Марыяй, твой крыўдзіцель хутка ўбачыць, што ў цябе ёсць друг і заступнік у асобе Робін Гуда.

— Ой, Робін, Робін! — загаласіла старая.— Мае сыны! Мае сыны!

— Што за бяда з імі здарылася? — яшчэ больш устрывожыўся Робін Гуд.

— Іх схапіў шэрыф! — адказала старая.— Зараз яны ў нотынгемскай турме і заўтра памруць.

— Што?! — усклікнуў Робін Гуд.— Хэл, Хоб і Дзікан

у турме? Гэтыя храбрыя з храбрых? Благую вестку ты паведаміла, матухна Грын. Адкуль ты дазналася, што горкі іх лёс такі блізкі?

— Я была ў Нотынгеме і цяпер вяртаюся адтуль. Шавец Лоб мне ўсё расказаў,— праз слёзы сказала старая.— Выратуй іх, Робін Гуд! Зрабі што-небудзь.

— Вер мне, маці,— сказаў Робін Гуд, і твар яго пасураveў, вочы запалалі агнём.— Для любога стралка з маёй дружыны я абавязаны зрабіць усё, што ў маіх сілах. А для сыноў тваіх зраблю нават немагчымае. Я зараз жа прыму неабходныя захады.

Робін Гуд заспяшаўся ў свой лагер. Ён не запаволіў хады, аж пакуль не прыйшоў. Маленькі Джон убачыў яго між дрэў і пайшоў насустрач.

— Вялікая бяда з Хэлам, Хобам і Дзіканам! — сказаў на хаду Робін Гуд.

— Ага, атаман, справы дрэнь,— хмурна адказаў Маленькі Джон.— Адкуль ты дазнаўся пра гэта?

— Сустрэў іхнюю маці,— адказаў Робін Гуд.— А як гэтых небаракаў схапілі?

— Выпадкова,— сказаў Маленькі Джон.— Яны як апантаныя гналіся за вялікім аленем і наляцелі на атрад шэрыфавых людзей, у самую іх гушчу. Апамяталіся, толькі калі ўбачылі, што трапілі ў палон.

— Трэба іх выратаваць,— рашуча прамовіў Робін Гуд.— Я ніколі не змагу глянуць у вочы іх мацеры, калі дазволю шэрыфу накінуць пятлю на шыю яе сыноў.

Назаўтра, ледзь развіднела, Робін Гуд пайшоў у Нотынгем. Сонца ўжо залаціла вяршаліны дрэў, калі ён выйшаў з лесу. У поўдзень сыны старой удавы павінны памерці. Часу заставалася мала, таму Робін Гуд шпарка шыбаваў па дарозе. Раптам наперадзе ўбачыў чалавека, які ішоў яму насустрач. Робін Гуд спыніўся і пачаў уважліва ўзірацца ў падарожніка. Гэта быў вандроўны багамолец, бедны, абадраны дзядок з тых, што ходзяць па краіне ад аднаго святога месца да другога, просячы міласціну, і Робін Гуд супакоіўся. Калі яны былі ўжо блізка адзін ад аднаго,

багамолец спыніўся і, абапёршыся на свой кій, чакаў, калі сустрэчны падыдзе да яго.

— Скажы, калі ласка, што ты чуў у дарозе? — спытаў у яго Робін Гуд.— Якія навіны?

— Навіны нярадасныя,— адказаў багамолец.— У Нотынгеме сёння памруць тры чалавекі. На рыначнай плошчы ставяць віселъню. Народ з усяго наваколля валам валіць у горад паглядзець на смяротную кару. Не кожны ж дзень вешаюць адразу трох братоў.

Робін Гуд маўчаў і, здавалася, не надаў ніякага значэння сумнай навіне, але лоб яго збаразнілі маршчыны ад глыбокага роздуму, позірк блукаў па брудных лахманах багамольца.

Раптам ён пстрыкнуў пальцамі, як чалавек, які нарэшце рашыў нейкую цяжкую задачу.

— Давай, багамолец, памяняемся з табой адзежай,— усміхаючыся, прапанаваў Робін Гуд.— Вазьмі маю, а сваю аддай мне. І вось табе яшчэ за гэта сорак шылінгаў серабром, каб падмацавацца хлебам і элем.

Стары няўцямна паглядзеў на свае запэцканыя ў дарозе гразёю рызманы, на грошы на далоні ў Робін Гуда, на прыгожы ярка-зялёны плашч і куртку Робін Гуда.

— Твой багаты убор,— багамолец сказаў,—
Мой з адных толькі лат і прарэх.
Дзе б ты ні быў і каго б ні страчаў,
Смяяцца са старасці грэх.

— А я не смяюся з цябе,— сказаў Робін Гуд,—я маю самы сур'ёзны намер. Ну што, мяняемся? Бяры грошы, пачастуеш сваю брацію.

І яны памяняліся вопраткай. Робін Гуд насунуў на галаву капялюш старога, які ўлез яму толькі на макаўку, надзеў падраны плашч увесь у чорных, сініх, чырвоных латах, нацягнуў на сябе латаныя-пералатаныя штаны і дзіравыя панчохі, абуў чаравікі, якія ледзь ліпелі. Нават Маленькі Джон не пазнаў бы цяпер свайго атамана.

Робін Гуд адпусціў некалькі дасціпных і вясёлых жартаў, агледзеў сябе з усіх бакоў і сказаў:

— Што ж, як адзеты, так і сустрэты.

Цяпер ён меў тое, што яму было трэба: цудоўны маскарадны касцюм, і пашыбаваў у Нотынгем.

Праз дзве гадзіны пасля гэтага па вуліцы горада ішоў шэрыф, змрочны і насуплены. Ён не знайшоў яшчэ ката для трох асуджаных на смерць разбойнікаў.

«І ўсё роўна яны будуць вісець, нягоднікі! — з гневам думаў шэрыф.— Няхай нават мне самому, сваімі рукамі, давядзецца накінуць на іх пятлю!»

Раптам дарогу яму заступіў нейкі дзіўны з выгляду, згорблены абадраны дзядок і пісклява сказаў:

— Бог вам у помач, высакародны шэрыф! Хай той свет будзе вам раем, мой добры пан.

— Што табе трэба, стары пілігрым? — сярдзіта буркнуў шэрыф. Ён думаў, што багамолец хоча, каб яму падалі міласціну, і адразу вырашыў нічога яму не даваць.

— Людзі кажуць, пан шэрыф,— сказаў жабрак-багамолец,— што сёння вам патрэбен кат.

— Ага, ага, вельмі патрэбен,— больш мяккім тонам прамовіў шэрыф. Багамолец гэты, аказваецца, міласціны не прасіў.— Так, я шукаю ката, бо мне ўдалося схапіць трох нягоднікаў з шайкі Робін Гуда. Іх павесяць, як толькі званы адаб'юць поўдзень. Добра было б, каб побач з імі гайдаўся і іхні атаман.

— Ага, пан шэрыф,— спагадліва заківаў галавой стары багамолец.— Я добра разумею, што ў вас на душы. Чуў, Робін Гуд нарабіў вам шмат непрыемнасцей.

— Ён самы вялікі злыдзень з яшчэ не павешаных злыдняў,— прабурчаў шэрыф.— Але надыдзе дзень, калі мы стрэнемся з ім адзін на адзін, і хай ён тады паспрабуе вырвацца!

— О-о! — прапішчаў стары.— Гэта будзе няшчасны дзень для Робін Гуда, пане, вельмі няшчасны дзень, запэўняю вас. Але пакуль што трэба павесіць трох разбойнікаў з яго шайкі. Ведаю, чалавек я стары і слабы, і ўсё ж хацеў

бы пачуць, колькі вы мне заплаціце, калі возьмеце сёння за ката.

— Плата добрая,— ажывіўся шэрыф,— добрая плата, стары. Трынаццаць пенсаў грашамі і адзежа павешаных. Табе, стары пілігрым, далібог, не пашкодзіць меңь добры касцюмчык.

— Плата добрая,— пацвердзіў багамолец.— Я гатовы вам служыць, пан шэрыф, і займуся сёння гэтымі разбойнікамі.

За дзесяць хвілін да поўдня з варот турмы выйшла працэсія і накіравалася на рыначную плошчу. Вялікі атрад нарманскіх салдат вёў на шыбеніцу трох асуджаных. Наперадзе смертнікаў кандыбаў дзядок-багамолец — новаспечаны кат. На плошчы сабраўся вялікі натоўп. Канваірам давялося прабівацца скрозь гэты натоўп да злавесных слупоў з перакладзінай, на якой пагойдваліся вяроўкі з петлямі. Каля шыбеніцы была невялічкая свабодная пляцоўка, і тут працэсію ўжо чакаў шэрыф. Асуджаныя падняліся на памост.

— Бярыся за работу, стары! — загадаў шэрыф.— Пакажы, як ты ўмееш вешаць людзей.

— Усё па парадку, пан шэрыф,— дрыготкім старэчым голасам адказаў багамолец.— Людзей, якія ідуць на смерць, трэба спачатку паспавядаць.

Ён нешта зашаптаў смертнікам. Шэрыф падумаў, што ён іх спавядае. На самай справе Робін Гуд сказаў, што́ ім рабіць, калі надыдзе рашучы момант.

— Ну вешай ужо, кат, вешай! — нецярпліва закрычаў шэрыф. — Ці ёсць, дарэчы, у цябе мех, каб забраць іхнюю адзежу?

— Ёсць, ёсць. Мяхоў у мяне хапае,— засмяяўся багамолец і заспяваў:

— Мяшкі ёсць для соладу і для мукі,
Пад ячмень ці пшаніцу мяшок,
Для хлеба і мяса яшчэ два мяшкі,
А ў гэтым мяшэчку ражок.

— Навошта табе ражок, стары? — усміхнуўся шэрыф.— У цябе ж духу не хопіць падзьмуць.

— Духу не хопіць? Зараз ты пачуеш, пыхлівы шэрыф, як умею я трубіць! — загрымеў голас багамольца, з якім раптам адбылася дзівосная перамена. Згорблены, сагнуты амаль да зямлі багамолец выпрастаўся, стаў на край памоста, паднёс да рота свой ражок і затрубіў.

Шэрыф адразу пазнаў Робін Гуда.

— Здрада! Здрада! — закрычаў ён.— Робін Гуд! Гэта сам Робін Гуд! Хапайце яго! Забіце!

Але нарманскім салдатам было не да Робін Гуда. Ім давялося абараняць сваё жыццё, бо, як толькі над натоўпам пранесліся прарэзлівыя гукі ражка, дзесяткі людзей, што нагадвалі простых сялян, скінулі з сябе даматканыя плашчы і ў ярка-зялёных куртках лясных стралкоў Робін Гуда рынуліся з мячамі і шчытамі ў руках на салдат.

— Гуд! Гуд! З намі Гуд! — зароў волат, што кіраваў імі.— На дапамогу Робін Гуду!

Людзі ў зялёным адказалі Маленькаму Джону дружнымі воклічамі:

— З намі Гуд! Няхай жыве Робін Гуд! Далоў нарманскіх тыранаў!

На плошчы ўзнялася сумятня і страшэнны тлум. Людзі кінуліся ўрассыпную, каб не трапіць выпадкова пад меч. Жанчыны спалохана пішчалі, мужчыны гучна крычалі. Мячы са звонам стукаліся аб шчыты. Нарманскія салдаты, атакаваныя з усіх бакоў, толькі і паспявалі адбівацца. Дзе ім было думаць пра тое, каб схапіць пераадзетага атамана разбойнікаў?! А ён не марудзіў. Выхапіў з-за пояса востры нож і перарэзаў вяроўкі на Хэлу, Хобу і Дзікану. З крыкам: «За мной!» — саскочыў з памоста. Тры браты рынуліся за ім і ўміг апынуліся сярод сяброў.

— Згуртуйцеся вакол іх! — загадаў Робін Гуд, і лясныя стралкі шчыльным кальцом акружылі сваіх выратаваных ад смерці таварышаў.

— Адступайце да варот! — прагучаў новы загад Робін

Гуда, і зялёная дружына цеснымі радамі рушыла з рыначнай плошчы.

Два разы нападалі на іх нарманскія салдаты, і два разы іх адганялі хмарамі стрэл і ўдарамі мячоў.

Неўзабаве падышлі да варот. Яны былі насцеж адчыненыя, бо Маленькі Джон даручыў Мачу і Уілу Ст'ютлі з тузінам людзей зняць варту, як толькі яны пачуюць, што на плошчы пачалася сутычка. Яны выканалі загад. Калі атрад з Робін Гудам на чале падышоў да варот, вартаўнікі былі ўжо абяззброеныя і звязаныя.

Усе выйшлі з горада на вольны прастор. Маленькі Джон з грукатам зачыніў вароты і паклаў ключ сабе ў кішэню, каб не было пагоні.

На ўскрайку лесу яны сустрэлі бедную старую ўдаву. Яна чакала іх тут з трапяткой надзеяй, што Робін Гуд выканае сваё абяцанне і выратуе яе сыноў. Старая ўбачыла Хэла, Хоба і Дзікана цэлымі і здаровымі сярод таварышаў і заплакала, толькі цяпер ужо ад радасці, падзякавала Робін Гуду і блаславіла яго.



## Раздзел дзевятнаццаты

# СУСТРЭЧА РОБІН ГУДА З МАРЫЯНАЙ

У роспачы, смутку, з надзеяй слабой
Адзелася ў пажскі кафтан,
Пайшла ў Шэрвуд, бо там Робін Гуд —
Славуты лясны атаман.

Робін Гуд Марыяну зусім не пазнаў,
Ды і сам ён абліччa змяніў.

Як чужыя, яны скрыжавалі мячы.
Па́жаў спрыт Робін Гуда здзівіў.

З таго часу як Робін Гуд стаў лясным разбойнікам, адважным атаманам сялянскай вольніцы ў Шэрвудскім лесе, амаль дня не мінала, каб ён не прыгадаў дзяўчыну, з якой расстаўся, калі пакінуў свой дом. Гэта была Марыяна, вельмі мілая і прыгожая дачка паважанага чалавека, што жыў па суседству з Робін Гудам. Робін і Марыяна сябравалі з маленства — разам гулялі ў розныя гульні, шукалі птушыныя гнёзды, вудзілі рыбу ў ручаі, лазілі па дрэвах, бегалі навыперадкі па травяністым лузе. Пасля таго як Робін Гуду давялося пакінуць родныя мясціны, ён балюча перажываў разлуку з Марыянай.

Між тым лёс абышоўся з дзяўчынай сурова. Бацькі яе памерлі, прыяцелькі і знаёмыя адвярнуліся ад яе, і сэрцам яна ўсё часцей і мацней імкнулася да сябра свайго дзяцінства — да добрага і смелага Робін Гуда. Доўгі час Марыяна нічога не чула пра яго, не ведала, дзе ён, але раптам імя яго загрымела па ўсім Паўночным краі. Дзяўчына даведалася, што сябар яе стаў славутым разбойнікам. Подзвігі яго праслаўлялі ў сваіх песнях менестрэлі, а простыя людзі пераказвалі іх, седзячы вечарамі перад ачагом. Адзінокая, усімі пакінутая, Марыяна доўга думала і нарэшце вырашыла пайсці ў Шэрвудскі лес пашукаць Робін Гуда і паглядзець, ці памятае ён яшчэ старыя шчаслівыя дні іх дзяцінства. Але яна ведала: жанчыне або дзяўчыне хадзіць адной па дарогах, ды яшчэ па лесе, небяспечна. Таму яна апранулася, як паж, узяла лук і калчан са стрэламі, меч і шчыт і рушыла ў дарогу. Як толькі апынулася пад цёмнымі шатамі магутных дубоў, яна пачала з надзеяй узірацца і прыслухоўвацца, спадзеючыся сустрэць каго-небудзь з жыхароў лясных вёсак, хто мог паказаць дарогу ў прыстанішча яе старога сябра Робін Гуда.

Той самай раніцай Робін Гуд пайшоў адзін з лагера паглядзець, што дзеецца ў лесе і наваколлі. Ён надзеў світку і штаны з грубага нефарбаванага даматканага палатна, на-

сунуў на лоб вялікі шыракаполы капялюш, прыкрыў левае вока чорнай павязкай, на плечы накінуў дзіравы плашч. Ён апрануўся так, каб ніхто не пазнаў яго, асабліва леснікі, бо трапіць ім у рукі азначала для яго пагібель. Шэрыф, ашалелы ад злосці, што Робін Гуд перахітрыў яго і выратаваў ад шыбеніцы трох сыноў старой удавы, загадаў сваім людзям не даваць нікому ніякай літасці і забіваць на месцы любога разбойніка, якога яны стрэнуць або схопяць.

Робін Гуд хадзіў па лесе мо гадзіну, як раптам убачыў прыгожа апранутага зграбнага юнака. Ён імгненна схаваўся за куст, бо не ведаў, юнак ідзе адзін ці з ім хто-небудзь ёсць. Нельга забывацца на асцярожнасць, бо ў яго шмат ворагаў. Любы незнаёмы чалавек выклікаў у яго падазрэнне: ці не пастка тут якая-небудзь? Але юны паж ішоў спакойным, мерным крокам і, відаць, быў адзін. Калі паж параўняўся з кустом, Робін Гуд выскачыў і загадаў незнаёмцу спыніцца.

— Хто ты і што табе трэба ў Шэрвудскім лесе? — уладным тонам спытаў Робін Гуд.

Марыяна, а гэта была яна, не пазнала свайго старога сябра. Ды і хіба пазнаеш у гэтым абадраным, дзікім з выгляду лясным жыхары Робін Гуда? Яна падумала, што яе падпільнаваў нейкі небяспечны грабежнік, адскочыла назад і схапілася за эфес мяча.

«Гэта не чалавек Робін Гуда,— вырашыла Марыяна.— Відаць, нейкі бандыт, і трэба даць яму рашучы і смелы адпор, інакш мне не паздаровіцца». Уголас сказала:

— Саступі з дарогі, прыяцель. Дай прайсці. Я не маю да цябе ніякай справы.

— Ты, можа, і не маеш, а я да цябе маю,— адказаў абадранец.— Гавары, куды і чаго ідзеш у лес, а не, дык заверну цябе назад.

— Завернеш назад? — абурыўся паж.— Паспрабуй, калі ўдасца, грубіян. Не прымушай мяне ўзяцца за меч, бо вельмі пашкадуеш і праклянеш гэты дзень.

— Бач, які бравы ваяка! — засмяяўся Робін Гуд.— А што ты зробіш сваім такім маленькім мячом, хлопчык?

— У гэтага мяча вельмі вострае лязо. Сам зараз убачыш,— сказаў паж, выцягнуў з ножан меч і замахаў ім над галавой.— Дай дарогу, бо я іду ў лес і ніхто мяне не спыніць.

Калі Робін Гуд пачуў, што прышэлец кіруецца ў глыб Шэрвудскага лесу, яго падазронасць павялічылася. «Шэрыф можа падаслаць вось такога смелага і бойкага падлетка лазутчыкам у Шэрвудскі лес»,— падумаў Робін Гуд.

— Дык вось,— сказаў ён,— я загадваю табе зараз жа выбірацца з лесу. Паберажы сваё жыццё, ідзі назад цэлы і здаровы. Не вымушай мяне таксама ўзяцца за зброю.

— Бярыся, калі хочаш! — усклікнуў паж.— Назад я не пайду.

«Твой клінок страшны такім хлопчыкам, як ты»,— падумаў Робін Гуд. Ён выхапіў меч, зрабіў рэзкі выпад нібыта з самым грозным намерам. Але, на яго здзіўленне, удар быў спрытна адбіты. Тоненькі зграбны паж валодаў мячом і шчытом не горш за некаторых былых праціўнікаў Робін Гуда.

Лясь! Лясь! — стукаліся адзін аб адзін вострыя клінкі. Робін Гуд, праўда, не ўжываў супраць гэтага падлетка ўсю сваю сілу і майстэрства. Нельга сказаць, каб паж зусім не ўмеў валодаць зброяй. Калі Робін Гуд крыху прамарудзіў, ён нават парэзаў мячом яму твар. Спрыт юнага незнаёмца прывёў атамана разбойнікаў у захапленне. Ён паспяшаўся скончыць сутычку мірам.

— Спынімся, хопіць,— сказаў Робін Гуд.—
Да лясной далучайся сям'і.
Дом твой будзе Шэрвуд. Тут жыве Робін Гуд
І прыгожа пяюць салаўі.

— Што? — усклікнуў паж.— Робін Гуд! Ты сапраўды Робін Гуд? Ох, Робін, мой меч параніў цябе! Хіба я ведала? Цябе ж не пазнаць!

Робін Гуд здзіўлена ўтаропіўся на тонкага зграбнага пажа.

— Хто ты? — выгукнуў ён.— Чаму ты гэтак шкадуеш, што параніў мяне?

— Я шукаю цябе, Робін! — усхвалявана сказаў паж.— Але хіба можна было падумаць, што я сустрэну цябе ў такім выглядзе? А ты, Робін, няўжо не пазнаéш мяне?

Робін Гуд пільна ўзіраўся ў прыгожы расчырванелы твар пажа, і раптам хваля радасці захліснула яго. Ён зразумеў, хто перад ім.

— Я пазнаў цябе! — усклікнуў ён.— Я цябе пазнаў! Ты Марыяна! Мілая, дарагая Марыяна! Навошта ты прыйшла ў лес?

— Я пайшла шукаць цябе, Робін,— сказала дзяўчына.— У мяне, акрамя цябе, няма нікога на свеце. Але вось не пазнала і параніла...

— А-а, дробязь,— сказаў Робін Гуд.— Тут у нас можна атрымаць і не такія раны. Не дзіва, што ты мяне не пазнала. Я добра замаскіраваўся, каб мой закляты вораг, нотынгемскі шэрыф, не схапіў мяне.

Сябры селі на імшысты грудок і ажыўлена загаварылі. Яны расказалі адно аднаму, што з імі было пасля таго, як яны рассталіся.

— А ці знойдзецца ў вас у лесе месца для мяне, Робін? — спытала Марыяна.

— Знойдзем. Мы будзем ганарыцца, што ты прыйшла да нас, Марыяна,— горача сказаў Робін Гуд.— Ну падымайся, пойдзем да нас у лагер. Жонка Алана-а-Дэйла з радасцю сустрэне цябе і паклапоціцца, каб табе было добра.

Неўзабаве яны прыйшлі на глухую лясную паляну, дзе размяшчаўся лагер лясной вольніцы Робін Гуда. Жонка Алана-а-Дэйла ветліва прывіталася з дзяўчынай, а Маленькі Джон і Уіл Скарлет адразу схапілі свае лукі і стрэлы і пайшлі здабыць дзічыны для добрай вячэры.

Вечарам наладзілі банкет у гонар прыходу Марыяны ў Шэрвудскі лес. Лясныя стралкі расселіся вакол вялікага вогнішча, у якім ярка гарэлі дубовыя дровы, і шчодра частаваліся свежай аленінай і смачным пітвом.

Раздзел дваццаты



# СЭР РЫЧАРД ЛІ ВЯРТАЕ ДОЎГ

Чытач, напэўна, памятае, як Робін Гуд дапамог у бядзе збяднеламу рыцару, якому пагражала страта ўсёй яго маёмасці — і дома, і зямлі, бо ён не мог аддаць узятую пад заклад маёнтка вялікую суму грошай. Сэр Рычард Лі не забыў свайго збавіцеля з Шэрвудскага лесу.

Пасля нягод вялікіх тых
Наш рыцар добра жыў,
Чатыры сотні залатых,
Каб доўг аддаць, нажыў.
Сто лукаў з пругкай цецівой
Яшчэ у дар прыпас.
Калчанаў сто узяў з сабой
І добрых стрэл запас.

На гэты раз у сэра Рычарда, калі ён ехаў праз Шэрвудскі лес, быў зусім іншы настрой, чым год назад. Тады ён быў сумны і змрочны і меў выгляд самага няшчаснага чалавека на зямлі. А цяпер ён, радасны і бадзёры, сядзеў на прыгожым кані, і яго суправаджаў атрад узброеных людзей. І ўся гэта перамена адбылася дзякуючы Робін Гуду, бо калі б рыцар страціў сваю зямлю, ён ніколі б ужо не выбраўся з галечы. Таму сэр Рычард з удзячнасцю і павагай успамінаў Робін Гуда, які вырваў яго з рук хцівага абата манастыра Святой Марыі.

Дарога прывяла рыцара і яго ўзброены атрад да шырокага лугу каля рэчкі перад мостам. На лузе было людна і

шумна. З усяго наваколля валіў сюды народ на вясёлае гулянне. Акружаныя натоўпам ахвочых да відовішчаў і забаў людзей, паказвалі сваё майстэрства фокуснікі, жанглёры і акрабаты, спявалі мясцовыя саксонскія песеннікі і вандроўныя паэты-музыкі. У наспех напятых палатках крамнікі і карабейнікі прадавалі свой тавар. Але самы вялікі натоўп акружыў круглую пляцоўку, на якой удалыя і спрытныя барцы спадзяваліся заваяваць у спаборніцтве багатыя прызы.

Узнагародай барцу-пераможцу быў добры рысак з пазалочанай вупражжу. Цудоўны прыз! Той, хто зойме другое месца, атрымае пародзістага быка, а наступныя тры пераможцы, гледзячы, хто якое зойме месца,— пару прыгожых вышываных пальчатак, залаты пярсцёнак ці бочку віна. Таму і не дзіва, што ў Нотынгем сабралася шмат ёменаў. Кожны разлічваў на які-небудзь прыз, няхай нават самы апошні.

Перад мостам натоўп быў такі густы, што рыцару і яго людзям немагчыма было праехаць, а прабіваць сабе дарогу сілай сэр Рычард лічыў непрыстойным. Дзень яшчэ толькі пачынаўся, часу ў рыцара было багата. Ён спыніў каня, каб якую гадзіну паназіраць за спаборніцтвам барцоў. Астатнія коннікі збіліся вакол яго. Усе з нецярплівасцю чакалі, калі пачнецца спаборніцтва.

Усім на здзіўленне, вострай барацьбы не атрымалася. І вінаваты ў гэтым быў нейкі здаровы, няўклюдны з выгляду бамбіза, які лёгка, нібы гуляючы, клаў на лапаткі кожнага свайго саперніка. Быў гэта чэмпіён якой-небудзь вёскі або гарадка — усіх ён валіў на траву, як толькі абхопліваў рукамі тулава свайго праціўніка.

— Хто гэта можа быць? — пыталіся гледачы.— Такіх барцоў ніколі яшчэ не бачыла Англія. Яму няма роўных. Ён абыходзіцца з усімі, як з дзецьмі.

Нікому не вядомы барэц кідаў на дол аднаго праціўніка за другім, усё гучнейшымі рабіліся воклічы захаплення. Але неўзабаве пачуліся нездаволеныя выкрыкі, якія перайшлі ў гнеўны гул. Гэта злавалі леснікі, якія гуртам

стаялі каля пляцоўкі барцоў. Яны прыйшлі, каб падтрымаць свайго прыяцеля Губерта Дужую Руку — славутага барца, і зрабілі на свайго чэмпіёна вялікія грашовыя стаўкі.

Леснікі насміхаліся з параможаных барцоў, калі тыя сарамліва выбіраліся з круга.

— Пачакайце, вось зараз супраць гэтага здаравякі выйдзе Губерт Дужая Рука! — крычалі яны.— Тады ўбачыце сапраўдную барацьбу. Які ён ні дужы, гэты бамбіза, а Губерт перакіне яго цераз плячо.

Здзекі і насмешкі яшчэ мацней падагрэлі натоўп. Нарэшце Губерт выйшаў у круг. Гледачы з хваляваннем і надзеяй чакалі, што вось зараз пачнецца сапраўдны паядынак. І хоць надзеі гэтыя адразу былі разбіты ўшчэнт, людзі ўбачылі нешта сапраўды захапляючае. Волат-барэц схапіў Губерта Дужую Руку і перакінуў яго цераз галаву. Чэмпіён леснікоў, некалькі разоў перакруціўшыся ў паветры, грымнуўся на дол, што аж зямля задрыжала.

— Нячысты захоп! — закрычалі злосныя леснікі.— Несумленны прыём! Паражэння няма!

— Ёсць, ёсць паражэнне! — закрычаў сэр Рычард. Ён любіў толькі сумленную гульню.— Захоп і прыём былі правільныя. Перамога чыстая.

Леснікі і самі добра гэта ведалі. Крычалі ж яны і абвінавачвалі пераможцу ў несумленнай барацьбе, толькі каб іхняму чэмпіёну не залічылі паражэння: тады ў іх была б прычына не плаціць грошай, якія яны прайгралі, пабіўшыся на яго аб заклад. Вакол пляцоўкі для барацьбы ўзняўся страшэнны шум і гвалт. Адны лаялі пераможца, другія заступаліся за яго. І ўсё ж больш было тых, хто злаваў на асілка, бо ён перамог барцоў, на якіх яны ставілі.

— Я недзе ўжо бачыў гэтага асілка раней,— задумліва прамармытаў сабе пад нос сэр Рычард.— Дзе я яго бачыў?

Рыцар напружыў памяць і раптам заёрзаў у сядле: «Успомніў! Успомніў! Гэта той самы велікан, што быў з

Робін Гудам. Той самы, што прынёс мяшок з чатырма сотнямі фунтаў. Вядома, ён, хіба можна такое забыць!»

Сэр Рычард не памыліўся. Гэта быў Маленькі Джон. Ён пайшоў у разведку, пачуў пра спаборніцтва па барацьбе і захацеў пабыць на ім. Спачатку думаў толькі паглядзець на сваю любімую спартыўную гульню, але ўбачыў круглую пляцоўку і багатыя ўзнагароды, не ўтрымаўся і запісаўся ўдзельнікам пад імем Уіла з Паляны. Што было далей, вы ўжо ведаеце.

— Праганіце яго з круга! — на ўсё горла крычалі леснікі.— Ганіце прэч! Ён выкарыстаў нячысты прыём! Пачынайце спаборніцтва спачатку!

Леснікоў гучнымі крыкамі падтрымалі многія гледачы. Яны хацелі даць сваім любімцам яшчэ адзін шанц удзельнічаць у спаборніцтве, з якога іх выбіў гэты волат. Былі ў натоўпе і людзі, што стаялі за справядлівасць. Яны дружна падтрымалі Маленькага Джона, крычалі, што ён змагаўся правільна і сумленна.

Раптам над Маленькім Джонам навісла небяспека. Узлаваныя леснікі ўскочылі ў круг і рынуліся на яго, некаторыя з аголенымі мячамі, пагражаючы забіць яго, калі ён зараз жа не пойдзе прэч. Але яны памыляліся, калі думалі, што гэтага чалавека можна запалохаць. Ён не ведаў страху. Высокі, дужы, ён упарта стаяў на месцы, з пагардаю пазіраючы на іх. Усё магло скончыцца трагічна, каб не ўмяшаўся сэр Рычард. Ён загадаў сваім людзям згуртавацца вакол яго і ісці за ім. Сэр Рычард накіраваў каня ў натоўп і прабіўся да Маленькага Джона, якога цесным колам абступілі раз'юшаныя леснікі.

— Адыдзіце ад яго! — крычаў ім сэр Рычард.— Разыдзіцеся, не чапайце гэтага чалавека!

Леснікі, якія падпарадкоўваліся толькі шэрыфу, не звярнулі б увагі на словы рыцара, каб яго не падтрымаў натоўп. Многія гледачы ведалі сэра Рычарда Лі, і дзесяткі галасоў закрычалі:

— Няхай сэр Рычард будзе за суддзю. Ён сумленны і

справядлівы рыцар. Мы ведаем яго і давяраем яму. Няхай ён рассудзіць.

Дружны і рашучы голас натоўпу застрашыў леснікоў. Яны змоўклі і прыслухаліся, што скажа рыцар.

— Што ж гэта вы, панове? — сказаў сэр Рычард.— Хіба ў нас, у Англіі, лічыцца справядлівым злаваць на чалавека за тое, што ён аказаўся лепшым барцом і паказаў майстэрства, якога мы даўно ўжо не бачылі? Я сачыў за спаборніцтвам, бачыў кідкі і прыёмы — усе яны былі па правілах. Я кіну пальчатку кожнаму з вас, хто скажа, што гэта не так. Ну што, будзем крыкам пазбаўляць узнагароды чалавека, якога ніхто не змог перамагчы ў сумленнай барацьбе на пляцоўцы?

Словы яго трапілі ў цэль і выклікалі ў натоўпе пачуццё прыхільнасці да пераможца. Толькі леснікі ўсё яшчэ змрочна і пагрозліва пазіралі на яго і шэптам гаварылі адзін аднаму, што́ яны зрабілі б з ім, каб не ўмяшаўся рыцар са сваім узброеным атрадам.

Усе пагадзіліся, што першы прыз выйграў гэты выдатны барэц. Астатнія ўдзельнікі спаборніцтва зноў выйшлі ў круг і пачалі змагацца за наступныя прызы. Калі ўсе атрымалі свае ўзнагароды, сэр Рычард за пяць марак купіў у чалавека, якога ўзнагародзілі бочкай віна, яго прыз і загадаў адкрыць яе, каб кожны, хто хоча, мог наталіць смагу. Людзі прыйшлі ў добры настрой, апрача, вядома, леснікоў, якія вымушаны былі заплаціць прайграныя грошы і таму кіпелі ад злосці. Яны перашэптваліся і кідалі злосныя позіркі на Маленькага Джона, які ўважліва разглядаў чыстакроўнага рысака — сваю ўзнагароду. І раптам у натоўпе пайшла чутка, што гэты выдатны барэц — разбойнік Робін Гуда. Як яна ўзнікла, цяжка сказаць. Чуткі заўсёды неяк дзіўна ўзнікаюць. Магчыма, яшчэ нехта, акрамя сэра Рычарда, пазнаў Маленькага Джона, хоць ён і змяніў сваё аблічча. Але нельга было схаваць волатаўскую постаць, шырокія плечы, дужыя рукі і ногі.

Чутка імгненна дайшла да вушэй леснікоў, і яны з радасцю ўхапіліся за яе. Праўда гэта ці не, але якраз тое,

што ім трэба: цяпер чэмпіёну гэтаму ўжо не вырвацца з іх рук.

— Разбойнік! Разбойнік! Хапайце яго! Хапайце! — закрычалі яны і рынуліся да пераможца.

Толькі хуткасць і спрыт маглі выратаваць Маленькага Джона. Ен імгненна апынуўся ў сядле, прышпорыў свайго рысака і пусціў яго галопам. У натоўпе цяпер ужо было шмат яго прыхільнікаў, бо народ любіў разбойнікаў Робін Гуда. Людзі расступіліся, прапусцілі ўцекача і адразу зноў самкнуліся, адрэзаўшы дарогу леснікам, якія былі пагналіся за ім. Маленькі Джон стралой праляцеў цераз мост і знік за паваротам дарогі.

— Добра, што гэты адважны барэц выратаваўся,— сказаў сэр Рычард і загадаў свайму атраду рушыць у дарогу следам за Маленькім Джонам.

А той, не спыняючыся, імчаўся галопам усё далей і далей, пакуль не стрымаў каня на паляне, дзе сядзелі Робін Гуд і дзесятка паўтара яго лясных стралкоў.

— Што з табой, Маленькі Джон? — здзівіўся Робін Гуд.— Чаго ты ляціш на злом галавы? У якога вяльможы ты адабраў такога цудоўнага скакуна?

— Рысак гэты мой. Я заваяваў яго ў сумленнай барацьбе.— Маленькі Джон расказаў пра спаборніцтва, пра добрага рыцара, які заступіўся за яго і справядліва прысудзіў яму перамогу. Маленькі Джон не пазнаў сэра Рычарда Лі, так змянілася ўсё яго аблічча — і вопратка, і выраз твару.

— Ты не бачыў дзе на дарозе журботнага рыцара, якому мы пазычылі чатыры сотні залатых? — спытаў Робін Гуд.

— Нават і следу яго не бачыў, атаман,— адказаў Маленькі Джон.— Ты чакаеш яго?

— Чакаю, бо сёння роўна год, дзень у дзень, як мы пазычылі яму грошы, і да заходу сонца ён павінен вярнуць доўг.

— Усё будзе добра, атаман,— сказаў Маленькі Джон, які ніколі не траціў надзеі.— Сонца яшчэ высока. Я га-

товы прысягнуць, што рыцар стрымае сваё слова, бо бачыў, якой шчырасцю і сумленнем свяціліся тады яго вочы.

— Добра, калі так,— сказаў Робін Гуд.— Але сёння мне хочацца паабедаць з якім-небудзь госцем. Дык бяры свой лук, Маленькі Джон, і разам з Мачам і Уілам Скарлетам пачакай на Уолтынгскім гасцінцы якіх падарожнікаў. Запрасі іх паабедаць са мной, хто б яны ні былі. Калі яны з багацеяў, дык заплацяць за пачастунак, калі з бедных, мы з імі падзелімся тым, што маем. А калі трапіцца менестрэль або фігляр, дык павесяляць нас.

Маленькі Джон і яго сябры выйшлі на дарогу. Зірнулі на захад, зірнулі на ўсход — нікога. На дарозе, што вяла ў Барнсдэйл, убачылі вялікую грамаду, якая рухалася ў іх бок.

— Клянуся небам,— сказаў Маленькі Джон,— у нашага атамана сёння гасцей будзе шмат.

Разбойнікі пачалі ўглядацца ў працэсію. Наперадзе на прыгожых верхавых конях ехалі два манахі ў чорных расах. За імі ішлі сем цяжканагружаных коней, а ззаду пяцьдзесят два кап'ёўшчыкі аховы.

— Нават біскуп не ехаў бы гэтак велічна, як гэтыя чорныя манахі,— зазначыў Мач.— Клянуся, на ўючных конях вялікі скарб, інакш не было б такой моцнай аховы.

— Сябры мае,— сказаў Маленькі Джон,— нас толькі трое, і ўсё ж мы павінны прывесці гэтых манахаў на абед да нашага атамана, а то лепш на вочы яму не паказвацца.

Мач і Уіл Скарлет моўчкі кіўнулі галовамі ў знак згоды. Яны прытаіліся ў тым месцы дарогі, дзе яна рабіла рэзкі паварот і вілася паміж двума высокімі схіламі. Тут зручней за ўсё можна было захапіць галаву калоны.

— Нацэльце лукі,— Джон сказаў,—
Манахаў возьме страх.
Я цэль сабе ўжо абраў:
З двух першы — мой манах.

Калі абодва манахі мінулі паварот, дарогу ім перагарадзілі тры чалавекі са стрэламі на цяцівах лукаў. Манахі нацягнулі павады, уся калона спынілася і змяшалася.

— Стой, манах! — крыкнуў Маленькі Джон таму з манахаў, што ехаў наперадзе і быў, відаць, больш важнай персонай, чым яго спадарожнік.— Ні з месца. Памятай, твой лёс у маіх руках. Ты разгневаў майго гаспадара, бо вымусіў яго доўга пасціцца.

У вачах у манаха мільганулі здзіўленне і спалох. Ён утаропіўся на Маленькага Джона, не разумеючы, пра што гаворыць гэты волат.

— А хто твой гаспадар? — нарэшце спытаў ён.

— Робін Гуд! — прагрымеў магутны голас Маленькага Джона.

— Гэта вялікі ліхадзей,— сказаў манах змрочна.— Пра яго я ніколі нічога добрага не чуў.

— Ілжэш, манах! — закрычаў Маленькі Джон.— Ён паважаны лясны ёмен і запрашае цябе паабедаць з ім. І хочаш не хочаш — ты пойдзеш з намі.

Мач і Уіл Скарлет ні слова не прамовілі, але іх стрэлы ў любы момант гатовы былі сарвацца з цяціў. Ды гэтага не здарылася. Калона кап'ёўшчыкаў, што ішла за манахамі, нібы растала. Яны пачулі імя Робін Гуда, калі зычны голас Маленькага Джона прагрымеў у лагчыне, па якой праходзіла дарога. Досыць было пачуць гэтае імя, каб кап'ёўшчыкі з перапуду кінуліся ўцякаць.

— Едзьце за намі,— загадаў манахам Маленькі Джон, і тыя паслухмяна прышпорылі коней. Нічога іншага ім не заставалася.

Мач з Уілам Скарлетам пайшлі ззаду з лукамі напагатове — на выпадак, калі хто з манахаў надумаецца ўцячы. Маленькі Джон гнаў наўючаных коней. Яму памагалі паж і конюх. З усяе шматлікай світы толькі яны засталіся вернымі манахам.

Маленькі атрад неўзабаве апынуўся на паляне, дзе іх чакаў Робін Гуд. Ён зняў шапку, вітаючы гасцей, але

старшы манах не адказаў тым жа. Маленькі Джон залаваў:

— Гэта нявыхаваны чалавек, атаман. Зараз ён у мяне зніме шапку.

— Ніякага прымусу, Маленькі Джон,— стрымаў яго Робін Гуд.— Сілы не ўжывай. Калі ён не хоча зняць шапку, не трэба. Колькі з ім было людзей?

— Пяцьдзесят два чалавекі аховы, але ўсе яны паўцякалі.

— Падай сігнал нашым людзям, што ў нас госці.

Маленькі Джон затрубіў у ражок, і праз хвіліну на паляне выстраіліся сто сорак узброеных хлапцоў у пунсовых плашчах. Убачыўшы гэтых бравых малайцоў, манахі з трывогай глянулі на сваіх наўючаных коней.

Неўзабаве падалі абед. Манахі селі за стол, і Робін Гуд з Маленькім Джонам пачалі частаваць іх самымі смачнымі стравамі.

— Ешце, ешце,— запрашаў Робін Гуд старшага манаха.

— Вялікі дзякуй, ласкавы ёмен,— падзякаваў манах.— Я з задавальненнем паабедаю, стол у вас шчодры.

— З якога вы манастыра? — спытаў Робін Гуд.

— Святой Марыі,— адказаў манах.

Бровы Робін Гуда высока ўскінуліся, ён усміхнуўся.

— А якую вы ў ім пасаду займаеце?

— Я — галоўны келар,— важна адказаў манах.

Робін Гуд зарагатаў.

— Чаго вы смяецеся, ёмен? — спытаў келар.

— Мяне смех разбірае, як падумаю, што галоўны казначэй і аканом манастыра Святой Марыі завітаў да мяне ў госці якраз сёння, а не ў які-небудзь іншы дзень года,— адказаў Робін Гуд.

— А чым сённяшні дзень такі адметны?

— Тым, што роўна дванаццаць месяцаў таму назад я даў у доўг чатыры сотні фунтаў, якія належала заплаціць

вашаму манастыру. Сёння мне павінны вярнуць гэтыя грошы. Можа, вы прывезлі мне іх?

— Я? — здзівіўся келар.— Ніякіх грошай я не прывёз. Каму вы пазычылі іх?

— Аднаму збяднеламу рыцару.

— Ну дык няхай ён і вяртае доўг.

— Разумееце,— спакойна сказаў Робін Гуд,— я падумаў, што гэта абат вырашыў вярнуць мне грошы. Мне здалося, што ў вашай паклажы іх нямала,— Робін Гуд павёў галавой у той бок, дзе ляжаў груз, зняты з коней.

— Там наогул грошай няма! — паспешліва крыкнуў келар.— Толькі адзежа ды сёе-тое з рэчаў.

— Зусім няма грошай? — на твары Робін Гуда адбілася здзіўленне.— І вы нічога не прыхапілі на дарожныя выдаткі?

— Ах, так, так, вы мне нагадалі,— спахапіўся манах.— Так, крыху ёсць. Дваццаць манет серабром. Паклажу развязваць не варта, ласкавы ёмен. Нічога каштоўнага там няма.

— І ўсё ж трэба распакаваць,— задумліва прамовіў Робін Гуд.— А раптам сама святая Марыя пажадала вярнуць грошы, якія ўзяў у нас бедны рыцар, і ператварыла вашы дваццаць манет серабра ў золата. Распакуй паклажу, Маленькі Джон.

Волат разаслаў на зямлі свой вялікі плашч, узяў адзін з куфэркаў, з цяжкасцю адчыніў і перакуліў яго. На плашч зіхатлівым вадаспадам пасыпаліся залатыя манеты.

— Цуд! — усклікнуў Робін Гуд.— О святая Марыя! Хіба я не казаў, што, магчыма, яна ператворыць серабро ў золата?

Маленькі Джон зламаў замок другога куфэрка, і на бліскучую груду манет са звонам паліўся яшчэ адзін залаты паток.

— Цуд! Цуд! — у адзін голас закрычалі разбойнікі і зайшліся ад рогату. Ім вельмі спадабаўся жарт атамана.

Келар, чорны як ноч, моўчкі пазіраў на высыпаны на плашч скарб.

— Палічы, колькі тут, Маленькі Джон,— загадаў Робін Гуд.

Грошай аказалася больш за восемсот фунтаў.

— Аддай манаху яго дваццаць манет,— зноў загадаў Робін Гуд свайму памочніку, і калі той адлічыў названую суму, сказаў келару: — Вось, калі ласка, манах, бяры. Мы не ўзялі з манастырскай казны ніводнага пені. Ты сам сказаў, што ў куфэрках было толькі дваццаць манет. Значыць, святая Марыя зрабіла цуд і прыслала нам цэлых восемсот фунтаў. Яна пажадала аддаць нам у два разы больш, чым узяў у нас рыцар, каб расплаціцца з настаяцелем яе манастыра.

— Шэльмы! Зладзеі! — разгневаўся келар.— Вярніце казну майго абата, а не, дык ён пракляне вас самымі страшнымі праклёнамі і нашле на вас пякельныя пакуты на гэтым і на тым свеце!

— А божухна! — усклікнуў Робін Гуд.— Вось як загаварыў пан галоўны келар! Пра казну ўспомніў, пагражае праклёнамі свайго абата! А мне не страшна. Я ні ў грош не стаўлю праклёны гэтага жорсткага і сквапнага папа, які гатовы адабраць ад удавы апошні шэлег, каб набіць свае куфры. Няўжо ты думаеш, манах, што я хоць крышачку баюся яго праклёнаў? Аддай, Маленькі Джон, келару яго верхавога каня, і няхай ён выбіраецца адсюль. Коні і паклажа застануцца ў нас.

Дружнымі воклічамі адабрэння сустрэлі разбойнікі рашэнне атамана. Келар, падумаўшы, таксама абрадаваўся, што яго адпускаюць цэлым і здаровым. Ён хуценька ўскарабкаўся на каня і паехаў разам са сваімі спадарожнікамі, якіх таксама адпусцілі.

Толькі манахі зніклі за лесам, як паказаўся сэр Рычард Лі. На дарогу ў яго пайшло значна больш часу, чым у Маленькага Джона. Той ляцеў галопам, а сэр Рычард ехаў павольна, бо шмат хто з яго людзей ішоў пеша.

— Хай беражэ вас бог, добры Робін Гуд, і ўвесь ваш хаўрус! — прывітаўся сэр Рычард, пад'ехаўшы бліжэй.

— З добрым прыбыццём, высакародны рыцар! — адказаў Робін Гуд.— Сардэчна запрашаю ў нашу зялёную пушчу. Як вы ўладзілі справы з манастыром Святой Марыі?

— О, яго настаяцель хацеў захапіць маю зямлю,— сказаў рыцар.— Дзякуючы вам, добры атаман, я выкупіў яе і вось прыехаў сёння, як абяцаў.

— А я падумаў, што сёння вас не ўбачу. Сонца ўжо амаль садзіцца.

— Даруй мне за спазненне. Я затрымаўся ў дарозе. Еду, бачу: спаборніцтва па барацьбе. На пераможца, на нейкага беднага ёмена, напалі несумленныя людзі. Вось я і застаўся, каб памагчы яму. Мне здаецца, гэта быў твой чалавек.

— Ага, сэр рыцар, гэта быў я і шчыра вам дзякую за дапамогу! — усклікнуў Маленькі Джон і выйшаў наперад.— Каб вы не заступіліся за мяне, патрабуючы справядлівасці, подлыя шэрыфавы леснікі расправіліся б са мной. Але я не пазнаў вас. Дзіўная з вамі зрабілася перамена.

— І я дзякую вам, сэр Рычард,— далучыўся да Маленькага Джона Робін Гуд.— Той, хто дапамагае каму-небудзь з нашых людзей, дапамагае і мне, а Маленькі Джон — мая правая рука. Не ведаю, што б я рабіў без яго.

— Я рады, што быў вам карысны,— сказаў рыцар.— А ў гэтым мяху, добры Робін, чатыры сотні фунтаў. Няхай пералічаць і праверацъ, ці ўсе яны там. І вось вам маленькі падарунак за вялікую мне паслугу — яшчэ дваццаць залатых.

— Схавайце свае грошы, сэр рыцар,— засмяяўся Робін Гуд.— Доўг мне ўжо вярнулі.

— Вярнулі мой доўг? — здзівіўся сэр Рычард.— Што вы хочаце сказаць, добры Робін Гуд? У мяне ніколі не было

прыяцеля, які б заплаціў за мяне такія вялікія грошы.

— Святой дзевай клянуся, такі прыяцель у вас знайшоўся,— рагатнуў Робін Гуд,— і вы здзівіцеся, пачуўшы яго імя, бо гэта не хто іншы, як сам настаяцель манастыра Святой Марыі.

— Не можа быць! — рашуча прамовіў сэр Рычард.— Ніколі не паверу. Што вы! Хіба можна сабе ўявіць, каб тоўсты і скважны стары шэльма абат па сваёй волі заплаціў мой доўг?

Робін Гуд зноў засмяяўся:

— Я не сказаў, што ён заплаціў па сваёй волі, сэр Рычард. Але ўсе грошы былі атрыманы з яго казны. Я поўнасцю разлічыўся з яго галоўным келарам, адпусціўшы гэтага манаха з мірам.

Сэр Рычард пачаў ужо здагадвацца, што здарылася. А калі пачуў пра цуд, які ператварыў дваццаць сярэбраных манет чорнага манаха ў восемсот залатых, ён весела зарагатаў.

— І ўсё ж, добры ёмен,— сказаў ён,— я прашу, каб вы ўзялі тое, што я вам вінен.

— Я не вазьму ў вас нават сярэбранага пені,— заявіў Робін Гуд.— Свае грошы я ўжо атрымаў, і ад таго, ад каго трэба. Лепш скажыце, сэр рыцар, навошта вам такі вялікі запас добрых лукаў і стрэл [redacted] прыгожым апярэннем? — Ён спытаў гэта, толькі каб загаварыць пра што-небудзь іншае.

Сэр Рычард растлумачыў:

— Разумееце, Робін, гэта мой вам сціплы падарунак.

Робін Гуд горача падзякаваў яму. Лукі і стрэлы ў прыгожых калчанах аддалі стралкам, якія прыйшлі ад іх у захапленне, бо зброю зрабілі самыя ўмелыя майстры і яна была сапраўды цудоўная.

— А цяпер, Маленькі Джон, схадзі ў скарбніцу і прынясі палавіну тых грошай, што заплаціў мне чорны манах. Манастыр Святой Марыі быў вінен нам чатырыста залатых, а келар прывёз восемсот.

Памочнік атамана прынёс чатырыста фунтаў, і Робін

Гуд аддаў іх сэру Рычарду. Рыцар адмаўляўся браць, але Робін Гуд настояў на сваім.

— Быць рыцарам цяжка. Трэба мець шмат грошай,— сказаў ён.— А я тут, у лесе, мала трачу. І калі здарыцца так, што вы зноў трапіце ў бяду, прыходзьце да Робін Гуда, і ён падзеліцца з вамі тым, што будзе ў яго ў казне. А зараз мы накрыем стол для вас і вашых спадарожнікаў, бо ўсе вы, відаць, прагаладаліся пасля такога далёкага падарожжа.

І зноў прынеслі яду і пітво. Рыцар са сваімі людзьмі елі і пілі і дзякавалі свайго гасціннага гаспадара — сябра і заступніка ўсіх гаротных і прыгнечаных, ворага жорсткіх тыранаў.

## Раздзел дваццаць першы



# РОБІН ГУД У НЯВОЛІ

Быў майскі ранак — тройцын дзень,
Ззяў сонцам неба гмах,
На дзёран лёг пярэсты цень,
Лес поўніў шчэбет птах.

Такога цудоўнага ранку, як у тую нядзелю ў маі, даўно ўжо не бачыў Шэрвудскі лес. Шчодра прыгравала яркае сонца. Маладую лістоту дубоў пяшчотна лашчыў лёгкі подых ветрыку, свежага і духмянага. Трава стракацела рознакаляровымі дзікімі кветкамі. Плямістыя алені пакінулі адкрытыя сонцу пагоркі і разлегліся пад цяністымі шатамі дрэў. Гэта быў самы чароўны дзень ранняга лета, і прыпаў ён якраз на тройцын дзень.

— Які светлы радасны ранак! — сказаў Маленькі Джон Робін Гуду.— На душы так лёгка і весела, што,здаецца, няма на зямлі чалавека, шчаслівейшага за мяне.

Робін Гуд нічога яму не сказаў. Маленькі Джон зірнуў на свайго атамана і ўбачыў сум на яго твары.

— Кінь журыцца, атаман,— падбадзёрыў яго Маленькі Джон.— Глянь, якая цудоўная майская раніца!

— Мяне гняце думка,— сказаў Робін Гуд,— што ў такі ўрачысты дзень мне нельга пайсці ў царкву. Даўно ўжо не быў я там.

— Бліжэй, чым у Нотынгеме, царквы няма,— умяшаўся ў гутарку Мач Млынароў сын, які стаяў побач.

— Што ж, значыць, пайду ў Нотынгем,— рашуча сказаў Робін Гуд.— У царкву Святой Марыі.

Мач з Маленькім Джонам спрабавалі адгаварыць яго, але дарэмна.

— Нікому і ў галаву не прыйдзе, што я магу паявіцца ў горадзе ў нядзелю,— даводзіў ім Робін Гуд.— Надзену шэры плашч з вялікім капюшонам і насуну яго на самы твар. Небяспека не большая, чым калі б я прагуляўся па лясной паляне.

— Калі так, атаман,— сказаў Мач,— вазьмі з сабою хоць бы тузін добрых хлапцоў са зброяй. Калі што здарыцца, яны дапамогуць табе.

— Не,— запярэчыў Робін Гуд,— столькі людзей можа выклікаць падазрэнне ў брамнікаў. А на аднаго ці двух чалавек яны не звернуць увагі. Са мной пойдзе толькі Маленькі Джон, панясе мой лук.

І Робін Гуд са сваім памочнікам пайшлі ў Нотынгем. Па дарозе між імі ўсчалася спрэчка, якая перайшла ў сварку. Робін Гуд так ускіпеў, што даў Маленькаму Джону аплявуху.

Волат не сцярпеў абразы і выняў з ножан меч.

— Калі б мяне ўдарыў хто іншы, а не мой атаман,— гнеўна сказаў Маленькі Джон,— меч гэты пабарвавеў бы ад яго крыві. Пашукай сабе каго іншага ў памочнікі, Робін Гуд, а я пайду ад цябе.

Яны разышліся ў розныя бакі. Робін Гуд пайшоў у Нотынгем, а Маленькі Джон павярнуў назад у лес. Малапамалу гнеў Робін Гуда астыў, і ён вельмі шкадаваў, што абразіў вернага свайго паплечніка. «Я памалюся перад алтаром Святой Марыі, каб Маленькі Джон прабачыў мне і паміраўся са мной»,— падумаў Робін Гуд, калі падышоў да горада і ўбачыў царкоўную званіцу, якая высока ўзнімалася над гарадскімі сценамі.

Ён лёгка прайшоў праз вароты, бо брамнікі не сталі прыглядацца да адзінокага падарожніка ў простай сялянскай адзежы, і адразу падаўся да царквы. Там ён укленчыў перад алтаром, памаліўся і папрасіў, каб яму даравана было выйсці з горада гэтак жа бесперашкодна, як ён увайшоў.

У самы разгар набажэнства ў царкве паявіўся высокі манах у чорнай расе. Па бакавым праходзе ён пайшоў на сваё месца ў алтары. Раптам манах спыніўся і ўтаропіўся на чалавека, які стаяў на каленях па другі бок калоны. На ім была вопратка з шэрай даматканай тканіны, капюшон плашча ляжаў на плячах, бо, заварожана слухаючы казань свяшчэнніка, ён высока ўзняў галаву.

Чорны манах нарэшце пераканаўся, што не памыліўся. Так, ён ведае яго, гэта Робін Гуд! У вачах у манаха ўспыхнулі гнеў і нянавісць. Ён асцярожна павярнуўся і паспяшаўся да выхада.

А Робін Гуд стаяў, укленчыўшы, на чарацянай маце і не падазраваў, што келар манастыра Святой Марыі пазнаў яго і цяпер спяшаецца прыняць захады, каб схапіць свайго ворага.

Чорны манах выйшаў з царквы і ледзь не подбегам кінуўся да шэрыфа. Але спачатку падышоў да брамнікаў і загадаў ім:

— Зачыніце браму! Замкніце на замкі і завалы! У горадзе небяспечны злачынец! Галавой адкажаце, калі дазволіце хоць каму-небудзь выйсці з горада ці ўвайсці, пакуль шэрыф не аддасць загаду.

Брамнікі адразу зачынілі вароты і наклалі завалы.

— Ага, нарэшце папаўся ён мне! Я злавіў самога Робін Гуда! — не памятаючы сябе ад радасці, крычаў келар, спяшаючыся да шэрыфа.— З горада яму не выбрацца. Трапіў, як птушка, у наша сіло!

Ён бесцырымонна ўварваўся ў дом шэрыфа і ўляцеў у гасцінуюю. Шэрыф драмаў, разваліўшыся ў крэсле.

— Прачніцеся! — закрычаў келар.— Добрая вестка! Я прынёс добрую вестку! Каралеўскі злачынец у горадзе! Я высачыў яго. Ён у царкве на абедні, там яго можна схапіць! Калі і гэты раз яму ўдасца выслізнуць з рук закону, гора вам!

— Што за гвалт? — спытаў спрасонку шэрыф.— Пэўна, зноў нейкі зладзюжка спустошыў манастырскую курасадню...

— Нейкі зладзюжка! Курасадня! — зароў манах.— Хіба я не сказаў, хто ён? Ха, нішто сабе зладзюжка, пан шэрыф... Гэта ж сам Робін Гуд!

Ад гэтага імя шэрыфа ўміг зляцелі апошнія рэшткі сну. Ён усхапіўся з крэсла. Іх разгарачаныя позіркі сустрэліся.

— Робін Гуд! — ледзь не задыхнуўся шэрыф.— Зноў у Нотынгеме? Не можа быць!

— Чыстая праўда, пан шэрыф! Толькі што я сам бачыў яго ў царкве Святой Марыі. Вы што, думаеце, я сляпы? Ды сярод тысячнага натоўпу я пазнаю гэтага праклятага грабежніка. Ён адабраў у мяне сотні залатых фунтаў. Абат вельмі сварыўся на мяне за гэта. Не, пан шэрыф, я не памыліўся. Яго твар навекі ўрэзаўся мне ў памяць. Я заўсёды пазна́ю яго.

Усё яшчэ не верачы, што Робін Гуд прабраўся ў горад, шэрыф, аднак, схапіў сярэбраны свісток, які вісеў у яго на поясе, і свіснуў. Адразу ўвайшоў слуга.

— Перадай Дзікану і Хэлу, каб яны зараз жа сабралі трыццаць леснікоў і былі гатовыя ісці са мной,— загадаў шэрыф і пачаў паспешліва адзявацца. Пакуль ён нацягваў скураную рубашку са сталёвымі латамі, падпяразваў меч,

надзяваў на галаву сталёвы шлем, леснікі выстраіліся ўжо на двары. Шэрыф павёў іх да царквы.

Паяўленне ўзброенага атрада ў божым храме выклікала пярэпалах і замяшанне. Шэрыф крыкнуў:

— Не бойцеся, добрыя прыхаджане, вам нічога не пагражае. Я прыйшоў арыштаваць небяспечнага злачынца, які пранік у наш горад.

— Вунь ён! — закрычаў келар.— Чалавек, што стаіць на каленях каля вялікай калоны,— Робін Гуд!

Ніхто так не здзівіўся, як сам Робін Гуд, калі ў царкве прагучала яго імя. Відаць, яго высачылі раней, бо цяпер капюшон быў зноў нізка апушчаны і закрываў увесь яго твар.

Калі людзі пачулі, што сярод іх славуты разбойнік, узняліся шум і сумятня. Некаторыя стоўпіліся вакол Робін Гуда, іншыя пачалі прабівацца да дзвярэй, але леснікі перагарадзілі ім дарогу.

Робін Гуд зразумеў, што адзіная магчымасць выратавацца — рашуча атакаваць ворага і прабіцца да выхада. Са шчымлівай тугой ён падумаў: «Эх, каб побач са мной быў Маленькі Джон! Ды якраз сёння яго са мной няма...» Ён выхапіў меч і, як раз'юшаны леў, рынуўся на леснікоў. Амаль два дзесяткі мячоў заблішчалі ў іх у руках. Але леснікі толькі заміналі адзін аднаму, штурхаліся, іх выпады былі занадта паспешлівыя, мячы са звонам сутыкаліся і не траплялі па цэлі. Шырокі ж клінок Робін Гуда мільгаў у паветры і паражаў ворагаў аднаго за другім.

— Не забіваць яго! — крычаў шэрыф.— Збіць з ног і ўзяць жыўцом. Такі загад караля!

Робін Гуд пазнаў голас шэрыфа, імгненна павярнуўся і, высока занёсшы меч, кінуўся на свайго заклятага ворага. Шэрыф адхіснуўся і падставіў пад меч свой шчыт. Сталь са звонам ударылася аб сталь. Шчыт вылецеў з рукі шэрыфа. Меч з сілай апусціўся на шлем, і шэрыф упаў на падлогу. Каб на ім у той час не быў шлем з асобай гартаванай сталі, зроблены выдатным майстрам, ён развітаўся б з жыццём. Удар быў такі моцны, што шлем са звычайнай сталі

раскалоўся б, быццам зроблены з паперы. Шлем шэрыфа вытрымаў удар. Меч Робін Гуда пераламаўся.

— Які каваль, такі і меч,— у роспачы прамовіў Робін Гуд.— Цяпер я бяззбройны сярод ворагаў.— Ён адкінуў убок абломак, падскочыў да чалавека, які трымаў у руках дубіну, але не паспеў вырваць яе, як леснікі накінуліся на яго ззаду, збілі з ног. На Робін Ґуда адразу навалілася больш дзесятка ворагаў і прыціснула да падлогі. І толькі калі яму скавалі рукі і ногі, леснікі адышлі ад яго.

Шэрыф падняўся ўжо на ногі. Хоць галава ў яго моцна кружылася пасля ўдару Робін Гуда, ён ледзь не ашалеў ад радасці, калі ўбачыў разбойніка ў путах.

— Адвядзіце яго і кіньце ў самую глыбокую цямніцу! — загадаў ён.

Робін Гуда павялі і зачынілі ў вузкай камеры, у якую скрозь густыя краты маленькага акенца толькі ў самы поўдзень пранікала кволае святло. Сцены былі сем футаў таўшчынёю, дзверы запіраліся на завалу з трыма вісячымі замкамі.

— Хай паспрабуе ўцячы адтуль! — пераможна сказаў шэрыф.— Гэтага магутнага ліхадзея я пасаджу за яшчэ больш моцныя сцены. Волі ён ужо не ўбачыць!

— Навошта мець лішні клопат? — сказаў келар, якому карцела хутчэй убачыць свайго ворага на шыбеніцы.— Чаму не павесіць адразу? Колькі разоў я чуў, як вы гразіліся, што накінеце яму на шыю пятлю, як толькі схопіце яго.

— І зрабіў бы так, каб гэта залежала толькі ад мяне,— злосна буркнуў шэрыф.— А яшчэ лепш, загадаў бы закалоць яго на месцы. Так і хацеў, але не пасмеў.

— Чаму ж не пасмелі? — не зразумеў манах.— Хто можа перашкодзіць шэрыфу?

— Той, хто стаіць над намі ўсімі,— амаль шэптам адказаў шэрыф.— Кароль! Я атрымаў загад караля прывезці Робін Гуда да яго, як толькі злаўлю. Кароль столькі начуўся пра гэтага дзёрзкага разбойніка, што хоча паглядзець на яго і пагаварыць.

Манах нейкі час маўчаў, зморшчыўшы лоб у глыбокім роздуме. Нарэшце сказаў:

— Пан шэрыф, злачынца высачыў і перадаў у вашы рукі не хто іншы, як я. Так?

— Так, вы,— пацвердзіў шэрыф.

— У такім разе я патрабую права самому паведаміць каралю пра яго арышт.

— Во, во,— зарагатаў шэрыф.— Спадзеяцеся атрымаць ад яго вялікасці цёпленькае месца ў царкве?

— Калі за тое, што я зрабіў, належыць узнагарода, дык зусім лагічна, што яе павінен атрымаць я,— рашуча прамовіў келар.

— Я не пярэчу,— адказаў шэрыф,— і ад усёй душы жадаю вам атрымаць якое-небудзь багатае абацтва. Вы зрабілі мне вялікую паслугу, і я сёння ж пасля абеду напішу каралю і раскажу пра ваш подзвіг.

— А я павязу пісьмо ў Лондан заўтра на світанні,— сказаў манах і пайшоў рыхтавацца да падарожжа.

Цэлы дзень Нотынгем гуў, як развярушаны пчальнік. Людзі збіраліся на вуліцах, перадавалі адно аднаму вестку пра арышт Робін Гуда. Вакол кожнага з тых, хто быў той раніцай у царкве Святой Марыі, збіраўся натоўп гараджан, якія з цікавасцю і хваляваннем слухалі расказ пра тое, як адважна біўся са стражнікамі славуты атаман разбойнікаў.

Але за сцены горада не выйшла ні слова пра тое, што тут адбылося. Шэрыф падвоіў варту каля варот і строга загадаў нікога не прапускаць ні з горада, ні ў горад, пакуль не стане вядома, як вырашыў лёс Робін Гуда кароль.

— Калі з Нотынгема ніхто не выйдзе,— гаварыў шэрыф,—Робін Гуд не зможа ўцячы ад нас. А калі ніхто не ўвойдзе, яго разбойнікам не ўдасца прабрацца ў горад, каб вызваліць свайго атамана.

Нотынгем нагадваў аблажаны ворагам горад. Усе вароты і ўдзень і ўночы былі зачыненыя на завалы і замкі.

І ўсё ж сумная вестка дайшла да зялёных стралкоў Робін Гуда. Яе прынёс у Шэрвудскі лес шавец Лоб.

Ён адзін з першых пачуў пра арышт Робін Гуда. Як толькі начная цемра ахутала горад, ён падняўся на дах свайго дома, што стаяў каля самай гарадской сцяны. Выбрацца з горада яму памагалі два яго верныя сябры, адданыя прыхільнікі Робін Гуда. На вяроўцы яны спусцілі шаўца са сцяны. Як толькі ён крануўся нагамі зямлі, памочнікі пацягнулі вяроўку назад, а Лоб паспяшаўся ў лес.

Шавец застаў людзей Робін Гуда ў лагеры. Разбойнікі, маўклівыя і сумныя, сядзелі на паляне вакол вялікага вогнішча. Сэрцы іх поўніліся трывогай за лёс атамана. Ён ужо даўно павінен быў вярнуцца. Больш за ўсіх непакоіўся і перажываў Маленькі Джон. Добрасардэчны волат ужо дараваў свайму сябру яго ўчынак і дакараў сябе за тое, што пакінуў яго аднаго.

І гнеў і смутак ахапілі лясных стралкоў, калі яны пачулі ад шаўца Лоба, што іх любімы правадыр сядзіць у нотынгемскай цямніцы. Самыя горшыя іх прадчуванні спраўдзіліся. Толькі Маленькі Джон упарта не хацеў верыць, што здарыцца самае страшнае.

— Робін Гуд пайшоў у Нотынгем памаліцца дзеве Марыі,— сказаў ён,— і яна не пакіне яго ў бядзе. Шмат разоў ужо нашаму адважнаму атаману пагражала смяротэльная небяспека, але кожны раз яму ўдавалася вырвацца з рук ворагаў. Веру, так будзе і цяпер. Мужайцеся, браты, кіньце смуткаваць. Трэба разведаць, што робіцца ў горадзе. А тады прыдумаем спосаб, як прабрацца туды і вызваліць нашага важака.

На досвітку Маленькі Джон і Мач прытаіліся ў гушчары перад паўднёвымі варотамі Нотынгема. Замест зялёных куртак яны надзелі скураныя камізэлькі і сталі падобныя на гандляроў-перакупшчыкаў, што ходзяць з кірмаша на кірмаш, купляючы і прадаючы жывёлу. Так яны маглі спакойна, не выклікаючы падазрэння, хадзіць па дарогах і навакольных вёсках.

Гэты майскі ранак таксама выдаўся цудоўны. Сонца ззяла на небе ва ўсёй сваёй красе. На сэрцы ў Маленькага Джона і ў Мача зрабілася балюча. Яны ўявілі сабе Робін Гуда ў цёмным брудным падзямеллі, дзе не чуваць ні вясёлых спеваў птушак, ні шапацення шаўкавістай маладой лістоты.

Раптам яны ўбачылі, як адчынілася бакавая фортка і з горада выехалі два чалавекі — чорны манах на цяжкім дужым кані і маленькі паж на белым скакуне. Фортка за імі адразу зачынілася, і коннікі паскакалі да дубровы, у якой хаваліся Маленькі Джон і Мач.

— Я ведаю гэтага манаха,— шапнуў Маленькі Джон.— Гэта келар манастыра Святой Марыі. Памятаеш яго, Мач? Мы вытраслі з яго куфэркаў цэлую груду золата, прыпамінаеш?

Мач сцвярджальна кіўнуў галавой. Маленькі Джон падаў яму знак выбірацца з гушчару. Напрасткі цераз дуброву яны выйшлі на дарогу і падаліся ў бок горада. На павароце яны зноў убачылі двух коннікаў, якія ехалі ступой, насцярожана азіраючыся па баках.

Келар уважліва паглядзеў на падарожнікаў. Насустрач ім ішлі два прасталюдзіны ў старых скураных камізэльках з дарожнымі кіямі ў руках. Неўзабаве коннікі і пешаходы стрэліся.

— Добрай раніцы,— прывітаў манаха Маленькі Джон і пакланіўся.— Ці не з Нотынгема едзеце?

— Адтуль,— адказаў манах.

— Ці праўду кажуць людзі, быццам учора злавілі гэтага страшнага разбойніка Робін Гуда?

— Дзіўна, як хутка раскрылася тайна! — усклікнуў келар.— Розуму не дабяру, якім чынам выйшла гэтая вестка за сцены горада? Так, добры ёмен, гэтага малойчыка ўчора схапілі ў царкве Святой Марыі.

— Праўда? Добрая навіна! Нягоднік, ён сілай адабраў у мяне і ў майго прыяцеля грошы. Добра, што яго схапілі!

— Ен і мяне абрабаваў,— паскардзіўся манах.—

Столькі золата забраў з манастырскай казны! Але ўчора я адпомсціў яму: выкрыў яго і выдаў шэрыфу. Каб не я, яго б не арыштавалі. За гэта вы павінны дзякаваць мне.

— Няхай неба аддзячыць вам за ўсё,— сказаў Маленькі Джон.— Надарыцца магчымасць, мы таксама не паскупімся. А зараз, калі дазволіце, мы праводзім вас, бо лес гэты кішыць разбойнікамі Робін Гуда. Чаго добрага, убачаць вас, і тады вам канец.

— Ведаю,— адказаў манах,— але ў нас шпаркія коні. Калі будзе пагражаць небяспека, мы ўцячом ад іх.

— Небяспеку не заўсёды адразу заўважыш,— запярэчыў Маленькі Джон.— Таму лепш будзе, калі мы разам з вамі пойдзем праз лес.

І яны — і конныя, і пешыя — рушылі па дарозе, што цягнулася ўздоўж лесу. Келар так ганарыўся сваім подзвігам, што не пераставаў хваліцца. Расказаў і пра тое, што вязе пасланне ад шэрыфа самому каралю Рычарду.

Неўзабаве яны апынуліся ў глыбокай лагчыне. І тут у самым глухім месцы Маленькі Джон раптам узяў келаравага каня за аброць. Манах адразу адчуў нядобрае, выхапіў з-пад плашча кінжал і замахнуўся. Маленькі Джон таксама выцягнуў кінжал, які вісеў у ножнах пад скураной камізэлькай, і адказаў ударам на ўдар. Келар мёртвы ўпаў на зямлю.

— Гэта ён вінаваты, што з нашым атаманам здарылася страшная бяда,— сказаў Маленькі Джон Мачу.— Цяпер яму ўжо не давядзецца пахваляцца перад каралём.

Мач прытрымаў белага скакуна за повад і затрубіў у ражок. З лесу выбеглі некалькі лясных стралкоў. Маленькі Джон загадаў ім пахаваць чорнага манаха, а пажа ўзяць з сабой і не адпускаць, пакуль яны з Мачам не вернуцца.

Маленькі Джон дастаў з кішэні манаха пасланне шэрыфа, сеў на келаравага каня, Мач — на белага скакуна, і яны паехалі на поўдзень.

Дабраўшыся да Лондана, яны распыталі ў людзей

дарогу да каралеўскага палаца. Вартавы спыталі ў іх, з якой справай яны ідуць да караля.

— У нас важнае пасланне гасудару ад шэрыфа нотынгемскага,— адказаў Маленькі Джон.— Нам строга-настрога загадалі перадаць яго ў рукі каралю Рычарду.

Маленькага Джона і Мача прывялі ў прасторную залу, дзе ў вялікім крэсле сядзеў кароль Англіі. Яго акружалі лорды і прэлаты. Маленькі Джон укленчыў і падаў каралю пісьмо шэрыфа.

— Хай беражэ вас бог, мой гасудар, міласцівы кароль,— сказаў ён.— Я прывёз вашай вялікасці пісьмо ад шэрыфа горада Нотынгема.

Кароль узяў з рук Маленькага Джона скрутак, распячатаў яго і пачаў чытаць. Волат стаяў на каленях і з захапленнем пазіраў на манарха. І сапраўды, было чым захапляцца: такое велічнае было ўсё яго аблічча, аблічча Рычарда Плантагенета, Рычарда Львінае Сэрца. Мужны, прыгожы твар, ясныя блакітныя вочы, магутная і ўладарная постаць. Усё ў ім гаварыла, што гэта кароль. Маленькі Джон стараўся запомніць кожную рысу яго твару і постаць, каб потым дакладна апісаць вобраз гэтага царственнага воіна сваім таварышам у Шэрвудскім лесе.

Раптам Рычард звонка ўдарыў далонню па падлакотніку свайго каралеўскага крэсла.

— Ведаеце, што ў гэтым пасланні, мілорды? — сказаў ён.— Прыемная вестка ад шэрыфа горада Нотынгема. Ён нарэшце такі схапіў гэтага дёрзкага разбойніка Робін Гуда з Шэрвудскага лесу, трымае яго пад моцнай аховай і чакае майго прысуду.

— Добрая навіна! Добрая! — усклікнуў біскуп Герфардскі, які разам з іншымі царкоўнікамі стаяў каля трона.— Цяпер у вашай уладзе лёс найвялікшага злачынца ва ўсім хрысціянстве. Памятаеце, мой гасудар, я расказваў вам, як гэты нягоднік абрабаваў мяне, не раз непаважліва абыходзіўся са мной? Неяк, каб пацешыцца, ён нават прымусіў мяне скакаць пад музыку. Другі раз адаслаў мяне ў Нотынгем верхам, пасадзіўшы на каня задам напе-

рад. Я вельмі шчаслівы, што цяпер ён у вашых руках, гасудар, і ваша вялікасць нарэшце пашле яго на шыбеніцу.

Апошнія словы біскуп прамовіў, ужо ледзь пераводзячы дух, бо ад вялікага ўзбуджэння гаварыў вельмі хутка. Адно імя Робін Гуда ўводзіла яго ў шаленства.

Кароль усміхнуўся і зноў глянуў на паперу. Яго, відаць, не дужа турбавалі крыўды і пакуты біскупа Герфардскага.

— Ва ўсёй Англіі няма ніводнага ёмена, якога б так хацеў бы бачыць, як гэтага Робін Гуда,— сказаў Рычард.— Я жадаю даведацца, як ён кіруе сваёй шайкай. Што за чалавек правіць Шэрвудскім лесам, як я, каранаваны кароль, праўлю краінай?

У зале запанавала цішыня. Раптам кароль рэзка падняў галаву і пільна глянуў на Маленькага Джона праніклівымі блакітнымі вачамі.

— Ёмен,— строга сказаў ён,— тут гаворыцца, што ліст гэты пасылаюць мне з манахам. А дзе ён, манах? Чаму не ён, а ты прывёз мне пісьмо?

— Даруйце, міласцівы гасудар,— сказаў разбойнік.— Манах сканаў у дарозе, і пасланне даверылі мне.

Кароль абыякава кіўнуў галавой. Урэшце яму было няважна, як дайшла да яго вестка, абы яна была праўдзівая.

— Я жадаю бачыць Робін Гуда,— сказаў кароль Рычард Маленькаму Джону.— Ты, ёмен, прынёс мне вестку пра яго, ты і прывязеш яго да мяне.

Маленькі Джон нізка пакланіўся.

У знак сваёй манаршай прыхільнасці Рычард узнагародзіў пасланцоў дваццаццю залатымі, прысвоіў ім званне ёменаў кароны і загадаў, каб яны былі пры яго каралеўскай асобе, калі вернуцца ў Лондан з Робін Гудам. Потым даў Маленькаму Джону каралеўскую пячатку, каб ён паказаў яе нотынгемскаму шэрыфу. Шэрыф павінен перадаць Маленькаму Джону палоннага, і ён пад аховай сарака лучнікаў прывязе Робін Гуда ў Лондан да караля.

Разбойнік развітаўся з каралём Рычардам і разам з Мачам паехаў назад у Нотынгем, схаваўшы на грудзях каралеўскую пячатку.

Калі ён з Мачам пад'ехаў да горада, вароты былі наглуха зачынены. Маленькі Джон пачаў моцна стукаць і кліваць брамніка. Неўзабаве той паказаўся на гарадской сцяне і спытаўся, што яму трэба.

— Што гэта значыць? — закрычаў Маленькі Джон, зрабіўшы выгляд, быццам вельмі здзіўлены.— Гарадскія вароты на замках і завалах сярод белага дня! Ты што, заспаў, брамнік?

— Вароты зачынены і ўдзень і ўночы, бо злавілі Робін Гуда і ён сядзіць у глыбокім падзямеллі,— адказаў брамнік.— Мы нікога не пускаем у горад, каб не прабраліся разбойнікі. Яны хочуць уварвацца ў Нотынгем, страляюць у вартаўнікоў, калі ўбачаць іх на сценах. Ужо некалькі нашых забілі.

— А мяне ты мусіш прапусціць, бо я прывёз шэрыфу загад ад самога караля!

Пачуўшы гэтыя словы, брамнік адчыніў бакавую фортку, прапусціў пасланцоў караля і хуценька зачыніў яе зноў. Маленькі Джон убачыў, што вароты ахоўвае вялікі атрад узброеных коннікаў і пешых лучнікаў.

— Мне трэба як хутчэй убачыць шэрыфа,— заявіў Маленькі Джон начальніку, і яго павялі да шэрыфа. Яны засталі яго ў гасцінай.

— Я прывёз загад караля,— сказаў Маленькі Джон і выняў з-за пазухі каралеўскую пячатку.

Шэрыф убачыў пячатку, падхапіўся з крэсла, зняў шапку і пакланіўся, быццам перад ім стаяў сам Рычард Львінае Сэрца.

— Што загадвае яго вялікасць кароль? — спытаў шэрыф.

Маленькі Джон пераказаў яму каралеўскі загад.

— А што зробяць са злачынцам, калі вы прывезяце яго ў Лондан? — пацікавіўся шэрыф.

— Гаварылі, што яго павесяць на шыбеніцы,— адказаў Маленькі Джон.

— Добра! Вельмі добра! — зларадна пацёр рукі шэрыф.— Нягоднік заслужыў такі канец. А дзе чорны манах, якому я даручыў везці маё пасланне? Ён спадзяваўся атрымаць ад караля ўзнагароду за прыемную вестку.

— Ён атрымаў яе,— сказаў Маленькі Джон.— Такую вялікую, што ў Нотынгем ужо не вернецца. Яго ўзнагародзілі па заслугах.

— Грашамі ці зямлёй?

— Зямлёй. Ён атрымаў досыць зямлі і вельмі задаволены шчодрасцю. А цяпер я, пан шэрыф, і мой спадарожнік пойдзем у карчму, падсілкуемся і адпачнём, бо вельмі здарожыліся і прагаладаліся. Заўтра ж нам трэба везці разбойніка ў Лондан.

— Не, не! — сказаў шэрыф.— У карчму сёння я вас не пушчу. Будзеце маімі гасцямі. Вечарам мы наладзім банкет. Няхай ведае кароль, як гасцінна я прымаю яго пасланцоў.

Увечары ў доме шэрыфа ўсе пілі за здароўе яго вялікасці караля Англіі і за смерць Робін Гуда. Маленькі Джон з Мачам толькі рабілі выгляд, што п'юць.

І шчодра Джона частаваў
Шэрыф у вечар той;
Як ноч прыйшла, ён паказаў
Гасцям, дзе іх пакой.

Маленькі Джон і Мач размясціліся ў невялікім пакойчыку, дзверы якога выходзілі ў залу. Мач лёг на сенніку ў нагах Маленькага Джона. Сябры пачакалі, пакуль у доме сцішыцца, а потым усталі, накінулі на сябе плашчы і ўзялі ў рукі мячы. Ціхенька выйшлі ў залу і пачалі красціся да шэрыфавай спальні. Ступалі вельмі асцярожна, бо ўсюды — і ля каміна, і на матах, раскіданых на падлозе,— ляжалі шэрыфавы людзі. Яны, перапіўшыся, моцна спалі.

Маленькі Джон з Мачам пранікли ў спальню шэрыфа. Ён таксама спаў моцным сном. Маленькі Джон смела зняў з яго пальца пярсцёнак. Ён быў ім патрэбны.

Вартаўнік каля парадных дзвярэй таксама хроп. Сябры спакойна выйшлі з дома і па цёмных начных бязлюдных вуліцах пайшлі да турмы. Там яны пастукалі эфесамі мячоў у акаваныя жалезам дзверы.

Грукат пранёсся па турэмных калідорах, падняў на ногі начальніка варты. З факелам у руцэ ён падышоў да дзвярэй.

— Хто там? — спытаў турэмшчык.— Што вам трэба?

— Робін Гуд уцёк з турмы! — закрычаў Маленькі Джон.— Ты нядбайны турэмшчык!

— Няпраўда, ты лжэш,— сказаў начальнік варты.— Ён сядзіць у самай глыбокай падземнай камеры. Толькі што я сам бачыў яго ў путах.

— І ўсё ж мы павінны праверыць, каб пераканацца, што ён у цямніцы,— рашуча сказаў Маленькі Джон.

— А хто вы такія?

— Мы пасланцы караля. У нас ёсць знак ад шэрыфа.

У дзвярах было невялічкае акенца з кратамі, і праз яго турэмшчык бачыў тых, што патрабавалі пусціць іх у турму. Святло факела пранікала праз акенца, і Маленькі Джон паднёс пад яго чырванаваты водбліск пярсцёнак шэрыфа. Начальнік варты пазнаў пярсцёнак і адчыніў дзверы. Маленькі Джон пераскочыў цераз парог і схапіў турэмшчыка за горла, каб той не мог сваім крыкам успудзіць каравул. Мач таксама ўскочыў у калідор і звязаў турэмшчыка па руках і нагах вяроўкай, якую загадзя прыпас і прынёс пад плашчом.

Галаву турэмшчыка захуталі яго ж курткай. Вялікая вязка ключоў, што вісела на рэмені, апынулася ў руках Маленькага Джона.

— Цяпер за турэмшчыка буду я,— сказаў Маленькі Джон і запёр начальніка варты ў адну з падземных цямніц.

Потым з факелам у руцэ спусціўся па каменнай лесвіцы ў глыбокае падзямелле, дзе было шмат дзвярэй, але толькі адны зачыненыя на тры вісячыя замкі. Маленькі Джон падумаў, што менавіта ў гэтай камеры пакутуе яго атаман, і пачаў падбіраць ключы, устаўляючы іх адзін за адным у замочную шчыліну.

Нарэшце шосты ці сёмы ключ падышоў, і першы замок адамкнуўся, потым адамкнуліся і астатнія два. Маленькі Джон зняў цяжкую жалезную завалу з тоўстых прабояў, адчыніў дзверы і зайшоў у камеру. У дальнім кутку на саломе ляжаў звязаны чалавек. Калі полымя факела асвяціла яго постаць, Маленькі Джон пазнаў свайго атамана і падбег да яго. Робін Гуд прыўзняўся. Ён часта-часта маргаў, бо святло факела асляпіла яго пасля многіх дзён амаль апраметнай цемры.

— Атаман! Атаман! Гэта я! Уставай, бяжым!

— Маленькі Джон! — здзіўлена прашаптаў Робін Гуд, не верачы сваім вачам, хоць і пазнаў вернага друга.

— Я, я, гэта я! — Маленькі Джон разрэзаў вострым нажом вяроўкі на Робін Гудзе, дастаў з-пад плашча запасны меч і даў яго атаману. Той усхапіўся на ногі, радуючыся, што вызваліўся ад путаў і цяпер можа з мячом у руцэ змагацца за сваё жыццё.

Раптам яны пачулі папераджальны вокліч Мача, які застаўся наверсе, каб ахоўваць выхад з турмы. Сябры рынуліся наверх, дзе чуўся звон мячоў і гул галасоў. На двары яны ўбачылі, што Мач адбіваецца ад пяці салдат варты. З ваяўнічым клічам Маленькі Джон кінуўся на салдат, за ім — Робін Гуд. Праз хвіліну яны адцяснілі варту і загналі назад у вартоўню.

— Бяжым! Бяжым! — крыкнуў Маленькі Джон.— Шум хутка падыме на ногі ўвесь горад. За мной! — і пабег да выхада з турмы.

— Да Заходніх варот! — загадаў Робін Гуд, калі яны выбеглі на вуліцу.— Там самая слабая варта.

Але ў гэты момант над іх галовамі зазвінеў, загуў

вялікі звон гарадской вежы. Нехта шалёна біў у набат.

— Цяпер ужо нідзе не будзе слабой варты, атаман! — закрычаў Маленькі Джон пад аглушальны гул, што нёсся над начным горадам.— Набат усіх падыме на ногі, і хутка ўсе вуліцы запрудзяць ворагі. Сюды! Бяжыце сюды! — і памчаўся па вузкім завулку. Мач з Робін Гудам пабеглі за ім.

Ноч выдалася бязмесячная. У вузкіх праходах між дамоў было хоць вока выкалі, сябры не бачылі адзін аднаго.

Маленькі Джон на імгненне спыніўся і ўсунуў у рукі Робін Гуду крысо свайго плашча, а той падаў Мачу крысо сваёй курткі. Трымаючыся адзін за аднаго, яны пабеглі далей. Маленькі Джон кідаўся то ў адзін завулак, то ў другі, бо ведаў кожны куточак у Нотынгеме і нават ноччу мог знайсці дарогу.

Нарэшце ён спыніўся пад нейкай аркай. Уцекачы сталіся і прыслухаліся. Гоман і крыкі на вуліцах рабіліся ўсё гучнейшыя, набатны звон не пераставаў грымець, у вокнах замільгалі агеньчыкі, гараджане пачалі выскокваць дамоў.

— Што здарылася? Пажар ці грабежнікі напалі на горад? — чуліся крыкі.

— Пастаім тут, пакуль на вуліцах не збяруцца людзі,— сказаў таварышам Маленькі Джон.— А тады змяшаемся з імі, і нас ніхто не пазнае.

Неўзабаве паўз іх прабеглі некалькі гараджан з палкамі і алебардамі ў руках і двое ці трое з ліхтарамі. Праз некалькі хвілін ужо шмат людзей мітусілася на вуліцах, пыталі адзін у аднаго, што здарылася. Тром сябрам можна было цяпер пакінуць сваё сховішча і далучыцца да натоўпу, не баючыся, што на іх звернуць увагу.

Маленькі Джон зноў павёў сяброў, і хутка яны зразумелі, што ідуць да майстэрні шаўца Лоба. Калі падышлі да веснічак, нехта на вуліцы гучна сказаў:

— З турмы ўцёк разбойнік Робін Гуд. Каля ўсіх варот моцная ахова. Есць загад абшукаць у горадзе кожны дом.

— Навіна якраз для нас,— ціхенька засмяяўся Маленькі Джон.— Трэба як мага хутчэй выбірацца з горада.

Ён хуценька падышоў да акна Лобавай майстэрні і лёгенька пастукаў у аканіцу. Шавец адчыніў аканіцу. Акенца было невялічкае, без шкла — проста вузкая адтуліна ў сцяне. Маленькі Джон усунуў у яе галаву.

— Лоб,— прашаптаў ён,— ты дома адзін?

— Адзін, Джон,— таксама шэптам адказаў шавец, пазнаўшы голас памочніка Робін Гуда.

— Дык хутчэй адчыняй дзверы і дай нам зайсці.

Шавец таропка адчыніў дзверы, і ўцекачы ўвайшлі ў дом. Лоб зноў зачыніў аканіцу і запаліў лямпу. Тут ён убачыў Робін Гуда і аж заззяў ад шчасця. Атаман на свабодзе!

— А цяпер не марудзь, Лоб,— сказаў Маленькі Джон.— Нам трэба як мага хутчэй выбрацца з горада.

— Падымайцеся па гэтай лесвіцы на дах,— сказаў шавец.— Там ляжыць скручаная вяроўка.

Усе падняліся па прыступках наверх і вылезлі на дах, а адтуль перабраліся на гарадскую сцяну. Першым абвязалі вяроўкай і спусцілі па другі бок сцяны Робін Гуда. Потым Маленькі Джон апусціў Мача, а сам ухапіўся за край сцяны і саскочыў уніз, бо Лоб не ўтрымаў бы яго. Шавец хуценька скруціў вяроўку і вярнуўся ў дом, а трое сяброў падаліся ў лес.

Недзе звонка закукарэкаў певень. Робін Гуд зірнуў на ўсход.

— Мы своечасова ўцяклі,— сказаў ён.— Яшчэ трохі, і было б позна. Хутка развіднее.

Неба на ўсходзе пашарэла, вось-вось падымецца сонца. Трое разбойнікаў з усіх ног прыпусцілі ў лес.

А ў горадзе шэрыф не мог дачакацца раніцы. Ён быў упэўнены, што, калі развіднее, Робін Гуда зловяць і зноў пасадзяць у цямніцу. Яго, як і іншых гараджан, пабудзіў набатны звон. Нельга апісаць словамі, як ён шалеў ад злосці, калі яму далажылі, што вязень уцёк з турмы.

А разам з гневам прыйшоў страх. Шэрыф не знаходзіў сабе месца. Ен баяўся за свой лёс.

— Як я гляну ў вочы каралю! — лямантаваў ён.— Калі я паяўлюся перад ім без Робін Гуда, ён пашле мяне на вісельню. Я ведаю яго!

Шэрыфу неабходна было злавіць уцекача, не толькі каб накінуць вяроўку на яго шыю, але каб выратаваць ад вяроўкі сваю.

Калі яму паведамілі, што ніводзін чалавек не выйшаў ноччу праз вароты з горада, на душы ў яго крыху палегчала.

— Гэты шэльма, відаць, хаваецца ў каго-небудзь з прыяцеляў,— выращыў ён.— Хутка развіднее, мы абшукаем кожны дом, кожную павець, кожны склеп, кожны хлеў і схопім яго.

Як і гаварыў шэрыф, раніцай перdroтрэслі ўвесь горад, але дарэмна: Робін Гуд быў ужо ў Шэрвудскім лесе. На сэрцы ў яго было весела і радасна, як у птушкі, што сядзіць на зялёнай галіне пад пяшчотным майскім сонейкам.

Зноў і зноў дзякаваў Робін Гуд сваім верным сябрам за выратаванне ад смяртэльнай небяспекі, а стралкі высока ўзнімалі лукі, вітаючы свайго атамана, які вярнуўся да іх цэлы і здаровы.

Маленькі Джон сказаў Робін Гуду:

— Атаман, я дабром заплаціў табе за крыўду, бо ведаў, што ты пакутуеш у турме і можаш загінуць. Цяпер, калі ты на волі і зноў стаіш пад нашым запаветным дубам, я развітваюся з табой. Бывай і будзь здароў.

— Не, Маленькі Джон, не! — горача ўсклікнуў Робін Гуд.— Не пакідай мяне. Я вельмі шкадую аб сваім учынку. Клянуся, ты лепшы камандзір, чым я. Бяры пад сваю каманду нашу лясную дружыну і мяне. Будзь атаманам.

Словы Робін Гуда кранулі добрае сэрца волата. Ен сказаў:

— Не, атаман, гэтага ніколі не будзе. Як і дагэтуль,

буду тваім верным паплечнікам і больш нікім — толькі зялёным стралком Робін Гуда.

І зноў сябры стаялі поплеч пад векавым дубам — атаман і яго першы памочнік. Вечарам усе весела адзначылі гэту радасную падзею сяброўскай вячэрай.

А нотынгемскі шэрыф упаў у роспач, калі даведаўся, што Робін Гуд зноў гуляе са сваёй вольніцай у Шэрвудскім лесе. Ён напісаў пісьмо каралю Рычарду, молячы яго дараваць яму. У канцы ён пісаў, што яго не падманулі б, каб не паказалі каралеўскую пячатку.

У гневе Рычард закрычаў,
Аж задрыжала столь:
— Маленькі Джон нас ашукаў,
Забыў, што я — кароль!
Джон і шэрыфа ашукаў.
Шэрыф невінават,
А то б я мігам загадаў,
Каб ім заняўся кат.

Блакітныя вочы Рычарда наліліся гневам, і кроў прыліла да твару. Але гнеў ніколі доўга не муціў розуму Рычарда Львінае Сэрца, і неўзабаве дзёрзкі ўчынак разбойніка нарадзіў у ім больш высокія пачуцці.

— Клянуся каронаю, мілорды,— сказаў ён сваім прыбліжаным,— чалавек гэты шчыра адданы свайму атаману. Ён любіць Робін Гуда мацней, чым караля. Хацеў бы я мець такіх верных і адданых прыхільнікаў. Робін Гуд павек у даўгу перад адважным Маленькім Джонам за сваё вызваленне. Шчыра кажучы, лоўка ашукаў мяне гэты шэльма. Такіх слаўных ёменаў у Англіі на пальцах адной рукі пералічыць можна. Я гатовы аддаць дыямент з маёй кароны, абы сустрэцца з Робін Гудам, у якога такія верныя паплечнікі. Каторы ўжо раз выслізвае ён з маіх рук! — Рычард усміхнуўся, прыгадаўшы, як шчодра адарыў ён двух разбойнікаў, у якіх была толькі адна мэта — вызваліць Робін Гуда з няволі.

Што датычыцца пажа, які ехаў з келарам, дык яму прыйшлося даспадобы жыццё ў Шэрвудскім лесе. Ён не вярнуўся ў Нотынгем, а стаў служыць Робін Гуду. З цягам часу зрабіўся такім жа добрым лясным стралком, як і ўсе астатнія вольныя стралкі Робін Гуда.

Раздзел дваццаць другі



## УІЛ СТ'ЮТЛІ ТРАПЛЯЕ Ў ПАСТКУ

Здарылася так, што ў тую ноч, калі Робін Гуд, Маленькі Джон і Мач уцякалі з Нотынгема, іх бачыў адзін чалавек — сусед шаўца Лоба. Ён прачнуўся ад трывожнага гулу набата і крыкаў людзей і выбег на вуліцу, каб даведацца, што здарылася. Калі вяртаўся дамоў, з даху Лобавай майстэрні яму пачуліся ціхія крокі, нібы хтосьці краўся. Чалавек гэты, якога звалі Хіг, быў сквапны і прадажны. Ён стаіўся і пачаў сачыць за домам Лоба. Неўзабаве ўбачыў на гарадской сцяне тры чалавечыя цені. Але толькі раніцай, калі вяшчальнік шэрыфа абвясціў па ўсім горадзе, што назначана вялікая ўзнагарода таму, хто схопіць Робін Гуда і двух яго хаўруснікаў, якія выдаюць сябе за пасланцоў караля, ён зразумеў, каго ён бачыў уначы.

Доўга не думаючы Хіг пабег да шэрыфа і расказаў яму пра тое, што бачыў. Шэрыф вырашыў схапіць Лоба. Ён збіраўся ўжо аддаць загад, ды раптам падумаў: «Лоб усяго толькі просты шавец. Яго арышт мне мала што дасць. Калі разбойнікі выкарысталі яго майстэрню для ўцёкаў, зна-

чыць, яны з Лобам добра знаёмыя, наведваюцца да яго. Лепш загадаю назіраць за яго домам, і, магчыма, у гэту пастку трапіць больш важная птушка, чым Лоб».

Шэрыф заплаціў даносчыку дванаццаць сярэбраных пенсаў і абяцаў даць яшчэ пяцьдзесят за тое, што Хіг будзе пільна сачыць за шавецкай майстэрняй і адразу ж паведаміць яму, калі ў яе зойдуць падазроныя людзі.

Хіг паклаў грошы ў кішэню і з таго дня пачаў цікаваць за дваром Лоба. Мінула больш тыдня, і нарэшце Хіг, запыханы, прыбег да шэрыфа.

— У Лоба нейкі незнаёмы чалавек,— паведаміў ён.— Не гарадскі жыхар. Відаць, лясны разбойнік.

Шэрыф загадаў тром стражнікам схапіць незнаёмца, якога яны заспеюць у шаўца Лоба, і прывесці да яго. Стражнікі заспяшаліся да Лоба, уварваліся ў майстэрню і засталі гаспадара за гутаркай з рослым, моцнага складу чалавекам. Гэта быў Уіл Ст'ютлі. Па даручэнню атамана ён прабраўся ў горад, каб праверыць, ці ўсё добра ў Лоба, ці не падазраюць яго ва ўцёках Робін Гуда і яго сяброў. І выйшла так, што клопат пра чалавека, які дапамог Робін Гуду выратавацца, прывёў да правалу Уіла Ст'ютлі. Нікому і ў галаву не прыйшло, што па загаду шэрыфа за Лобам тайна сочыць хітры і прадажны сусед.

Адзін з шэрыфавых людзей ведаў Уіла Ст'ютлі ў твар і адразу пазнаў яго.

— Гэта лясны разбойнік! — закрычаў ён.— Хапайце яго, хлопцы. Шэрыф будзе сам не свой ад радасці. Гэта ж адзін з завадатараў шайкі!

Уіл хуценька выхапіў меч і кінуўся да дзвярэй. Завязалася жорсткая барацьба. Ст'ютлі забіў двух праціўнікаў і выскачыў на двор. Але там яго чакалі новыя ворагі, яны адолелі яго.

Калі палоннага прывялі да шэрыфа, ён засмяяўся.

— Пра гэтага разбойніка не трэба дакладваць каралю,— сказаў ён зларадна.— Ён цалкам у маёй уладзе і на світанні загайдаецца на шыбеніцы. Адвядзіце яго ў падзя-

мелле, і няхай моцны атрад лучнікаў ахоўвае турму, пакуль пятля не зацягнецца ў яго на шыі.

Калі пачуў пра Уіла весць,
Стаў змрочны Робін Гуд
І за яго жыццё і чэсць
Падняў увесь Шэрвуд.
— Уіла трэба ратаваць,—
Сказаў сваім стралкам,—
І нават ўся шэрыфа раць
Не перашкодзіць нам.

Робін Гуд склікаў сваю дружыну з усяго Шэрвудскага лесу і павёў яе вызваляць Уіла Ст'ютлі.

Атрад рушыў да Нотынгема і перад самым світаннем залёг у засадзе каля гарадской сцяны. Калі развіднела, Робін Гуд і яго людзі ўбачылі, што непадалёку ад варот стаіць шыбеніца. Шэрыф загадаў пабудаваць яе тут, за горадам, насупраць лесу, знарок. Ён хацеў пасмяяцца з Робін Гуда, бо быў упэўнены, што той не паспее прыйсці на дапамогу свайму сябру: так хутка ён выканае свой прысуд. Але шэрыф пралічыўся. Робін Гуд дзейнічаў рашуча і апярэдзіў яго.

— Вунь, бачыш, каля самых варот стаіць стары вандроўны багамолец,— сказаў атаман Маленькаму Джону.— Пашлі да яго чалавека, хай выведае ў яго апошнія навіны.

Пагаварыць з багамольцам пайшоў малады ёмен. Ён вярнуўся з весткай, што з горада хутка выведуць Уіла Ст'ютлі і павесяць. І тут брама раптам расчынілася насцеж, і з горада выйшла вялікая калона лучнікаў, кап'ёўшчыкаў і алебарднікаў. Шэраг за шэрагам, акружылі яны шыбеніцу. Кончыкі іх коп'яў, лёзы алебардаў і клінкі мячоў пагрозліва блішчалі ў промнях узыходзячага сонца.

Нарэшце вывелі Уіла Ст'ютлі са звязанымі рукамі і белым каўпаком на галаве. Гэты каўпак кат насуне смерт-

ніку на вочы, перш чым накінуць яму на шыю пятлю. Уіл ішоў пад аховай самых дужых і рослых людзей шэрыфа. Сам шэрыф ехаў збоку на кані.

Уіл зірнуў на шыбеніцу і з агідай скрывіўся. Пачціва сказаў шэрыфу:

— Шчэ не вісеў ніводзін з нас
На гэтым бервяне.
Зрабі у мой смяротны час
Адну паблажку мне:
Даць меч мне ў рукі загадай
І путы з іх знімі,
Тады з усімі нападай,
І я памру ў баі.

Але шэрыф не захацеў даць Уілу магчымасці памерці такой геройскай смерцю.

— Памрэш на вісельні, герой! —
Шэрыфа быў адказ.—
Твой атаман памрэ на ёй
Таксама у свой час.

Уіл Ст'ютлі пагардліва зарагатаў у твар шэрыфу, але той зрабіў выгляд, што не заўважыў гэтага. Зараз ён расправіцца з дзёрзкім разбойнікам.

Шыбеніца стаяла непадалёк ад зарасніку ляшчыны. Калі кат збіраўся ўжо накінуць на шыю сваёй ахвяры вяроўку, з гушчару выскачыў вялізнага росту чалавек і, прарваўшы кальцо аховы, кінуўся да Уіла.

— Ты што, Уіл,— крычаў ён на хаду,— хочаш пакінуць белы свет, не развітаўшыся з сябрамі? Нядобра з твайго боку.

У Уіла заняло дыханне ад радасці. Ен адразу пазнаў голас і волатаўскую постаць свайго таварыша — Маленькага Джона. Раптоўнае паяўленне гіганта выклікала агульнае замяшанне і сумятню. Маленькі Джон дзейнічаў хутка.

Ён імгненна разрэзаў на Уілу вяроўкі, выхапіў з рук аднаго з шэрыфавых людзей меч і аддаў сябру.

— Цяпер, дружа, змагайся за сваё жыццё,— сказаў ён, і двое сяброў сталі спіна да спіны, з выклікам пазіраючы на натоўп узброеных людзей.

Усё адбылося так хутка, што шэрыф знямеў ад здзіўлення і нібы прырос да сядла. Але неўзабаве мова вярнулася да яго, і ён закрычаў на ўсё горла:

— Гэта ён! Ён! Велікан — той самы шэльма, што абдурыў караля і мяне. Ілжэпасланец! Хапайце яго! Не, лепш закаліце! Закаліце! Гэта больш надзейна!

Лёгка аддаць загад, але цяжка загад выканаць. Ды яшчэ які — закалоць Маленькага Джона! Ён прыкрыў грудзі шчытом і круціў над галавой доўгім мячом. Расчырванелы яго твар свяціўся радасцю бітвы. Волат быў гатовы праткнуць кожнага, хто адважыцца падысці да яго на даўжыню клінка.

Раптам з дзесяткаў глотак вырваўся крык здзіўлення і жаху. Пасля працяжнага звонкага гуку ражка з лесу выбег атрад стралкоў і рынуўся на шэрыфава войска.

— Разбойнікі! Разбойнікі Робін Гуда! — крычалі леснікі.— Страляйце, сячыце іх алебардамі, каліце коп'ямі! Страляйце, сячыце, каліце! Біце іх! Біце!

— Гуд! Гуд! Робін Гуд! — чуўся грымотны кліч, і зялёныя стралкі з Робін Гудам на чале кінуліся на ворагаў.

Атака была такая раптоўная і рашучая, што шэрыфавы людзі не ўстаялі і разам са сваім начальнікам адступілі ў горад.

Робін Гуд загадаў стралкам вяртацца ў лес: Уіла Ст'ютлі яны вызвалілі і няма патрэбы яшчэ праліваць кроў. Да таго ж шэрыфава войска апамяталася ўжо ад панікі. Шэрыф сабраў узброены атрад у тры разы большы за дружыну Робін Гуда. Таму Робін Гуд як разважлівы камандзір вырашыў адступіць.

Зялёныя стралкі пачалі адыходзіць у лес, хмарамі стрэл адганяючы ворага. Але ў шэрыфавым войску знайшліся храбрацы, якія кінуліся ў пагоню за разбойнікамі.

На ўзлеску Маленькі Джон упаў на траву. Страла трапіла яму ў нагу.

— Атаман! — крыкнуў ён.— Я не магу бегчы... Зрабі ласку, адсячы мне галаву сваім мячом. Не хачу трапіць у палон на радасць шэрыфу.

— Небам клянуся, гэтага не будзе, Джон! — сказаў Робін Гуд.— Ты мне даражэй за ўсе скарбы Англіі.— Ён павярнуўся тварам да ворагаў, каб не даць ім наблізіцца да Маленькага Джона, а Мач узваліў магутнае цела волата сабе на плечы, як пушынку, і панёс.

Дружына Робін Гуда з боем адступала ў лес. Становішча іх [redacted] кожнай хвілінай пагаршалася. Ужо сем чалавек былі цяжка паранены, але ніводнага з іх не пакінулі на расправу шэрыфу. Шмат людзей пападала і ў яго войску, і ўсё ж націск ворага рабіўся мацнейшы.

Зялёныя стралкі мужна адбіваліся. Робін Гуд адзін быў варты многіх. Адна за адной ляцелі яго стрэлы, і кожны раз хто-небудзь з людзей шэрыфа падаў на зямлю. Далёка ляцелі яго стрэлы, не падпускаючы блізка раз'юшаных ворагаў. Яму памагалі Уіл Скарлет, Ст'ютлі, Хэл і Хоб. Жалезны дождж іх вострых стрэл адганяў ворагаў, пакуль верныя сябры не аднеслі параненых далей у лес.

Бой ужо ішоў на лясной дарозе, а з яе перакінуўся на шырокае міжлессе, дзе за глыбокім ровам узвышаліся шэрыя каменныя сцены прыгожага замка.

Вартавы на вежы ўбачыў жорсткую бойку каля самага замка і затрубіў у рог. У замку ўзнялася трывога. Усе кінуліся на сцены. Адным з першых там апынуўся рыцар, якому належаў замак. Ён адразу пазнаў тых, што адступалі, і паспяшаўся да пад'ёмнага моста. Апусціў яго і пабег насустрач атраду Робін Гуда.

— У замак! — крыкнуў ён.— У замак! Нясіце сюды параненых і самі хавайцеся! Мой дом — твой дом,— сказаў ён Робін Гуду.

Гэта быў сэр Рычард Лі. Гэты высакародны рыцар не забываў дабра. Яго запрашэнне як ніколі было жаданым.

Зялёныя стралкі ўвайшлі ў замак пад ахову яго моцных каменных сцен. Калі шэрыф са сваім войскам падступіўся да рова, ён пачуў толькі, як ляснула апускная рашотка і зарыпеў пад'ёмны мост, які ўзняўся ўгору перад самым іх носам.

Апанаваў шэрыфа гнеў:
— Ты, рыцар, здрадзіў нам!
Злачынца ты схаваць пасмеў.
Ён вораг караля!

Сэр Рычард вызірнуў па-над сцяной замка:

— Сэр, я адказваю за свой учынак і гатовы заплаціць за яго сваімі землямі. Ідзіце да караля, і няхай ён скажа вам сваю волю. А пакуль што Робін Гуд і яго людзі знойдуць надзейны прытулак у маім замку.

Шэрыф паскакаў у Лондан і далажыў усё каралю.

— Клянуся каронаю і рыцарскім званнем,— сказаў Рычард Львінае Сэрца,— людзі гэтыя верныя ў дружбе. Чым больш я чую пра іх, тым больш мне хочацца сустрэцца з імі і пагаварыць. Вяртайцеся назад, шэрыф, і не хвалюйцеся. Я хутка прыеду ў Нотынгем і сам ва ўсім разбяруся.

Шэрыф панурыўся, расчараваны. Ён думаў, што кароль загадае яму падняць усё графства супраць сэра Рычарда Лі. Але яму давялося з крыўдай у душы вяртацца дамоў ні з чым і чакаць прыезду караля.

А тым часам Рычард Лі шчодра частаваў Робін Гуда і яго таварышаў, а жонка клапатліва лячыла Маленькага Джона і астатніх параненых.



# КАРОЛЬ РЫЧАРД СУСТРАКАЕЦЦА З РОБІН ГУДАМ

Праз некаторы час кароль Рычард Львінае Сэрца прыехаў у Нотынгем з намерам сустрэцца з Робін Гудам. З вялікім атрадам рыцараў ён выправіўся ў Шэрвудскі лес, спадзеючыся натрапіць на стан разбойнікаў або выпадкова стрэць каго-небудзь з іх. Але хоць і прачэсвалі лес ва ўсіх кірунках, нічога і нікога не знайшлі. Лес быў пусты і маўклівы. Нідзе ні жывой душы. Толькі алені іншы раз прабягалі між дрэў ды пад ветрам гайдалася голле магутных дубоў.

Кароль Рычард упарта працягваў пошукі. Лес прачасалі ўдоўж і ўпоперак, але марна. З такім жа поспехам ён мог бы спакойна сядзець у Лондане на сваім троне. Паход у Шэрвудскі лес сустрэчы з Робін Гудам не наблізіў.

— Каралеўствам прысягаю,— сказаў нарэшце Рычард,— усё гэта вельмі дзіўна. Мне казалі, што людзі Робін Гуда аж кішаць у Шэрвудскім лесе, што ніхто не пройдзе нават па самай глухой сцежцы, каб яны яго не заўважылі. А мне яшчэ не трапіўся на вочы ні адзін чалавек.

І не дзіва. Робін Гуд паклапаціўся пра тое, каб кароль нікога не ўбачыў. Ён любіў Рычарда Львінае Сэрца і не хацеў, каб нават волас упаў з галавы караля або яго світы, таму строга загадаў сваім людзям не выходзіць на дарогі і сцежкі, трымацца далей ад іх.

Лясныя стралкі старанна выконвалі яго загад. Шмат ужо разоў, схаваўшыся ў лясным гушчары або ў хмыз-

няку, яны бачылі рыцараў у бліскучых даспехах і ўсміхаліся,назіраючы за каралём і яго лордамі з блізкай адлегласці, але ні разу не напялі яны цеціву лукаў і ніводзін гук не выдаў іх прысутнасці.

Аднаго дня Рычард пачаў са шкадаваннем гаварыць, што Робін Гуд, відаць, знік з твару зямлі. Стары ляснік, які стаяў побач, усміхнуўся і сказаў:

— Не, мой гасудар, ён тут, у лесе. Гэта такая ж праўда, як тое, што я стаю перад вамі. Вы, ваша вялікасць, можаце лёгка сустрэцца з ім.

— Якім чынам? — спытаў кароль.

— Вы, мой гасудар, ходзіце, закуты ў браню, з вялікім узброеным атрадам. Хіба ж разбойнікі ў сваіх зялёных куртках выстаяць супраць вас, закаваных у жалезныя кальчугі? А калі вы адзенецеся як абат, тоўстыя сумкі якога абяцаюць багатую здабычу, ручаюся, ваша вялікасць, Робін Гуд не прымусіць сябе доўга чакаць.

Каралю Рычарду спадабаўся гэты план. Такая прыгода якраз па яго натуры. Ён вярнуўся ў Нотынгем і на другі дзень непрыкметна выехаў з горада ва ўборы абата, узяўшы з сабой толькі паўтузіна чалавек світы, апранутых як манахі, і двух уючных коней з цяжкай паклажай.

Не паспеў ён паглыбіцца і на тры мілі ў лес, як раптам яму загадалі спыніцца. На павароце дарогі з гушчару выйшаў чалавек у прыгожым зялёным адзенні з лукам у руцэ і калчанам стрэл на поясе і ўзяў за аброць абатавага каня. У вачах у яго іскрыліся вясёлыя агеньчыкі, калі ён далікатна сказаў:

— Пане абат, зрабіце ласку, затрымайцеся крыху тут са мной і маімі людзьмі,— і памахаў сваім лукам.

З кустоў адразу выскачылі каля дваццаці бравых малайцоў і акружылі падарожнікаў. Камандаваў імі высокі ёмен, на твары якога расплылася шырокая ўсмешка, калі ён убачыў цяжкую паклажу на конях. Рычард уважліва паглядзеў на яго і пазнаў Маленькага Джона. Ён перавёў позірк на чалавека, які трымаў яго каня, і здагадаўся, што перад ім стаіць Робін Гуд. Нарэшце!

— А хто вы такія, што перагарадзілі мне дарогу? — спакойна, строгім тонам спытаў Рычард Львінае Сэрца.

У голасе абата Робін Гуду пачуліся ўладныя ноткі. Ён сцепануўся, глянуў на яго пранікілівым позіркам, але вялікі капялюш з шырокімі палямі закрываў твар абата. Робін Гуд сказаў:

— Усе мы ёмены, галота,
Шэрвудскі лес — наш дом,
Каб страўніку была работа,
Аленяў каралеўскіх б'ём.
У вас царква, з яе — даходы,
І золата — дык не злічыць,
Нам дайце трошкі на расходы
З таго, што у мяшках ляжыць.

— Паверыш, добры ёмен,— сказаў кароль,— у мяне засталося толькі сорак фунтаў. Я быў у Нотынгеме разам з каралеўскім дваром і патраціўся на пачастункі высокім асобам, што прыехалі з каралём.

— Значыць, ты верны прыхільнік нашага караля Рычарда? — ажывіўся Робін Гуд.

— Ты не памыліўся, ёмен. Я люблю яго, як самога сябе.

— Гэтым ты збярог сабе палову грошай, пане абат. Аддай мне дваццаць манет, а астатнія дваццаць пакінь сабе на дарогу.

— Вялікі дзякуй,— падзякаваў абат.— Ты сціплы чалавек, ёмен. Я павінен сказаць, што прыехаў сюды, каб знайсці цябе і запрасіць у Нотынгем на спатканне з каралём. Ён хоча пагаварыць з табой і пасылае табе ахоўную грамату. Вось яго пячатка, каб ты не сумняваўся.

Рычард дастаў з-пад плашча каралеўскую пячатку і паказаў яе Робін Гуду. Робін апусціўся на калена ў знак павагі да яе. Усе стралкі як адзін адкінулі на плечы капюшоны і стаялі з непакрытымі галовамі.

— Вось як! — здзівіўся кароль Рычард.— А мне гаварылі, ёмен, што ты здрадзіў каралю, злосна парушаеш яго законы і чыніш адно толькі ліха.

— Не, пане абат,— сказаў Робін Гуд.— Я ненавіджу несправядлівых шэрыфаў і сквапных манахаў, гэта праўда. Але нікога на свеце так не люблю, як нашага доблеснага караля Рычарда Львінае Сэрца. Калі ты яго пасланец і маеш пры сабе яго пячатку, ты жаданы госць у Шэрвудскім лесе. Я запрашаю цябе пад наш запаветны дуб на абед у гонар яго вялікасці караля Англіі.

З гэтымі словамі атаман разбойнікаў узяў за аброць каня караля, і неўзабаве яны апынуліся каля магутнага дуба, пад якім заўсёды збіралася лясная дружына Робін Гуда. Тут ён затрубіў у ражок, і з лесу шэраг за шэрагам выйшлі прыгожа апранутыя і добра ўзброеныя малайцы і дружна сталі на калені перад сваім атаманам.

«Клянуся,— падумаў Рычард,— гэтыя разбойнікі больш адданыя свайму атаману, чым мае рыцары мне, каралю».

Хутка падалі шчодры абед. Абата і яго людзей запрасілі да стала. Рычард еў і піў са смакам.

Пасля абеду Робін Гуд сказаў свайму госцю:

— Цяпер, пан абат, паглядзіце, як мы бавім вольны час, а потым раскажаце каралю нашаму Рычарду.

Пачаліся спартыўныя гульні. Барацьба, паядынкі на дубінках і самае любімае спаборніцтва лясных стралкоў — стральба з лука.

У дальнім канцы паляны ўторкнулі ў зямлю доўгі тонкі прут. Яго трэба расшчапіць стралой надвае. Другой мішэнню служыў вянок з руж. Страла павінна трапіць усярэдзіну яго і не зачапіць ні лістка, ні пялёстка.

— Далекавата! — усклікнуў Рычард.— Да гэтых мішэняў сама мала пяцьдзесят крокаў!

— Правільна,— усміхнуўся Робін Гуд.— Якая карысць страляць па лёгкай цэлі? А яшчэ ў нас ёсць умова: хто прамажа, атрымае добрую аплявуху.

— А не робяцца ворагамі людзі пасля гэтага?

— Не, пан абат. Аплявухі дае наш капелан, брат Тук, а царкоўная кара прымаецца з пакорай. Хадзі сюды, брат Тук, хутка пачнецца стральба.

Таўстун манах з жалем палажыў вялікі недаедзены кавалак пірага з дзічынай і падышоў да Робін Гуда. Ён павітаўся з абатам: прамармытаў нешта па-латыні. Абат адказаў яму на добрай лацінскай мове і спытаў:

— І ты б'еш іх з усяе моцы, брат?

— Вядома, з усяе,— адказаў брат Тук,— бо калі людзі нашы пачнуць страляць абы-як, нам не мінуць бяды. Таму за няўдалы стрэл караем добрай аплявухай.

Пачалося спаборніцтва стралкоў. Рычард толькі дзіву даваўся майстэрству ёменаў у зялёных куртках. Але вось Мачу не пашанцавала, і страла праляцела міма прута. Няўдачніка адразу падвялі да дужага капелана, той размахнуўся — і Мач апынуўся на зямлі. Потым, усім на здзіўленне, схібіў Маленькі Джон. Ён не пацэліў стралой у вянок. І хоць быў ён волат волатам, але і яго зваліла на зямлю цяжкая рука брата Тука. Стралкі дружна зарагаталі, калі памочнік атамана расцягнуўся на траве. Няўдача напаткала і самога Робін Гуда: яго страла закранула вянок. Пад дружны рогат ён падышоў да брата Тука, які ўжо прымерваўся да ўдару, і, усміхаючыся, сказаў:

— Калі мне ўжо суджана прыняць кару ад святой царквы, дык дазволь, святы айцец, зрабіць выбар. Пан абат, будзьце ласкавы, пакарайце мяне сваёй рукой.

— Не, атаман,— запярэчыў брат Тук,— я не дам табе выкруціцца ад заслужанага пакарання. Чаго можна чакаць ад гэтага лянівага абата? Удар яго — не мацнейшы за дотык трысцінкі.

— Годзе, манах, замаўчы! — не сцярпеў Рычард.— Ты не адзіны чалавек у сутане, у каго ёсць трохі сілы ў руцэ!

— Нічога ў цябе ў руцэ няма,— пагардліва сказаў манах.— На́ вось, стукні мяне. Я нават не пачую, што нешта дакранулася да майго вуха.

— Ах так! — падхапіўся абат.— Дык давай дамовімся, манах. Я падстаўляю пад твой кулак сваю галаву, а ты падстаўляеш пад мой сваю.

— Я першы б'ю? — загарэўся брат Тук.

— Добра,— згадзіўся абат.

— Клянуся абедняй, мне не давядзецца падстаўляць сваю галаву! — весела крыкнуў Тук.

Брат Тук закасаў правы рукаў сваёй сутаны. Мускулы вузламі перакочваліся на яго руцэ, калі ён сціскаў і расціскаў магутны кулак.

Стралкі хуценька ўтварылі круг. Абат бясстрашна стаў пасярэдзіне, чакаючы ўдару задзірлівага манаха.

— Святой дзевай клянуся,— прамармытаў Робін Гуд,— абат гэты прыгожа складзены!

Велічная постаць Рычарда Львінае Сэрца была на галаву вышэйшая за дзябёлую прысадзістую постаць брата Тука. Тук [redacted] усяе сілы стукнуў Рычарда. Той нават не варухнуўся. Толькі капялюш зляцеў з галавы і ўпаў на траву за дваццаць крокаў ад яго.

Стралкі закрычалі ад захаплення. Нарэшце такі знайшоўся чалавек, які ўстаяў пад магутным кулаком брата Тука!

— Цяпер мая чарга, брат,— сказаў абат. Тук, ні слова не сказаўшы, стаў пасярэдзіне круга.

Абат закасаў правы рукаў і ўдарыў манаха с такой сілай, што той кулём паляцеў на зямлю, быццам маланкай забіты.

Лес задрыжаў ад рогату. І гучней за ўсіх смяяліся тыя стралкі, што адведалі цяжкі кулак капелана. Нарэшце ён паспытаў таго самага! Адзін толькі Робін Гуд не смяяўся.

«Здаецца, я пралічыўся,— падумаў ён.— Незнаёмец гэты дужэйшы за нашага капелана».

І ўсё ж ён стаў перад абатам, каб атрымаць пакаранне за няўдалы стрэл. Той ударыў, і Робін Гуд расцягнуўся на зямлі, а з абата зноў зляцеў капялюш.

— Скажу вам шчыра, пан абат, вы магутны чалавек,—

сказаў Робін Гуд, падымаючыся і паціраючы скроню.— Мне і ў сне не снілася, што ў руцэ царкоўніка можа быць такая сіла.

Ён пачаў уважліва разглядаць твар абата, і яго ўзяло сумненне, ці сапраўды перад ім стаіць духоўная асоба. Ніколі яшчэ не даводзілася яму бачыць такога мужнага прыгожага твару, такіх ясных, разумных і шчырых вачэй, такой вясёлай, задорнай усмешкі, на якую хацелася адказаць такой жа радаснай і прыветлівай усмешкай. Раптам сумненне змянілася здзіўленнем. Маленькі Джон упаў перад абатам на калені і закрычаў:

— Прашу літасці, гасудар, прашу літасці!

— Чаго ты так спужаўся, Маленькі Джон? — здзівіўся Робін Гуд.— Сваё ты ўжо атрымаў, кулак гэтага здаравякі табе не пагражае.

Але Маленькі Джон не суніманўся:

— Літасці, літасці, гасудар!

Ёмены няўцямна ўтаропіліся на волата. Тут на паляну выехаў сэр Рычард Лі. Як толькі рыцар убачыў абата, ён хуценька саскочыў з каня і стаў на калена побач з Маленькім Джонам. Усе ад здзіўлення ажно ахнулі.

— Што верны рыцар можа зрабіць для свайго караля? — прамовіў сэр Рычард Лі.— Калі патрэбны мае паслугі, загадвайце, ваша вялікасць.

— Кароль! — усклікнуў Робін Гуд.

— Кароль! — рэхам пракацілася па лесе. Стралкі ўсе як адзін апусціліся на калені перад чалавекам у адзенні абата.

— Даруйце нам, ваша вялікасць, наш добры і слаўны гасудар,— сказаў Робін Гуд.— Пад гэтым запаветным дубам даруйце маім людзям і мне.

Рычард Львінае Сэрца ўсміхнуўся і сказаў:

— Я дарую вам — табе і тваім стралкам. Такім удалым малайцам лепш служыць свайму каралю, чым хавацца ад закону ў лесе. Што скажаш, Робін Гуд? Хочаш служыць мне?

— Вельмі хачу, гасудар,— адказаў Робін Гуд.— Я ваш

верны слуга з гэтага дня і павек.— І ўся лясная вольніца паўтарыла яго словы і дружна прысягнула на вернасць Рычарду Львінае Сэрца.

— Можа, у цябе, Робін, знойдзецца якое-небудзь адзенне зялёнай тканіны? — спытаў кароль.— Бо, клянуся гонарам, я ахвотна змяніў бы гэты змрочны ўбор на штонебудзь вясёленькае.— Рычард скінуў з сябе абацкую мантыю.

— У нас, ваша вялікасць, зялёных плашчоў і куртак шмат,— сказаў Робін Гуд, і неўзабаве кароль і яго спадарожнікі адзеліся ў зялёныя курткі і плашчы лясных разбойнікаў.

У гэтым убранні кароль і світа вярнуліся ў Нотынгем. З імі быў Робін Гуд і ўся яго лясная дружына.

Калі яны падышлі да горада, там узнялася паніка.

— Кароль забіты! — пачуліся крыкі.— На Нотынгем ідуць лясныя разбойнікі! Яны хочуць захапіць горад і ўсіх нас перабіць!

Людзі паспешліва пакідалі свае агароды, кавалі зачынялі кузні, старыя нямоглыя людзі таропка кандыбалі дадому, абапіраючыся на свае палкі.

Але хутка высветлілася, што паніку ўзнялі дарэмна. Увесь горад высыпаў на вуліцы сустракаць караля Рычарда. Ён ехаў у акружэнні зялёных стралкоў, якія ўжо не былі па-за законам, а сталі вольнымі падданымі караля і маглі з пагардаю глядзець у твар шэрыфу. Ганарысты шэрыф бялеў і чырванеў, змрочна пазіраючы на караля і Робін Гуда.

Увечары ў Нотынгеме наладзілі вялікі баль. Кароль шчодра частаваў былых разбойнікаў, якія так гасцінна прымалі яго ў Шэрвудскім лесе. Алан-а-Дэйл спяваў вясёлыя песні і прыгожа іграў на арфе. Рычард быў у захапленні ад спеваў, ад музыкі, ад вясёлага нораву людзей Робін Гуда. Ён гаварыў, што ніколі раней нічога лепшага не чуў і не бачыў.

Перад ад'ездам у Лондан кароль Рычард павянчаў Марыяну і Робін Гуда ў царкве Святой Марыі, узвёў Робін

Гуда ў дваранскае званне, прысвоіў яму тытул графа Хантынгданскага.

З таго дня Робін Гуд стаў служыць пры двары караля Рычарда Львінае Сэрца і пакінуў лясныя паляны Шэрвуда, як ён думаў, назаўсёды.

## Раздзел дваццаць чацвёрты



# АПОШНЯЯ СТРАЛА РОБІН ГУДА

Робін Гуд з радасцю служыў каралю. Але неўзабаве Рычард Львінае Сэрца зноў пакінуў Англію, і служба пры двары зрабілася Робін Гуду абрыдлым, дакучлівым абавязкам. Да таго ж ён не ладзіў з прынцам Джонам, чалавекам недаверлівым, крывадушным і вераломным. Прынц потым стаў каралём Англіі — самым непаважаным з усіх манархаў, што калі-небудзь кіравалі краінай.

Прынц Джон хацеў захапіць трон і падсылаў да Робін Гуда сваіх людзей, каб выведаць, ці захоча ён са сваімі стралкамі выступіць на яго баку супраць караля Рычарда. Але адзін толькі намёк на подлую здраду прывёў Робін Гуда ў страшнае абурэнне. Ён паслаў прынцу такі адказ, пасля якога той узненавідзеў Робін Гуда.

Неяк сонечным майскім ранкам, ідучы па вуліцах Лондана, Робін Гуд падумаў пра тое, як прыгожа і радасна цяпер у Шэрвудскім лесе і як нудна і тужліва тут, у гэтым заціснутым між каменных сцен горадзе. Апынуўшыся на Фінсберскіх палях, ён з цікавасцю паназіраў за юнакамі, якія спаборнічалі ў стральбе па мішэнях. Ад спеваў стрэл у яго закалацілася сэрца. Ён вырашыў вярнуцца ў Шэр-

вудскі лес і зноў паляваць на аленяў на яго палянах. Робін Гуд выбраў зручны момант і разам з Марыянай, Маленькім Джонам і Уілам Скарлетам таемна, каб прынц Джон не дазнаўся і не вярнуў іх з дарогі, выбраўся са сталіцы і падаўся ў Шэрвудскі лес.

Як цудоўна было зноў апынуцца ў любых сэрцу мясцінах! Зноў бачыць, як прабягаюць цераз паляну велічныя рагачы і зграбныя аляніцы. Сонца, здавалася, свеціць тут у два разы ярчэй, чым у цесным брудным горадзе.

Адразу пайшлі на паляванне. Робін Гуд першай жа стралой забіў магутнага самца і зноў адчуў сябе вольным жыхаром лесу. Так мінула некалькі шчаслівых дзён. Але аднойчы да запаветнага дуба прыбег Мач Млынароў сын, аддань таварыш Робін Гуда.

— Беражыся, атаман! — сказаў ён Робін Гуду.— Кароль Рычард загінуў! Краінай цяпер правіць кароль Джон!

— Што? — Робін Гуд пазмрачнеў.— Усё-такі прынц Джон дамогся трона. Нядобрая навіна.

— Нядобрая, атаман! І адзін з яго першых загадаў — схапіць цябе і кінуць у цямніцу. Я толькі што пра гэта даведаўся і прыбег сюды.

— Вялікі дзякуй, мой верны Мач,— сказаў Робін Гуд.— Значыць, я зноў па-за законам, зноў мяне зрабілі разбойнікам. Далучайся да нас, Мач. Зажывём, як раней. Гэта ў тысячу разоў прыемней і радасней, чым жыць у найпрыгажэйшым сталічным палацы. Слава лясным палянам! Слава Шэрвудскаму лесу!

Маленькі Джон і Уіл Скарлет паўтарылі апошнія словы атамана і ўскінулі лукі ад радасці, што зажывуць папранейшаму, бо ім вельмі надакучылі цесныя каравулкі і вузкія гарадскія вуліцы.

Робін Гуд зноў зрабіўся разбойнікам, зноў хаваўся ад улад у нетрах Шэрвудскага лесу. Неўзабаве ўсе яго людзі крадком выбраліся з горада, і вечарамі вакол яркага вогнішча можна было ўбачыць тыя самыя твары, што і раней. Алан-а-Дэйл зноў іграў сваім таварышам на арфе і спяваў прыгожыя песні Паўночнага краю.

Але хутка Шэрвудскі лес стаў арэнай суровых і жорсткіх падзей. Кароль Джон ненавідзеў Робін Гуда і яго вольных стралкоў больш, чым шэрыф нотынгемскі. Ён пасылаў супроць іх добра ўзброеныя атрады, якія нападалі на лясныя прыстанішчы разбойнікаў. Шмат жорсткіх сутычак і боек адбылося пад шатамі векавых дубоў. Часам разбойнікі перамагалі, часам цярпелі паражэнні, і ім даводзілася ратавацца ўцёкамі і шукаць іншыя сховішчы, але ні разу ніводзін з іх не страціў веры ў свайго атамана, не здрадзіў бясстрашнаму Робін Гуду. Нарэшце кароль Джон памёр. Уся Англія ўздыхнула з палёгкай, што не стала ненавіснага тырана. Больш за ўсіх радаваліся лясныя стралкі Робін Гуда, бо пасля смерці свайго ворага яны спадзяваліся хоць крыху пажыць у міры.

Час ішоў. Як гаворыцца ў старадаўняй баладзе, «Робін Гуд у лесе жыў дваццаць год і два». Многа падзей адбылося за гэтыя гады. Робін Гуд страціў сваю любую Марыяну, шмат яго старых таварышаў спачылі вечным сном пад магутнымі дубамі, але верны яго памочнік Маленькі Джон заўсёды быў [redacted] ім, яны разам палявалі аленяў на лясных палянах.

І вось настаў дзень, калі Робін Гуд адчуў, што сілы яго слабеюць. Усё цяжэйшым здаваўся яму яго вялікі цісавы лук, а стрэлы ляцелі не так далёка, як раней. Робін Гуд зрабіўся невясёлы і змрочны.

І тут ён прыгадаў, што ў яго ёсць стрыечная сястра — абатыса жаночага манастыра ў Кірклі, вялікі знаўца тагачаснай медыцыны. Робін Гуд сказаў Маленькаму Джону, што пойдзе да яе і папросіць, каб яна пусціла яму кроў. У тую пару людзі верылі, што кровапусканне лечыць шмат якія хваробы.

Дабраўшыся да Кірклі, Робін Гуд пастукаў у дзверы дома абатысы. Адчыніла яму сама гаспадыня.

— Вось гэта госць! — абрадавалася абатыса, убачыўшы Робін Гуда.— Заходзь. Зараз я пачастую цябе для пачатку півам.

— Не, дарагая сястрыца,— сказаў Робін Гуд,— ні

піць, ні есці я не буду, пакуль ты не пусціш мне кроў.

Абатыса адразу павяла яго ў маленькі пакойчык наверсе і ланцэтам надрэзала яму вену на плячы. Потым пайшла, пакінуўшы яго аднаго.

Робін Гуд не ведаў, што трапіў у рукі каварнай жанчыны, якая сябравала з яго ворагамі і абяцала ім, як толькі надарыцца выпадак, загубіць сваяка. І вось цяпер такі выпадак падвярнуўся.

Праз некаторы час Робін Гуд адчуў, што яму робіцца млосна. Ён доўга ляжаў на ложку, ніхто да яго не прыходзіў. Тады ён неяк дабраўся да дзвярэй, хацеў адчыніць, але яны былі замкнёныя. Ён пачаў клікаць на дапамогу. Ніхто не адгукаўся. Мёртвая цішыня, нідзе нікога. І тады Робін Гуд зразумеў усё. Яго пакінулі тут паміраць.

Робін Гуд ледзь даплёўся да акна і адчыніў фортку. Ён адчуваў такую слабасць, што не мог стаць на падаконнік, каб скочыць уніз. І тут ён успомніў пра сігнальны ражок, які калісьці не раз выручаў яго з бяды. Ён ведаў, што Маленькі Джон чакае яго непадалёк у лесе, паднёс ражок да губ і тры разы пратрубіў. Але гукі былі кароткія, абрывістыя, ледзь чутныя, як слабы адгалосак тых звонкіх і гучных гукаў, што некалі так часта рэхам каціліся па Шэрвудскім лесе. Аднак яго верны таварыш, які чакаў яго і ўвесь час чуйна прыслухоўваўся, пачуў ледзь улоўны заклік аб дапамозе.

Пачуўшы гук ражка слабы,
З зямлі ўсхапіўся Джон.
— Баюся, Робін ледзь жывы —
Так ціха трубіць ён.

Маленькі Джон з усіх ног пабег да дома абатысы і пачаў барабаніць у дзверы. Ніхто не падыходзіў да акенца ў дзвярах. Ён пастукаў нарэшце з такой сілаю, што ў доме ажно загуло. Нікога. Тут ён зразумеў, што здарылася нешта нядобрае, і пачаў думаць, як прабрацца ў дом.

Маленькі Джон глянуў на вокны. Вокны былі вузень-

кія, з жалезнымі кратамі. На зямлі ён убачыў тоўстую дубовую калоду, якую было б не пад сілу падняць нават дваім. Джон падышоў да яе, падняў і панёс да дзвярэй. Размахнуўся і грымнуў у дзверы. Яны сарваліся з усіх завесаў і завал і з грукатам упалі на падлогу. Маленькі Джон ускочыў у дом.

— Атаман! Атаман! Дзе ты? — гучна паклікаў ён і сціх, услухоўваючыся.

У доме панавала мёртвая цішыня. Ён быў як вымерлы. Яшчэ раз паклікаў Маленькі Джон Робін Гуда, і нарэшце аднекуль зверху пачуўся слабы голас. Маленькі Джон кінуўся ўверх па лесвіцы, адкуль даносіліся ціхія гукі. Дзверы былі на замку. Джон выбіў іх нагой і ўскочыў у пакой.

— Што з табой, атаман? — здзіўлена спытаўся ён, убачыўшы ледзь жывога Робін Гуда.— Ды тут, здаецца, здрада! Ты ўвесь у крыві! Ты паміраеш!

Стрымліваючы гнеў, Маленькі Джон апусціўся перад сваім атаманам на калені і сказаў:

— Выканай адну маю просьбу. Вельмі прашу цябе, дарагі атаман.

— Якую, Маленькі Джон?

— Дазволь спаліць гэтае асінае гняздо здраднікаў.

— Не, Джон, дазволу не чакай,
Я гвалту не цярплю,
Жанчынам і дзяўчатам, знай,
Я шкоды не зраблю
І пры жыцці, і ў смертны час —
Такі закон ва ўсіх у нас.
Лепш лук мой добры мне падай,
І я стралу пашлю.
І там мяне ты пахавай,
Дзе ўткнецца у зямлю.

Маленькі Джон узяў свайго атамана на рукі і падняў да акна. Доўга з любасцю і замілаваннем аглядаў Робін

Гуд густыя зялёныя шаты дуброў, такія мілыя яго сэрцу. Сабраўшы апошнія сілы, узяў лук, паклаў на яго стралу, напяў цеціву і адпусціў. Усмешка асвяціла яго твар, калі страла звонка запела-загула ў паветры. Больш цудоўнай музыкі для яго не існавала на свеце.

— Пахавай мяне там, дзе ўпадзе страла,— прашаптаў ён.— Папрасі маіх верных сяброў, каб яны выкапалі мне глыбокую магілу. Пакладзі мне пад галаву зялёную дзярніну, а збоку — мой добры лук.

Маленькі Джон моўчкі кіўнуў галавой. Ад хвалявання яму сціснула ў горле. Робін Гуд так і памёр, не адрываючы вачэй ад лесу.

Так скончылася жыццё Робін Гуда.

Але слава яго не памерла. З пакалення ў пакаленне перадавалі людзі яго імя. Просты люд Англіі ніколі не забываў яго і верных яму паплечнікаў. Пра многіх каралёў і дзяржаўных дзеячаў народ з цягам часу забываўся. Хоць у летапісах былі запісаны іх імёны і справы, ды чыталі гэтыя кнігі толькі вучоныя кніжнікі і школяры. А менестрэлі і барды складалі балады пра Робін Гуда і яго слаўных стралкоў. Народ пераказваў і спяваў гэтыя балады з любоўю і хваляваннем, бо ў іх расказвалася пра народнага героя — заступніка беднякоў, ворага прыгнятальнікаў, адважнага, шчырага, справядлівага і далікатнага чалавека, які ўвасабляў у сабе ўсе якасці, дарагія сэрцу англійскага селяніна.

Згодна паданню, яго пахавалі там, дзе ўпала яго апошняя страла. На магільным камяні быў высечаны надпіс:

«Пад гэтым каменем-плітой
Знайшоў граф Хантынгдан спакой.
Стралок ляжыць цудоўны тут —
Разбойнік слаўны Робін Гуд.
Такіх, як гэты чалавек,
Не ўбачыць Англія павек».

Неўзабаве пасля смерці Робін Гуда лясная вольніца

распалася, і ніякіх звестак пра лёс зялёных стралкоў да нас не дайшло. Але за гонар мець на сваёй зямлі магілу Маленькага Джона спрачаюцца Англія, Шатландыя і Ірландыя. Ва ўсіх гэтых краях ёсць магіла, якую лічаць месцам пахавання вернага паплечніка Робін Гуда. Некаторыя знаўцы сцвярджаюць, што ён пахаваны ў вёсцы Хезерэдж у графстве Дарбішыр пад вялікім каменем на ўсю даўжыню магілы.

Вечная памяць вам, слаўныя разбойнікі Робін Гуд і Маленькі Джон.





## ЗМЕСТ

Издание для детей и юношества

ФИННЕМОР Джон

СКАЗ
О РОБИН
ГУДЕ
Повесть

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Выданне для дзяцей і юнацтва

**Фінемар Джон**

СКАЗ
ПРА РОБІН
ГУДА
Аповесць

Загадчык рэдакцыі
*М. М. Зарэмба*
Рэдактар
*З. П. Петрушэня*
Малодшы рэдактар
*М. А. Паддубская*
Мастак
*А. К. Шэвераў*
Мастацкі рэдактар
*У. М. Жук*
Тэхнічны рэдактар
*Н. П. Дасаева*
Карэктары
*Л. К. Паплаўская, Л. С. Мануленка*

ІВ № 1267

Здадзена ў набор 12.09.89. Падпісана да друку 10.05.90. Фармат 70×90¹/₁₆. Папера афс. № 1. Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 16,38. Ум. фарб.-адб. 66,11. Ул.-выд. арк. 11,55. Тыраж 73 000 экз. Зак. 2893. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Фінемар Джон**

Сказ пра Робін Гуда: Аповесць: Для
Ф 59 малод. шк. узросту/Пер. з англ. мовы С. Дорскі; Маст. А. Шэвераў.— Мн.: Юнацтва, 1991.— 222 с.: іл.

ISBN 5-7880-0254-0.

**Финнемор Джон.** Сказ о Робин Гуде: Повесть.

Гэтая кніга — празаічны пераказ англійскіх народных балад пра легендарнага героя, абаронца слабых і прыгнечаных Робін Гуда.

Ф $\frac{4804010100-099}{М\ 307(03)-91}$ 125—90

ББК 84.4 Вл